# Змест



# Насця Падрабінкіна

паэтка. Вучаніца 11 класа ліцэя № 1 горада Магілёва. У 2015 годзе стала лаўрэатам гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў. Дэбютавала ў часопісе «Маладосць» з апавяданнем «Пра каханне». Нарадзілася ў 1999 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Лебядзіныя крылы

***

Дрыжыць алешнік над ракой,
І жамчугамі плачуць зоры,
Юнак з дзяўчынай маладой
Не расстаюцца дзень каторы.

А ў вышыню крылялі думкі —
То білася ў грудзях каханне!
Зліліся ціха пацалункі
З прыбужскім золатам світання.

О, сэрцу мілыя ўспаміны!
Як шэпт таемны ў цішыні...
Пад лісцем белага язміну
Квітнелі разам дзве душы.

Аднойчы запяюць стагоддзі
Святымі словамі кахання,
Затаньчаць зоры ў карагодзе,
Пачуўшы музыку світання.

Дрыжыць алешнік над ракой,
Ды толькі плачуць, плачуць вершы
Па тых, што стрэліся вясной.
Над хмурым Бугам. Ў сорак першым.

***

Белым срэбрам ападаюць у траву з чаромхаў росы.
Белай наміткай туманы высыхаюць на нябёсах.

Малаком на золку рэчка абмывае берагі.
Малаком рамонкаў белых затапіліся лугі.

Лебядзінымі крыламі расплываюцца аблокі.
Лебядзіны пух пялёсткаў вецер круціць ля дарогі.

Дождж сівы па шклу сцякае кроплямі ў нябыт...
Час сівы гады глытае, як галодны кіт.

Светла-сінімі вачыма Бог на свет глядзіць.
У руках Ягоных сонца ліхтаром гарыць.



# Аляксей Карпенка

паэт. Студэнт Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова. Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Музыка горада

## Гіперкуб[1]

Нараджэнне маё не сакрэт:
Не прыняўшы эўклідавых правіл,
Хтось кубы ў адным звязку саставіў —
Прыгажосці вар'яцкай аб'ект,

Што за кожную грань меў бы куб,
Каб не быў параджэннем паперы...
Дорыць свет ваш малавымерны
Толькі выгін пагардлівы губ.

Для бялковых пачвараў няма
Чатырох вымярэнняў прасторы,
І заве мяне выдумкай хворай
Трохвымернага свету турма.

Толькі сімвал міфічны... Не стаў
З вамі роўным, хоць думкі й займаю...
Раз прысніў, як мастак распінае
На маім падабенстве Хрыста[2].

... Я паперу б вугламі працяў,
Не чакаючы ў белай магіле
Тлумачэння: нашто вы стварылі
Непрыдатнае да быцця?

*14.11.14*

***

... Нібыта ў бязглуздых каракулях руны,
Ва ўбогім быцці сваім бачыш дарунак,

---

1 Маецца на ўвазе тэсеракт — чатырохвымерны гіперкуб — куб у чатырохвымернай прасторы.

2 «Укрыжаванне або Гіперкубічнае цела», таксама вядомая пад назвай «Corpus Hypercubus» — карціна іспанскага мастака Сальвадора Далі, напісаная ў 1954 годзе. Выяўляе ўкрыжаванага Ісуса Хрыста на разгортцы гіперкуба (тэсеракта).

Упіўся да трызнення церпкаю ноччу —
І верыш і ў сілы, і ў дар свой прарочы...

Шчаслівай, азызлай, нахабнаю п'янню
Марудна ўпаўзай у пахмельнае ранне.

## Сава

На помінках восені гразкай
Вятрыска ўсчынае вой...
Ты верыш: жыццё гэта казка
Старое савы сівой.

П'янееш ад зімнага духу,
Пайшоў бы на злом галавы
Ў пагоні за дзівам — бо слухаў
Казкі сівое савы.

...Яна не сказала, што косткі
У схове надзейным дзяўбе.
Шмат казак кашмарных і жорсткіх
Рыхтуе яна для цябе.

Сусвет пад фарфоравай маскай
Хавае шнараў равы.

Быццё — вычварэнская казка
Старое вар'яткі савы.

*9.12.14*

***

Снегу чакаем. Люляем надзею
На свежыя песні, на добрыя дзеі...
Бясснежныя вулкі суцешвае верай,
Схаваўшы пад маскай фарфоравай, шэрань.
Суцешвае верай у шчасце без меры,
У новыя вершы на снежнай паперы —
Жыццё іх напіша ў народжаным годзе...
Дажыўшы — пабачым.
Чакаем.
І годзе.

*6.12.14*

## Сінь калядная

Адвядзі сябе ў сінь калядную —
У цямрэчы з сабой схаваць
Мары плоскія, другарадныя,
І кашмараў нязбыўных раць.

Ад нары, што смярдзіць мінуўшчынай,
Зладзь уцёкі ў мароз начы —
Слабы розум, быццём раструшчаны,
Адзінотай спрабуй лячыць.

Спадзявайся дарогай дальняю
Супакоіць вар'яцкі дух...
Усвядоміцца прадказальнае —
Ты з кашмарам паўсюль удвух —

Што ў нары, дзе жыццё праседжана,
Што ў начы, куды ўцёк з нары...
«Сінь калядная, шлях прыснежаны,
Забяры мяне, забяры!»

***

енк залунае шматкроць
смерць зойдзецца чорным пеўнем
куля ўкапаецца ў плоць
нахабна надзейна і ўпэўнена

пекла прызначыць нам
спатканне ў часах і прасторах
кожны свінцовы грам
настаўніцкі дотык гісторыі

## Вятры-муэдзіны

Хай неразумныя выкрыкі птушак
Хтось лічыць музыкай лепшай, адзінай...
Слодыччу пояць вар'яцкія душы,
Выюць у шале вятры-муэдзіны.

Выюць, склікаюць сталёвыя хмары,
Водарам волі п'яняць наваколле —

«Хмары, схіліце суровыя твары!
Дайце сусвету асфальтавы колер,

Гэтакі родны для джунгляў каменных!»
Шалеюць вятры над асфальтавым краем,
Нахабна асвістваюць шэрыя сцены...
І песня свабоды душу спакушае.

Гэткаю музыкай, спевам халодным
Будзе суцешаны розум паўхворы,
З гэткаю песняй твой дух стаўся родным,
Гэткаю музыкай дыхае горад.

***

Забіўшыся сама ў сябе навек,
Схаваўшыся ў вар'яцтва сценах гулкіх,
Душа блукае па няісных брудных вулках,
Не ў змозе больш трываць дарэмны бег.

## Цэйтнот

Горадператканы сонным дымам.
Дым сцякае ў колер родных сцен.
Твар схаваўшы папяловым грымам,
Час з імгненняў пастку нам пляце.

І, спаймаўшы, ставіць на калені
Час нябогу, дурня, дзівака.
І ніты растрачаных імгненняў
Рэжа плоць, звязаўшы па руках.

## Паўночны

Мой час і край — маё мяно.
Я свой, я звыклы, я паўночны.
Паветра мерзлага віно
У келіх цемры лью святочна.

Не ў сытай цеплыні б сатлець
І не чакаць дурной пагоды —
І ў ценяў гушчы, і ў святле
Душа шукае прахалоду —

Не холад крохкіх ледзяшоў,
Але ж быцця шчымлівы дотык...
Нашто, куды, адкуль я йшоў —
Не так цікавіць ідыёта,

Як піць, змяшаўшы са слязой,
Віно паўночнага дыхання,
Адчуць, як вецер, бы лязо,
Гуляе з шыяй хмельным раннем.

...Калі ж упоперак хрыбта
Спаймаю ўдар быцця апошні,
Паўночны папяловы птах
Пад неба ў кіпцях асцярожна
Знясе мой прах.

## Спойваюць

Вечар — хлус і хітрун. Ён прыяцельскім жэстам страчае,
Наркатычным паветрам, кіслінкай астылага чаю.
Ён падмане, дарма абяцаючы сон з супакоем —
Сам налье табе сіні і зораў халоднай рукою

Ў сапсаваны твой розум, бы ў часам пабіты ўжо кубак —
Станеш п'яны сваім існаваннем і сутак наступны адрубак
Будзеш зроблены з хмелю і мрояў да воглага ранку —
Вечар шчодра й на сэрца налье, на драбнюткую кожную ранку.

Вечар з ранкам — у пары запойных сіямскіх блізнятаў.
Ранак моўчкі ўпаўзае з-пад цемры, над цішаю ўзнятай,
Паднапружваецца, цёмны цяжар вышэй прыўздымае —
І з палёгкаю скідвае ў сметнік да ночы (а мо ўжо да мая?)

Потым ранак сінюшны ўсё больш цверазее, іскрыцца ...
Памірае, па смерці становіцца братам-блізніцам.

Напішыце мне хтось на замшэлым старым надмагіллі:
«Вечар з Ранкам ахвяру падступна сабою спаілі».

*Красавік 2015*



# Ганна Новік

паэтка. Аспірантка Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Друкавалася ў часопісах «Верасень», «Дзеяслоў», «Маладосць», альманаху «Палац». Аўтар зборнікаў паэзіі «Сумёты агню», «Тут і там». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

# Жытнёвая мова

***

нам аддадзена ноч
для вяртанняў дахаты аддадзена
хтось забраў у нас дзень
каб не выпілі раптам маны
і пакуль вытчэ дождж
аднастайнае мокрае прадзіва
мітусня мітусень
зноў начэпіць свае кайданы
застывае дрыгва
калі мераем ціхімі крокамі
супыняецца час
выпіваючы кожны наш цень
як бракуе святла
над старымі рассохлымі кроквамі
прагнем мы прагне нас
сіні-сіні агмень.

***

Сінія, сінія, сінія прыцемкі.
Промні апошнія ў шыбах ўжо выцвілі.
Ціха імжыць, туманамі ахутвае,
Шлях не сачыў каб прытомлены рух тваіх

Думак самлелых. І сінімі мроямі
Сіні паўзмрок ўжо нязгоду раскройвае.
Сінія ясачкі гаснуць ў сутоннях,
Сіняя поўня за хмарамі тоне.

Мякка сінеча трывогу засмоктвае,
Шлях аздабляе дрыгвою ды слотаю.
Сіняе, сіняе, сіняе выйсце...
Выдумаць. Вымраіць. Вытрызніць. Высніць.

***

Меў старажытны вятрак
з рыпучым размахам крылаў —

згарэў з ім у ноч вераб'іную,
мовай жытнёвай маліўся
ссівелым багам —
словы знямелі,
зданяў бяздушных людзьмі
называў —
ашчэрылі іклы...
Не спіце, як сонца сплывае крывёй.

## Воля?

Выявіць... Вылучыць...
Выпетрыць. Вымучыць.
Высніць і вытрызніць.
Вымаліць. Выпрасіць!
Вымерыць. Выкраіць.
Выцяць — і выкінуць.

## Абыякавасць

На мяжы разгубленасці інертнасць
суседнічае з глухатой,
а глухата — з абыякавасцю.
Яна, пазяхаючы, кончыкі пальцаў мачала
у сёмы гатунак солі, апошні
(і першы з няісных),
і трызніла ўголас.
А кава была абуджальнай,
атрамант на аркушах — чорным
і цёплымі — птушкі.
І я прычакаўся званка,
не ператварыўшыся ў здань.

***

Разгубленасць мовіць: ратуйся вінам.
Самота сканае за пыльным акном.
Мінулае сонцам абдыме зямлю.
Свабода сканае ад шэпту «люблю».
Звычка сатрэ светлацені з вачэй.
Боль уладкуецца ў сэрцы ямчэй.
Свісне у цемры спазнелы цягнік,
Цені мітнуцца — і ты сярод іх.

## Вокны —

тысячы й тысячы дробных
палонак, не раз у палоне якіх
самота ачуньвала;
існасць для тых матылёў,
што, цалуючы вогнішчы,
страчвалі ўсё, апрача свайго
ценю;
краты для дэманаў згоды,
нянавісці, прагі, мітрэнгі
(хто якіх выпесціў) —
насцеж.
Я сам сабе цень,
 і палонка,
 і прага...

***

...Не вышываў па аблоках
клінамі буслінымі,
шэранем вострым па голлі
не слалася.
Не прычакалі ў забытых кавярнях прыязнасці,
рознымі сцежкамі і абяцаннямі
час вымяралі...
Як беспадстаўна сцвярджаў ліставей,
развучоны на памяць!
«Кожны міне.
І кожная зманіць»...

***

Гэй, стомлены д'ябал,
Ці добра сумуецца ў раі,
Ці яблыкі выспелі?
Выспамі
Сновідаў
Крочу па багне,
І вочы твае
І ратуюць,
І нішчаць.

***

Мяце, мяце
Каторы дзень.
Штоноч. Штоцень
Свой шаль пляце.
Дзе ты? Я дзе?
Камю, Манцень...
Мяце... Мяце...
Ў душы агмень.
Я вязень сцен,
Маўклівы цень.

***

...І апране прастор, відаць,
З туману шалік,
Каб поўні мякка, ёмка спаць
На вечных шалях.

Не засмучайся, д'ябле мой,
Нязграбнай істай —
Цябе над волкаю зямлёй
Ўвесь горад высніць.

Як занатуюць ліхтары
На сцежках цені,
Памкнуцца жменькай жамяры
Твае адценні.

## Там

Там, у чужых аблоках,
Чужыя жывуць амялушкі,
Штозіму ссівелыя пёры
Ціха скідаюць долу.

І тонуць у прысаку крокі,
І смутку крыху скрушна,
І б'юцца ў аскепкі зоры,
І не выстачае словаў.

***

Ты чаруй, і чаруй мяне цалкам —
Зачараваным
Крыху
Шэнціць:
Іх не цягнуць у вір русалкі,
І баяцца у пекле чэрці.

***

Хай на выспе забытай Патмас
Стагоддзямі дрэмле віно,
Згаладалыя хвалі вітаюць нас
І агнём набрынялы кнот.

## Пахне «Спартак»

Хіба на вечар той можна забыцца?
Маладзіковае сонца садзіцца.
Хочацца есці, без грошай — ніяк.
...Пахне «Спартак».

Трэба на пару: за спінаю крокі.
Гэта, відаць, наш дэкан недалёка.
Водар спакуслівы кліча, аднак.
...Пахне «Спартак».

Выйсці б насустрач, стаць і прызнацца:
Вось яно, блізка, студэнцкае шчасце —
Торцікаў лепшых патрэскаць усмак.
...Пахне «Спартак».

Год адзінаццаць, а можа — дванаццаць
Сэрца баліць, што не здолеў застацца
Ў цёплай кавярні, дзе здорава так...
...Пахне «Спартак».

Час той схаваўся за дальняй гарою.
Ўспомню часінай — яно прада мною.
Выйду, гукаю... Маўклівы абсяг...
...Пахне «Спартак».

*2013*



# Алесь Мацулевіч

паэт. Скончыў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна. Друкаваўся ў «Лідскай газеце» і «Верасні». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Лідзе. Жыве ў Лідзе.

# Галерэя тытанаў

## Пралог

Адам з Вікенціем, паэты...
Францішак з полацкага краю...
Я вершаваныя партрэты
тытанаў даўніны ствараю.

Пішу Кірылу, Ефрасінню...
Пішу Тадэвуша ў палоне...
Пішу партрэты — і краіны
ў партрэтах паўстае былое...

## Унучка Усяслава

***У гонар першай беларускай асветніцы
Ефрасінні Полацкай***

Ад дзеда — князя Усяслава —
яна пераняла духоўнасць.
Жыццё яе — узор яскравы
жыцця, якое кнігі поўняць.

Манаства, полацкай Сафіі
князёўна адчувала блізкасць,
у манастыр пайшла — і кнігі
ў саборы стала перапісваць.

Царкву па ініцыятыве
манахіні пабудавалі,
дзе летапіс пад залатымі
яна напіша купаламі.

У Спаскай летапіс пісаўся...
Крыж вырабляўся майстрам Богшам...
Спраў Ефрасінніных нізацца
Гасподзь каралям дапамог Сам.

Табой, унучка Чарадзея,
тваёю справай ганаруся!

Ты пачынаеш галерэю
асветнікаў у Беларусі!

Табе, унучка Усяслава,
радкі паэты прысвяцілі!
Тваё жыццё — узор яскравы
жыцця, якое поўняць кнігі!

## Епіскап Тураўскі

***У гонар «беларускага Іаана Залатавуста»***
***Кірылы Тураўскага***

Сярод асветнікаў адметных
сярэднявечнае пары —
залатавусны прапаведнік
залатакупальнай царквы.

Ён адукацыю ад грэкаў
пры княжым атрымаў двары.
Казанняў — цудадзейных лекаў
для душ — нямала ён стварыў.

Трымаў бібліятэку ў вежы
епіскап Тураўскі Кірыл.
Нямала яркіх прытчаў — ежы
для роздуму — Кірыл стварыў.

Эпохі прадстаўнік яскравы
і творца з яркасцю зары,
нямала пропаведзяў — стравы
для сэрца — Тураўскі стварыў.

І прапаведніцтвам займацца
Кірыла наш не праміне.
Натоўпу прытчы красамоўца
чытаў — нібыта звон звінеў.

Так, місіі манахаў медных,
так прапаведаваў, як вы,
залатавусны прапаведнік
залатакупальнай царквы.

## Пражская друкарня

***Да 500-годдзя***
***з часу выдання Ф. Скарынам Бібліі ў Празе***

Няпроста надта — выдаць кнігу:
патрэбны значныя выдаткі,
патрэбна, каб расла паціху
гара з манетак мецэнацкіх.

Станкі, папера — дарагія.
Шрыфты нятанныя ды фарбы.
Хто грошы выдзеліць такія,
каб са станком першадрукар быў?

Скарыну мецэнаты Онкаў,
Астрожскі, Бабіч падтрымалі —
і вось, старонку за старонкай,
ствараюць Біблію ў друкарні.

У Празе Біблію друкуюць,
ды не на канфесійнай мове,
не традыцыйную — другую
ствараюць тут для вас, панове.

На беларускай — той, якую
люд паспаліты разумее, —
у Празе Біблію друкуюць
для ўсіх вас, хто чытаць умее.

Пайшлі на пражскую друкарню
нядарма значныя выдаткі,
бо ў кніг гару ператвараюць
гару з манетак мецэнацкіх.

## Кіроўца Рэфармацыі

***Памяці выдатнага дзеяча беларускай Рэфармацыі***
***Сымона*** Буднага

Для роздуму чытанне — страва
вялікая, як шар гарбузны.
Працягвае Скарыны справу
ў Нясвіжы рэфарматар Будны.

У хрысціянстве праціскацца
прыйшла часіна плыні новай —
вучыў пісьменнік пратэстантаў,
на шлях рэформаў накіроўваў.

У вузкім пратэстанцкім коле
настаўніка гучала слова.
Урокі ў кальвінісцкай школе —
для «Катэхізіса» аснова.

Друкарні ў Лоску ды ў Заслаўі
жывуць не толькі для эліты —
ствараюць кніжкі, каб спазнаў іх,
таннейшыя, люд паспаліты.

Ствараюць для шырокіх колаў —
не толькі дзеля вузкіх колцаў.
І льецца са старонак голас
іх — Рэфармацыі кіроўцаў.

Расце друкарства ды дужэе,
бы ў агародзе шар гарбузны:
Францішка справу прадаўжае
ў Заслаўі рэфарматар Будны.

## Кніга Сімяона

***Памяці выдатнага паэта і асветніка XVII ст.
Сімяона Полацкага***

Клабук, нібы вянок лаўровы,
на творцы з яркасцю ракеты.
У «Вертаград шматкаляровы»
ўвайшлі царкоўныя легенды.

Змест як духоўны, так і свецкі
ў «Шматколернага вертаграда»:
геаграфічныя тут звесткі
і гістарычныя таксама.

На ідэальнага манарха
тут погляды ды анекдоты

(а анекдоты ад манаха
рассмешаць і плаксівых роты!).

«Шматкаляровы» выкрывае
паклёпніцтва, распусту, зайздрасць...
Заган дуброва векавая,
цябе ён агаляе зараз!

Карысная для некаторых
ты, кніжка Сімяона твораў:
мастацкія манаха творы —
«сардэчкі» — выпраўляюць нораў.

Клабук — нібы вянок лаўровы.
Паэт — ярчэй за сонца захад.
У «Вертаград шматкаляровы»
паэзія ўвайшла манаха.

## Шынель на піках

***Памяці начальніка паўстання 1794 г. Тадэвуша Касцюшкі***

10 кастрычніка 1794 г., пасля паражэння паўстанцаў у бітве пад Мацяёвіцамі, Касцюшка быў узяты ў палон.

Касцюшка церпіць паражэнне —
задралі ферзенцы насы.
Паўстанцы гінуць пад ружэйны —
для рускіх пераможны — зык...

Казак пытае: «Ты — Касцюшка?»
Касцюшка шэпча: «Так. Вады...» —
ды думае: «Вады б кадушку —
і смагу праганю тады...»

Кладуць Касцюшку на фурманку.
Фурманку трэсці пачало.
«Пад вухам дошка ў колер маку
афарбаваная — чаго?»

Бо галава аб дошку б'ецца.
Казак: «І вораг — чалавек.
На шынялі на мяккім месца
і тулаву, і галаве»...

На шынялі ляжыць палонны.
Шынель — на піках казакоў.
У небе, восеньскім, халодным,
крык жураўліных касякоў.

Крык жураваў — аб паражэнні —
нібыта душ палеглых крык,
што вылецелі пад ружэйны —
для рускіх пераможны — зык.

## Працэс

***Памяці выдатнага паэта, аднаго з заснавальнікаў таварыства філаматаў Адама Міцкевіча***

Пасля следства па справе філарэтаў Адам Міцкевіч быў высланы ў Расію.

Ты насустрач выгнанніка долі
едзеш, бо філамат, філарэт,
на Расію дарогі раздолле
акрапляеш слязамі, паэт...

Куляй выбегшы з дула карэты
і трымаючы кол у руцэ,
Навасільцаў граміць філарэтаў —
і над імі дубінай працэс.

Разгуляўся сенатар — мяцеліць
прамяністых у сілы ва ўсе.
І сярод ахвяр следства Міцкевіч
пад дубінай у камеру сеў.

І Міцкевіч маўчыць: не з турмою
аб асвеце сялян разважаць.
У суполцы ягоную ролю
ўпарта будуць сябры заніжаць.

«Філарэтаў дубінай асілю!» —
разяўляе сенатар свой рот.
Высылаюць Адама ў Расію.
Высылаюць паэта на ўсход.

Філарэтаў сенатар адолеў.
Прамяністых сенатар разбіў.
На Расію дарогу-юдолю
ты слязамі, Адам, акрапіў.

## За кратамі

***Памяці выдатнага паэта і камедыёграфа XIX ст. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча***

У 1864-1865 гг. Дунін-Марцінкевіч сядзеў у менскай турме.

За кратамі ён панікае.
Як быў бы Марцінкевіч рады,
каб на хвілінку пазнікалі
турма, і камера, і краты!

За кратамі свае малюнкі.
За кратамі свая карціна.
За кратамі — Няміга. Людзі
спяшаюцца па ёй на рынак.

Спяшаюцца адны ў галёшах,
другія — у абутку голым.
А на гары, над рынкам, плошча
з палацам, цэрквамі, касцёлам.

У храмах тых — абедні, месы.
Ля храмаў — лужыны ды лісце.
На плошчы — і тэатр, дзе п'есы
Вінцэнта ставілі калісьці,

дзе Марцінкевіч у спектаклях
іграў, акцёр-камедыёграф.
І перад ім карціна з даляў
жыцця мільгнула метэорам.

Карціна ў памяці мільгнула,
дзе не ў турме ён, а ў тэатры, —
і пазнікалі на мінуту
турма, і камера, і краты.

*2015, кастрычнік-снежань.*



# Наста Кудасава

паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Лісце маіх рук», «Рыбы». Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Жыве ў Рагачове.

# Ідзі і вядзі!

## Авісага

гэта проста няпудкія пальцы кустоў,
гэта ягадаў мёд у плячо табе дыхае.
гэта птушка прысела з малочным лістом
над спакоем сівым тваім — ціхая-ціхая...
гэта квецені клейкасць і рэк серабро
заліваюць твой сон цеплынёю пажаравай.
гэта цэлым сусветам, з надрыву вятроў,
я прыйшла да цябе,
каб сагрэць цябе,
цару мой!

## Вадзім

*Вадзіму Амірханаву*

...а лёсы звіваюцца самі ў такія віры,
што рук не ўзгадаць і п'янее плаўнік за плячыма.
імя тваё — споведзь вады,
павадыр белых рыб,
зялёнага мора зялёная ў сэрцы радзіма.
і хай я ў дарозе,
дзе кожны, як вечнасць, адзін,
дзе змрок спакушае штокрок памыліцца і ўпасці,
я помню імя, што як вырак — ідзі і вядзі!
і рыбай іду на святло з песняй болю і шчасця...

## Жук

а яшчэ можна легчы сцяне на плячо
і паслухаць рахманых жукоў.
ці маўчыць ён пра тое, што ўрэшце знайшоў,
кволы жук у бліскучым трыко?
ці ў адчаі малітвы не можа заснуць,
калі болем заходзіцца сын?
ці таксама шукае шчакою сцяну,
бо баіцца не выжыць адзін?

***

а ў садзе тваім базілік і хурма,
ступаюць пяшчотна сівыя ільвы,
ільды не даходзяць сюды, і зіма
з ільвамі сівымі на Вы...

ты слухаеш споведзь жука-баюна,
ты сонцам любові скрозь вецце плывеш,
а ноччу, калі засынае вайна,
ты з вуснаў маіх, нібы кроплі з акна,
сцалоўваеш восеньскі верш.

## Ваўчаня

ваўчаня ў дзівосным садзе
пудкі мячык ваўчаня
ўзмах пякучых вінаградзін
тут не дом такім як я
дзе заходзяцца хурмою
ночы беззаганных рук
шэрае маё нямое
хто ты гэтаму двару

дык таі
гарчы і шчэрся
ўсе дарогі — верны дом
слухай сэрца
толькі сэрца
за калматым жыватом

***

*Марусі Салаўёвай*

а святое аддайце сабаку.
у сабакі на донцах вачэй
адбіваецца свет невыгаўкны:
будкі храм,
дзе малітвамі ў лапках
колкі студзень пячэ,
казань-восень, казурак хралы...
і анёл прызямліўся на нос,

каб, адклаўшы нябёсныя справы,
слухаць разам у здзіўленых травах
дабравесце стракоз.

## Калыханка для Ані

*Ані Трутневай*

беражыце яе, берагі-караблі,
дзе залізваў нам боль сіні-сіні заліў,
дзе на хвалях халвовых гайдаюцца дні,
дзе ўспамінам пра нас — камяні, камяні...
зберажыце анёла на ейным плячы,
адамкніце ёй горад, і дайце ключы
і дракона, што п'е з рук пяшчоты ваду,
і люляйце яе, покуль я не прыду.

## Сыну

зашпілі на вечнае
часу паясы,
таямніцы-веснічкі
адамкні мне, сын.
цела сола горкае
не кладзецца ў рытм —
будзь жа проста зоркаю,
гары.

***

навальнічнаю сцяной
стаіць адчай.
як жа катаржна адной —
без ні-пляча!
абаперціся б на зліву,
як сцяну,
адпачыць бы ў караблі
чужога сну,
адпусціць бы ўсё, што зроблена
табой —
хай сплывае за парог
ракой рабой...

## Сёстры

вусціш цалуе змяінымі вуснамі
і забірае сабе.
роспач люляе ў пялюшках пракруставых.
роспач мяне заб'е.
вечным злачынцам, сінечай вянознаю
дзень мой завіс, як каршун.
Госпадзе, вытні сабою
наскрозь мяне.
больш ні аб чым не прашу.

***

трыццаць два, а дагэтуль — голая,
без'языкі пакорлівы голем.
не ўрастае ў мяне,
не прымаецца
ні стырна —
толькі крык і памяць.
ты пашый мне кашулю крылатую
з веры кропнай,
спагады мятнай
і пусці мяне ў рай абязболены —
рай дзяцей, сабак і анёлаў.

## Грудное

курчыцца снег.
ад жыцця ашалелі
ў клетцы грудной грудныя шпакі —
так разышліся на рэбраў арэлях,
высунуўшы языкі,
што падаецца,
вось-вось разарвецца
цела няўрымслівая турма,
дзюбы ўцалуюцца ў роднае вецце
і завяршыцца зіма.




**Д.ар'я Бунеева. Status animarum**



# Уладзімір Някляеў

паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000 г.). Аўтар кніг паэзіі: «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Кон»; прозы: «Лабух», «Цэнтр Еўропы» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні. Жыве ў Мінску.

# Не цяпер...

## Калыханка

*Памяці Генадзя Бураўкіна*

Па маёй ці тваёй,
не па нечай — па нашай віне
Беларусь, як чужая, у роднай сваёй старане.
І калі памірае праз роспач і скруху паэт,
Ён не той пакідае, у якім нарадзіўся, сусвет.

Той сусвет быў Айчынай. Калыскай ягонаю быў.
Ён паэта люляў, малаком роднай мовы карміў,
Баіў байкі яму —
Там у кожным паэтавым сне
Бай хадзіў па сцяне
У чырвонам сваім каптане...

Баю-бай, баю-бай. Спяць, раскінуўшы рукі, сыны.
Сняцца некаму рускія. Некаму польскія сны.
А каму беларускія — той прачынаецца ў снах
І крычыць! І не чуе! Не бачыць! Бо прывід! Бо жах!

Спіце, воі. Мужчыны. Далёка яшчэ да відна.
Вы праспалі Айчыну! І ў снах беларускіх яна
Не Пагоняй ляціць, а ваўчыцай на бруху паўзе
І сама сабе лапу, каб вырвацца з пасткі, грызе.

Баю-бай, баю-бай. Спіце, дзеткі, бяспамятным сном.
Маладыя ваўкі! Піце матчыну кроў з малаком!..
Даганяйце па следзе, што ў кожным паэтавым сне
Чырванее на лёсе,
на лёне,
на белым, як смерць, палатне...

*7.06.2014*

# Грыша

*«Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём»*
Рыгор Барадулін

**1**
Недзе Барадулін Грыша
Вершы піша, піша, піша,
Я нічога не пішу,
Я сяджу ў турэмнай цішы
І, сумуючы без Грышы,
Шлю яму сваю душу...
*30.12.2010*

**2**
Дзень народзінаў у Грышы.
Грыша мышы сыру крыша,
Бо яна ў яго ў гасцях.
Кот разлёгся на афішы,
Дзе ў абдымку я і Грыша,
Які крыша сыру
мышы
У каціных кіпцюрах.
*24.02.2014*

**3**
Грыша мой набраўся спрыту
І ў замглёны бок нябыту
Адляцеў, нібыта птах,
І ніколі болей Грыша
Мне нічога не напіша
Ні на кнігах, ні ў лістах...
*12.03.2014*

***

З неверагодных Господніх шчадрот
Скроены наш беларускі народ.

Мова — нямога.
Вочы — сляпога.
Вушы — глухога.
Сэрца — чужога.

Зрэшты, і большыя
Ведалі беды мы.
Што ў нас пабольвае —
Бог яго ведае.

Можа быць, мары няспраўджанай нацыі.
Можа быць, шнары пасля трансплантацыі.

*17.11.2014,*
*Смрдакі, Славаччына.*

## Страта

Над адным маім плячом
Зорка,
Над другім маім плячом
Месяц,
І вяроўкай Млечны шлях
Над пагоркам,
На які мяне ўзвялі,
Каб павесіць.

На пагорку я стаю
На колодзе,
А наўкол мяне народ,
Што мне любы...
«Мой ты любы беларускі народзе,
Ты ўратуй мяне ад страты, ад згубы!

Я ж узнёс на неба месяцам
Праўду,
Запаліў на небе зоркай
Свабоду!..»
А народ свабодзе з праўдай
Не рады,
Не да месяца і зоркі
Народу.

Ён гадае:
Калі здзейсніцца страта,
І калі мяне засыпяць зямлёю,

Хто і што тады займее ад ката:
Хто калоду? Хто вяроўку з пятлёю?..
*Каляды 2010 (унутраная турма КДБ),*
*Вялікдзень 2015 (Крэва)*

***

Аднойчы ў неба глянуў ты...
І што ты ўбачыў? Пустаты
Жыцця
Жахлівае бяздонне?
Ці несмяроцця зыркі след,
У зорным дыме
вечны свет,
Што з Боскага з'явіўся ўлоння?..

Калі другое, ты паэт,
Магчыма.
А ў выпадку першым,
Магчыма, проста пішаш вершы,

Або спрабуеш нешта ў прозе
(«Нацыянальная стратэгія ўстойлівага
сацыяльна-эканамічнага развіцця
Рэспублікі Беларусь»)
Сказаць сучаснікам:
Жывым
І тым, хто ўжо спачыў у Бозе,
Пра гэты свет, пра гэты дым...
*10.01.2015*

***

Паўстане з попелу і птушкай стане зноў,
Ці рыбінай... Тым стане, чым згарэла,
Што да пажару звалася любоў
І мела пругкае, з атласнай скурай, цела,
І млосны голас мела, чуйны слых,
Каб шэпты чуць — і каб стагнаць да рання
На ложку, зашырокім на дваіх,
У завялікім для дваіх каханні,
Куды аднойчы трэцяя ўвайшла,

Якая птушкай з попелу паўстала,
Ці рыбінай... Ляцела і плыла,
Шаптала млосна, соладка стагнала...
*5.01.2015*

***

І ню, і рэпрадукцыі Ван Гога,
І сам пан Бог (пара былога Бога
Мінула — Новы год, дык новы Бог),
І разам з Богам
Чарлі Чаплін лёг,
І Ленін разам з дзеваю Марыяй
У мех бамжа, які кавенькай рые
На сметніку календары старыя...
*1.01. 2015*

***

Я бы, я бы, я бы, я бы
На ягоным быў бы месцы!..

Даспявае недзе яблык
Той, якога мне не з'есці.

Выспявае недзе дзеўка
Тая, што кахаць не мне.

Але ўсё-ткі ёсць спадзеўка!
Га, Валодзька?.. Ці ўжо не?..
*15.06.2014*
*Утэна, Літва*

***

На мох зялёны — жоўтае лісцё.
Бялюткі снег — на рыжую салому.
І ў гэты ясны час, адчуўшы стому,
Спакойна я кажу сабе самому:
Мне ёсць чым апраўдаць маё жыццё.

Не тым, што жыў, любіў... Зусім не тым.
І без мяне жылі, любілі ў свеце.

Не тым, што ў свеце застануцца дзеці,
Не тым, што калі дзьмуў сцюдзёны вецер —
На ім стаяў і выстаяў на ім.

А чым тады? А тым, што, колькі мог,
Не паміраў, не гледзячы на стому,
А сніў і сніў жыццё!.. І, можа быць, збярог
Калі не ўсё, чаго не сніць нікому,
Дык хоць бы тое, што казаў мне Бог
Пра снег, пра мох, пра лісце, пра салому...

*7.12.2014*

***

«Скажы, што ў душы. Не маўчы...»
І прорва прамовіла томна:
«Сляпому не цёмна ўначы,
Відушчаму — цёмна.

Не лезь у пацёмкі душы,
Задушлівых шэптаў не слухай.
Глухому не глуха ў цішы,
А чуйнаму — глуха.

Сусвет з цемнаты, з глухаты
Сатканы. Яго не з'іначыш.
Ты кажаш, а чуеш — не ты,
Бо чуеш не тое, што бачыш.

Бог мог нематой пакараць,
Але гаваркому
Пра гэта няма што сказаць,
І ёсць што — нямому».

*4.10.2014*

***

Мая маці — Вада.
«Хто мой бацька?» —
гукаў я да Бога.?
А каго б ты хацеў?» —
Ён пытаў.
«Ці Цябе — ці нікога!»

Час ракою цячэ
Да вытоку і вусця адразу...
Я чакаю.
Яшчэ
Не было мне адказу.

*1973 — 19.01.2016*

## Знічка

Яна табе, знікаючы, загадкава міргне.
І не згадаеш: хто яна? Паклікала — і прочкі.
Падобная да Ганечкі...
Так, Ганечка. Ці не?..
Э-гэй, габрэйка Ганечка — радзімка каля смочкі!

Якія ў неба лесвіцы!.. Прыставіш да сцяны,
Да Месяца, і ўбачыш ты скрозь воблакі і дымкі
Два целы вашы гнуткія —
і ўвесь твой шлях зямны:
Два пацалункі хуткія ад смочкі да радзімкі.

Габрэечка, капеечка, адна сярод гурмы,
Дагэтуль не згаданая ні намыслам, ні словам!..
Як дзіўна знітаваныя, як сплеценыя мы
З міргаючым,
 знікаючым,
 імгненным,
 выпадковым.

*14.02.2015*

## Не цяпер

Не цяпер. Не цяпер. Не цяпер.
А калі? Невядома нікому.
І як звер, і як звер, і як звер,
Зарываешся ў часу салому,
У ашмецце газет і шпалер.

А чаму не цяпер? Бо не час.
Бо сляпыя. Глухія. Нямыя.

На шпалерах — узоры не тыя,
У газетах — даносы на нас.

І ў сляпой, у глухой, у нямой
Старане. У адчаі і стоме
Ты трываеш. Бо шлях за спіной.
Лёс. І молішся ў збітай саломе:
«Божа мой, Божа мой, Божа мой!..»

*16.09.2015,*
*Радашковічы*

***

На шляху да Гудагая,
З Гудагая — да Літвы
Ніцы вецер прабягае,
Льне да скошанай травы,

І знячэўку нагадае
Гэты вецер нізавы
На шляху да Гудагая,
З Гудагая — да Літвы,

Як калыша, як гайдае,
Б'е Вяллю аб берагі
Голас з Вільні: «Дарагая!..»
З Гудагая: «Дарагі!..»

*16.09.2015,*
*Гудагай*

***

Прамільгне за свістам электрычкі
Дом
ад свету тлумнага ўбаку.
Помню гэты дом. Там дзве крынічкі,
Сіратлівы клён на скразняку.

Помню гэты дом. Там дзве сястрычкі
Некалі жылі. Цяпер адна
Каля клёну з рання да цямна
Некага чакае з электрычкі.

*16.09.2015,*
*Смаргонь*

***

Скажы мне: ты помніш
Той вечар
У Вільні?..

Быў вецер,
І пыльнай,
Няўтульнаю Вільня была
На вуліцы побач
З вакзалам,
дзе пыльная поўня
плыла...

«Цягнік мой у поўнач».

«Праводзіць?..»
Мы выйшлі — перон быў пусты.
«Не едзе ніхто і нікуды».
«Забудзеш мяне?..»
«Не забуду...» —
Сказала мне ты.

Не помніш?..

*16.09.2015,*
*Вільня*

***

І сны аб небыцці, і сны аб вечнай славе —
Пянькова пятля на шыі тых, хто спіць.
Паэт не можа спаць. Калі ён спіць — ён сніць.
І жахі гэтых сноў збываюцца на яве.

*17.09.2015,*
*Краёва (Румынія)*

***

Сярод парваных хмар адна
Скрозь вецер ластаўка ляцела,
Гуляла з ветрам, як хацела,
Яна.

І раптам падалося мне,
Што ўсё, што на душы цямнела,
Што ў лёсе навальнічна спела, —
Міне.

Але пакуль яно міне,
Пакуль парванае зрасцецца —
Аб вецер ластаўка заб'ецца...

Ці не?

*18.09.2015,*
*Краёва, Румынія.*



# Серафім Раула

паэт. Друкаваўся ў часопісах «Качели», «Вясёлка», «Бярозка». Навучэнец ДМШМ № 8 (дзіцячай музыкальнай школы мастацтваў) імя Р.Р. Шырмы. Узнагароджаны прэміяй Уладзіміра Ліпскага, галоўнага рэдактара «Вясёлкі» за лепшы твор 2015 г. Нарадзіўся ў 2002 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Самацветы лета

## Улетку

Я хачу прайсціся ля падножжа
Пасівелых сумных курганоў.
Збоч са сцежкі, і ўсміхнецца збожжа
Вочкамі блакітных васількоў.

Вецер зашуміць зялёным гаем —
Адгукнуцца ў небе жаўрукі.
Сонца паплыве ў бялюткіх хвалях
Хуткаплыннай, звілістай ракі.

## Першы снег

Гарэза-ветрык абарваў
З бяроз апошнія лісты,
Сівы мароз пабудаваў
Са шкла над рэчкаю масты.

Прыбраўся голы лес у шэрань,
А дзяцел тэлеграмы б'е:
«Казалі мне, што ў хмарах шэрых
Бліскучы, белы снег жыве!»

Усе вакол зіму чакаюць,
Чакаюць снег замест дажджу.
І вось, глядзі: з нябёс злятае
Маленькі белы парашут...

Ляціць!
Шапоча снежнай мовай:
— Сняжынка я! Я — першы снег!
— За ёй ляціць мільён сябровак...
Які ж узняўся гоман, смех!
Усе чакалі нездарма:
Нарэшце надышла зіма!

## Лета

Цяжка задыхала лета,
Быццам бы ў кузні мяхі.
Сонцам пяшчотным сагрэты,
Коцяцца хвалі ракі.

Хтосьці сыпнуў самацветаў —
Кветкамі луг загарэўся.
Лета, чароўнае лета,
Звонкая, дзіўная песня!

## Павучкі

Лісцікі панура
З дрэваў ападаюць,
Паляцець у вырай
Павучкі жадаюць.

Хуценька наткалі
Срэбнай павуцінкі,
Каб ляцець над краем,
Роднаю хацінкай.

Паяскі надзелі
І ў парыве шчырым
Сёння адляцелі
Павучкі у вырай



# Артур Камароўскі

**паэт. Друкаваўся ў часопісах «Тэрмапілы» і «Верасень». Нарадзіўся ў 1991 годзе ў г.п. Мір. Жыве ў Гародні.**

# Борька

Боря жыве ў доме насупраць: доўгім хрушчоўскім пяціпавярховіку — шэсць пад'ездаў, усе з дамафонамі. Паміж нашымі дамамі — бярозы (адна з іх, што расце якраз под вакном кухні, надакучвала мінулай восенню сваім насеннем), яблыні з дробнымі, як гарэхі, пладамі (ніякай асалоды), нейкія яшчэ дрэвы (лянуюся паглядзець). Адным словам, прыгажосць. Асабліва зараз, калі цвітуць яблыні, напаўняючы паветра ледзь улоўным водарам вясны.

Я люблю выходзіць на свой незашклёны балкон, стары, з нейкай непатрэбшчынай у кутку, якую і не хочацца разграбаць — хто ведае, калі з'язджаць — але, мусі быць, прыйдзецца. Пасаджу ў невялічкія пластмасавыя скрыні базілік і пятрушку. Базілік — лекавая, з вострым смакам і пахам расліна. У ім — процьма вітамінаў: C, $B_2$, PP, карацін, нейкія фітанцыды. Буду лячыць астму. Пятрушка — гэта больш зразумела, што за яно. У боршч яе, у салаты. Агуркі скразняку не вытрымаюць, а шкада.

З балкона ўсё відаць: шэсць пад'ездаў, лаўкі, клумбы, балконы суседняга дома, борькінага. На пятым паверсе, там, дзе незашклёны, як і ў мяне, балкон грушавага або неафітавага колеру, жыве звычайная сям'я: часта выходзяць смаліць, паасобку або разам, абапершыся рукамі на балконную агароджу, да ночы не спяць, і жоўты квадрат іх вакна апынаецца пасярод цемры.

Борька спіць. А я — не. За вакном махае тонкімі рукамі бяроза. Тая самая, што кідае на кухню насенне.

Праз некалькі год на мяне нечакана падае спадчына ў выглядзе банкаўскага рахунку ад нейкай далекай цёткі. Дзякуй, дзякуй. І вось я ўжо купляю ўласны дом, за горадам, у межах прывабнай дасягальнасці, каб, калі што, плюнуць на ўсё і вярнуцца. Астатняе — на дабрачыннасць. Нічога не трэба больш. Прыязджаю ў горад рэдка і сам не ведаю, навошта. Дом у мяне — з балконам. Шырокім. З базілікам і пятрушкай. А на зямлі — агуркі і іншая гародніна. Здзічэць, з'ехаць з горада.

— Аддай ключы ад маёй кватэры!

Цішыня пяць секунд.

— Аддай ключы ад маёй кватэры!

Дзесьці каля борькінага дома сварка. Крычыць толькі жанчына, патрабуючы свае ключы. Але, чамусьці, ёй ніхто не адказвае.

— Аддай ключы ад маёй кватэры, сука!

Ізноў цішыня. Пасля жанчына ўскрыквае, і, напэўна, уцякае: з-за цемры, майго астэгматызму і дрэў асабліва і не відаць, што там адбываецца. Сям-там гарыць святло. Тры гадзіны ночы. Засынаючы, чую, як пад'язджае выкліканая жонкай таго мужчыны, што забраў ключы, міліцэйская машына. Чатыры гадзіны.

Борька — натура далікатная, з тонкай душэўнай арганізацыяй. Гэта вось такім, як ён, імкнуцца дагадзіць.

— Борька, ну пойдзем, пойдзем са мной — настойліва загаворвае нябачная мне з балкона жанчына, хаваецца ў буйнай веснавой зеляніне разам з Борькай.

Канешне, ён не адказвае. Нас так проста не возьмеш.

Я дзіўлюся з яго вытрымкі, стойкасці. Такіх вось як Борька, ды ў абарону, у засаду. Але ён не дасць згоды, вядома. Далікатная натура.

На мой балкон прылятаюць птушкі. Голубы ды вераб'і. І чаму галубы, калі кінеш ім хлеба, не хапаюць яго і не ляцяць куды-небудзь, дзе можна спакойна з'есці, як гэта робяць вераб'і? Замест гэтага яны, трымаючы здабычу ў дзюбе, бясконца ўцякаюць ад сваіх суродзічаў. Дзівосныя птушкі. Маю намер прывучыць іх да сябе, пакуль няма ніякай хатняй жывёліны.

У адной з кватэр на першым паверсе нашага пад'езда жыве бабуля з чорным сабакам. Дачка яе ў Амерыцы, мужа нядаўна пахавала, а сястра — ляжыць хворая ў бальніцы. «Вось так і жыву», — казала мне яна, змахваючы маршчыністай рукой слёзы, калі я ўкручваў ёй лямпачку. Яна ўстае рана, як і ўсе бабулі — на выходных, калі я выходжу раніцай у краму, яна ўжо здымае сухую бялізну; у працоўныя дні — яе сабака ўжо сядзіць на лаўцы і радуецца сустрэчы са мной. Свой.

— Борька, ну. — Крыўдзіцца жанчына.

Яе можна зразумець. Вечаровая прахалода прапаўзла між дамамі, цісне з усіх бакоў. Борька нікуды ісці не хоча. І адчапіцеся. Мабыць, як я з балкона, атрымлівае асалоду ад гэтага халоднага вясновага вечара. Не магу сказаць дакладна.

— Боря, я пайду, а ты застанешся тут — на ўсялякі выпадак пагражае невядомая.

— Мяў — чуецца ў адказ.

Пайшлі. Не вытрымаў, значыцца. Яго можна зразумець. Дом — гэта ўсё, няхай нават часовы.

# Помніць

Калі думаць, што памяць — нейкая ёмістасць, гліняны, напрыклад, збан, або агромністая валізка, што паўзе за табой на маленькіх колах, можна лёгка пра ўсё забыць. Пра мілае і дарагое, балючае і шчаслівае, важнае і непатрэбнае. Пра тое, як першы раз пакаштавала марожанае, той салодкі холад на языку і любімы позірк маміных вачэй, а пасля расталыя кроплі на сукенцы: чорныя на жоўтым. Пра тое, як у дзіцячым садку, закідала густой манкай Лерку-талерку, бялюткай, з камочкамі. Каша вельмі прыгожа ляжала на плячах, як пагоны. Пра цудоўны вечар у бабулі на вёсцы, ля вогнішча: ляцелі ў неба іскры, лілася, струменілася матуліна песня і пяць галасоў падпявалі ёй неўпапад — мой, бабулі, дзядулі, таты і сястры. Пра адзін са снежаньскіх дзён, калі

я сядзела на падваконніку, і невядома навошта глядзела праз халоднае шкло на двор, як вецер круціць і кідаецца дробным, як проса, снегам.

Да гэтага часу я не імкнулася запамінаць, таму помніла ўсё. Я адпускала моманты, людзей, гісторыі, месцы, і яны бумерангам заўсёды вярталіся да мяне, заўсёды нечакана.

Вось чаму я так дакладна помню, калі мы сустрэліся. 8 снежня ён выйшаў з хаты мне насустрач, але яшчэ пра тое не ведаў. Я стаяла на прыпынку, мерзла ў тонкім паліто, хавала нос у саматканы шалік. Ён спяшаўся на заняткі (малады выкладчык) і ў думках ужо стаяў перад сваімі студэнтамі за кафедрай. Я таксама спяшалася на заняткі (маладая студэнтка), але зрабіла неасцярожны крок (насамрэч, крок быў шчаслівым) і паслізнулася. Ён падбег да мяне першым, невядома як забыўшыся на свае заняткі, дапамог падняцца і ў той жа момант моцна і беззваротна закахаўся. Я таксама. Ён усміхнуўся. Я адказала яму ўсмешкаю.

Каханне — гэта заўсёды прыгожа. Яна, прыгажосць, была ва ўсім: у першым сонечным промні, што нясмела і ціха прыходзіў да нас на ложак, у ранішняй каве з малаком, з пенкай, у тым, як дзяўчынка малюе на марозным шкле аўтобуса невядомыя фігуры, у тым, як людзі смяюцца адзін аднаму, як далікатна кранаюць адзін аднаго за руку, у тым, як туманяцца шкельцы акуляраў падчас тэмпературных перападаў, у яго ўсмешцы, у яго вуснах...

І марылі мы аб прыгожым. Вясна, дарога, аўтамабіль, музыка. Ноч, пясок, мора, зоркі, пацалунак. Маяк, святло, дотык, шчасце. Кніга, радок, слова, каханне.

Я была малодшая за яго на цэлых 8 год. У той момант, калі Сусвет дараваў мне жыццё, ён ужо мог хадзіць і гаварыць, мог абаяльна ўсміхацца, мог бегаць басанож па лужынах, але не мог ведаць пра мяне. Я любіла пра гэта думаць. Але ніколі не гаварыла пра тое яму.

На мой 21 дзень нараджэння мы ад усіх уцяклі. Калі табе 21, то яшчэ можна вось так проста не прыйсці на асабістае свята, не ўбачыць родныя твары, не перапэцкаць матуліным кулінарным шэдэўрам усю сябе, не сказаць родным словы любові, не адчуць на шчацэ гарачыя слёзы сястры. Паверце, што так можна. Можна і тады, калі табе 23. Далей — не ведаю. Напэўна, можна, але не трэба.

Мы гулялі ў парку, елі марожанае. Сонца плыло ў пакуль яшчэ голых вершалінах ліпаў, прыгожа блыталася. Матулі гулялі з дзецьмі, дзеці гулялі з цацкамі. Я помню, там былі атракцыёны. Розныя, нават такія, на якія я ніколі не залезу. А ён залез. Ёсць такая ракета, прывязаная ланцугамі да высокага-высокага слупа. Яна лётае вакол яго, пастурова набіраючы вышыню, пераварочваецца і пускае дым. Я бачыла толькі яго ногі ў чырвоных кедах. Чырвоныя кеды ў блакітным небе. Прыгожа.

Затое на конікаў я залезла лёгка, хоць і не надта хацелася. Я наогул лічу гэты атракцыён самым сумным. Конікі скачуць па коле. Бясконцае кола, з якога

не выбрацца. Я закрывала вочы сабе і яму. І мы, канешне ж, скакалі полем, і высокая трава казытала нашыя босыя ногі, апякала расой, і з травы выляталі птушкі, і калі-нікалі мы нават скакалі праз ручай. Звычайна час у той момант заканчваўся.

На мой 21 дзень нараджэння ён падарыў мне сапраўдны рарытэт: стары прайгравальнік, з пласцінкамі. Я любіла глядзець, як падскоквае іголка, звужаючы кола, як блішчыць і кружыць матавая песня.

Музыка рабіла нас бліжэй. Ведаеце, мы не маглі без музыкі. І вось там — ноч, пясок, мора, зоркі, пацалунак, і там — кніга, радок, слова, каханне — жыла музыка, свяцілася празрыстым святлом за кожным вуглом, паваротам, зоркай, ліхтарай.

Я любіла розную музыку. Яна прыходзіла сама. Вельмі часта — з Джаніс Джоплін, з характэрнай ёй энергіяй, мякка рэжучым голасам, амаль на мяжы. Часта — з Білі Холідэй, з абаяльнасцю і шчырасцю. Я спявала і сама, мне пасаваў рэпертуар Норачкі, Норы Джонс. Мы спявалі разам. Ва ўсякім разе, стараліся ў перапынках паміж смехам і танцамі. Уявіце, за тое на нас крычалі суседзі. Суседка баба Галя. Я не магла зразумець чаму, бо спявалі мы хораша. Ну можа толькі смяяліся не надта.

З ім я ўпершыню сустракала світанак. Гэта было вельмі рамантычна і прыгожа. І калі вы думаеце, што гэта толькі ў меладрамах закаханым не холадна, не хочацца спаць, то памыляецеся. Вы сустракалі світанак з каханым чалавекам? Гэта не холадна. Мы сядзелі на схіле за абласной бібліятэкай, насупраць віднеліся руіны старога замка, унізе — падпаленае покрыва Нёмана. Удалечыні — тры пазнавальныя жылыя шматпавярховікі, гарадзенскія «тры сястры» (такія ёсць у кожнага паважаючага сябе горада). Сонца спачатку выходзіла асцярожна, крадучыся, а пасля неяк раптам апякло ўсё вакол. Плед можна было не браць.

Ён называў мяне Люся. Яму падабалася гэтая мяккасць імені, два кароткія склады перад доўгім пацалункам.

У адзін са шматлікіх панядзелкаў (колькі іх было — не ведаю, лянуюся палічыць ды і не хачу) я адучула тыя перамены. Калі адзін баіцца сказаць, а другі — пачуць. Мы рабілі выгляд, што ўсё нармальна, што кава такая ж салодкая, што навокал нас — прыгажосць. Але гэта было не так. Ён сказаў, што карціна — маленькі хлопчык сядзіць на траве, вакол яблыкі і кацяня — яго карціна, яму не падабаецца. Яна згубіла загадкавасць і абаяльнасць. Вы можаце такое ўявіць? Вы можаце ўявіць, што цэлы свет, які дагэтуль трымаўся на адной цагліне, цяпер не маглі ўтрымаць мільёны цаглін? Вы можаце ўявіць, што гэты, выбудаваны вамі, пяшчотны свет ляціць са страшнай хуткасцю невядома куды? Я зразумела, наколькі гэта страшна. Не ўяўляйце.

Многія скажуць, можа і вы, што я занадта рамантычная. Схільная да ідэалізацыі, можа быць. Што я жыву марамі, якія ніколі не здзейсняцца. Бачыш, чаго захацела! Вялікага кахання, салодкага, доўгага. А як жа пакуты, выпрабаванні,

сваркі, раставанне, у рэшце рэшт? Калі ласка, будзьце ласкавы. А я не хачу. Толькі не цяпер. Пасля. Можа быць, калі мне будзе 50, калі я буду напаўкроку, напаўшляху, перад.

Апошняе, што я помню — першы снежаньскі дзень. Я ўбачыла за вакном вераб'я, які скакаў па падваконніку, і падумала аб тым, што вось гэтая маленькая птушачка прынесла мне дрэнныя навіны. Я не ведаю, чаму я так падумала, бо раней я лічыла птушак за вакном добрым знакам.

Ён не распрануўся, сказаў, што возьме тое-сёе, а пасля, калі будзе час, калі-небудзь прыйдзе за астатнім. Я падумала, што гэта проста сон. Што Алесь нікуды не пойдзе. Ды і куды б ён пайшоў, без шапкі, без пальчатак.

Але дзверы зачыніліся. Стала вельмі ціха, было чуваць як ідзе гадзіннік, якога раней тут ніколі не было.

Не, усё было не так. Я не ведаю, як было. Гэта я прыдумала. Памятаю, я думала пра птушак за вакном, пра добры знак, чула як ён увайшоў. І больш нічога.

Далей — снежаньскі дзень. Я сяджу на падваконніку і гляджу праз халоднае шкло на двор. Там вецер круціць і кідаецца дробным, як проса, снегам. Зіма.



# Ганна Дар

празаік, перакладчык. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Варшаве.

# Ліфт

К. спусціўся з паверха, дзе месціўся офіс нелюбімай працы, піхнуў дзверывяртушкі і звыкла растварыўся ў безаблічным натоўпе працоўных, які нёс яго на трамвайны прыпынак. Шэрая вільгаць асядала на акуляры і К. вымушаны быў штохвіліны праціраць шкельцы; вуліца расплывалася за заслонай дажджу вычварнымі сілуэтамі дамоў, людскімі ценямі, няроўным шумам гарадскога транспарту. К. быў паставіў партфель на мокрую лаву прыпынку і амаль адразу зняў, выціснуты торбамі, старой і яшчэ кімсьці, каму трэба абавязкова саступаць месца. Прыгнечаны пасля размовы з дырэктарам бюро, які мяккім, бацькоўскім тонам, і гэта было найгоршае, выгаворваў К. за неразумнасць паводзінаў, ідэалізм, несучаснасць мыслення, чым ён, К., падстаўляе не толькі сябе, але і асабіста яго, Канстанціна Канстанцінача, а значыць, і ўсю фірму, ён ледзь не прапусціў свой трамвай. Заціснуты паміж мокрых куртак, плашчоў, парасонаў і сумак, К. пакутліва моршчыўся ад паху прэлай тканіны, задушліва салодкай парфумы і неадчэпных думак, што на працы яму, відаць, не ўтрымацца, што дырэктар мае рацыю і ён, К., ідэаліст, адарваны ад рэчаіснасці, і яго меркаванне нічога не зменіць, і заўтра будзе такое ж, як учора, нядрэннае, зрэшты, утульнае ў сваёй звыкласці: праца, кватэра, сям'я.

Трамвай спыніўся, абвесціўшы канцавы прыпынак, голас вырваў К. з кола развагаў і, спусціўшыся, ён накіраваўся па вузкай тратуарнай сцежцы, якая хутка скончылася і перайшла ў вытаптаную траву, дзе любілі выгульваць сабак, да новабуду невыразнага колеру. Яны засяліліся сюды з жонкай год таму, але многія кватэры тут, як і ў суседніх дамах, яшчэ пуставалі, і К., як заўсёды, ахапіла незразумелая і невыказная туга. У такія моманты ён амаль верыў суседцы з першага паверха, якая называла сябе варожкай, але К. быў схільны думаць, што яна хутчэй пашкодзілася розумам, бо любіла падпільноўваць кватарантаў і варажыць ім розныя несуразныя рэчы, пра некаторыя К. нават і ўзгадваць сорамна; але яна ўмела чакаць, і як бы не старалася ахвяра хутчэй прайсці да ліфта, каб вымкнуць з яе цэпкіх размоваў, яна раптам узнікала побач і, пранікліва заглядваючы ў вочы, пачынала цягучым шэптам сыпаць словы, пакуль не адкаснешся ад яе, як ад наслання. К. гэтая вар'ятка любіла казаць, быццам дом гэты на могілках пабудаваны, на костках людзей нявінных, якіх тут страляюць; нахінаецца да яго і на самае вуха гаворыць, каб ён адсюль з'язджаў, а то і яго тут пахаваюць, гаворыць і азіраецца, і К. разумее, што яна не ў сваім розуме, а асадак непрыемны ўсё ж застаецца.

К. тройчы набіраў код пад'езда, але ці то новы замок не спрацаваў, ці то яго ўжо паспелі сапсаваць, толькі дзверы ўпарта не хацелі адчыняцца, і калі б не старая вар'ятка, якая, відаць, заўважыла яго праз акно, давялося б чакаць

жонку, якая мела ключ ад дзвярэй пад'езда, ці кагосьці з суседзяў. Цёмнае чэрава пад'езда, у якім хавалася варожка, — але вочы К., яшчэ непрызвычаеныя да густой чарнаты, не бачылі яе, — паглынула яго і стаілася ў нямой цішыні. К. напружана чакаў непрыемнага шэпту, з палёгкай праслізнуў далей, дзе мусіў знаходзіцца ліфтавы гузік. Ён пашарыў рукой па шурпатай сцяне і націснуў: ліфт бязгучна папоўз уніз, і калі б гузік не засвяціўся жаўтаватым святлом, было б не зразумела, ці ён працуе. К. стомлена думаў пра тое, што праз пару хвілінаў нарэшце будзе дома, калі можна назваць домам сорак чатыры метры службовай кватэры на восьмым паверсе шаснаццаціпавярховіка, і нальe ў ванну гарачую з духмянай пенай ваду, і атрымае магчымасць пару хвілінаў ні пра што не думаць.

Ці то час увяз у густой цемры, калі секунды здаюцца хвілінамі, хвіліны — гадзінамі, а гадзіны — вечнасцю, ці то ліфт спускаўся з апошняга паверха, але К. падалося, што ён не едзе пакутліва доўга. К. нарадзіўся ў горадзе, але ў прыватным сектары, і таму не любіў шматпавярховыя дамы, лічыў іх бяздушнымі, безасабовымі каробкамі, з крытычнай масай жыхароў на метр квадратны, а да ліфта з яго вузкай абмежаванай прасторай кабінкі мабыць ужо ніколі не прызвычаіцца. Канешне, як чалавек адукаваны і разумны, ён быў здольны трымаць свае страхі пад кантролем, але кожны раз, калі дзверы ліфта зачыняліся, сэрца яго міжволі сціскалася, і халодны ліпкі пот тонкім струменьчыкам марудна спаўзаў па карку ў міжспінную выемку і далей уніз. Затое, калі ліфт адчыняўся, выпускаючы яго на волю, К. праціраў акуляры і ціхенька трыумфаваў, адчуваючы сябе пераможцам. Зрэдзьчас ён дазваляў сабе карыстацца лесвіцай, як напрыклад сёння, пакідаючы офіс пасля размовы з дырэктарам, але імкнуўся рабіць гэтак не вельмі часта, каб канчаткова не стацца закладнікам сваёй фобіі.

Незаўважна для К. ліфт расчыніў дзверы, і адтуль таропкай хадой выйшаў, нечым знерваваны, як падалося К., сусед з паверху вышэй: адзінокі паджылы чалавек, якому дзяржава вызначыла ў гэтым доме кватэру ў якасці кампенсацыі за знесены драўляны, амаль струхлелы, домік, што ляжаў у адным з прыватных сектараў, вызначаных генпланам забудовы горада пад сучасны гатэльны комплекс з басейнам, тэніснымі кортамі, казіно і іншымі надзвычай важнымі аб'ектамі, закліканымі прыцягнуць, завабіць і разнастаіць побыт гасцей горада. Пра ўсё гэта К. даведаўся, калі праз месяц пасля засялення пайшоў да суседа высвятляць, чаму ў яго ваннай на столі з'явілася вялізная мокрая пляма, з якой бесперастанку крапае вада, а ў таго ўжо перад дзвярыма стаяла купка людзей, і нехта з жыллёва-камунальных службаў тлумачыў, што гэтыя праблемы часовыя, паколькі дом здалі заўчасна, але ўжо дамоўлена з сантэхнікам і ў найбліжэйшым часе ўсе недапрацоўкі будуць выпраўленыя. К. ужо сеў у ліфт і націснуў восьмы гузік, калі з цемры пачуўся бляклы голас старога, які штосьці казаў К., здаецца, пра тое, што нешта зноў сапсавана, мабыць, ён меў на ўвазе дамафон ці проста па-старэчы на нешта скардзіўся.

Угору К. падымаўся гэтак жа бясконца доўга, як нядаўна чакаў ліфт на першым паверсе, і яму, нягледзячы на стойкія высілкі не паддавацца паніцы, патроху станавілася млосна і вусцішна, і перад вачыма пачыналі ўжо бегаць мурашы, калі нарэшце ён адчуў, што прыехаў. Яшчэ цэлую вечнасць давялося вытрымаць, пакуль адчыніліся дзверы, і К., вызваліўшыся з палону, зразумеў, што прыехаў не на свой паверх, але ніякая сіла не змагла б яго ў гэтую хвіліну прымусіць вярнуцца ў ліфт, гэтую клетку падсвядомасці, і таму ён дазволіў, каб дзьверы за спінай мякка зачыніліся, і вырашыў пашукаць лесвіцу. Яна павінна была быць недзе справа, як узгадаў К., так званая чорная лесвіца на выпадак пажару ці адключэння электрычнасці, ад якой кожны жыхар меў ключы, паколькі яна замыкалася, каб у пад'езд не цягаліся выпадковыя людзі, кшталту наркаманаў і моладзі, якой няма чым заняцца. Ёй рэдка карысталіся, прынамсі К. яшчэ ні разу, хіба жонка неяк аднойчы, калі адключылі электрычнасць; потым з раздражненнем кінула яму, быццам гэта ён планаваў гэты дом, што больш нязручнай лесвіцы ў сваім жыцці яна яшчэ не бачыла. К. уважліва агледзеўся, наколькі дазваляў пануючы змрок, але нічога, што б нагадвала лесвіцу ці дзверы, якія павінны былі б вывесці да яе, не знайшлося.

К. пашыбаваў па даўжэзным калідоры, які часам невядома чаму зварочваў: ён павінен быў прывесці яго да лесвіцы суседняга пад'езда, бо не сядзець жа тут вечна, не грукацца ж у дзверы незнаёмых кватэраў, выстаўляючы сябе перад суседзямі нервовай разгубленай асобай; ды і многія кватэры на апошнім паверсе, а К. меркаваў, што трапіў менавіта на апошні паверх, яшчэ пуставалі. Нечакана наперадзе дзверы адной з іх адчыніліся і адтуль выйшла жанчына, па ўсім выглядала, што прыбіральшчыца, і К. прыспешыў крок, каб нагнаць яе, але гэта выдалася справай нялёгкай, бо жанчына завярнула за кут, і пакуль К. падбег, яе ўжо нідзе не было, відаць, зайшла ў нейкую кватэру. К. стомлена прыхіліўся да сцяны, зняў акуляры і правёў тыльным бокам далоні па напружаных вачах, на імгненне моцна заплюшчыў іх і адразу расслабіў, адчуваючы сябе бясконца знясіленым; цяжкая пустата навалілася на яго, абвіваючы халоднымі шчупальцамі палаючы лоб.

К. уздрыгнуў, калі побач нехта спакойна і халаднавата звярнуўся да яго, і ад нечаканасці выраніў акуляры, якія ўсё яшчэ трымаў у руцэ, на падлогу.

— Добры дзень, сп. К., вы як заўсёды рана, — сказаў малады чалавек звыклым будзённым голасам, быццам яны даўно знаёмыя і толькі пару хвілінаў таму бачыліся, узяў К. пад локаць, дапамагаючы падняцца і прапускаючы ў дзверы, якія імгненна адкрыў маленькім жоўтым ключом, што вывудзіў з партфеля К. — Тут амаль усё так, як было на старым месцы, крыху цеснавата, канешне, што выклікае пэўныя нязручнасці ў... ммм... ну, вы разумееце... але працаваць можна.

Яны апынуліся ў невялікім пакоі, які ўпрыгожваў адно вялізны партрэт нейкага чалавека з калючым непрыемным позіркам, насупраць якога каля акна стаяў стол і два крэслы, у левым куце месцілася шафа, у правым — ложак.

— Паперы яшчэ не ўсе перавезеныя, але актуальныя справы вы знойдзеце тут, — з гэтымі словамі незнаёмец адкрыў шафу, але там было пуста. — Мабыць, яны яшчэ ляжаць у В.В., — адзначыў ён.

Пакуль знямеўшы ад здзіўлення, К. агледжваўся, малады чалавек прынёс аднекуль кубачак духмянай кавы, і, пакінуўшы яго на стале, выйшаў, ці то прапусціўшы міма вушэй, ці то не пачуўшы пытання К., як яму прайсці да лесвіцы. Ад водару кавы страўнік К. сціснуўся, нагадваючы пра голад і прымушаючы часова забыцца на свае праблемы, а таму, прымасціўшы партфель на падваконне, ён з насалодай пацягнуў густы гаркаваты напой. За брудным аконным шклом у шэрым змроку праступаў знаёмы краявід на дарогу, што рэзка збочвала ў лес і хавалася недзе за елкамі; па ёй няспешна паўзлі два грузавікі. Змораны, ён сеў на ложак і выцягнуў стомленыя ногі.

***

— Сп. К., як вы сябе адчуваеце? — тон, якім В.В. задала гэтае пытанне, чамусьці выклікаў у К. непрыемныя асацыяцыі.

— Я што, так дрэнна выглядаю, што даў вам падставы задаваць такія пытанні? — не вельмі ветліва азваўся ён.

— Мы ўсе так хваляваліся за вас... і я таксама. Мы вельмі спачуваем вам у вашым горы, — спакойна адказала В.В. і ўперылася ў яго поглядам.

— Мне не патрэбныя вашыя спачуванні. У мяне ўсё добра, — з раздражненнем прамовіў К.

— Вашая жонка...

— Што мая жонка?

— Я думала вы ўжо ведаеце..., што вам ужо сказалі... — і, секунду павагаўшыся, В.В. патлумачыла К., што падчас пажару, які адбыўся тыдзень таму ў іх доме, загінула яго жонка і яшчэ некалькі чалавек, а яго самога ў непрытомным стане знайшоў ля ліфта сусед і выклікаў хуткую.

Агаломшаны К. пачаў быў казаць, што ўсё гэта няпраўда, што ніякага пажару не было, ён проста прыехаў не на свой паверх і заблукаў, але позірк В.В. і тое, як яна дробна хітала галавой, нібы падтакваючы бязглуздым фантазіям хворага, прымусіла К. замоўкнуць, і ў цішыні, якая павісла маўклівай жудаснай рэальнасцю, К. ахапіў страх: няўжо тое, што сказала В.В. — праўда, але чаму ён, К., нічога не памятае?

— Ну, ну, К., не трэба так расстройвацца... я вам дапамагу... мы ўсе вам дапаможам, — суцяшальна казала В.В., абдымаючы яго і пахлопваючы па спіне, так што К. адчуў яе вялікія мяккія грудзі і прыліў жадання, яраснага жадання зрабіць балюча гэтай спакойнай у сваім веданні, халоднабездакорнай жанчыне. В.В. не супраціўлялася, але асабліва і не дапамагала, калі К. груба і жывёльна, прыціснуўшы яе да сцяны, наталяў сваё жаданне, а нават, здавалася, паблажліва пасміхалася, што прыводзіла К. адначасова ў шаленства і захапленне.

Урэшце В.В. адпіхнула яго, папраўіла вопратку, валасы і выйшла, пакінуўшы зняможанага і спустошанага К. аднаго пасярод вялізнай залы са сталом, пад якім К. і заснуў кароткім цяжкім сном, адным з тых, з якіх увесь час спрабуеш выплысці, губляеш усе сілы, але марна; твае намаганні нічога не вартыя, бо нехта іншы кіруе табой, і гэта яму належыць права сказаць «досыць». К. блукаў у вільготным малочным тумане, нешта шукаў, але што шукаў, не памятаў і спробы ўзгадаць прыводзілі да таго, што яго пачынала біць ліхаманка, і дзікі жывёльны страх сціскаў сэрца... а то з туману выплывалі нечыя постаці, і К. страляў у іх, страляў, страляў... пакуль не заўважыў, што ўсе яны маюць ягоны твар... і вось ужо адзін з іх цэліцца ў К., і К. крычыць «за што?», але з вуснаў ягоных не вылятае ніводнае слова, і ад бяссілля і жаху ліюцца і ліюцца слёзы... і нямыя вусны шэпчуць: «я не хачу паміраць... я не хачу паміраць... за што?.. я не вінаваты.... гэта нейкая памылка... страшная памылка»... і вось зняможаны К. ляжыць на каленях В.В., уткнуўшыся носам у яе голыя грудзі і ўсхліпваючы, а тая, схіліўшыся над ім, гладзіць яго валасы і ласкава, бы дзіцю, паўтарае: «так трэба... так трэба...», а вакол таньчаць нечыя цені, сярод якіх К. пазнае Канстанціна Канстанціныча, ягоную жонку і сваю Верачку, і яны цягнуць да яго рукі і ўсміхаюцца, маўляў, мы чакаем цябе, ідзі да нас... «да нас... да нас...».

***

К. расплюшчыў вочы і патануў у белым колеры: белыя сцены і столь, белая коўдра, паверх якой ляжалі ягоныя белыя рукі, закратаванае акно казалі аб тым, што ён у лякарні. Недзе ззаду пачуўся шэпт: «Поўны супакой... я папярэджваў вас, ён яшчэ не апраўіўся пасля таго здарэння... ммм... так што не доўга, не доўга...», і другі смутна знаёмы голас патакваў: «Так, так...», і зноў першы голас: «Гэта з ім упершыню здарылася?», і другі: «Так... Хаця не, здаецца гадоў дваццаць таму, а можа і болей... калі ў пажары загінула яго першая жонка, нешта падобнае было...».К. хутчэй адчуў, чым пачуў, як дзверы ўпусцілі ў пакой маленькага флегматычнага чалавечка і высокую жанчыну з рэзкімі рысамі твару ў чорных рогавых акулярах.

— Як мы сябе адчуваем? — флегматычны расцягваў гукі так, што здавалася яны вось-вось парвуцца, але на здзіўленне яны складваліся ў словы, а тыя ў сказы, сэнс якіх, быццам бы зразумелы К., і аднак жа хаваўся ў невядомасці кантэксту, глух у белай ваце сцен. Павялічаныя шклом акуляраў на яго глядзелі дапытлівыя вочы жанчыны, якая сядзела ля яго на ложку, паклаўшы сваю руку паверх ягонай. К. заплюшчыў вочы, прыпамінаючы, адкуль ён можа ведаць жанчыну, аднак узгадваць не хацелася, як не хочацца ўзгадваць непрыемнае, як той выпадак з Мішкам.

— Гэта В.В., ваша жонка, — цягнуў флегматычны, — я вас зараз пакіну ненадоўга... Што?

— Гэта не мая жонка, — К. сам здзівіўся як бледна і неперакanaўча прагучаў яго голас.

— Не вашая... так, так... ну, гэта пройдзе. Не хвалюйцеся, такое здараецца... Зманлівая памяць... — з гэтымі словамі флегматычны выйшаў, мякка прычыніўшы за сабой дзверы.

***

К. абудзіўся, калі была ўжо глыбокая ноч, пра што сведчыла чарната за вакном, якую крыху рассейвала святло нябачнай поўні. У пакоі панавала цішыня, затое за дзвярыма выразна адчувалася жыццё, і К. падхапіўся і выслізнуў у калідор, дзе сапраўды снаўдалі людзі, як быццам працоўны дзень не скончыўся некалькі гадзінаў таму, а знаходзіўся ў самым разваі. К. скіраваўся туды, дзе на яго думку магла быць лесвіца, але заскочыў у нейкі пакой, дзе заўважыў на стале тэлефон, прыгожы, старой мадэлі, відаць, рарытэтная рэч, як і друкарка, што стаяла побач, і ўжо падняў слухаўку, калі раптам адчуў, што за спінай нехта стаіць. Гэта быў малады чалавек, якога К. мысленна чамусьці ахрысціў «Сухаром», а чаму так, і сам не мог бы выразна сказаць: мабыць, з-за нейкай сухасці, менавіта сухасці, а не стрыманасці, у рухах, словах, эмоцыях, міміцы.

— Сп. К., вось вы дзе! Тут да вас прыйшла жанчына... Не ведаю, хто яе ўпусціў... Сказаць, што вы заняты ці жадаеце з ёй размаўляць?

— Дзе яна?

— У вашым кабінеце.

К. ужо памкнуўся быў з пакою, вобмільгам зважаючы на цікавосткі ў гаворцы, якія зачапілі яго вуха, але адразу ж пераключыўся на тое, што напэўна ж гэта жонка, усхваляваная, што яго так доўга няма, пайшла пытацца ў суседзяў, і хтосьці падказаў ёй, што бачыў яго тут, але нечакана быў затрыманы Сухаром, які сунуў яму ў рукі нейкія паперкі, папрасіўшы падпісаць. Моцна раздражнёны і здзіўлены К. усё ж вымушаны быў спыніцца, каб не выглядаць няветлівым перад незнаёмым чалавекам, і прабегчы іх вачыма, але ад ахапіўшага яго нецярпення не мог сканцэнтравацца, да таго ж радкі скакалі і расплываліся, бо ён згубіў акуляры недзе ў тым калідоры, яшчэ калі выраніў іх. Пытацца, што ў тых паперах і разбірацца з імі зараз К. не хацеў, а таму таропка схапіў асадку, своечасова падсунутую маладым чалавекам, і паставіў свой подпіс прыкладна там, куды той тыцнуў пальцам.

К. імкліва ўбег ва ўжо знаёмы пакой, дзе на падваконні заставаўся стаяць ягоны партфель; спінай да яго сядзела жанчына, якая пачула, што нехта ўвайшоў, адразу няёмка ўскочыла і абярнулася, скінуўшы папяровы пакет, што трымала на каленях, на падлогу, але нават не звярнула на тое ўвагу. Гэта была чужая, невядомая яму жанчына з чырвонымі апухлымі вейкамі, якія недвухсэнсоўна давалі зразумець, што зусім нядаўна іх уладальніца плакала і дагэтуль была ў незвычайна нервовым напружаным стане, уся, нібы струна, якая вось-вось

правецца новымі слязьмі. К. захлынула хваля расчаравання, якую ён не змог стрымаць, і яна адбілася ў яго на твары, што несумненна заўважыла і наведніца, бо вусны яе задрыжэлі, і вочы імгненна зрабіліся вільготныя, ледзь толькі яна паспрабавала вымавіць слова. К. увесь неяк змяшаўся ад такой нечаканай праявы чужога гора, якое раптоўна вылілася на яго, міжволі прымусіўшы адчуваць сябе вінаватым; хацелася збегчы, рухі і думкі зрабіліся нейкімі драўлянымі, і ўся атмасфера пакою — ватнай. К. спахмурнеў, падумаў, што трэба супакоіць жанчыну, і пад усхліпы, што зрываліся на рыданні, напоўніў першую шклянку, што трапілася пад руку, вадой з графіна, які знаходзіўся на стале.

— Я... ўсё зраблю... я падпішу тыя вашы паперкі, — у вачах жанчыны з'явілася рашучасць і надзея, — толькі дапамажыце майму мужу... Вы ж ведаеце, у нас двое дзяцей... — Яна сутаргава схапіла К. за руку і яму зрабілася непрыемна і няёмка з-за таго, што гэтая жанчына так прыніжаецца перад ім, чамусьці думаючы, што ён пра нешта ведае і нават можа дапамагчы. К. збянтэжана імкнуўся ёй патлумачыць, што яна звярнулася не па адрасе, што яму нічога невядома, але яна відавочна не хацела гэтага зразумець.

— Дзякуй, дзякуй... вы адзіны тут, хто яшчэ мае кроплю спачування да мяне... — і савала яму ў рукі пакет, канчаткова перайшоўшы на шэпт, так што К. вымушаны быў нахіліцца да яе, каб пачуць, — калі ласка, перадайце гэта яму...

З'явіўся Сухар, які коса і незадаволена паглядзеў на жанчыну, і тая імгненна выскачыла з кабінету, пакідаючы К. замест тлумачэнняў папяровы пакет, разгубленасць і поўную незразумеласць яго ўласнага становішча. Сухар прынёс дакументы і зноў падсоўваў іх К. на подпіс, але К. засупраціўляўся і сказаў, усё больш злуючыся, і пад канец, не валодаючы сабой, проста ўжо крычаў на маладога чалавека, што той выкарыстоўвае яго, К., у нейкіх сваіх цёмных мэтах і ўсё падсоўвае яму невядомыя паперкі, хаця цудоўна ведае, што К. згубіў акуляры, а без іх ён нічога не бачыць, а значыць і падпісваць без іх нічога не будзе. Выплеснуўшы ўсю горыч, якая цяжкім комам нерваў назапасілася за гэты дзень у душы, на маладога чалавека, К. адчуў прыступ сораму, што вось жа не стрымаўся і абкрычаў незнаёмага чалавека, які ў прынцыпе нічога К. не вінаваты, а проста робіць сваю сціплую працу, у якой яму чамусьці патрэбны подпіс К. і ўжо зусім спакойна сказаў Сухару, каб той пакінуў дакументы і як толькі ён прыдбае сабе акуляры, адразу азнаёміцца з імі і, павагаўшыся, асцярожна запытаў:

— А вы не ведаеце, што гэта за жанчына была?

— Гэта ненармальная? Ну як жа, гэта жонка Канстанціна Канстанціныча... не памятаю прозвішча. Але вы напэўна ведаеце, вы ж вялі яго справу.

— Так... так... — прамармытаў К., — Канстанціна Канстанціныча…

***

К. ляжаў у белай палаце, і высокая жанчына ў чорных рогавых акулярах нешта казала яму, вымаючы з пакета сок і садавіну. Яна па-ранейшаму

выклікала ў К. глухое раздражненне і страх, але разам з тым ён заўважыў, што чакае яе прыходу, што калі яна побач, яму становіцца крыху спакайней: ліпкія думкі, што неадчэпна раіліся вакол яго запаленага мозгу, пакідалі яго, і нешта вельмі важнае, што ён павінен узгадаць, з яе прыходам падавалася ўжо не такім важным. Яна сядала на ўскраек ложку, клала сваю далонь на ягоную, глядзела на яго павялічанымі праз шкло вачыма — і К. ахінала абыякавасць, як быццам яна забірала яго волю думаць, але разам з гэтым забірала і ягоныя клопаты. К. здзіўляў яе жалезны спакой, яе непарушная роўнасць паводзінаў, нават калі ён расшпільваў халат, потым блузку, і груба пачынаў лапаць яе спачатку адной рукой, а потым, не стрымліваючыся, валіў яе на жалезную кушэтку. Яму хапала некалькі хвілінаў, пасля якіх ён адчуваў пякучы сорам, але ніколі не мог адмовіцца ад гэтай вострай і горкай асалоды.

К. занурваўся ў сон, і перад ім паўставаў іншы твар з цёплым позіркам стомленых блакітнашэрых вачэй, у якіх К. з болем чытаў дакор, вусны прамаўлялі нейкія нячутныя словы, але К. смутна здагадваўся, пра што яны... не, ён не хацеў чуць гэтых словаў, і таму стараўся глядзець толькі на вочы, на светлыя льняныя валасы, што завіткамі віліся вакол твару, ствараючы німб. «Верачка, Верачка,» — шаптаў К. скрозь сон. Ён вельмі хацеў утрымаць гэты вобраз, як мага даўжэй, але кожны раз цярпеў паразу, і гэты, такі родны вобраз, саступаў іншаму, балючаму і невыноснаму, таму, дзе твар Верачкі глядзіць на яго невідушчымі вачыма з-пад халоднай, штохвіліну халаднейшай, вады. К. прачынаўся мокры, з цяжкасцю сядаў, намацаў на тумбачцы акуляры, але раздумваў і пакідаў іх там, доўга сядзеў, а потым няпэўна падыходзіў да акна, адкрываў яго, і, прыхіліўшыся ілбом да халодных жалезных прутоў, бяссільна плакаў.

К. плёўся доўгімі калідорамі памяці, нібы Тэзей у лабірынце з мінатаўрам, толькі без выратавальнай ніці Арыядны і з поўным няведаннем, хто мінатаўр, усведамляючы сябе тапельцам, якога ў пэўны момант працінае няўмольнасць блізкай смерці. Нарэшце ён павярнуў у патрэбны калідор, і павольна, вельмі павольна, як у сне, калі ты высільваешся, каб пабегчы, але ўсё адно практычна не скранаешся з месца, пачаў прасоўвацца наперад. Гэтаксама марудна ішла праца і тады, калі ён сядзеў і разбіраў справы, а ў галаве круцілася толькі адна думка, ці не адмовіцца ад справы Канстанціна Канстанцінавіча, усё ж яны былі сябрамі... не, сябрамі хіба не былі, але калегамі, і потым ён чымсьці быў абавязаны яму, але чым, К. так і не здолеў узгадаць, адно ясна адчуваў пачуццё абавязку. К. пайшоў да В.В. параіцца, чаму менавіта да яе, ён не змог бы патлумачыць, як і ў прынцыпе не мог патлумачыць многае ў сваім жыцці. Яна тады вельмі спакойна яго выслухала, К. увогуле не памятаў ніводнага эпізоду, калі б В.В. выказала нейкія эмоцыі, і параіла яму не спяшацца, сказала, што ўсё застанецца паміж імі, і падсунула яму тэчку, ад якой у К. пацямнела ў вачах... К. з усяе моцы сціснуў жалезныя пруты, зрабілася млосна і не ставала ніякіх сілаў вярнуцца ў той цёмны калідор, у тую халодную варожую цемру... і

аднак ён вярнуўся. В.В. працягвала яму шклянку вады, казала, што К. павінен тэрмінова развесціся, што яна пакуль прытрымае справу, але ён абавязкова мусіць развесціся, іначай яна пацягне яго за сабой, што яе не ўратаваць і зараз яму трэба падумаць пра сябе. К. аглух, ён чуў толькі страх, які заўсёды быў ягоным ценем, але зараз стаў чымсьці большым, чым проста спадарожнікам, страх зазіраў яму ў вочы і халоднымі мярзотнымі пальцамі душыў сваю ахвяру. Усё далейшае ўспрымалася, як штосьці чужое, што адбывалася не з ім, а ў нейкім жудасным кіно, карцінкі з якога выпадкова захаваў мозг. Нехта, у кім К. са здзіўленнем пазнаваў сябе, доўга стаяў перад ліфтам, не наважваючыся ўвайсці ў яго: ліфтавыя дзверы бязгучна адчыняліся, выхопліваючы з цемры жоўтым няроўным святлом хворы сілуэт К., і зачыняліся, пакідаючы цемры права паглынуць тое, што ёй належыла... І зноў адчыняліся: ён толькі не хацеў, каб яна трапіла ў іх рукі, яго Верачка, каб яны здзекваліся з яе, мучылі, ён бы гэтага не вытрымаў, ён не мог дазволіць ім... Зачыняліся... Адчыняліся: твар Верачкі глядзіць на яго невідушчымі вачыма з-пад халоднай вады... Ён паліць яе рэчы проста на падлозе кватэры... Зачыняліся... Адчыняліся: ён ляжыць у пакоі з белымі сценамі, на белай прасціне, ён — ніхто, і ад гэтага яму добра, але жанчына ў чорных рогавых акулярах выцягвае яго з белага спакою... Зачыняліся... Адчыняліся: В.В. яго зразумела, ён ёй усё расказаў, яна сказала, што ён усё правільна зрабіў і яму не варта мучыцца... Ён яе ненавідзеў, хацеў збегчы, але не мог, нібы яны скаваныя адным нябачным ланцугом... Ён хацеў забіць яе... Зачыняліся...



# Яўген Бяласін

перакладчык, германіст, педагог і журналіст. Пераклаў на беларускую мову шматлікія вершы Гайнэ, Гётэ, Шылера, фон Кастэлі і іншых нямецкамоўных паэтаў, кнігі прозы Гандкэ, Фройда, Канта, Слотэрдайка, Дыкенса. На нямецкай мове пераўвасобіў шэраг вершаў беларускіх паэтаў, у тым ліку «Спадчыну» Янкі Купалы. Аўтар кніг «Подземелья Бреста, крепости и...» і «На пераломе». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Грынявічы на Гродзеншчыне. Жыве ў Берасці.

# Са старожнямі на шчупакоў

*Гэты раздзел мае амаль стартавы нумар 4 з трыццаці трох раздзелаў аўтабіяграфічнай кнігі і перадае каляводны смак і водар юнацкіх гадоў аўтара, праведзеных у вярхоўях ракі Зяльвянкі. А гэта дваццаць кіламетраў вышэй па плыні ад мястэчка Ружаны, дзе знаходзіцца вядомы палац Сапегаў і дзе на перагароджанай Зяльвянцы разлілося сярод лесу прыгожае вадасховішча Паперня. Туды аўтар пакуль яшчэ не дабраўся ў сваіх рыбацкіх вандроўках, — дзея адбываецца на малой радзіме Яўгена Бяласіна, за 6 кіламетраў ад мястэчка Падароск, вядомага сядзібай Бохвіцаў, побач з вёскай Краскі, дзе Зяльвянка пятляе па старым парку міма аднаўляемай сядзібы Сегеняў.*

Старожня прылада няхітрая. Гэта традыцыйны, можна нават сказаць, беларускі народны самалоў. Нездарма мне ўсю гэту навуку лавіць шчупакоў на старожні паказаў бацька.

Ты дзесьці ходзіш, ты пайшоў дахаты, ты спіш, цябе няма ўжо суткі — а ён ловіць. У рэале гэта метраў дзесяць-пятнаццаць жылкі, накручанай «васьмёркамі» на ральца — рагульку з самарослага дрэва. Канцы рагулькі сантыметраў па 10, прыкладна аднолькавай таўшчыні. Адзін канец разгалінавання расшчэпліваецца, і туды заводзіцца, непасрэдна перад тым як чапляць жыўца, — але заціінаецца не занадта туга, — жылка. Драпежнік, схапіўшы жыўца ці насадку, выцягвае жылку з расшчэпа і давай валачы сваю здабычу ў зеліска, адкуль падкраўшыся цікаваў і напаў! Потым спыняецца, перабірае сківіцай, паварочвае жыўца галавой у гарляк і заглытвае. Жылкі стае, каб ён яе праглынуў разам з кручкамі. А стальныя кручкі — гэта хлопцы яршыстыя такія, выходзіць назад не хочуць — засядаюць у зяпе аматара дармаўшчыны.

Даводзілася глытаць асцюка ад жытняга коласа? Потым яго з-пад языка ніяк не вывалачы. Так і шчупаку, або ментузу, акуню вялікаму, — любой драпежнай рыбе, якой заманулася хапнуць прынаду на старожні.

Каб ральца (рагулька) не габлялася, калі шчупак разгоніць усю жылку, у верхнім яго сцяблу, якое не варта рабіць даўжэйшым за сантыметры два-тры, крыху вышэй таго месца, дзе разышліся бакавіны, свідруецца (не праколваецца — менавіта тут ральца лёгка ідзе ў расшчэп!) тонкая дзірка, і туды прапускаецца канец жылкі сантыметраў на дваццаць. Гэтым канцом самалоў прывязваецца да якога-небудзь дручка ці нават да куста. На другі канец жылкі чапляюцца груз не менш як на дзесяць грамаў (які заўгодна, можна нават гайку заклініць драўляным шпунтом) і медны павадок. Павадок лёгка скруціць самому з дроту сярэдняй таўшчыні, закруціўшы абодва канцы ў сярэдзіну жгута. На канцах павадка пакідаюцца дзве глухія пятлі; у адну з іх прашморгваеш жылку з напускам сантыметраў пятнаццаць і завязваеш, улучыўшы ў вузел

абедзьве жылы жылкі, перад самай меднай пятлёй; потым можна апусціць грузік і за ім зашморгнуць другі вузел.

Калі жылка нятоўстая, можна, каб не ўпусціць здабычу пры пераціранні жылкі аб павадок, завязаць за яго дзвюма жыламі; для гэтага трэба скласці канчар удвая, пятлёй жылкі ўвайсці ў пятлю павадка і завязваць у просты вузел над павадком (і калі хочацца зафіксаваць груз, дык потым і над ім) ужо чатыры жылы. Пасля абрэзкі атрымаеш «вусікі» з трох канцоў. Затое спакайней. Але не ператні пры абразанні асноўную жылу!

Некаторыя купляюць стальныя фабрычныя павадкі. Я дык не: падвялі мяне пару разоў, бо з'ядала іх іржа, і рыба абрывалася. Акрамя таго, яны чуйныя да працы на злом. А шчупак любіць абматаць усё што можна вакол карчаўя. І вось, калі мала ўжо яму застаецца свабоды, ён пачынае згінаць-разгінаць павадок на злом, і той праз дзясятак цыклаў ломіцца. Бандыт апынаецца на волі.

За другі канец меднага павадка можна чапляць двайны кручок. Але на шчупака больш надзейны трайнік. Тут ёсць два шляхі. Першы — пасадзіць трайнік на мініпавадок і злучаць абодва завадным колцам. Другі — адразу прычапіць на пятлю жылкі завадное колца, а трайнік наглуха пасадзіць на доўгі павадок.

Якую выбраць жылку? Калі шчупакі водзяцца не надта вялікія, і няма карчоў, то пойдзе жылка на 3-4 міліметры, але лепш мець таўсцейшую: шчупак, калі галодны, на жылку не надта зважае.

Старожня ставіцца звычайна нанач перад сутоннем (зоркай). Правяраць трэба пасля таго, як пачало брацца на дзень, а лепш, калі добра ўжо ўзыдзе сонца. Можна правяраць і ўвечары, як сцямнее. У мяне бывала, што драпежнік сядзеў яшчэ з вечара: на размотанай жылцы паспявалі асесці глей і водарасці.

І вось паставіў ты старожню з вечара на ямцы. Добра ўбіў вудзільна ў бераг, каб не папёр звярыска. Са мной такое, прынамсі, бывала. Правяраць прыйдзеш заўтра зранку.

Устаеш з сонцам. Ідзеш па лузе, а за табой туман ірдзее ў праменях свяціла, якое выкочваецца з-за небакраю і высвечвае твой выразны зялёны след на белароснай траве. Яшчэ знобка, але трымціш ты, і тахкае тваё сэрца не ад хады, не ад халоднай расы. Ты хвалюешся, бо зараз ён настане, момант удачы.

Здалёк бачыш: ляшчына на месцы, але рагулька нахіленая ў бок бліжняй купы водарасцяў. Падышоў бліжэй: так і ёсць! Жылка размотаная і пятліста кладзецца туды, дзе ў вадзе прытаіўся Ён. Трапяткой рукой — чвяк! — выцягваеш з берага ў бок ракі вудзільна, прымаеш да сябе, бярэш у рукі жылку. На другім канцы азываецца бойкім тузаннем. Здаровы, зараза! Пачынаеш валачы. Папёр у бок ямы, стаў глыбака! Цягнеш. Паддаецца. Метр за метрам, метр за метрам — і вось Ён ля берага. Разглядаць няма часу. Лагодна, але рашуча вывалакаеш гэтае палена з вады — і вось ён трапечацца ля тваіх ног — каляны, зялёны шчупачына з барвовымі шчэлепамі, чорнай галавой і

бялявым пузам, шырока раскрывае зяпу, спрабуе стрэсці кручкі, але тыя надзейна ўвайшлі ў гарляк, так што дастаць гэтага жалезнага павука можна будзе толькі хірургічным шляхам і цераз шчэлепы.

Лоўля на старожню — гэта занятак не для паспешлівых, ён рытуальны паводле сваёй тэхналогіі. Удзень ловіш жыўцоў, з вечара ставіш. У цемры нават трэба гэта ўмець! Вядро ў цябе літраў на дзесяць, не менш — няма чаго марЫць жыўцоў! І з накрыўкай абавязкова, каб не павыскоквалі. Бярэш там навобмацак пячкурыка, або плотачку, у скрайнасці верхаводку. Карася найлепш, але ж у рацэ дзе іх надта зловіш. Галава жыўца выглядвае з левай далані, хвост трымаеш мезенным пальцам. Спінка адкрытая. Праводзіш жылеткай або вострым ножыкам коратка ўпоперак — адразу пасля галавы і перад спінным плаўнікам. Разрэзы мінімальныя, на адлегласці крыху менш за даўжыню цаўя кручка. Потым з боку апошняга разрэзу падбіваеш пад скурку металічны павадок і заводзіш пад яе трайнік так, каб два джалы аблягалі цельца жыўца, а адно тырчэла строма і чэпка ўверх. Заводзіш пятлю павадка ля галавы жыўца на завадное колца ўжо падрыхтаванай старожні, апускаеш рыбку ў вядро, а снастачку навязваеш на ладны дубец. Або на куст, калі ёсць змога, і калі пад кустом няма яго падводнай часткі, карча. З лазовымі кустамі гэта часта так і бывае, асабліва з маладымі.

Надта рана паставіш — могуць скрасці снасці, надта позна — можаш забамбіць жыўца ў водарасці, і ніц з гэтага кахання не бэндзе. Хіба што ракі ды вадзяныя кузакі за ноч так аб'ядуць жыўца, што гляне ён на цябе пустымі вачніцамі...галавой шкілетаванаю... і прыдуць усе жахі маленства, і згадаюцца фільмы пра фараонаў ды зомбі.

Рыбакоў з кожным годам усё большала, і ў свае апошнія школьныя гады я ставіў старожні ўсё больш маскіруючы: то ў вадзе прытопіш, то зверху прыхінеш «сабачым мылам» (расліна такая, з шырокімі, бы ў садовага рэвеню, але шабляватымі лістамі). Але аднойчы трапіў мне і сумленны рыбак.

Далёка быў паставіў я з дзясятак старожань, на ямах пад Дашкавічамі, а гэта ў другі бок, чым Пачарнейкі, таксама кіламетры на два. Праз дні два хадзілі мы туды на плотак, дык стары Кастач азваўся, заўзятар тамтэйшы: «Ці не твой, — кажа, — шчупак на трэцяй яме пад тым берагам ляжыць?» Старожня, маўляў, нечыя. Прыгадаў я: і праўда, адну не зняў, паставіў перад ямай для адчэпнага, бо ўжо позна было, і не было куды блізка паставіць. Пайшоў глянуць, куды стары ўказаў. З гэтага боку старожня блізка ад берага, і супраць плыні працягнулася да супрацьлеглага берага ў бок ямы разматаная жылка. Выцягнуў той ацурбалак, што некалі быў шчупаком. Кілаграмы на два бядак, кручкі ажно ў вантробы загнаў і здох. Прынёс яго дахаты, стаў чысціць — а з яго дух нясвежы, і мяса ля касцей жоўтае, за касцяк не трымаецца... .

З'еў шчупака дзядзькаў кныр — схрумкаў, і толькі пахрукваў удзячна, дзеручы ўверх лыч і заглядваючы на мяне з-пад абвіслых лапухоў-вушэй: «Хтодаў? Хрук—хрук! Хтодаў?»

Трэба сказаць, што да лічбы дзевятнаццаць шчупакоў за сезон я дайшоў не за год і не за два.

Помню, як зусім яшчэ хлапчанём стаю на высокім беразе насупраць вёскі і мала не плачу ад роспачы: не магу начапіць чарвяка. Ужо кастрычнік, пайшлі прымаразкі. Рукі задубелі так, што пальцы зусім не гнуцца, далоні корчыкам, і ў мяне, даруйце, расшпіленыя штаны, бо адшпіліць у патрэбны момант я паспеў, а назад гузікам ходу няма, і ўсё. Але што ты тут зробіш — учора на ямцы, пры якой стаю, прычапіўся быў шчупак і сышоў, калі валок яго на бераг.

Вось і іду я на праверанае месца. Там праз нейкі час выцягваю хоць не печкура, але невялікую, дзякуй богу, плотачку. Жывец ёсць, хоць і горшы, чым пячкур, на якіх я палюю: не такі трывушчы, можа цераз ноч здохнуць.

Стаўлю яе, адзіную. Рэзаць нягнуткімі пальцамі ўжо не магу, дык прадрапваю жыўцу ў двух месцах джалам двайніка спінку, прасоўваю пад скуру павадок і чапляю двайнік, запраўляю кручок пад скуру, каб не матляўся і быў адно з рыбкай. Плотачка жывая, адпрацуе як трэба, так што заўтра маю шанец.

Наранак перад школай бягу здымаць старожню. Здалёк з прыкрасцю бачу, што жылка неразмотаная. З кволым духам падымаю старожню... . Але замест маёй плотачкі на канцы яе нешта не тое сядзіць, нешта з чырвонымі плаўнікамі, зялёна-чорнае, пярэстае. Акунь! Невялікі, але акунь. Якісь момант я назіраў гэту праяву, паднятую на сантыметр над вадой — як тут яна расхінулася, і за хвост майго акуня ўчапілася раскрытая шчупакова зяпа. Я імпульсіўна — («не дам!»; або «падсякаю!»?) тузануў снасць уверх — і ўся гэта куча рыбы абрынулася ў родную стыхію! Мне застаўся кручок. Потым праз роспачную слязу разгледзеў я і плотачку. Яна плавала ўверх пузам непадалёку. Відаць, акунь збіў яе з кручка, але сам не зачапіўся як след. І гэтак далей.

З акунямі я потым яшчэ меў справу. Бывала, чапляліся яны мне на возеры Паперня замест шчупакоў — здаравенныя, як патэльня, гарбатыя рачныя вярблюды. Але — ні разу не было, каб акунь сядзеў на размотанай жылцы. Манера ў акуня, відаць, такая: падысці да жыўца, усмактаць яго і жаваць, стоячы на месцы. Прычапіцца наглуха ў яго, такім чынам, шанцаў мала. Але бывала: падграбаешся да старожні — жылка на месцы. Пачынаеш вымаць — лапатыхбултых! Аж неабачліва падскочыш у лодцы ад перапуду. Яна ж, мая першанькая, была дастаткова хліпкая.

Але вернемся да нашых шчупакоў.

Безумоўна, яны ўжо ўцямілі, што ў іх ёсць, расце асабісты вораг, і рыхтавалі свой удар.

І вось аднойчы познім летам паставіў я ўсяго чатыры старожні, і ўсе на вялікай яме за Поразаўскім мостам. Пад самім мостам былі накіданыя камянякі, і па пояс вады было метраў на дваццаць у абодва бакі. Потым леваруч пачыналася дзічына: крыніцы, дрыгва — у іх потым тапіліся экскаватары, — а праваруч абодва берагі былі на добрых сто метраў высокія. Яма пачыналася адразу і была шырокая і дужа глыбокая. Купацца ў ёй купаліся, але без асаб-

лівай прыязі: дно было без пяску, глей ды камяні, і шаша давала пылу, а часам і разбітых бутэлек. Рыбы ў яме было даволі ўсялякай, аднак здабыць яе было нялёгка. Мабыць, таму і было многа ўсялякай, што здабыць было нялёгка. Вудзільшчыку цяжка было схавацца, а нератам або трыгубкай рызыка была: каменне, карчы ды палі ад старадаўніх нейкіх пабудоваў.

Цяпер у цябе, мой чытач, складваецца ўражанне, што я не адыходзіў ад гэтай ямы са сваімі старожнямі. Але яно не адпавядае рэчабыльнасці. Колькі разоў за свае школьныя гады я ні ставіў там снасці — вынік быў нулявы або амаль нулявы (г. зн. на адной якой снасці было размотана, але пуста).

На гэты раз яшчэ з насыпа шашы я ўбачыў зусім адваротнае. Адна старожня плывала пасярод ямы. На старожні з заходняга боку, якую я замаскіраваў у купіне маладых вербаў, уся жылка была размотана ў бок ямы. Толькі палова жылкі была на старожні, якая стаяла з майго берага ў канцы ямы. Чацвёртую снасць я не бачыў, але досыць было і гэтага.

Пайшоў я перш у вербы. Вывалак пустыя кручкі. Прайшоў далей — на чацвёртай снасці сядзеў задушаны жывец. Вярнуўся на правы бераг і ўжо ля самай старожні ўбачыў таго, хто разматаў жылку. Крыху воддаль на чорным дне ляжала белая паласа — здохлы шчупак — «сяледчык» (так у нас называюць невялікіх двухгадовікаў). Аднак уся мая ўвага была засяроджаная на той тоўстай тычцы, якая плавала пасярод ямы. Ужо не помню, як яе даставаў. Наўрад ці плаваў: вада была ўжо досыць халодная. Хутчэй за ўсё звязваў у адно некалькі тычак. Хваляванне з'ела гэту дэталь. А вось што запомнілася, дык гэта мой найлепшы тоўсты стальны трайнік з разагнутымі, бы з пластыліну, джаламі.

Што і казаць, удар мне быў нанесены адмысловы. Той сяледчык, што загінуў «пры выкананні задання», выклікаў адно жаль. Затое паслужлівае ўяўленне малявала памеры іншых удзельнікаў акцыі, у асаблівасці ж той машыны, якая заперла на сярэдзіну старожню і папраставала кручкі.

Казалі, што потым нейкі волат ад шчупака трапіў у сетку, калі练 ракопвалі раку і спускалі ваду са старога рэчышча. Пацягнуў ён быццам на восем з паловай кілаграмаў. Верагодна, што гэта быў шчупак з Поразаўскай ямы.

Што і казаць, дэпрэсія пасля той рыбалкі была вялікай, але адкуль было шчупакам ведаць, што я ўжо загартаваны ўдарам, з якім, бадай, няма чаму параўняцца. Было гэта за год-два да Дня Выпраставаных Кручкоў, увесну. Быў час, калі на старожню добра ідуць ментузы...

**Фота Уладзіміра Сенькаўца**



# Мікола Сцепаненка

празаік. Аўтар дзіцячага апавядання «Белая галубка», якое было надрукавана ў калектыўным зборніку прозы «Карані». Друкаваўся ў часопісах «Крыніца», «Бярозка», беластоцкая «Ніва», «Наша НІва». Творы перакладаліся на ўкраінскую і балгарскую мовы. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў мястэчку Касцюкоўка. Жыве ў Мінску.

# Клоун

Святло ліхтароў блакітнымі слупамі прабівалася скрозь шчыльны туман, і квадратная плошча з разбітымі каляінамі мокрага снегу была падобна да вялікай шахматнай дошкі. Перасякаючы клятчастыя паскі, Сцёпа хутка наблізіўся да магутнага трохкалоннага порціка палаца культуры. Квадратныя калоны капітэлі былі аблеплены шэрай з вострымі дзюбамі тынкоўкай, і фасад палаца нагадваў наждачную паперу. Ля шурпатай сцяны стаяла стракатая самаробная афіша. Хлопчык уважліва агледзіў яе, нечакана ўсміхнуўся, і, упёршыся ў круглую рыфлёную ручку, адчыніў дзверы. Жанчыны, якая сядзела на чорным скураным фатэлі, скоса зірнула на Сцёпу, вытрымала паўзу, а потым паведаміла, што рэпетыцыя пачалася. У раздзявальні нікога не было. Сцёпа апрануў трэніровачны касцюм, схапіў матацыкл і сышоў на арэну. Яркія промні сафітаў напаўнялі сцэну святлом, і расстаўленыя паўколам дзеці моўчкі слухалі рэжысёра. Сцёпа асцярожна прайшоў за сцэнай і праз бакавую кулісу далучыўся да натоўпу.

Калі калектыў быў падрыхтаваны да прагону, рэжысёр нечакана для ўсіх паклікаў да сябе Сцёпу. Цёмная пустая зала здалася хлопчыку бясконцай. І толькі два вясёлых зайчыкі рэжысёравых акуляраў павольна бегалі між радоў. Рэжысёр узяў са стала папку і працягнуў Сцёпу:

«Да прэм'еры засталося чатыры дні».

«Я ведаю, — разгублена адказаў Сцёпа і хацеў было растлумачыць

прычыну спазнення на ўводную рэпетыцыю, але ж рэжысёр перапыніў:

«А ці ведаеш, што Корсік захварэў?»

«Як захварэў?» — са здзіўленнем перапытаў Сцёпа.

«Кажуць, быццам аб'еўся кубінскімі апельсінамі і трапіў у бальніцу», — на твары ў хлопчыка з'явілася неразуменне:

«Можа, ён яшчэ ачуняе?»

«Нельга спадзявацца на гэта, табе трэба яго замяніць».

«Я — клоун?» — шырока ўсміхнуўся Сцёпа.

«А чаму б і не», — упэўнена адказаў рэжысёр, — і, паглядзеўшы на здзіўлены Сцёпаў твар, хутка дадаў:

«Усяго толькі на адзін раз. Табе больш за ўсіх даводзілася бачыць гэтыя рэпрызы, ды і касцюм гэны будзе табе ў самы раз».

«А як быць з нумарам велафігурыстаў?»

«Не хвалюйся, я знайшоў табе замену. А зараз перачытай рэпрызы, а ўканцы паспрабуем». Рэжысёр працягнуў папкі і накіраваўся да сцэны.

Сцёпа адсунуў настольную лямпу і павольна апусціўся ў рэжысёрава крэсла. Ён любіў клаунаду, яму падабалася глядзець жартоўныя рэпрызы, нават былі свае куміры, але ўявіць сябе ў ролі клоуна ён не мог. Перад вачыма ўсплывала стракатая афіша, школа, белыя аркушы запрашальных білетаў,

ровар, складаныя трукі... І замест усяго гэтага — кароткія парткі, размаляваны твар і крывы самакат. Хлопчык адкінуў кардонную вокладку, дастаў некалькі скрэпленых між сабою старонак, прачытаў першыя тры абзацы і шпурнуў на край стала. Пад празрыстай поліэтыленавай плёнкай, якой была абгорнута празрыстая вокладка, месцілася невялікая паштоўка.

Сцёпа правёў далонню па гладкай плёнцы, нахіліў лямпу і пачаў углядацца ў рэпрадукцыю. На цёмна-блакітным фоне быў намаляваны партрэт маладога арлекіна. Выцягнуты твар, доўгія худыя рукі, стракаты, шчыльна абцягнуты касцюм — зусім не выклікалі камізму, а надавалі малюнку нейкую таямнічасць.

На працягу ўсёй рэпетыцыі рэжысёр ні разу не звярнуўся да Сцёпы, які паранейшаму заставаўся сядзець у ягоным крэсле, гартаў зжаўцелыя старонкі рэпрыз. Калі скончылася рэпетыцыя, і яны засталіся ўдвух у пустой цёмнай зале з адзіным ліхтарыкам, рэжысёр запрасіў на сцэну Сцёпу. Першая спроба выканаць рэпрызу была няўдалай. То ён забываў словы, то знарок устаўляў некалькі сваіх, якія зусім не падыходзілі па сэнсе, то на нейкі момант зусім губляў мову, і, скоса пазіраючы на рэжэсёра, з надзеяй чакаў, калі гэта надакучыць рэжысёру, і ён адмовіцца ад сваёй ідэі і прапануе гэтую ролю каму-небудзь іншаму. Але ж рэжысёр упарта працягваў рабіць заўвагі, загадваючы пачынаць ўсё зноў і зноў. Невядома колькі б яшчэ разоў Сцёпу давялося выконваць гэтую рэпрызу, калі б раптам у зале не ўспыхнула святло, і не з'явілася прыбіральшчыца, апранутая ў сіні зашмальцаваны халат: узышла на сцэну, лязгнула вядром, перахапіла доўгі канец швабры і паказала на бліскучы цыферблат ручнога гадзінніка.

«На першы раз дастаткова», — сказаў рэжысёр і ўзышоў на сцэну. Сцёпа сядзеў на чырвонай скрыні, нервова пакручваў скрыготлівае кола самаката.

«Здаецца, я не памыліўся, што менавіта табе прапанаваў ролю клоуна».

«Не ведаю...», — у Сцёпіным адказе адчулася крыўда.

«Я цябе разумею. Ты добры эквелебрыст і жадаеш катацца на ровары, але пры жаданні з цябе можа атрымацца някепскі клоун».

«Толькі гэтага мне не хапала, — рэзка адказаў Сцёпа і моцна крутнуў скрыгатлівае кола самаката.

Прыбіральшчыца, якая знаходзілася побач, перапалохана ўскрыкнула:

«Ты што, зусім ужо?»

«Я проста кло-о-оун», — расцягваючы кожны склад, адказаў Сцёпа.

«Супакойся», — паважна вымавіў рэжысёр. На нейкае імгненне іх позіркі сутыкнуліся.

«Ты памыляешся, калі лічыш ролю клоуна непрыстойнай. Мы ўсе ў нейкай ступені клоуны: і ты, і я, і яна», — рыжысёр паказаў на прыбіральшчыцу, якая змятала падлогу і нешта прамаўляла пра сябе.

«Але ж, у адрозненне ад нас, ты — артыст, якому даручана выконваць гэтую ролю і ад якога залежыць поспех усяго калектыву». Сцёпа моўчкі выслухаў рэжысёра, прыбраў са сцэны рэквізіт і павольна пайшоў у раздзявальню.

Па дарозе дамоў яго ні на хвіліну не пакідала апошняя фраза рыжысёра. «Ты артыст», — гэтыя словы рэхам адгукаліся ў ягоных вушах, падштурхоўваючы да новых разважанняў. Ён узгадаў той дзень, калі маці першы раз прывяла яго ў цыркавую студыю. Тое вялікае жаданне паскакаць на батутах, пакалыхацца на трапецыях, а, галоўнае, паспрабаваць праехаць на монацыкле. З таго часу прайшло амаль пяць гадоў, ён дасканала асвоіў монацыкл, і зараз яму, адзінаму з лепшых велафігурыстаў студыі, давядзецца выконваць ролю клоуна.

Пра сваю новую ролю Сцёпа вырашыў нікому не казаць, асабліва тым, каму на мінулым тыдні хваліўся сваімі новымі складанымі трукамі і з гонарам уручаў запрашальныя білеты. Пасля прэм'еры хай сабе жартуюць, хай здзекваюцца, а зараз неабходна рыхтавацца.

Кожны раз, разгортваючы папку з рэпрызамі, Сцёпа міжволі ўглядваўся ў партрэт маладога арлекіна, схуднелы пануры твар якога з кожным разам рабіўся яму ўсё бліжэй. Мажліва, і гэты кволы юнак у стракатым касцюме са шчырымі блакітнымі вачыма некалі марыў быць эквелебрыстам ці гімнастам, але ж невядомыя абставіны прымусілі выконваць ролю блазна, летуценна разважаў Сцёпа.

На генеральную рэпетыцыю Сцёпа прыйшоў з завучанымі і добра адпрацаванымі рэпрызамі. Кароткія, крыху ніжэй каленаў парткі і едка чырвоная кашуля, як і казаў рыжысёр, прыйшліся яму ў самы раз. Сцёпа апрануў незвычайную вопратку і, чакаючы свайго выхаду, падоўгу хадзіў уздоўж люстэрка, то скідаючы, то зноў адзяваючы клятчасты картуз. На працягу ўсяго прадстаўлення, Сцёпу неабходна было паказваць дзве рэпрызы. Першая рэпрыза была кароткая. Яму даводзілася эмітаваць амерыканскія самалёты, якія пералятаючь межы В'етнама і з грукатам ляскаючыся аб падлогу, — паказваць, як іх там збіваюць. Другая, усім добра знаёмая, — гэта прыгоды «Незнайкі». Хлопчык выканаў адразу абедзьве рыпрызы і выйшаў на край авансцэны і, быццам патрабуючы сабе адзнаку, з-пад ілба глядзеў на рыжысёра. Яго здзіўляла рэакцыя рэжысёра, які ўспёршыся на крэсла, задуменна глядзеў на Сцёпу: «Не дастае ўпэўненасці!» З глыбіні залы нечакана выляцела гучная фраза рэжысёра. — «А ўвогуле, не блага, можаш ісці адпачываць». Крытыка рэжысёра крыху натхніла Сцёпу і ён, задаволены, пайшоў у раздзявальню.

На прым'еру Сцёпа прыйшоў за гадзіну раней. Каб не мазоліць вочы сваім экстравагантным касцюмам, падрыхтаваў неабходны рэквізіт і задоўга да пачатку сышоў за кулісы. Цяжка пералічыць, колькі разоў яму даводзілася выступаць на розных сцэнах, але такога хвалявання, як ад сённяшняга дэбюту, ён не адчуваў ніколі. Яшчэ не пачалося прадстаўленне, а Сцёпа ўжо марыў аб фінале, у якім будзе магчымасць выступіць у ролі эквалебрыста. Але ж чым менш заставалася часу да выхаду, тым мацней ім авалодвала хваляванне. Празвінеў трэці званок, і гучныя трубы аркестра абвясцілі аб пачатку прадстаўлення. Цяжкія ўдары сэрца пачалі адлічваць апошнія хвіліны. Шматлікія рэплікі блыталіся ў галаве, і ён тупа глядзеў на супрацьлеглы бок сцэны, чака-

ючы каманды. Аркестр замаўчаў, на сцэне ўспыхнула яркае святло. Рэжысёр махнуў рукой, і скрыгатлівыя колы самаката вывезлі Сцёпу на сярэдзіну сцэны. Шумная хваля пракацілася па зале. Сцёпа паспрабаваў вырваць з сябе першую рэпліку, але голас захлынаўся. Яркая сцэна здавалася маленькім астраўком, за якім пачыналася вялікая бездань. «Па-чы-най», — даносіўся шэпат рэжысёра. Хаваючыся за край заслоны, ён рэзка ківаў галавой, вымаўляючы адзінае слова. Хваля шуму зноў пракацілася па зале. Сцёпа скоса паглядзеў у залу, зрабіў адпаведную грымасу і выкрыкнуў першыя рэплікі. Зала адрэагавала вясёлым смехам. Першыя крокі былі зроблены і так разгубленасць, якая напаткала яго на пачатку, паступова адыходзіла, і ён працягваў выконваць сваю ролю. Выконваючы другую рэпрызу, ён ужо смела зазіраў у ветлівыя твары гледачоў, якія шчырым смехам адказвалі на кожную ягоную рэпліку.

На фінал Сцёпа выбег з шырокай усмешкай. Аркестр зрабіў паўзу. Ад каляровых пражэктараў вочы яго зіхацелі, і ён з вялікай заўзятасцю вымавіў: «А зараз я не клоун, я — артыст, велафігурыст». Зайграў аркестр. Сцёпа спрытна ўскочыў на ровар, зрабіў некалькі батманаў і хутка прамчаўся ўздоўж сцэны. Перапоўненая зала бурнымі воплескамі прывітала маладога артыста. У касцюмернай падлетак прысланіўся гарачым тварам да сцяны, у вушах звінелі святочныя гукі аркестра, якія перыядычна захлёстваў здзеклівы рогат залы. Сцёпа паскідаў з сябе экстравагантную вопратку, перапрануўся і сышоў за сцэну. У вузенькім калідорчыку з шэрым і падрапаным рэквізітам сценамі, было шматлюдна.. Каля ўваходу стаяў рэжысёр і, пацiскаючы далоні, шчыра віншаваў удзельнікаў прадстаўлення. Сцёпа прыціснуў да грудзей папку, падышоў да рэжысёра. Спрабуючы выцягнуць з сябе ўсмешку, ён напружыў шырокія скулы і ціха запытаў: «Можна на наступным прадстаўленні я паўтару гэтую ролю?»

Рэжысёр зморшчыў шырокі бліскучы лоб і, зверху пазіраючы на Сцёпу, з усмешкаю адказаў: «Не трэба... . Ты добры эквелебрыст і павінны катацца на ровары».

Сцёпа ціхенька адышоўся ўбок і, сціскаючы зубы, выйшаў у пад'езд службовага ўваходу. На лесвічнай пляцоўцы было ціха і пуста. Пад столлю прыпарушаная пылам цьмяна зіхацела жоўтая лямпа. Сцёпа зрабіў некалькі крокаў і схіліў галаву да драўлянай парэнчы... На вочы міжволі накатваліся вялікія кроплі слёз. Бліскучыя струменьчыкі скатваліся па твары і, дакранаючыся сухіх вуснаў, аддавалі ў роце салёным прысмакам.

З-за сцяны даносіліся вясёлыя дзіцячыя галасы. Сцёпа разгарнуў папку і ў цемру лесвічнага праёму, падобна папяровым самалёцікам, паляцелі белыя старонкі рэпрыз. З разгорнутай папкі на яго глядзеў вясёлы задаволены твар арлекіна. Сцёпа разадраў папку і асцярожна выцягнуў маленькую рэпрадукцыю. На адваротным баку было напісана «П. Пікасо. «Партрэт маладога арлекіна». Сцёпа выцер пачырванелыя ад слёз вочы, піхнуў вялікія скрыгатлівыя дзверы і выйшаў на двор.

**Фота Міхала Мякіша**



# Маладая літаратура Аўстрыі

Гэтым выданнем «Верасня» пачынаецца літаратурная частка праекта «Сезон культуры Аўстрыі ў Беларусі 2016\17». Праекта, які павінен служыць пашырэнню і паглыбленню культуровых стасункаў паміж Беларуссю і Аўстрыяй. У адпаведнасці з профілем часопіса «Верасень» мы выкарысталі шанец прадставіць тут беларускай публіцы некалькі выбраных маладых аўстрыйскіх аўтараў і аўтарак.

Выбарка маладой літаратуры, задоўга да яе кананізацыі, гэта заўсёды рэч надта рызыкоўная. Рэдка меркаванне існуе ўжо на момант публікацыі бы высечанае з каменю і вытрыманае цягам гадоў і дзесяцігоддзяў. Такім чынам, крытэры для адбору гэтай нізкі тэкстаў аўстрыйскіх аўтараў і аўтарак былі адначасова сціплымі і амбітнымі: тэксты павінны былі належаць параўнальна маладым людзям, і адначасова іх чытанне мусіла прыносіць задавальненне.

Пры гэтым наперад зацемім, што маладым аўтарам і аўтаркам з Аўстрыі нялёгка. Цісне цяжар аўтарытэту літаратурных узораў. Не трэба ісці нават далёка, да выбітных майстроў мовы і формы як **Карл Краўс** і **Роберт Музіль**. Тут можна было б згадаць моўную моц памерлага ў 1989 годзе **Томаса Бэрнхарда**. Цягам доўгіх гадоў ставяць маштаб вялікія імёны **Петэра Гандкэ** і **Эльфрыды Елінэк**, якія непазбежна ўражвалі нават мужных маладых аўтараў і аўтарак.

Важным з’яўляецца таксама тое, што мусова трымаць у полі асаблівае аўстрыйскае становішча ў нямецкай літаратуры. З гістарычных чыннікаў аўстрыйская літаратура кіруецца ўласнымі законамі, і толькі такім чынам яе можна зразумець. Аднак нягледзячы на яе асаблівае становішча, яна застаецца інтэгральнай часткай нямецкай літаратуры. Нямецкія і швейцарскія ўзоры робяць свае ўплывы, з’яўляюцца дзейснымі. І наадварот, высокі аўтарытэт менавіта аўстрыйскай літаратуры ў нямецкамоўным замежжы сведчыць пра самавітасць і дзейснасць аўстрыйскай ідыёмы.

Зачын робіць нізка вершаў адной з найбольш важных маладых аўтарак лірыкі нямецкамоўнай прасторы, **Эн Котэн**. Котэн нарадзілася ў Злучаных Штатах, вырасла ў Вене і жыве сёння ў Берліне. Што чыста нацыянальнаму канцэпту глеба адабраная ад пачатку, мае свой добры бок, і зусім проста, які гэта бок: гэта адпавядае рэаліям маладых творцаў мастацтва і навукоўцаў. Як аўтарка лірычнай паэзіі Эн Котэн ёсць



творцам фармальнага метаду высокага рангу. Яе навуковыя працы выяўляюць яе як знаўцу літаратурных дасягненняў мадэрнага часу. У вершах **Соні Хартэр** мы назіраем супрацьпастаўленне публічнага дыскурсу і суб'ектыўнага ўспрымання. Так паўстаюць паэтычныя камбінацыі, якія высвятляюць суадносіны рэчаў і адначасова паэтычна змяняюць іх, — у гэтым полі напругі аўтарка і чытач у роўнай меры лучацца ў супольным моўным перажыванні.

Празаічную частку мы прадстаўляем фрагментам рамана **Роберта Просэра**, маладога аўтара на парозе да больш шырокай вядомасці. Гэта тэкст перасягання межаў: пра мастацтва графіці, падарожжа на тэрыторыю грамадзянскай вайны, у былую Югаславію, згадкі аўстрыйскага мінулага, і гэта ўсё прамаўляецца ў стылі рытмізавана падкрэсленага рэпу. Першы высока ацэнены крытыкай раман **Анны Вайдэнхольцэр** «Зімой рыбам добра» намінаваўся на прэмію Ляйпцыгскага кніжнага кірмашу 2013 года. Тут яна прадстаўлена апавяданнем, якое ў раздражняльнай манеры апісвае, наколькі жахлівай рэччу можа быць каханне.

Народжаная ў 1992 годзе **Надзя Шпігель** пры ўсёй маладосці веку надзвычайная мастачка слова. Гісторыя стасункаў, якую яна разгортвае ў прадстаўленым тут апавяданні, жывіцца з ідыёмы, якую аўтарка надае свайму герою. Такім чынам, выразна чытаюцца і адкрываюцца для перажывання культуровыя межы падзелу, якія акрэслены па Еўропе. Нядаўна выдала свой раман пра дачку Томаса Мана **Даніэла Хана**: «Эрыка Ман і «Перачны Млын». Дадаізм і пачаткі кабарэ ў Швейцарыі». У тэксце, які друкуецца тут, яна распавядае нам пра цяперашняе жыццёвае адчуванне няпэўнасці і неакрэсленасці, прыстасавання да стэрэатыпаў і вынікаючай з гэтага халоднасці пачуццяў і абыякавасці. З моцы гэтаксама старой, як і дасціпнай гульні ачалавечвання свету жывёл жывуць спакон веку не толькі казкі і байкі, але і прадстаўлены тут тэкст **Марціна Фрыца**. Фрыц выпрабаваў сваё пачуццё гумару і розум на некалькіх відах жывёл, і ягоныя назіранні маюць надаць гэтай падборцы акцэнт забаўляльнасці.

Такім чынам, гэты нумар «Верасня» адначасова ёсць прапановай і заахвочваннем. Прапановай пазнаёміцца з новымі імёнамі і заахвочваннем мабілізавацца дзеля знаёмства з сучаснай аўстрыйскай літаратурай ва ўсёй яе шматстайнасці.

**Георг Докс** *(Аўстрыя)*
**Андрэй Масквін** *(Беларусь/Польшча)*



## Эн Котэн

аўстрыйска-нямецкая паэтка з амерыканскімі каранямі. Найбольш вядомы яе твор «Санеты з слоўніка запазычанняў» («Fremdworterbuchsonetten», Surkamp, 2007). Тамсама выйшлі кнігі «Памяшканні Фларыды» (Florida-Raume , 2011), «Спалоханы веер» (Der schaudernde Facher, 2013) і «Сасланыя! Вершавы эпас» («Verbannt! Versepos», 2016), «Пасля свету. Спісы канкрэтнай паэзіі і іх наступствы» («Nach der Welt. Die Listen der konkreten Poesie und ihre Folgen»), Ralph Klever Verlag, Вена, 2008; «Конь. Элегія» («Das Pferd. Elegie»), SuKuLTuR, Берлін, 2008; «Таптанне па слоўніках» («Glossarattrappen»), Ausnahme Verlag, Гамбург, 2008.

Эн Котэн лаўрэатка прэміі імя Райнгарда Прысніца (2007) і прэміі імя Клеменса Брэнтана (2008).

Нарадзілася ў штаце Аёва ў 1982 годзе.

З 1987 года жыла ў Вене. З 2006 года жыве ў Берліне.

# Санеты са слоўніка іншамоўных словаў

## Метанімія, мы

Я за цябе кажу: усё ідзе як трэба,
Як трэба будзе ўсё, кажу табе.
Будзь пэўным. Я пакуль што фармулюю,
а потым зможам разам выправіцца ў неба.

Паэзія цябе, ты кажаш, грузіць стомай.
А вымаўленне майго «я» вымае мяне больш, кажу.
Раскінь жа тваё «мы», злучыла каб нас двух непакрыёма,
і апасля на ім мы зробім наш пікнік. Насамрэч,

мне словы йдуць праз зубы толькі цяжка,
выходзяць стукаючыся адно ў адно,
калі мяне ты маеш наўвазе, я цябе і ўхмылку
адно гармоніяй магу нас павязаць,
пытаем мы: давай? Ты кажаш: я гатовы.
Ты таксама? А я ўжо твае зубы адчуваю важка.

Дык налівай! віно пагрузіць нас

на пазасталы вечар у танін,
у аксамітавы чырвона-чорны строй
так, блытанасцяў, сапраўды.

Сутычкі келіхаў, пакуль нам ні ўвайсці, ні выйсці,
і з літар пырхацення чуйнаваць прыблізна,
чые ж насамрэч рэжам тут ініцыялы
у бук стала маім нажом вялізным.
Бо твой для гэтай працы замалы
і складваецца, калі кут не той
абраны. Акурат я рэжу «ТЫ»,
калі паказваеш мне ты сваё разьбярства: «ЭЛВІС».

Але, памылкі робім. Ды смяецца
з намераў нашых чыстае быццё.

## Пластык, slapstick

***[слэпстык, камедыя становішчаў]***

*I like your hair that way,*
[ай лайк йо хэар зэт ўэй, мне падабаецца твая прычоска]
«прыхільнасць» слова кшталту ліманаду.
на гелю надпіс «ужываць кароткатэрмінова».
*Why don't you wear it that way every day?*
[Уай доўнт ю уэар іт зэт ўэй эвры дэй, чаму ты не носіш іх так штодня?]

Кароткатэрміновыя любошчы, ды прыхільнасць
згушчаецца ў крышталяў мігаценне.
Мяне выносіць аж на край хаценне:
натурай ты мне ў радасць, штучна яшчэ лепш.

Прыхільнасць гэта як любошчы, толькі лепш,
*It gives my stride kind of a well-used sheen,*
[Іт гівз май страйд кайнд ов э ўэл юзд шін
Гэта надае майму поступу выгляд добра зношанага яркага строю]
*a polish to my voice,* чаго не мела б,
[а поліш ту май воіс, паліроўку майму голасу,]
не мела, калі важным так здавалася мне ўсё яшчэ.

Ды любіць бог жанчыну, калі тая ў кавуне
іртом патоне, і дае прыхільна
ёй пластыкавы посуд, каб не зранілася ў ім.
Хто збоку, каб не каяцца ў віне,
хто любіць грэлкі, з пластыку хто есць умільна,
без скуры будзе кінуты ў экстрым.

А там чакаю я. За валасы рукою
бяру. Пачнем ужытак, пэўна, з языкоў.
Пашырыць тое лёгкія, яны ж, ізноў,
мяжуюць з сэрцамі. Трымценна мчым па сценах

уніз, на мэблі там грымім.
боль пэўны прымем, слодыч з ім.
Расплывінкай ля ног яго прычоска.
За пасмай пасма выпрастаны валасы,
павернена к спакою скура. Да яго міргаю:
прыхільна табе, хлопча, *but I love your hair*
[бат ай лав йо хэар, А вось валасы твае люблю.]

## Валоданне, прасцяг

Твайго імя ўсё больш, прычым было яно бы калісь.
Што гэта значыць? ‘шчэ нядаўна быў мне
 запазычаннем.
Цяпер пры кожным слове для мяне
за ўсё ў адказе ты, чаго мне не стае, і смех

не прагучыць, каб ты не адсачыў яго прычыну;
і хібіць рыфма, вершавы памер не йдзе — стаіш ты,
на галаве санетаў трэшавы вянкі,
і дзівакавата кніксен розум робіць твой, пры ўцёках.

Адно мне застаецца апяваць карціну, як ты знік,
у вершах табе ў спіну, гэта можа найфайнейшае,
што ўвогуле ты маеш, ці дакладней
адзінае, што застаецца апяваць мне,
бо ты — ты знік, і тваё імя, поўны тытул —
маўчок пра гэта. Напісаць? — ніколі!

І ўсё ж: у запазычаннях шукаю толькі голас
твой і спіну, якая замяніла б усе словы.
Замест твайго маўчання мушу змрочна прудзіць словы,
пакінуць спадзяванне ды гуляць радкамі,

ціхмяны гэты безупынны выбар паасобных слоў,
наступнае, з якога ўразумею можа калісь я тваё маўчанне.
Пры гэтым поўны тытул мне твае спіны мадэллю служыць
для ўсяго, на ідэальны выдае што на канструкт.

Ты адсудзіў мне свет, у якім жыву,
ды маю хоць тваё імя. Люблю
яго гучанне, чужачы гучыць яно аднекуль, перасмешна
ўсім спробам у аблічча. Запазычання
даволі, каб выклікаць цябе ў мой верш.
Цябе яно хоць не тлумачыць аніяк, ды абяцае многа.

Retcon[1](*рэткон, зваротнаактыўны кантынуум*)

---

1 retcon (retroactive continuity) — дадаванне або змяненне інфармацыі да фонавай гісторыі выдуманага персанажа або супольнасці без зважання на сказанае раней (пераважна ўжываецца як адмысловае слова ў англамоўных коміксах). *Заўвага перакладчыка.*

## Скандал часу

Пераглядзелі спадчыну. Дапялі, што няйначай
даты ў лістах яна прастаўляла загадзя.
Ды плёну ані: яшчэ зблытаны больш,
памёр неўзабаве ён. Так яе і не пабачыў.

Ці ўпадабаў бы, пры адной з нагод?
Цянюсенькай была й кахала свайго мужа.
Пракінецца, бывала, ад дзяцей,
пакуль ім спаць, і сэрцу спакайней,
да рэчкі па цямрэчы й сцюжы
і там гарыць ну быццам доўгі кнот

яшчэ крыху, пакуль ёй зноў ісці.
Вось вішні квецень. Не жыццё чаму. Сукеначкі
ўспаміны з найранейшага дзяцінства. Вось жа,
як-ніяк супольным мелі яны нешта ў тым мінулым.

А гэтая самота, і наш гэты фён[2]
ён пачынаўся найчасцей замест гарэння.
Кіч на карку кашмарам ім сядзеў, і ён
пачвараю: дыктуе, крэсліць, крэсліць і дыктуе.
Не раз пытала: Гэта ты мяне дратуеш?
ды ён шматкроць адводзіў: Ты смяешся?

Не бачыла яго ніколі. Меў вусы.
Здалёку гэта менш перашкаджае. Яшчэ ідучы
плечы ахінула кажушком. А ліст
за нейкія секунды ўмерзнуў ёй у пальцы.

Раней было б жадана ёй на свеце пабываць.
пярэдадзень яе заўсёды вабіць. Сон
гоніць яна прэч, заколвае іголкі ў свечку:
што піша, толькі паслязаўтра тое будзе ён чытаць.

---

[2] фён — цёплы сухі вецер. *Заўвага перакладчыка.*

## Кантынгентнасць і я, і песня

Усё, што магчыма, ёсць лёгкім.
Што выглядае на цяжкасць,
ёсць часам. Або ты кахаеш мяне, або
не. Ну не дык не. Мо навучышся.

Але калі навучышся. то гэта будзе або не.
Няма працэсаў, толькі адзін і адзін
і нуль. Сяджу ў нулі і не капую.
Walk the line and walk and walk and hold back the tears.
(*Ўок зэ лайн энд ўок энд ўок энд хоулд бэк зэ тіэрз,*
*Ідзеш кірункам наўпрост і ідзеш і ідзеш і стрымліваеш слёзы*.)

Бязрадна ў прасторы і ў часе чэзнем,
а калі чаму навучымся, то без келіхаў звонкіх,
шляхам trial and error (*траял энд эрор, спроб і памылак*)
 Хоцца больш error!
Папсуха, на тры хвіліны, ніцы вектар,
віртуалка, а што ёсць раскрыць, навонкі,
адну палову або другую, гэта жалезна.

А хіба не было аналогава? Адно быў інтэгральны інтэрфэйс,
без сну і ў бясконцым, і слёзы
пырскалі ад вылічалак непазбежнага,
ад таго, што выслізгвае разуменню, ад няжорсткага свету.

Цябе датыкаюся або не.
Спаміж спрэсаваны час,
невыраўнаваная прастора грувасцячыхся палюсоў,
нічога такога, што не назваць. не ўзважыць.

Ды я так з таго, што кантакт немагчымы.
Але, з аднастайнага рэчыва ўсе сябе мусяць складаць.
То 0-1-тканка, што цвеліць плывучы паволі,
нішто не мусіць нечаму, нешта чаму саступаць,
у руху марудным, хаотным, а хай сабе шпаркім чынам,
назад, не прыхільна, і не кахаючыся ніколі.



# Надзя Шпігель

аўстрыйская аўтарка. Вучыцца ў Літаратурным інстытуце ў Ляйпцыгу. Мае на рахунку шматлікія публікацыі прозы і вершаў у часопісах і зборнік апавяданняў «іншым разам я хлушу іншым разам не» (Skarabeus, Інсбрук, 2011). Атрымала некалькі літаратурных прэмій, у тым ліку прэмію Меты Мерц (2009). Нарадзілася ў зямлі Фарарльберг у 1992 годзе. Жыве ў Ляйпцыгу.

# Станіслаў лічыць Эльвіру

## ноччу

для эльвіры, думае станіслаў і: тры дні. цёмна, ноч, і ўначы станіслаў ляжыць без сну, душнае паветра цісне яму на павекі, горача, пот клейкавінай яму на спіне, у пакоі пахне гнілымі яблыкамі і рыбнай кансервай, пахне домам, пахне прыднястроўем.

ноччу вочы лісаў звонку расстаўленыя ўздоўж чыгуначных каляінаў як вулічныя ліхтары, заўсёды па два адно побач з другім, піша станіслаў дахаты. дахаты эльвіры піша ён. штодня. штодня ноччу. што эльвіра не адказвае, ніколі не адказвае, няхай не будзе важным, кажа сабе станіслаў, гэтым яму не трэба пераймацца.

станіслаў ніколі не спіць многа і ніколі глыбока. з-за лісаў, піша ён эльвіры, з-за вачэй лісаў, у якія запаўзло паміраць смецце горада, смярдзючыя, гнятлівыя вочы лісаў. па-гэтаму. і з-за цягнікоў, грукату колаў-качолак, заікастых вакзальных аб'яваў і шыпення дзвярэй. станіслаў лічыць паміраючыя вочы лісаў, лічыць хвіліны паміж прыбыццём і адпраўленнем цягніка. так праходзяць ночы станіслава, пакуль вочы лісаў не вытанчацца дарэшты, і станіслаў сніць сны, сніць вакзал, на якім ён зайшоў у вагон, і цягнік, на якім прыехаў, эльвіру, якая дома за ядой падсунулася да стала як мага бліжэй, эльвіру з зайчымі зубамі, непрыгожую, аж занадта танклявую, якая мае на галаве валасы кудзеркамі, валасы бы гронкі вінаграду, якія станіслаў мог бы есці, кудзерку за гронкай валасоў.

пакой у чыгуначнай станцыі вузкі, у куткі набілася бруду. станіслаў піша, што пакой танны, я ашчаджаю шмат грошай. ён мацае купюры пад падушкай, яны шалясцяць у руках, ён думае пра эльвіру, якая стаіць ля канвеера, ставіць бляшанку на бляшанку ў кардонныя скрынкі, якая ў перапынках закатвае вочы, калі дзяўчаты стоячы гурмой каля лесвіцы ў цэх гатовай прадукцыі, хіхікаюць і махаюць рукой хлопцам. эльвіра, думае станіслаў, эльвіра і: зараблянне грошай і: жаніцца, займець дзяцей, быць шчаслівым. эльвіра, якая не ўсміхаецца, ніколі не ўсміхаецца, эльвіра з дрыготкімі павекамі і лісінымі вачыма, якая кажа нудыкпакуль і не плача, не крычыць, не кажа мнебудзецябенеставаць або нешта такое, эльвіра, якая кажа, нудыкпакуль, якая павяртаецца і ідзе, ідзе крокамі вальшчыка лесу, кантаватымі, размашыстымі, ногі эльвіры гэта паленні.

## уранні

ранкам у кватэры холадна і цёмна, у кватэры ранкам заўсёды холадна і цёмна, і станіслаў заўсёды налівае сабе шклянку вады на сантыметр ад ранта і

чатырма глыткамі яго выпівае; станіслаў заўсёды кідае ліст да эльвіры гэтай начы ў паштовую скрынку каля чыгуначнага вакзала, чакае тры хвіліны гарадскую электрычку і тры хвіліны нюхае мачу з прыбіральні, лічыць растаптаныя на пляскатай платформе жуйкі, лічыць недапалкі, думае для эльвіры. і:тры дні.

іншым разам на ходніку ляжаць аскепкі піўной бутэлькі, тады станіслаў становіцца пасярод высахлай піўной калюгі, пакуль падэшвы чаравікаў не прыліпаюць да бетону. калі станіслаў увечары скідае чаравікі і падносіць іх да твару, піва пахне, ён думае пра дом, пра эльвіру і можа крыху ўсміхнуцца, і момант належыць яму аднаму, а не дляэльвіры.

у гарадской службе ачысткі станіслава чакае дзірк. дзірк, які ёсць ягоным лепшым сябрам і які заўсёды носіць блакітныя кашулі, блакітныя кашулі для таго, каб пайсці ў парк і каб выглядаць і каб набіваць доўгімі шчыпцамі цыгарэты ў пачкі і каб высыпаць вядро для смецця. аднаго разу станіслаў паспрабаваў спытаць у дзірка пра навошта, купіў слоўнік і спытаў чаму і паказаў на блакітную кашулю дзірка, але дзірк не зразумеў, засмяяўся і сказаў, дык што, мне распранууцца ці як, з таго часу станіслаў ужывае слоўнік збольшага зрэдку а зрэдку значыць зусім не. калі станіслаў хоча зразумець дзірка, то крэсліць, у станіслава ёсць у правай задняй кішэні штаноў маленькі чорны нататнік і аловак, бо стрыжні для шарыкавай ручкі выцякаюць як і заменныя элементы для чарнільнай ручкі. станіславу рэдка патрэбен малы чорны нататнік, большай часткай яны маўчаць, і станіслаў думае пра бляшанкі на канвеерах дома, як ён выбракоўвае дэфектныя і выглядае эльвіру. самы прыгожы ўспамін пра эльвіру гэта гісторыя з каўнага перапынку: ціхі пошум радыё, якое прынеслі некалькі хлапцоў, цыгарэтны дым у маленькім пакоі, спёртае паветра і такая адна эльвіра з простакутнымі крокамі, якая, нахіліўшы галаву, падыходзіць да яго і пытае, дайпрыкурыць і якая падымае вочы акурат тады, калі станіслаў запальвае запальнічку, так што станіслаў палохаецца эльвірыных смярдзючых вачэй, якія выглядаюць так жалобна, быццам падстрэленыя. што яна з ім хацела б выйсці. станіслаў ведае яшчэ, як ён кіўнуў, коратка і шмат разоў адзін за другім, як маленькія дзеці малююць траву.

калі настае час абеду, станіслаў крэсліць на малым чорным нататніку відэлец і нож, потым ківае дзірку і ўсміхаецца і яны выпраўляюцца ў якую-небудзь ядальню з плакатамі на сценах, на якіх выяўленыя фота страваў, тады станіслаў паказвае на карцінку і іншым разам прадавач яго разумее правільна, а іншым разам і не. станіслаў не пераймаецца, ён есць што пададуць, ён плаціць, колькі ад яго патрабуюць. дляэльвіры, думае ён, і адчувае на патыліцы яе выгаладалы позірк, як яна ўпершыню запрасіла яго да сябе дахаты паесці, у маленькую кватэру з featured рознакалібернай мэбляй і касавокім бацькам, які не гаварыў, толькі гундосіў і падымаў руку, як яна потым стаяла на кухні і над блакіт-

най міскай тонкімі, кашчавымі рукамі разбівала яйкі, так што цэнтр яйка жоўта скапваўся ў сярэдзіну міскі, як яна душыла скарлупкі на стале і налівала яму віно, мокрымі, клейкімі рукамі, як быццам толькі што вылупілася з яйка.твае рукі галодныя, сказаў станіслаў, і рот эльвіры двойчы перасмыкнуўся, толькі што пралупленыя з яйка пальцы яна не мыла, не чысціла, калі яны неўзабаве разам паклаліся спаць, і станіслаў яе рукамі паказаў, як ён свае ногі мае засунуць паміж яе нагамі. калі станіслаў пазней хацеў загладзіць ёй мокрыя пасмы, якія прыклеіліся да яе шчакі бы мёртвыя чарвякі, за вуха, яна сказала не і схлусіла яцяперналежутабе, таму што эльвіра ніколі не будзе належаць станіславу, ён ведае гэта эльвіра не тая жанчына, якая належыць і зусім не, каб камусьці, а станіслаў дык найперш не той мужчына, які валодае, і ўжо зусім ніяк не такой жанчынай як эльвіра. дзірк адрывае ад маленькага чорнага нататніка аркуш , піша ён на ім, і станіслаў ківае, усміхаецца, ён не спанатраны ў гэтым, аднаго разу пабачыў ён у люстэрку, як усміхаецца, і знайшоў, што выглядае пры гэтым на шклянку малака.

але ж нехта павінен табе падрэзаць валасы, перш чым ты паедзеш назад, кажа дзірк, і станіслаў ківае і кажа так і працягвае есці. валасы, кажа дзірк і фармуе са сваіх далоней нажніцы, запускае іх станіславу ў валасы і скрыгоча зубамі да сваіх шчыкаючых пальцаў, потым ён крэсліць на аркушы дом, гадзіннік, стрэлкі якога паказваюць шэсць гадзін, ён паказвае на сябе, ён глядзіць запытальна. так, кажа станіслаў.

## спаміж

кватэра дзірка чыстая і светлая, а жонка дзірка бялявая і прыгожая, шмат прыгажэй за эльвіру, у знак прывітання яна абдымае дзірка і цалуе яго так, як эльвіра станіслава ніколі не цалавала б, і станіслаў ніколі не наважыўся б пацалаваць эльвіру. здароў кажа яна і працягвае станіславу руку. так, кажа станіслаў рука жонкі дзірка мяккая, яе голас таксама мяккі. такіх жанчын няма ў прыднястроўі на фабрыцы бляшанак, думае станіслаў і не ведае, што яму рабіць з гэтай думкай. ён думае пра эльвіру і што ён толькі аднойчы бачыў яе зубы, жоўтыя, вялікія, думае пра крывы зуб, які вісеў у яе роце як дзверца шафы, якая не даецца зачыніць. зуб нябачны, калі эльвіра гаворыць, толькі калі яна думае, тады зуб насоўваецца на ніжнюю губу і саскрэбвае тонкія шалупінкі скуры, эльвіра мала думае, толькі адзін раз было, што яна апасля адкрыла рот, сказала ох і: ідзі прэч і: зарабляць грошы. каб яны потым маглі ажаніцца і завесці дзяцей, сказала яна.

станіслаў мусіць з завязаным вакол шыі рушніком сядзець перад люстэркам у ваннай і глядзець, як дзірк яму падразае валасы. ён абярэжна дзеліць станіславу валасы на прабор, намочвае грэбень, шмат разоў праводзіць ім па валасах станіслава, пакуль яны не стануць вільготнымі і не пачынаюць выглядаць як

эльвірыны валасы тады, быццам мёртвыя чарвякі, нажніцы пажадліва ўядаюцца ў валасы, станіслаў бачыць у люстэрку, як валасы падаюць на падлогу. час ад часу жонка дзірка заглядвае з-за прачыненых дзвярэй, прыносіць бутэрброды і папіць і кажа рэчы, якія станіслаў не разумее, і калі яна гэта заўважае, то яна робіць жэст адзінцом уверх і смяецца смехам, які запаўняе ўвесь ванны пакой. іншым разам яму хацелася б сказаць больш, чым так, але вучыць нямецкую не варта, кажа сабе станіслаў, і дзеля жанчын як дзіркава таксама не.

немцы толькі дзеля прыліку прырабляюць да сваёй мовы клямкі ды завешваюць яе занавескамі, калі б я спытаў іх пра дзверы і вокны, то яны не ведалі б, што сказаць, напісаў станіслаў дамоў эльвіры.

так, кажа дзірк, і станіслаў мусіць дзеля праверкі пару разоў павярнуць галаву злева направа. ці спадабалася б эльвіры, пытае сябе станіслаў, ён не ведае, але кажа так і ківае галавой, і дзірк ззяе.

пазней жонка дзірка гатуе тутэйшую страву з вялікай колькасцю сыру, якая станіславу не падабаецца. так, кажа ён, калі жонка дзірка падкладае яму, дзеля таго, каб яна ўсміхнулася, станіслаў любіць, калі дзіркава жонка ўсміхаецца. Пакуль яны ядуць, звонку становіцца цёмна, станіслаў глядзіць на гадзіннік, ён ведае, што хутка прыйдуць лісы з іх белымі вачыма, і тады станіслаў мусіць сядзець і глядзець на іх, яму нельга рухацца, таму што вочы лісаў не цярпяць нікога побач, пра гэта станіслаў напісаў дахаты, напісаў пра гэта эльвіры, яны мяне пазналі, яны мяне зжаруць, напісаў ён.

і пры гэтым думаў не пра вочы лісаў, а пра эльвірыны.

станіслаў ведае: неўзабаве прыйдуць лісы, улягуцца шчытна адзін пры адным уздоўж чыгуначнай каляіны, покуль ён

не захіне шыбы занавескамі, але нават і потым яны ляжаць у ягонай галаве, ляжаць і чакаюць і гырчаць.

таму станіслаў мусіць цяпер ісці, гэта ён крэсліць у нататніку, устае, усміхаецца так, як ён бачыў што ўсміхаюцца людзі просячы прабачыць, устае, і жонка дзірка праважае яго да дзвярэй, абдымае яго і цалуе яго ў лоб. кажа добрай дарогі дахаты, і станіслаў ківае, кажа так.

## ноччу

цёмна, ноч, і ноччу станіслаў ляжыць без сну, ноччу вочы лісаў звонку выстаўленыя ўздоўж чыгуначных каляінаў як вулічныя ліхтары, кожны раз парамі адна пры адной. для эльвіры, думае станіслаў і: ці думае эльвіра хоць калі пра яго, ці чакае эльвіра, ці ёсць эльвіра такой, што чакае.

так. кажа станіслаў і думае, не.



Д.ар'я Бунеева.  Восеньскі снег у Залессі



# Даніэла Хана

аўстрыйская аўтарка эсэ, вершаў і карацелек, а таксама манаграфіі «Эрыка Ман і «Перцавы Млын». Дадаізм і пачаткі кабарэ ў Швейцарыі» (Данцыг&Унфрыд, 2015). Доктар літаратуразнаўства. Атрымала заахвочвальную прэмію горада Хатынген для маладых літаратараў (Hattinger Publikumspreis, 2006). Была гасцявой куратаркай некалькіх выставаў. Нарадзілася ў 1985 годзе ў Вене. Жыве ў Вене.

# Парцэлянавы завулак

Аберуч выкідваю сваё цела ў вакно, не ўсё за раз, а частка за часткай. Выкарыстаныя, знішчаныя дотыкамі часткі ляцяць паперадзе. На частках, з якімі найбольш было гульбы, найбольш адбіткаў пальцаў. Маё цела гэта ўзвышаная старчака вежа ў шмат паверхаў. У ёй ёсць верх і ніз, прыступкі паміж імі і розныя ўваходы. Тут і там можна ўлезьці і агледзецца. Зверху ў мозгу засядае падпольны клуб з мафіёзнымі структурамі, туды не кожны зойдзе, але ўнізе наадварот...

Выкідваю сваё цела ў вакно, знясільваю сябе паступова. Кожны наведнік, кожны абшуквальнік цела нешта ўва мне пакідае, што яму пазней не сыходзіць больш. Адно ўва мне стаіць яно потым колам, замінліва неяк, і я зноў і зноў натыкаюся на яго, калі слепа намацваю сабе дарогу ўнутры самой сябе.

У той час як я ў Парцэлянавым завулку выкідваю цела ў вакно, гляджу ўніз на вуліцу. Якраз выпадкова аўтамабіль наязджае на дзіця. Дзіця ўстае і аказваецца дарослай жанчынай. Ці я сапраўды гэта бачыла? І ці здарылася гэта толькі таму, што я гэта бачыла? У наступны момант мне ўжо выпалі вочы і са шкляным звонам упалі на асфальт. Не ведала зусім, што вочы падаюць на асфальт з такім гукам. Сцэна выпадкова паўтараецца запаволена. Гляджу ўслед сваім вачам, калі яны падаюць, і калі раздаецца звон, мне крыху страшна, хоць цяпер уласна кажучы мне гэта было вядома.

Я падманула цябе толькі дзеля прафілактыкі, бо баялася, што ты мяне выперадзіш. Але цяпер я няпэўная, ці дапраўды гэта добра, быць некім, хто першы паспеў падмануць, і лепш была б такой, хто падманвае ў адказ. Каханне страціла сваё сусветнае значэнне, усё страціла ў вартасці. Іншым разам, калі я за адну ноч некамфортным чынам зачапіла вельмі многа чужых людзей, наступным ранкам так саромеюся, што цэлы дзень не магу ўстаць з ложка. Тады кожная частка цела ляжыць пад коўдрай, можа, у належным месцы, а можа, і не, і я гляджу ўтаропіўшыся ў столь, а час сыходзіць. У такія дні мой ложак — гэта маленечкая выспа ў водах, поўных акул. Тады немагчыма зрабіць нават крок у якім-кольвечы кірунку.

У маёй спальні жыве чараўнік. Ён вісіць галавой уніз, бы кажан на сцяне, і чакае. Іншым разам, калі мяне шмат начэй ніхто не наведвае, я чую, як ён пазяхае. Кожны раз, калі я прыходжу з мужчынам, чараўнік абуджаецца да жыцця і сыпле на нас чароўны пыл. Тады я магу бачыць ягонымі вачыма, як я рухаюся ў ложку з чужым. Я ператвараюся ў чараўніка, перамяшчаюся ў яго пазіцыю, у той час як маё цела толькі трымае месца. Пільна назіраю, як добра гэта ўдаецца целу, але я заўсёды хоць нечым ды незадаволеная.

Маё жыццё праходзіць зусім не так ужо і хаатычна. Цэлы дзень я гаплюся на цёмную столь пакоя. Увечары я ўстаю, падстрыгаю належным чынам валасы ды іду кудысьці, дзе ёсць чужыя. Дзесьці заўсёды ёсць чужыя, а з чужымі

мне лепш, чым са знаёмымі. Тады я пару гадзін запар мілая і выдаткоўваю ўсю сваю энергію. Я збіраю імёны, нумары і абрыўкі размоў. Іншым разам я маю адчуванне, што пераходжваю дэпрэсію, як пераходжваюць насмарк. Ці гэта можа быць? Як доўга можна рабіць такое?

Кідаю маё цела ў вакно і разбураю ўсе стасункі сваёй журбою. Нават для Чака Норыса гэта было б засярдзіта. Журба ідзе не знутры, у такім выпадку я знайшла б параненае месца і залекавала б яго. Замест гэтага яна накідваецца на мяне звонку як лёс, чужая як трэцяя асоба, якая становіцца нагвалт паміж мною і актуальным на сёння мужчынам. Яна горш за любую афёру, любы скок налева, любое ўзніклае раптам пазашлюбнае дзіця з мінуўшчыны. Яна нават больш пагрозлівая за набор вагі з-за цяжарнасці. Са слязамі ў вачах кажу кожнаму мужчыну: «Хацела б быць дзеля цябе больш вясёлай», а ён ужо адвярнуўся ад мяне і заглядвае на ўсмешлівыя твары іншых жанчын.

Не магу нікога вінаваціць, што ён хоча пайсці па лініі меншага супраціву. Калі б магла, калі б толькі было гэта магчыма, я сама пайшла б па лініі меншага супраціву і адвярнулася б сама ад сябе. Я таксама з задавальненнем пакінула б на пару гадзін гэтую журботную асобу, узяла б перадых ад яе, адпачыла б у больш радаснай грамадзе, каб зноў быць у стане смяяцца. Але ні на секунду не магу адступіцца ад сябе. Ніхто не можа ўявіць, як ахвотна я стала б самазабойцай.

Як гэта і робяць радасныя людзі, я выкідваю сваё цела з вакна. Дзеля кожнай памылкі мушу хуценька рабіць новую, каб папярэдняя на тле яе выглядала крыху менш сур'ёзнай, гэта значыць, што неўзабаве зноў мушу цягам начы загаварыць з плоймай чужых і казаць некамфортныя рэчы. Больш не хачу так ужо дакладна ведаць, у колькіх людзей ёсць мой тэлефонны нумар. На шчасце, у большасці людзей жаданне патэлефанаваць тармозіцца, інакш тэлефон звінеў бы, як у офісе. І мне давялося б наймаць асістэнтаў. Тады ад вялікага страху не змагла б спаць, і не змагла б уставаць ад вялікага таго страху. Магчыма, гэта так ідзе, бо шторанку мушу сабе прызнавацца ў тым, што пошук утульнасці і абароненасці зноў не меў плёну, і тады я хаваюся, бо «схаваны» і «абаронены» гэта ж амаль тое самае.

Маё цела — гэта вежа, і я выкідваю яго з уласнага вежавага вакна. Маё цела само аберуч выкідвае сябе з сябе самога. Вы толькі ўявіце сабе гэта. Сама сябе начэрпваю з поўніцы, сама выліваю, я пазбаўляюся сябе як акцыі, вось як я пазбаўляюся сябе. У бальшыні дзён я ўранні з цяжкасцю збіраю сваё цела і спадзяюся, што інстынктыўна пастаўлю кожную частку куды належыць.

Кожнага тыдня мне сустракаецца як мінімум адзін мужчына, за якога выйшла б замуж з першага пагляду. Мне нічога не трэба ведаць пра яго дзеля гэтага, дастаткова надзеі. Я няверная і раўнівая, усё мае круціцца толькі вакол мяне, усе стасункі — гэта чыстая мастурбацыя, і ніколі ніводзін не робіць гэта дастаткова добра. Мужчына — гэта публіка і сузіральнік, толькі я цікавая. Мне ўсё роўна, хто мною захапляецца, хто кажа кампліменты і абяцае каханне. Ві-

заві ніколі не набывае абрысаў. Гэтага павінна хапаць толькі, каб мне крыху лепш жылося. Мужчына, які найбольш змагаецца за мяне, атрымлівае мяне ў ложак як выйгрыш. Я пераходны кубак.

Можа, ты мой паратунак. Ці распазнаеш, што я ўсё яшчэ спадзяюся, як малое дзіця? Прыціскаю абодва кулакі да ірта і дзьмухаю. Ці можаш мяне пацалаваць так, каб усё стала добра? Ува мне маленькая пярліна, якая яшчэ не разбілася. Я ведаю зусім напэўна, што мне яшчэ можна дапамагчы. Можа, ты будзеш ім. Ці можаш забяспечыць мне столькі пэўнасці, што маё сэрца наважыцца выскачыць з горла? Хачу, каб была ў стане верыць, што каханне ёсць. І ўва мне таксама.



# Марцін Фрыц

аўстрыйскі пісьменнік, магістр культуралогіі. Аўтар публікацый у часопісах і зборніках. Вывучаў параўнальнае літаратуразнаўства і германістыку ў Інсбруку. У 2010 годзе атрымаў заахвочвальную прэмію абшчыны Раўрыз (штогадовая, прысуджаецца ўрадам зямлі Зальцбург за лепшы дэбютны твор прозы). Нарадзіўся ў 1982 годзе. Жыве ў Інсбруку.

# Энцыклапедыя звяроў

***Урывак***

*«Літаратура — гэта паслуга, яна дае людзям*
*абароненасць і аб'ектыўнасць, а таксама*
*з канчатковай пэўнасцю вытлумачае рэчы,*
*якія ў іншых сітуацыях ёсць спрэчнымі,*
*як ёсць спрэчнымі пэўныя адмысловыя раздзелы заалогіі»*
Ціна Мазэ, 2011

*«Ідзе размова пра паказ усёй сукупнасці ведаў»*
Рон Тайлер, 1989

## дзесяць зацемак, што да тыгра

**1.)** тыгр гэта кароль папуа-новай гвінеі. там яго прыроднае радзімнае месца. але тыгр распаўсюджаны жыхар шматлікіх краін свету, прыкладам, ён водзіцца ў расіі. Часта тыгр выпраўляецца ў падарожжы, тады яго няма дома, і кветкі дома мусіць паліваць нехта іншы. тыгр забываецца выцягнуць вілку мадэма з разеткі і сядзіць тады ў бібіёне на пляжы ў адпачынку і не можа мець ад яго асалоду, таму што пажыральнік электрычнасці дома без дай патрэбы разбурае клімат.

**2.)** у дзікай прыродзе тыгр у вольны час найбольш ахвотна займаецца лемамі і той дзейнасцю, якая яму прыносіць радасць, і за гэта яго нельга крытыкаваць, тыгр цалкам трапіў у палон да шаленства нашага часу — фітнэса, увесь свой вольны час ён бавіць на велатрэнажоры, ён выстаўляе магнітнае супраціўленне велатрэнажора на максімум і тым не менш выціскае рэкордныя вынікі, і ўсё гэта пад палячым сонцам папуа-новай гвінеі, але калі ўжо гэты тыгр так добра трэніраваны, то яму гэта не каштуе асаблівых высілкаў, а доўгатэрміновая шкода для здароўя не наступае, хоць здаровым такі лад жыцця таксама не можа быць, і калі мяне спытаюць, такім чынам, калі ў тэксце з апісаннем тыгра дазволеныя асабістыя заўвагі, калі мяне спытаюць, і асабістыя заўвагі ў тэксце пра тыгра ўсё-такі няхай былі б дазволеныя. але без розніцы. лепшы сябар тыгра гэта ягоны поні.

**3.)** поні ўласна кажучы ёсць адзіным хобі тыгра. тыгр увесь час называе свайго поні госцем. калі тыгр падкрадваецца да загонкі, поні загадзя радуецца, потым трэцца носам аб тыгравы грудзі. але тыгр як-ніяк драпежная жывёла, і таму ён адразу бязлітасна і нацэлена кусае поні ў загрывак, забівае яго і цалкам зжырае. Невінаваты ён. тыгр кіруецца інстынктамі, таму ён ужо такі: бязлітасная, халодная бы лёд машына забойства з дакладнасцю вельмі маладой майстаркі мастацкага катання на ільду. тыгру самому балюча забіць

поні-госця з такой тупамордай халоднасцю, але ж ён не можа інакш. і акрамя таго, гэта ж каштуе грошай, штораз новых набываць гасцей, але ў тыгра ёсць яны, грошы тыя.

**4.)** тыгр з пункту гледжання прафесіі, а строга кажучы дык і наогул толькі для таго існуе, каб быць зместам вершаў і карцін, зместам якіх ён з'яўляецца. калі верш рыфмуецца, то гэта рыльке, але тыгра гэта не цікавіць, галоўнае, што пенязяў колькі трэба. тыгр увесь час аціраецца хаваючыся вакол людзей, як і людзі адзін з адным чыняць у тэлесерыялах, калі гавораць адно з адным, а рэжысура хоча зрабіць нясумныя ўрэзкі з перастрэлкамі. У драматычных і іншых важных абсягах размоў той, хто гаворыць, робіць два, тры энергічныя крокі ёй насустрач, потым буйны план, потым камера зноў ад'язджае, а што да тыгра, то яго хада крадучыся становіцца падставай для антрапаморфных апісанняў і рэфлексій, але тыгр пры гэтым увесь час думае толькі пра госця.

**5.)** вялікай жарсцю тыгра ёсць крытыка архітэктуры, але тыгр мала можа даць рады архітэктуры. ён вельмі пакутуе з таго, што ўсяісная архітэктура адно чыніць боль ягонаму эстэтычнаму ўспрыманню. тыгр бачыць будынак, збудаваны ў нейкай там манеры, і адчувае безнадзейную роспач з-за таго, як выкшталтаваны будынак. што да выкшталтавання будынка, дык тыгр прыпускае, што людзі лічаць такое рашэнне найлепшым для такога выпадка і абсалютна і адзіна мусовым, і пры гэтым яно магло б быць іншым. што для людзей ёсць архітэктурай і тым, што можна вытрымаць, для тыгра ёсць толькі непрамакутнымі доказамі найапошняй марнасці ўсіх высілкаў. людзі жывуць ў сваіх дамах задаволена і ў няведанні, а тыгр пакутуе за іх усіх як жывёла. тыгр пабудаваў бы ўсе дамы аднолькавымі, каб прыбраць непаразуменне, што паміж дамамі існуе сэнсоўнае адрозненне, і што яны мелі быць такімі, якімі яны ёсць.

**6.)** прыватным чынам тыгр ахвотна робіць разлікі ў інтэрнэце. але ён праличвае толькі стасункі рэчаў, прыкладам факты. тыгру няўцямна, чаму ён павінен пераймацца нейкімі асабістымі меркаваннямі або ацэнкамі або раскладкамі. калі ўжо марнатравіць свой час тыгр у інтэрнэце, то гэта ж бадай што толькі ў нейкіх пэўных умовах. што тыгра нудзіць, то гэта лічбы. што нехта там калісь памерыў, яго больш ані не цікавіць. ён хацеў бы ведаць, якія рэчы выпалі і ёсць. тэорыі тыгра яму што маленькія грызуны, на якіх ён скача да разумення таго, што больш не, не варта займацца імі дзеля іх саміх. часта тыгр разважае пра парадаксальнае слова ўнутраная разбудова. калі нешта будуецца дзесь унутры, то тады гэтае нутро становіцца меншым, і ўсё больш падлучаецца абмяжоўваючае ўнутранае іншае. і ўсё ж пры слове ўнутраная разбудова мяркуецца, што разбудова нутра нібыта павялічвае нутро, так думае сабе тыгр.

**7.)** у зімнія месяцы тыгр прысвячае сваю ўвагу палчкам. палчкі, якіх называюць яшчэ сонямі або сонямі-палчкамі, належаць да сямейства вавёркавых і, як кажа ўжо само найменне, упадаюць у доўгую зімовую спячку. каб не разбудзіць сонь, тыгр перавозіць іх у кардонках на карданнай падвесцы. акрамя таго, на карданах зманціраваныя варачныя плоскасці карабельных камбузаў,

і іх цэнтр цяжару пасяродкам дадатковага грузу апушчаны так нізка, што яны з рондалямі на іх пры гайданцы карабля застаюцца ў гарызантальным становішчы. гэты просты трук тыгр падглядзеў для сваіх палчкоў, прыкладам, для арэхавых сонь, і цяпер ён можа ў падарожжах таксама і ўзімку заўсёды трымаць іх пры сабе без рызыкі патурбаваць іх. спаміж тыграмі назіраецца дынамічны і натуральна падпольны гандаль сонямі, але так, каб нехта нешта ўсур'ёз прадпрымаў супраць гэтага, дык не. хоць трымаць сонь у адпаведнасці з іх відам нельга нават пры дапамозе карданнай падвескі, але на гэты маленькі грэх тыгра ахвотна глядзяць скрозь пальцы, верагодна з-за ягоных вушэй.

**8.)** тыгр поруч з капэламі духавой музыкі і добраахвотнай пажарнай аховай гэта адзіны феномен, які вырушвае на акцыю. каб выразіць важную гэтую з'яву з належнай празрыстасцю: выраз вырушваць на акцыю спалучаецца толькі з духавой музыкай, пажарнай аховай і тыграм. на свецкіх і царкоўных фэстах вырушвае на акцыю духавая музыка. тыгр ляжыць пры сваёй загонцы для поні, але нядоўга, таму што потым ён мусіць вырушваць на акцыю. сустрэцца нос у нос з тыграм, які вырушыў на акцыю, гэта ўражвальнае такое перажыванне, якое я магу парэкамендаваць адно што іншым.

**9.)** тыгру не дапаможам тым, што ёсць усё больш кніг і фільмаў пра вампіраў. калі тыгра спытаць, то тое, чаго не стае, гэта марксісцкі раман-фэнтэзі. тыгру надта далягае ўжо тое, што фантастычныя светы, у якія закідваюць большай часткай падлеткавага ўзросту пратаганістак\ пратаганістаў у фільмах-фэнтэзі, большай часткай населеных станавымі грамадамі. і капіталістычны спосаб гаспадарання, які вампіры ды іншыя нямёртвыя большай часткай падзяляюць з людзьмі ў серыялах пра вампіраў, тыгру анічога не кажа. тыгр ахвотна прачытаў бы неяк раман, у якім у чароўным свеце даўно стала б рэальнасцю бяскласавае грамадства, але ўсё, што ён мае, гэта дэталі, дэкарацыі і яшчэ больш нудных серый пра вампіраў.

**10.)** нарэшце тыгр называецца topologically integrated geographic encoding and referencing і з'яўляецца фарматам дадзеных, які ў амерыцы ўжываецца для апісання дзяржаўных атрыбутаў, такіх як дарогі, чыгуначныя дыстанцыі, будынкі, рэкі і азёры, а таксама ў іншых галінах, такіх як перапіс насельніцтва. тыгр быў распрацаваны, каб палепшыць опцыі перапісу насельніцтва злучаных штатаў, і гэта яму бадай што больш чым проста ўдалося.

## дзесяць пунктаў, што да бабра

**1.)** бабёр належыць да класу сысуноў і атраду грызуноў, але ўласна кажучы, ён не належыць ні да якай класіфікацыі, таму што найперш ёсць нічым іншым як дзікім зверам. бабёр прынцыпова адхіляе катэгарызацыю. ён блытанік; і ён перадусім нерашучы і балбатлівы. з бабром ніколі не ведаеш, пра што ўласна кажучы размова.

**2.)** бабёр як і ўсе лісы падступны і наскрозь падманлівы звер. патаемна пракідваецца ён праз кустаўё, менавіта як ягоныя найбліжэйшыя родзічы, лісы. дакладнасць тыпу сказаў як выразаў бабру трэба адпрэчыць пры любых абставінах. гадзінамі кажа ён пра тое і пра гэта, і ўвесь час, пакуль ён гаворыць, усё расплываецца перад вачыма ў непразрыстае забалочанае возера, а ўласнае меркаванне быццам змыла паводка. У забавах бабёр аддае перавагу гульні ў напарстак, онлайнаваму покеру, гуртоваму гандлю прадуктамі харчавання, раздробнаму гандлю і сацыяльным сеткам. гэта бабру да густу, і так ён балбоча і балбоча, і ніхто не наважваецца пайсці яму папярок дарогі. бабёр цалкам ёсць сам сабой толькі калі гнюсна схлусіць і калі ў глыбока нахлабучаным на твар барэце.

**3.)** бабёр упэўнена мае ў полі зроку толькі вялікае цэлае, а не паасобныя дэталі. ён адмаўляецца здзяйсняць кабатажныя пералёты, але пра тое, што сваімі плацінамі разбурае цэлыя краявіды, ён ніколі не думае. насуперак гэтаму, я кажу: палёты — так, але плаціны — не. Прынамсі, жарсцю бабра з'яўляюцца мадэль чыгункі і акурат маленькія рэчы. бабёр у сваёй чыгунцы бачыць толькі сістэму разгалінаванняў і каляінаў; адна асобная каляіна — у яе бок ён нават не гляне і не падумае. бабёр не можа таксама прызнаць у вялікім хібным як такіх якіх-кольвечы паляпшэнняў паасобных рысаў: розніцы паміж неаднастайнымі вырашэннямі размяшчэння паліц або выкарыстання месца для захоўвання чагосьці ён пры самым вялікім жаданні вызначыць не ў змозе. вось цягнік праязджае паміж крэсламі і весела свішча; але бабра гэта мала клапоціць.

**4.)** бабёр вельмі высока цэніць песню мандзі бары манілава. часта ён уважліва слухае адпаведную доўгаграйную пласцінку, найбольш яму падабаецца апошняя баразна апошняй рэчы; і, у іншых дачыненнях, слова супярэчнасць.

**5.)** пра большасць прадметаў у сваёй кватэры бабёр можа рабіць толькі размытыя дапушчэнні, што да іх прызначэння. неяк цягам гадоў тут збіралася ўсё больш і больш рэчаў, але на што іх скарыстаць, бабёр не ведае. так вось і сядзіць ён бязрадны спаміж прыладамі для спампоўкі і шпіндзельнымі барабанамі для дыскаў; і гэта бабёр вітае, як любую праяву складанасці.

**6.)** цікава будзе паразважаць з бабром пра пафас. бабру ўласцівая такая ўява велічы, якую ў іншых звяроў зусім не сустрэць. нездарма яго, калі ўжо даваць у гэтым месцы асабістае меркаванне, нездарма яго вызначаюць як Гельмута Бергера[1] звярынага свету. за бабром ніколі няма затрымкі, калі трэба ілюстратыўная ідэя. калі бабра спытаць, а як трэба праілюстраваць артыкул пра тэмы, лучныя з сям'ёй, то ён прапануе фота сям'і з плэймабіля[2]. напрыканцы бабёр сядзіць у крэсле кіраўніка цэнтральнага офіса s.a.p.[3] у рэдмандзе, вашынгтон.

---

[1] Гельмут Бергер — папулярны аўстрыйскі кінаактор (заўвага перакладчыка)

[2] playmobil — цацачная сістэма, папулярная ў Нямеччыне. У аснове яе фігуркі з пластмасы (заўвага перакладчыка)

[3] SAP — паспяховая нямецкая кампутарная фірма, глабальны гулец (заўвага перакладчыка)

**7.)** бабёр бярэ сваю энергію з апошніх спадзяванняў вельмі маленькіх тыгранятак. на змену клімату пляваць хацеў наш чысты спадар бабёр. ні пры якіх абставінах нельга пакінуць незгаданым, што бабёр прыхільны да парочнай змены ладу жыцця. нават калі ягоныя асабістыя звычкі ўласна кажучы нікога не датычаць, і з майго меркавання ўсе маюць у свой вольны час рабіць што ім найбольш у радасць, ягонае задаванства такое надменнае, што пра яго цяжка маўчаць. ужо зрання п’яны, і гэта нярэдка, бабёр у лясах і на балотных азёрах канады завязвае вузламі розныя часткі сетак мабільных тэлефонаў, пераносных кампутараў і электрычных смажамераў у шуфлядзе ў глухі рэдказямельны клубок, і потым нібыта ён ні пры чым і нічога ведаць не ведае.

**8.)** пра бабра шмат можна сказаць благога, але пачуццё справядлівасці амаль цалкавіта забараняе гэта.

**9.)** бабру можна смела дазваляць рабіць непрыемныя рэчы. бабёр не ламае сабе тады галаву. ужо амаль усё роўна, пра што йдзецца, пра зборку ўласнымі сіламі або пра куплю ў дыскаўнтары абсталявання на ўскрайку горада — бабёр як нейкі ўрок спіхне без знешняй пагалоскі тое, што іншым будзе галаўным і проста болем, пры гэтым бабёр адно скажа авантура, амаль на адным тоне будзе чуцен баброў свіст як выразнік ягонай зацікаўленасці, і бабёр зробіць гэта сваім праектам.

**10.)** як адзіны ў сваім родзе феномен ва ўсім свеце і нават больш бабёр не дае ўціснуць сябе ў дзесяць пунктаў. усё можа быць выказана ў форме дзесяці пунктаў, але не бабёр. у бабра няма справы да людскіх рэчаў, праблемы перакладу і культуровыя адрозненні можа хіба на кароткі час прыкуюць ягоную ўвагу; калі надоўга, то яны бабра ўвогуле неўзабаве знудзяць. бабёр гэта прыток хаўны ў зямлі гесэн, і калі вы мяне спытаеце, то чаму ж не.

## пчала, патлумачаная ў дзесяці пунктах

**1.)** пчала вялікая пасяродніца. яна жыве ў сімбіёзе з цвітучымі раслінамі, людзьмі і мядзведзямі. раслінам яна аказвае паслугу ў справе апылення, людзям успамагае дабіцца да мёду, а мядзведзям яна ў комплексе служыць харчаваннем. у яе высокая сацыяльная інтэлігентнасць. у пансіёне яна ахвотна падзарабляе як пасяродніца.

**2.)** мэту пчалы надта цяжка вызначыць, і некаторыя нават кажуць, што ў пчалы ўвогуле няма мэты, і ўсё-такі ўсім яна патрэбная. пчала гэта падаткавы дарадца каралеўства жывёл, юкавая пальма фаўны і некаранаваная каралева захворванняў каранарных сасудаў сэрца.

**3.)** пчала не пераймаецца аўтарытэтамі, па суботах яна паседжвае сабе ў шэзлонгу на сонейку перад сваім лецішчам і шпокае проста так цераз плот саду коркі піўных закладных бутэлек. а вось прафесійна пчала проста-такі вартая выслоўя, так яна імкнецца і ўлягае ў працаньку. пчалу як падмяняюць, калі яна ранкам звонку зачыніць французскі замок дзвярэй свайго канцавога

дамка ў шэрагу катэджаў з сумежнымі сценамі і занурыцца ў сферу занятасці. на працы пчала сапраўдная цяглавая жывёла, дома яна любячы бацьку сямейства, адзін з добрых прыкладаў для тэлевізійных ток-шоў а-што-ўласна-выйшла-з...

**4.)** пчала, стары безнадзейны бабыль, большую частку часу марнатравіць у офісе з рэчамі такімі ж бескарыснымі як і бессэнсоўнымі. Так, яна сядзіць там на сваім файным крэсле ад боша, і сястра на ўваходзе мусіць пільнаваць, каб ніхто не ўвайшоў і не заспеў пчалу ў яе сапраўды добра пашытым касцюме 60-х гадоў за чытаннем газеты, піццём марціні і паленнем. хоць пчала і добра праінфармаваная пра наступствы для здароўя, яна паліць як поўны аўтамат-палівальшчык газонаў. калі пчала нарэшце пачынае нудзіцца, яна сустракаецца з іншымі пчоламі на такзваных абмеркаваннях у памяшканнях для абмеркаванняў. і так пчолы сядзяць там схаваныя завесаю цыгарэтнага дыму і гавораць толькі пра асабістае. рана ці позна хуткапальна выстрэльваюцца нейкія адвольныя пункты парадку дня, апасля чаго пчала кажа, што мы ўсе цяжка працуем і цяпер вось заслужылі права лыкнуць крыху, так што прастаўляйце мне, і потым скуракрылыя бухаюць аж да рання, а нянька дзяцей робіць напад на хатні бар дома.

**5.)** што пчала калі-нікалі ўсё ж вырабляе, дык гэта канцэпты. часта часткі канцэпту з'яўляюцца часткай канцэпту. пчала схіляецца да абагульненняў і безасабовых канструкцый залежнага стану і да таго, каб перабольшваць пры барацьбе са шкоднікамі пакаёвых пальм. вераб'ямі яна пуляе па бяскрыўдных тлях і клапах, колькасць выпадкаў ўжытку мер бяспекі расце, як піша пчала, праблемы мінаюць, рызыка ў сталым узросце, небяспека атачае нас, амаль што прысутная фізічна, рэчы такога роду пчала запісвае пасля таго, як доўга вывярала і ўстаўляла ў свае справаздачы факты. пчала эксперт, так як журналісты, адно толькі ніколі няхай бы не патрапіла нешта ў чые-кольвечы рукі, зробленае паводле пчаліных лякалаў, бо махлярства адразу стане відавочным.

**6.)** пчала можа бачыць гукавыя хвалі і чуць хвалі святла, але гэта яе ўласна кажучы цікавіць не больш за сам факт; да іншага яна непрывычная. ці мэтай ёсць добрае жыццё або вытворчасць добрых тэкстаў, ёсць пытаннем менш, чым дзе цяпер ёсць бясплатны шведскі стол, і дзе можна з гэтага пакарыстацца.

**7.)** калі ж аднойчы на пчаліным абмеркаванні нешта адкрыецца, то гэта будзе інтэрфэйс. пчала спрэзентуе яго ўпэўнена, і ўжо амаль будуць схільныя ёй паверыць, што мела б сэнс стварыць у інтэрнэце платформу для злучэння ў сеткі. туды ўсе змогуць апасля самі выстаўляць усе свае дамоўленасці пра сустрэчы, на адзінай цэнтральнай платформе, нарэшце ўсё зведзена ў адно і бачна, ідэю ніхто яшчэ не прапаноўваў, і заліць тэхнічна проста, пасля спампоўкі адмысловага софту трэба цалкам запоўніць сумяшчальныя з віхлястым танцам кантактныя палі перад тым, як банк сістэмных датаў дасць доступ да

правоў адміністратара, якія пчала задзейнічае інтэрфакультатыўна пасяродкам аб’явы па э-мэйлу. натуральна, усё гэта будзе падтрымана грунтоўным нэт-выступам у фармаце 2.0, а для пчалы асабліва важным будзе прасоўванне платформы ў адпаведных сацыяльных сетках, а таксама падача ў пісьмовым выглядзе як пакета з чатырох копій.

**8.)** нянавісць пчалы звернутая на навуковую дысцыпліну з найменнем біялогія, прычым пчала наўпрост адмовіла б біялогіі ў праве называцца навукай. у вачах пчалы біялогія займаецца абсалютна бессэнсоўнымі рэчамі. калі, прыкладам, біялогія даследуе паводзіны або псіхалогію пчалы, то гэта для пчалы няйначай як смяхотна. ніхто не мусіць даказваць пчале пры дапамозе статычных методык, як яна сябе паводзіць; яна гэта сама аж надта добра ведае. накапленне атрутных рэчываў у харчовым ланцужку для яе не ёсць прадметам даследавання. ці ёсць нешта атрутай для пчалы, яна пазнае са спракаветнага свайго цела. пчале надта замінае, як біялогія канцэнтруе ўвагу на гэтай адвечна аднолькавай трыядзе з паласатых даніо, гідр (сярэдняе звяно паміж адна- і шматклетачнымі ў групе грыбы павуціннікі слізістыя) і бетаклеткамі, гэтым клапоўнікам палявым заалогіі. біялогія цалкам дыстанцыюецца ад даследавання мілых звяркоў, яна ніяк не ў змозе вырашыць свае ўласныя загадкі, і тое, што яна даследуе, ляжыць на паверхні і ёсць відавочным. рашэнні біялогіі гэта толькі рашэнні праблем, якія яна сабе ставіць сама. біялогія гэта нішто іншае як мусова неадэкватная свядомасць. няма модаў, ані самазменлівых ключавых словаў біялогіі, паласатыя даніо, гэтыя клапоўнікі палявыя зоагенетыкі, гадамі нязменна застаюцца паласатымі даніо і ніколі не ператвараюцца ў гетэратопіі. біялогія толькі па-рознаму інтэрпрэтавала свой нязменны прадмет, і для пчалы яна тым самым як памерла, так і ёсць беспрадметнай. тая біялогія, якая ў тракце надыходу і якая адпавядае густу пчалы, або будзе трансцэндэнтнай, або яе не будзе зусім.

**9.)** розніца паміж аб’ектнай і метамовай пчале важная. дзе, як гэта заведзена ў праўных навуках, практыка забяспечвае поступ тэорыі фаху замест таго, каб тэорыя навукі прасоўвала сама сябе, — там ёсць уласная вобласць дзейснасці пчалы. доўга разважае пчала, чаму не мае сэнсу казаць, джон ленан, экс-бітл, бо пакуль была яшчэ германская дэмакратычная рэспубліка, датуль яна аніяк не была былой, а пасля яе разбурэння яна нават былой не была, а проста яе не было ў наяўнасці, як аналагічна гэта стасуецца і з джонам ленанам, паводле думкі пчалы.

**10.)** слухаць электронную музыку пчала нават і не пачынае. яна ўспрымае як абразу ўспрыманне сябе не як крыніцу сваіх дзеянняў. яна дастаткова саліпсістка, і з гэтага блытанага сну мы хочам вызваліць пчалу самай апошняй, можаце мне паверыць. пчала гэта небяспечная мяшанка фактараў рызыкі, малы досвед, завышаная самаацэнка і недахоп рыштунку.



# Соня Хартэр

аўстрыйская паэтка. Публікуецца з 2001 года ў літаратурных часопісах «Манускрыпты» (Manuskripte), «Ліхтунген» (Lichtungen), «коліка» (kolik) і зборніках «Штогадовік лірыкі», С.Фішэр; «Лірыка ад «Цяпер Двое» («Lyrik von Jetzt Zwei«), выдавецтва Берлін, «Улова галасоў», Residenz (Berlin Verlag, «Stimmenfang», Residenz), і на Аўстрыйскім радыё (ORF). У 2005 годзе выйшла кніга яе вершаў «босаю да сушы» («barfuß richtung festland»), у 2008 «месцы праколаў, неба» («einstichspuren, himmel») — абедзьве ў выдавецтве Лейкам (Leykam). Увосень 2015 года ў выдавецтве кайпер (edition keiper) выйшла кніга «Зваротнасць аплаты пікніку» («landpartiestorno«). Нарадзілася ў 1983 годзе ў Грацы. Жыве ў Вене.

# Супраць плыні...

***

з акцэнтам
на сыходзячае forte
адпачываць спаміж
кольцамі гадоў ды інвазіямі шкоднікаў.

пакрокава пераадольваць
боязь травы, саскрабаць
з носьбітаў гуку птушыныя крыкі.

фартысіма ў зоне адпачынку
не дазваляе хрыбет —
страх поліфрактуры.

змова лугавая, грыбная булімія,
раскрытае шырака крэшчэнда:
зваротнасць аплаты пікніку
на крэдытцы.

***

і век адное і тое пытанне,

прыма балерына бойняў:

ці заробіш кветкай
спаміж воч,

ці абсядзеш на калені,
падымаючы цэтлікі,

ці ўзаб’ешся яшчэ раз на ногі, калі ўбачыш,
што гэта была толькі надарваная
жоўтая цыдулка з гардэроба

а пасярод святло залы:
апладзіроўшчыкі за грошы, цэлафан, прыпадак кашлю.

трымаць баланс на
тросе экстанага спыну.

***

У якім рытме
            Оскар Какошка
прыбіваў бы крэслы да сцяны,
пад якім вуглом вось гэту голую шыю
            (адным штрыхом)
на смерць імгненную

ва ўніформе
ў ятры
ў ценю жанчыны
у куце яе ног.

***

смак
            свежых фігаў
            лімонніку
            акораных дарожных указальнікаў
            прабітых шынаў
            адсутных дзяцей
            неўтаймаваных спробаў да цябе датэліцца

закатаны ў гэтых вось маленькіх слоіках,
якія прадаюць яны ў музеі
дызайну і няважных спробаў самасцвердзіцца, ля касы.

***

газета загалоўнічае:
перамір’е,
без фота.

адначасова ў 28 дзяржавах
google maps выведзе
безвыняткова
на секунды
ў глухія завулкі.

бясшумна ўкручваецца дзень
у камплементарную грунтоўку.
плоймы дадзеных
сыходзяць парам.

***

з найтанчэйшых
вершаў круціш
свае цыгарэты.

склады кладуцца
хаатычна на твае
лёгачныя бронхі.

нават
кашлю
не было сёння.

***

у той час як ты, занадта
экіпіраваны хвацка,
супраць цячэння практыкуешся
ў заплывах элеганцкіх, левае
мне запалілася павека.

заўсёды левае,
і тое зацяняе вока,
якое хоча
ў полі зроку захаваць цябе.

ды рух назад
ён толькі
з берагу
заўважны.

**Фота Сільвэстра Врльжыча**



# Роберт Просэр

аўстрыйскі празаік. Вывучаў ва ўніверсітэце кампаратывістыку і культуровую\сацыяльную антрапалогію. Падарожнічаў па Азіі, арабскім свеце і Англіі. Куратар семінара Бабэльшпех дзеля спрыяння маладой нямецкамоўнай паэзіі. Аўтар рамана «Духі і татуіроўкі» (выдавецтва Klever, 2013). Мае ўзнагароды: Аўстрыйская Праектавая стыпендыя 2014\2015 г.г., Падарожная стыпендыя (Grenzgänger-Stipendium) фонда імя Роберта Боша 2014 года, стыпендыя знаходжання ў Берлінскім Літаратурным Калоквіюме, прэмія імя Райнхарда Прысніца 2014. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Альпбаху, зямля Ціроль. Жыве там і ў Вене.

# Пра каралёў і каралеў

***Урывак з рамана***

Праверыў спіс: у рукзаку восем балончыкаў, 500 мілілітраў апельсінавага колеру, зялёнага, чырвонага, сіняга, два чорных, два серабрыстых. Спакаваў пальчаткі, на шыі бандана; торк рукою — і твар захінуты. Заскрэбся ўніз па лесвіцы ў службовы праход, паверхам ніжэй метро, муры трасуцца. Паветра халаднаватае, пахне жалезам і гніллю. Глухі кут. Направа наступная лесвіца глыбей уніз, крыху ўсё гэта нагадвае старадаўнюю гульню ў аркады, як у «Персідскім прынцы» — караскаешся і скачаш, улягаеш у працаньку і бяжыш, адно што прынцэса, якую маеш уратаваць, у даўжыню некалькі метраў і важыць пару тон, і яшчэ яна неабавязкова хоча, каб я намалюкаў ёй на скуру нешта файнае. Нейкая гадзіна, потым канец працы, і на каляіне стане састаў. Перад тым, як я праз аварыйны выхад апусціўся ўніз, на пероне станцыі «Лангэнфэльдгасэ» стаялі тры паліцыянты. Адзін услухоўваўся ў гаману радыёстанцыі, так што я збочыў да грамадскай прыбіральні. Лепш зацікарыцца. Лёгкае цырлімбомканне на кожным кроку, і паколькі ты заўсёды на ўзводзе, заўсёды на шызах, адразу думка: а што, калі гэты на хвалі якраз слухае пра акцыю, якая, гадзіны не прайшло, як была на Заходнім вакзале, і там нешта кшталту: падазраваны мужчына, узрост ад дваццаці да дваццаці пяці гадоў. Мае пры сабе рукзак, у якім на кожным кроку цырлімбомкае. Дык лепш перачакаць. У неонавым святле злева тры пісуары і ў сцяне на вышыні сцягна дзірка. Над ёю надпіс: ЭДЭМ. Ад літар, набітых чырвонай фарбай, на круглае ў сцяне паказвае стрэлка. Файны кадрык, ну тады ўключаю рэжым фота, набліжэнне. Выключыць маркіроўку, на дзверы прыбіральні скінуць сваё імя. Нехта заходзіць. Напачатку паніка. Што, калі хто з паліцаяў засёк мяне і цяпер будзе правяраць пашпартныя дадзеныя? Замест гэтага з-за вугла выйшаў манах, бенедыктынец, па-мойму. Прывітанне, я яму, а ён мне: добрага вечара, сын мой. Пайшоў да сцяны, перагнуўся. Ягоны ўказальнік хуценька саўгануўся пару разоў у дзірку і назад. Каб ведаў раней, што сад Эдэм на другім канцы Святой Дзіры (Glory Hole), сказаў манах. Змераў мяне позіркам і запытаўся: «А ты што робіш?» Супраціў, адказваю. Ведаеш, хто былі першыя партызаны? спытаўся ён і сказаў: першахрысціяне, ім даводзілася спавядаць іхнюю рэлігію ў падполлі. Начамі яны шныпрыліся па гарадах такіх як Рым. Уяві сабе мармуровую статую Аўгуста, а на цокалі надпіс, нібыта ён боскага радаводу, правіцель і бог у адным, і спаміж гэтых святатацтваў хрысціянскія сабатажнікі выдрапвалі крыж, просценькая, але надта выразная акцыя, і нават калі ім больш не было чаго губляць, яны бралі малаток ды зубіла і кастравалі статуі рымскіх багоў. Манах падабраў расу, прыступіўся да аднаго з пісуараў. Я пацікавіўся, пакідалі яны адбітыя трафеі на зямлі ці бралі з сабой. Трэба

меркаваць, у Ватыкане ёсць цэлая калекцыя іх, і іх паказваюць падчас візітаў першых дзяржаўных асобаў, паразважаў манах. Або яны нешта накшталт рэліквіяў, і іх возяць ад кляштара да кляштара, ад Сірыі да Іспаніі, і калі нехта з братоў сёння ўсумніўся ў веры або ў цэлібаце, то дастае сабе векавечнага рымскага хрэна з калекцыі, раздумліва ўзважвае яго ў руцэ і згадвае, што першапачатак не мае роду.

Мабыць, ніякай іншай формы супраціву і быць не можа. З-за оссиру. Забудзься на маску, Гай Фокс належыць Уорнер Браз. Усе выдаюць на riot, але гэта ўласна кажучы купі-прадай. Можа быць, імёны, якія наносяцца на сцены, напырскваюцца на цягнікі і муры, проста больш сапраўдныя і шчырыя за буржуазныя. І зразумела, што размова пра кайф, прыгода малявання праходзіць як зварот у дагістарычныя часы: паляванне на мамантаў-хуткасных цягнікоў або мамантаў-электрычак, хаваючыся ад варожага племя ўніфармаваных. Важная слава, тытул King of the City заўсёды вакантны. Хачу ісці, крэсліць, маляваць, шукаць прыдатныя месцы, хачу чуць, як брынчаць балонікі. Ноч — гэта гульня, якая ідзе паводле маіх правілаў. Я рухаюся, думаю і адчуваю ў ёй. Усё, што я тут прадстаўляю, гэта кіч. Але патрэбна, каб заставацца ў справе. Пырсканне гэта перад усім духоўная рэч, пытанне пераадолення. Кажуць, што ты вандал, але што цягнікі размалёўвае той, хто цягнікі дапраўды любіць, пра гэта не думае ніхто. Абсалютна ўцямна гэтае, з нецярпімасцю да балончыкаў з лакам. Аднаго разу зайшоў занадта далёка ў тунэль, памылка пачынальніка, тут прыімчаўся цягнік, і я дарма бег, занадта павольна, так што кінуўся на шчабёнку, колы ў сантыметрах ад галавы, увесь цягнік адна белая ўспышка, святло з купэ толькі так цак-цак-цак міма, ярчэй нельга.. Няйначай хуткі міжгародні. У жываце не праходзіла смактанне, але я ўжо падводжу ў галаве першы баланс, яшчэ магу даць сабе рады: прыдуць рабочыя-аглядчыкі, сек'юрыці прыйдзе з сабакамі, камеры паўсюль, і наогул заўтра ў восем на лекцыю, заўтра іспыт, чаму дзеля ўсяго святога на свеце не патэлефанавала яшчэ Сара, або зашмат ляжыць снегу, або пікнік са смажаннем мяса быў на востраве на Дунаі, або дах занадта высокі, або тунэль занадта цёмны.

Толькі раз я быў на жорсткай пратэстнай акцыі. У Босніі, у Тузле. Ідэя Сары. Хачу яшчэ разок туды, сказала яна мне, распавядаючы пра свае планы на семестравыя вакацыі. А 18-й мы ад’ехалі ад станцыі Эрдберг, Вена. Аўтобус, поўны тых, хто штодня дакладна а 18-й рознымі шляхамі выпраўляецца ў Сараева або Зворнік або Мостар. Мы селі ў аўтобус праз Баньо Луку, добрых восем гадзін начнымі аўтабанамі, і не пабачылі ад Славеніі ды Харватыі нічога акром гукаізаляцыйных сценак і туману. Гэты лютаўскі дзень 2014 года ў Тузле быў поўны прэм'ерамі. Для нас абодвух гэта быў першы riot. У Тузле мы спыніліся ў Вяхіда і Рэфікі, стрыечнай сястры Сарынай маці, ...і Сара надта здзіўлялася пераменам, якія адбыліся з Ісметам, сынам абодвух, крыху старэйшым за нас. Пад дваццаць, з дзіцячым тварам, але нацяганы ў кік-боксінгу, авохці мая рожа. Нік: Тыгр, назваўся ён нам. Калі заходзілі, было ў мяне ў жы-

ваце непрыемнае адчуванне нечага такога. Выйшлі з аўтобуса, памасіравалі здраўлянелыя патыліцы. Рукзак на спіну і на выхад да паркоўкі, дзе чакаў на нас Тыгр, і ў мяне было адчуванне, што мы рухаемся ў электрамагнітным полі. Сонечныя прамяні разразалі халоднае паветра, здалёк чуваць былі сірэны, я адчуў, што гэта не я нервуюся, што гэта горад такі, гэта ад яго такое адчуванне напружання. З учорашняга дня доўжыцца антыўрадавы пратэст, патлумачыў Тыгр і паказаў у бок высокай шэрай спаруды. Там праходзіць акцыя, сказаў ён, пры нагодзе маглі б паглядзець.

Ён браў нас на вечарынкі ў хобі-падвальчык або на дах жылога шматпавярховіка, і там нам, загінаючы тры пальцы, тлумачылі, што такога асаблівага мае ў сабе Тузла: горад, які дваццаць гадоў таму ў вайну сам паспяхова абараніўся ад сербскай арміі. Горад на ўсходзе Босніі, жыхары якога ісламскага, харвацкага і сербскага паходжання змагаліся разам. Горад, дзе цягам дзесяцігоддзяў ужо спавядаюць рэп і графі. Падчас адной з вечарынак Сара паклала рукі мне на плечы, удыхнула водар траўкі і з духмянага воблака прамовіла: табе тут па-сапраўднаму добра, праўда? І яна мела рацыю, мне падабаліся таргатлівыя ролікі з вакацыяў на смартфонах, знятыя на задніх дварах з удзелам усёй каманды, грубая мова, жарсная плынь, як быццам рэп адскочыў назад на Бруклін пачатку 90-х, каб пачаць нанова і гэтым разам зрабіць усё, калі не па-сапраўднаму, то хаця б інакш, і мне падабаліся незлічоныя графі на вулічных мурах. Мяркую, што графіці падпарадкоўваюць сабе штодзённасць, вышчэрбліваюць яе, утвараюць у ёй катакомбы.

Уяўныя бункеры, дзе нашае alter-ego святкуе свабоду ў рэжыме nonstop. Ніхто не ведае, што я або ты існуем за гэтым вось радком. Прыкладам, кожны сантыметр Вены ўжо -наццаць разоў пакрывалі малюнкамі, здрапвалі, замалёўвалі белым. Некаторыя графіці не прабудуць і гадзіны. Жао, адзін з ветэранаў, назбіраў дома -ццаць кардонных скрынак з фатаграфіямі. З 1995 года і да сёння ён абшуквае Вену са стужкавым фотаапаратам і можа абсалютна дакладна табе сказаць, хто, калі і ў якім раёне хадзіў, або і па ўсіх вуліцах, хто на якой каляіне быў галоўным або якая там уся Вавілонская схема, хто над кім. Горад плыве над фарбамі і імёнамі і падвойнымі жыццямі, табе не застаецца нічога іншага, як зноў выйсці, зноў ускараскацца або апусціцца кудысьці ўніз, rewind selecta, чарговае выпрабаванне мужнасці: чакаеш, калі ад'едзе электрычка метро, і тады следам за ёй, па-за люстэркам, у якім машыніст кантралюе перон, зважаць на рэйку пад напругай і камеры назірання, здаралася ўжо, што з прыхаваных дынамікаў гарлаваў ахоўнік, які дзесьці там мае цябе на маніторы. Каб цябе чэрці дралі, лазіш тут! У тунэлях і шахтах іду паўз графіці, якія гадамі ўжо красуюцца тут. Тут, у нішах сістэмы метро, блішчаць серабром імёны даўно зніклых каралёў і каралеў.

Падчас вечарынкі ў Тузле завадны народзец весяліўся назло лютаватаму холаду. Смяяліся з таго, што Сара і я з'елі мясныя рулецікі з абгорткаю, а не піхалі іх сабе ў рот з хлебам. Дзяўчаты паднялі шклянкі і закрычалі we

are crazy, we like to party, а хлопцы напрыканцы спабору на хуткасць чмыхалі насамі як суркі земляныя ў знак трывогі. Тыгр распавядаў мне пра стрыечнага брата з Прыжадора на поўначы Босніі, даўгавалосага героя гарадской моладзі, таму што быў ён таленавітым гітарыстам. Пальцы яго левай толькі так таньчылі па струнах, усё роўна, ці граў ён музычную закавыку на дзень нараджэння бабулі, калі сядзелі папалудні за накрытым сталом, або гэта былі цыганскія рытмы ў позні час, калі бабуля даўно ўжо спала. Чатыры гады запар трэніраваўся яго стрыечны, так казаў Тыгр, пакуль не навучыўся медыятарам кранаць кожную струну паасобку. У гэтым палягала ягонае майстэрства, медыятар у ягоных пальцах працаваў з міліметровай дакладнасцю, і гэтыя міліметры вырашалі якасць гуку і змушалі струны гучаць адрозна. Пры сустрэчах Тыгр услухоўваўся ў выкладкі стрыечнага, маўляў, ён можа стварыць музыкай сферычную прастору, якая супакоіць кожнага чалавека, які пераступіць нябачную мяжу гэтай прасторы і падпадзе пад уплыў яго фанку або блюза.

Людзі дзейнічаюць як рэзанансныя целы, іхнія косці, валасы, вейкі, пазногці, вусны, кожная клетка паглынае ваганні і рэагуе на іх — так ён думаў. Увесну 1992 года яго забралі, допыт, нічога болей, казалі тыя ва ўніформах, праз якіх дзве гадзіны мы яго прывязем назад. Ён не прыйшоў дахаты ні тым вечарам, ні ў наступныя пару дзён, і калі ўцёкі сям'і за мяжу нельга было ўжо прадухіліць, ягоная маці ўзяла гітару з сабой, бо была перакананая, што сын з-за паклёпу або бюракратычнай памылкі сядзіць у турме, і хутка непаразуменне ягонага арышту высветліцца, і ён прыб'ецца да іх. Гітара цяпер напэўна пакрываецца пылам на вышках дзесьці ў Швецыі, сказаў Тыгр.

Адзін прыціснуў мяне да грудзей, прамямліў заікаючыся you are from Austria, тыцнуў мне ўказальнікам у грудзі, і like you Nazis, а я прымяніў тую маласць баснійскай мовы, якую схапіў па вярхах, адказаў јеремpi і адпіхнуў яго, з пагардай і фанабэрыста з таго, што ніколі не атрасешся ад гэтага нацысцкага гаўна, гэта ж у галаву не ўлазіць. Ён зусім быў збіты з панталыку, не ведаў, як рэагаваць, а потым пачаў рагатаць, ва ўсё горла, пачырванеў увесь. У Вене, па дарозе да Сары, на зорцы Пратэра я ішоў міма тумбы для аб'яў, там была інсталяцыя ў напамін пра праследаваных у 1938 годзе яўрэяў. На ёй фота гарлаючага натоўпу, які атачыў двух людзей, тыя кленчаць на асфальце. Дададзены артыкул з газеты распавядаў пра пару старых яўрэяў, якіх тут, пры помніку Тэгетгофу, змусілі сціраць з асфальта надпісы за Шушніга. Сталага веку жанчына паглядзела на фатаграфіі і пацікавілася, ці я з Вены. Толькі што, сказала яна па-англійску, была я пры закрытай паркавай браме, глядзела пасля гадзіны закрыцця праз краты агароджы на падстрыжаныя дрэвы, на луг, перакрэслены больш светлай стужкай пасыпанай жвірам сцежкі, воддаль дзве цёмныя, масіўныя спаруды, якія ў турыстычным буклеце абазначаныя як вежы зенітнай артылерыі. Яна засталася, не ведаючы, што прынясе з сабой разглядванне будынкаў, якія падаліся ёй такімі сама няпэўнымі і расплывістымі, як комін, які курыўся далёка ў перспектыве. Напэўна, завод па спальванні

смецця, уставіў я. Нарэшце яны шпацыруючы дайшла да гэтага скрыжавання на Пратэры, дзе ёй натрапіла на вочы тумба з чорна-белымі фота. Ці магло гэта быць выпадковым, што менавіта ёй, цягам шпацыру па Вене, натрапілася гэта, спыталася яна. Яе бацьку, малодшаму сыну яўрэйскай сям'і з Венскага Другога раёна, у 1938 годзе ва ўзросце адзінаццаці гадоў удалося ўцекчы дзякуючы таму, што ён трапіў у групу дзяцей, якіх кампактна перавезлі ў Лондан. Ён ніколі шмат не згадваў пра Вену, адзінае, што яна ведала, гэта што ён вырас паблізу Наварскага завулка. Мне яна сказала, што ўпершыню тут, і што абыходзіць усталяваныя ў асфальце помнікі з невялікім спадзяваннем знайсці спаміж увекавечаных цёмным золатам імёнаў выгнанцаў і забітых яўрэйскага паходжання тых сваіх дзядзькаў і цётак, пабачыць дом, з якога былі вывезеныя яе сямейнікі, і тым самым набыць гісторыю, якую перажыў яе адзінаццацігадовы бацька і якую яна ці зразумела. Яна сачыла вачыма за маім пальцам, які паказваў ёй колішняе знаходжанне былога Паўночнага вакзала, адкуль ад'язджалі цягнікі ў лагеры смерці. Яна сама быццам вісела ў паветры, патрапіла паміж часамі. Яна сама чорна-белае фота, на якім бачная жанчына, апранутая паводле моды 21-га стагоддзя, якая сунецца па Вене 1938 года, і ў яе вачах адбіваюцца дзве зенітныя вежы.

У групоўцы Тыгра былі сербы, харваты і баснякі, што нам падавалі як цікавостку, але я не мог разабрацца, хто куды належыць, зашмат давялося паціскаць рук, зашмат было твараў, нік Шчур, нік Ліс, і ўвесь час сцішаныя размовы, што за небяспечны гэты раён з назовам Ступінэ, і якія гасцінныя ўвогуле баснякі, што ён вывучае германістыку і спадзяецца на месца ў аўстрыйскім універы або яшчэ лепш у нямецкім, я чуў пра тры месяцы жыцця ў лепшых колерах, дзякуючы Шынгенскаму пагадненню, у родзіча за мяжой, у Гамбургу, Капенгагене або Лінцы, а цяпер трэба чакаць наступныя тры месяцы, наступную вечарынку, наступны футбольны матч. Басняк, які шмат гадоў як жыве ў Грацы аўтамеханікам і так, як мы, быў тут нядоўга, заявіўся з упакоўкамі піва Бек, і так як ён сябе падаваў, Грац мусіў быць сталіцай, ён купаўся ў асалодзе адпачынку і патаемнай зайздрасці наконт ягоных фірменных джынсаў і скураной курткі. Ё..., сказаў Тыгр, гледзячы на яго, нахалеру з'язджаць, нахалеру куды, калі рожа ў люстэрку ўсё роўна будзе твая, усё роўна, дзе б ты ні быў, ё..., і ён шпурнуў поўную пляшку Бека цераз дах прэч.

Калі мы ўначы палілі на балконе цыгарэту, Сара сказала, што яе маці Аніза вырасла непадалёку. Дванаццаць гадоў, сказала яна, дванаццаць гадоў, і сцішылася, як быццам думка, якая прыйшла ёй у галаву, мусіла даспеліцца да правільнай формы. Дванаццаць гадоў, пачала яна зноўку, маёй маці тут не было, можаш ты гэта сабе ўявіць ці не, у 1992 годзе яна ўцякла ў Аўстрыю і толькі ў 2004 вярнулася на адведкі, а да гэтага ёй нельга было ні на аўтобусе ні на самалёце. Чаму ж гэта ёй трэба было дванаццаць гадоў, каб вярнуцца ў родную вёску, у гэтае маленькае паселішча на схіле гары, дапытвала сябе Сара. Расповеды Анізы акрэслілі значную частку карціны Босніі, якую яна мела

ў галаве. Хіба гісторыі са штогадовага кірмаша, дзе падскоквалі з ляскатам угору жалезныя крэслы каруселі, ехалі вялікім кругам, а ўласна мэтай паездкі на Рынгльшпілі было збіць з троса аксамітавага мішку, які вісеў на шыбеніцы, што высілася збоку. Напачатку за Анізай сядзеў бацька, потым, калі ёй было пятнаццаць ці шаснаццаць, хлопчык, які да яе заляцаўся, і як бацька, так і яе прыхільнік хапаліся за спінку яе сядушкі і нагамі выштурхоўвалі яе з маршруту ездакоў каруселі, каб ёй праз гэты дадатковы імпульс вымкнуцца далёка над шарамі і барбекюшніцамі з мясам, музычнымі гуртамі і прадаўцамі вопраткі і выхапіць мішку, дзеля чаго яна высоўвалася з крэсла, вісела амаль гарызантальна, сапраўды амаль летучы і так неслася скрозь паветра. Але былі і іншыя гісторыі. Бабуля Сары шмат гадоў таму назад памерла ад хваробы сэрца, дзядуля прапаў без вестак у вайну. Ён згубіўся, калі ў 1992 годзе на вёску напалі і спалілі яе сербскія ўзброеныя фармаванні. Яна сама выратавалася, а вось бацька Анізы з таго часу лічыцца прапалым без вестак. Праз больш чым дваццаць гадоў пра яго ні слыху, ні духу, ні вопраткі якой, ні косткі, анічога, што хаця б пацвердзіла смерць і было б падставай падвесці рысу. Яна ўсё яшчэ чакае, сказала Сара, што хто-небудзь патэлефануе і паведаміць ёй, што яго знайшлі. Гэта справа сям'і, ці задаволяцца яны толькі галавой або нагой, сказаў Тыгр. Ведаеш, які працяг быў у гісторыі з маім стрыечным з Прыжадора,спытаў ён і сказаў, яго знайшлі пару гадоў таму назад, у перарobленай на брацкую магілу закінутай шахце. Адзін з тых, хто быў тады падручным і закопваў яму, прагаварыўся наконт дзе, згрызоты сумлення або разлік, што возьмуць у Гаагскую праграму абароны сведкаў, але, як сказаў Тыгр, ад стрыечнага знайшлася толькі канцавіна, а менавіта правая рука. Акурат правая. Якою ён, калі быў жывы, медыятарам з міліметровай дакладнасцю трапляў па струнах, і гэтую руку за ўсяго стрыечнага пахавалі ў дамавіне. Шэсць ці сем гадоў таму назад, на 1-га траўня, калі ўся дыяспара прыходзіць у рух, прыязджае з Аўстрыі або Швецыі, і іхныя Мерсы або чацвёртыя Аўдзі закаркоўваюць рух на памежных пераходах, Сара з бацькамі наведала родную вёску Анізы. Адведкі, якія асабіста яе зусім не цікавілі. У чатырнаццаць і па вушы закаханая, распавядала Сара, а сябру-задніцы было ўсё роўна, што яна на тыдзень ад'ехала. Непасрэдна перад мэтай падарожжа Аніза каротка пастукала па бакавой шыбе, там насупраць, паказала яна на поле, увесну ставілі Рынгльшпіль. Рыхард, бацька Сары, балбатаў нешта пра надвор'е і прыгожую прыроду, або паказваў на дарожныя знакі прыпаркаваных ва ўездах аўтамабіляў. Вось з Леобэна, крычаў ён, а вунь з Лінца, а там БМВ з зальцбургскімі нумарамі. Вёска рабіла на Сару такое самае сумнае ўражанне, як і дарога сюды, з Тузлы праз горы, з парай нейкіх гаспадарчых халабудаў на стромкіх лугах. Ля адной з садовых агароджаў Аніза ўзяла Сару за руку і моцна сціснула. А ў той хлапец у галаве, не адказаў ні на водную з эсэмэсак, дык і ніякай узаемнасці на маміны сентыментальныя жэсты, але незвычайна моцны поціск не пакідаў сумневаў, што Анізе думалася пра нешта важнае, і

сапраўды, яна кажа: тут я вырасла. Як і ўсе іншыя, гэта быў развалены дом, ні малога разумення, хто там у ім жыў, Мум прадаў яго, шкада, сказала Сара, інакш у нас цяпер быў бы дамок на выходныя, але я амаль не слухаў, мне замінала, што яна згадала свайго першага сябра, ды... Сара скардзілася, што маці павяртае размову на ранейшыя тэмы, калі гаворыцца пра яе мінуўшчыну, і згадваюць пэўны яе пункт. Аднаго разу Аніза ўзяла яе з сабой у цэнтральны офіс Чырвонага Крыжа непадалёку ад Карлавай плошчы, у файе там ляжала вялікага фармату кніга, выдадзены Чырвоным Крыжам пералік усіх згінулых без вестак вайны ў Босніі. Набраныя цесным шрыфтам тэксты, распавядала мне Сара, тысячы і тысячы асобных лёсаў у радках і абзацах, ад Ахмічы на старонцы 1 да Цворніка на старонцы 300. Старонка за старонкай зніклых без звестак Срэбраніцы і Сараева, дадатковая глыба ў масе дадзеных, іншыя населеныя пункты ў параўнанні з імі мелі максімум чатыры-пяць унёскаў. Аніза дагарталася да пэўнай старонкі. Яна паказала на імя Сарынага дзядулі, на яго дату народзінаў, дзень знікнення. Наступны пасля яго запіс меў прыкладна такі сама выгляд. Той самы населены пункт, тое самае прозвішча, нават той самы год нараджэння. Імя было адзіным насамрэч важным адрозненнем: Імрэ. Імрэ Ішавіч. Наш сусед, патлумачыла ёй Аніза. Ён таксама ўцёк, тады, калі на вёску напалі. У лесе над дамамі яна яго яшчэ бачыла, але відавочна сербы схапілі-такі яго. Аніза занесла кнігу назад, аддала парцье, і калі Сара пачала ўпрошваць распавесці больш, пра дзядулю і суседа і напад, яна рэзка абарвала. Не, сказала яна, на сёння даволі старых гісторый.

На пратэстныя акцыі ў Тузле нас узяў бацька Тыгра Вяхід. Плошча перад урадавым будынкам была пад асадай, гаворыцца пра банкруцтва фірмы і пра тое, што так далей не можа працягвацца, сказаў Вяхід, ні ў кога няма працы, а калі і ёсць, то не выплачваюць болей заробкаў. Раней Тузла была прамысловым цэнтрам, але цяпер усё пайшло ў задніцу, гарачыўся ён, фабрыкі належаць або рускаму для адмывання грошай, або за ўсім сядзяць славенцы, да якіх Вяхід ставіўся як да нулёў, бо яго рахунак у славенскім банку з пачаткам вайны закрылі, і з таго часу зберажэнняў няма, проста зніклі немаведама куды. Вяхід выкрыкваў лозунгі і на наступным удыху распавядаў нам, што нічога не дапаможа, хай сабе ўрад і памяняецца, так, але з-за карупцыі ніколі нічога не пераменіцца. Рука Сары ў маёй, нас штурхаюць, торгаюць, мы нічога не бачым акрамя людзей наўпрост перад сабой, сіняга неба і дыму, які падымаецца ад будынка, смех, праклёны, незразумельшчына, уласна кажучы, народны фэст, сціснутыя кулакі, ідуць на штурм, нападаюць, каб паказаць, што не дазволяць уцюхаць сабе што заўгодна, вось пра што йшлося, паставіць кропку і сказаць: так далей не пойдзе, больш не, межы нельга пераносіць, ну хіба размазаць, так. Праз адно з вакон быў відзен агонь, з верхняга паверха ляцелі ў посвіст і гвалт унізе крэслы, паперы луналі ў паветры як галубы. Тыпус, якога мы ведалі з вечарынкі на даху, прашкалдыбаў міма, над левым вокам разбіта, але ўсміхаецца, хапае іртом паветра, расшыраныя адрэналінам зрэнкі, крычыць,

паліцэйскі заслон прарвалі, штурмуюць будынак. Над плошчай павеяла смуродам слезацечнага газу, гаўно справа, асабісты пайшлі, вакол нас цісканіна і рух назад, цераніна і напіранне ў плечы. Выстрэльваюць газавыя гранаты, у адказ град каменняў і бутэлек, і ў натоўпе, які, як я даведаўся пазней, налічваў каля дзесяці тысяч, людзі, якія баяцца, крычаць або смяюцца, я спрабую зразумець, што там здарылася, што адбываецца, даўно ўжо няма Вяхіда, але рука Сары шчытна ў маёй, не адпускай мяне, чуеш, крычыць яна.

Заціснутыя паміж іншымі, здушаныя, адчувалася, што ўсё набліжаецца да кульмінацыі, Баснійская вясна! пачаў скандаваць адзін, і многія ўскінулі рукі ўверх. а потым разлегліся апладысменты, хваля эйфарыі, спрычыненая спешна распаўсюджанай навіной, што аддзел асаблівага прызначэння перайшоў на бок пратэстоўцаў, і паліцэйскія таксама, неверагодна, будынак гарэў, дым, густа-чорны, са сполахамі, чырванню, а потым адно толькі ўсеагульная радасць, як быццам бы гэты момант ніяк не мог кончыцца, але гэта Тузла, думалася мне, падманлівая ідылія, можна аж вось колькі распавядаць, як прыўкрасна і мульці-культурна тут, Тузла — гэта асушаная Блакітная Лагуна, як шмоткі «Найк» або яны самыя ад «Адзідас», усё фальш: вопратка, смартфоны, сляды сажы, усё фэйк, улучна з момантамі, калі ў палітыкаў або з дахаў ляцелі піўныя бутэлькі, а летуценні ўздымаліся высока, што ні ўзмах крыламі, то fuck, fuck.

**Фота Лены Прэгаль**



# Анна Вайдэнхольцэр

аўстрыйская пісьменніца. Вывучала параўнальнае літаразнаўства ў Вене і Вроцлаве, сумяшчала вучобу з працай у аддзеле хронікі рэгіянальнай газеты. З 2009 года публікацыі ў літаратурных часопісах і зборніках, у 2010 годзе з'явіўся зборнік апавяданняў «Сабачае месца» («Der Platz des Hundes»), у 2012 годзе раман «Зімой рыбам добра» («Der Winter tut den Fischen gut»). Увосень 2016 года запланаваны выхад рамана «Чаму спадары носяць марскія зоркі» («Weshalb die Herren Seesterne tragen»). Мае ўзнагароды: 2009 — прэмія імя Альфрэда Гасвайна, 2011 — творчая стыпендыя ў замку Віперсдорф, 2012 — творчая стыпендыя Берлінскага Літаратурнага Калоквіюма, прэмія імя Райнхарда Прысніца, 2014 — Літаратурная Праектавая стыпендыя, 2015\16 — творчая пісьменніцкая рэзідэнцыя ў Нямецкім Доме ў Нью Ёрку. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Лінцы. Жыве ў Вене.

# Востраў

***Урывак з рамана***

Я п’ю з далоняў і таньчу нагамі, кажа Ганс, глянь сюды, вось ён я, там няма на што глядзець. Пластыкавую пляшку нясе вада паўз бераг, і Рыхард кажа: Сёння яна плыве хутка. Не хутчэй, чым учора, кажа Ганс, у вадзе ты не знойдзеш адказу, глянь цяпер сюды. Ведаю гэта, адказвае Рыхард, сядае прама, як ты мог бы піць без рук, толкам папіць піва немагчыма без рук, а ты ўсё пра гэта і пра гэта. Бо рады, што маю рукі, кажа Ганс, у маім узросце гэта не само сабой зразумела. Рукі ж у большасці ёсць яшчэ, кажа Ганс, у кагосьці няма пальца або двух, і рэдка бывае, што няма, а калі ўжо гэта так, то гэта ў цесляў, якія пакідаюць свае пальцы, не ў агентаў продажу нерухомасці. Ты паняцця не маеш, кажа Ганс і робіць глыток, якое небяспечнае жыццё. Яшчэ ёсць бляшанка, хочаш? Давай не будзем рабіць тут піўны садок, прапануе Рыхард. Не, кажа Ганс, цяпер яшчэ не, у цябе бруд на пузе, вытры. Рыхард глядзіць на жывот, а Ганс б’е яму па галаве.

Ганс і Рыхард у плаўках сядзяць на дунайскім востраве. Канец тыдня, дастаткова цёпла. Дастаткова цёпла, а тут трэба піва астудзіць, кажа Ганс. Востраў — гэта жыццёвая прастора, сказаў ён у панядзелак, калі распавядаў кветачніцы ў Трэцім раёне, як правёў канец тыдня. Як кветкам патрэбная іхняя зямля, так нам патрэбен наш востраў. Ага, адказала яна, у адказ на што Ганс запытаўся: А ці Вы былі на востраве, гэта ж недалёка адсюль, якая частка Вам больш даспадобы. Колькі там часу, ці не ведаеце, кліент даўно ўжо павінен быў быць тут, а ці не хочацца Вам глянуць на кватэру, трэцяе вакно справа, мезанін, але тым не менш не цёмна, маленькая кватэра з улучаным паддашкам, што Вы толькі ні маглі б там схаваць. Ён засмяяўся. Вы разумееце, што я маю на ўвазе, сказаў Ганс пасля таго, як кветачніца не засмяялася. Яна пахітала галавой. Вы можаце схаваць там усяго многа. Кветачніца паглядзела на яго доўгім паглядам, потым пачала папраўляць кветкі, якія стаялі перад крамай пад жалюзі, яна паабрывала ім вялыя лісты.

Рыхард б’е ў адказ. Ганс устае, пацягваецца, пазяхае, пры гэтым кладзе адну руку на жывот. Ты мусіш скінуць вагу, кажа Рыхард, не магу на гэта больш глядзець. Мы не жанатыя, кажа Ганс, пакуль яшчэ бачныя плаўкі, няма прычыны пераймацца. Ты так думаеш, пытае Рыхард, ты пэўны. Пуза належыць да мужчыны як Дунай да вострава, кажа Ганс, ён глядзіць налева, дзе заходзіць у ваду жанчына. Яна не карыстаецца лесвіцай, перад якой сядзяць Ганс і Рыхард, а выпраўляецца ад берага па вялікіх камянюках, слізкіх ад водарасцяў. На другім кроку яна выслізгваецца, бярэцца рукой за камень, той валюхаецца, і яна страчвае пад сабой дно. Яна робіць пару ўзмахаў, плыве, потым дае

плыні несці сябе на спіне. Я зараз вярнуся, кажа Ганс. Рыхард запальвае цыгарэту, указальнікам ён паўтарае абрысы татуіроўкі на перадплеччы. Трус, які выглядвае з капелюша чараўніка. Правае вуха крывое. Пра тое, што ён торгаўся, калі тату набівалі, Рыхард не распавядае. Ён кажа: татуіроўшчык быў п’яны, калі яго нехта пытае, чаму правае вуха крывое, але яго рэдка пра гэта пытаюць.

Цікава, кажа большасць, калі яны хоць што кажуць, або: ты што, вар’ят. Ганс кажа: табе патрэбная жанчына, на што Рыхард адказвае: Хачу толькі такую, якая магла б чараваць. Дык напішы хіба аб’яву, кажа іншым разам Ганс, калі Рыхард тэлефануе два дні запар. У цябе ёсць цяпер час або не, адказвае тады Рыхард пасля кароткай паўзы. Рыхард назірае за сям’ёй побач, як бацькі нацягваюць дзецям плаўкі. Яму не хочацца, каб сям’я думала, што ён будзе падглядаць, як дзеці пераапранаюцца.

Справа каля лесвіцы за бераг прымацаваны пластыкавы плот, сходні вядуць да платформы на вадзе. Большасць пантонаў на востраве маюць лесвіцы, па якіх можна камфортна дайсці да вады, толькі ў нашага яе няма, кажа Ганс, калі распавядае, як яны бавяць выходныя. Тым не менш мы ўдзячныя гораду Вене, пантоны на вадзе палягчаюць доступ да яе. Шукайце пантоны! Пантоны для плавання, пра такое размова не йдзе, кажа Рыхард, калі ён паблізу. А што напісана на шыльдах, адказвае тады Ганс, дык горад Вена бадай што ведае, як яму апісаць тое, што ён робіць. Пачытай пайдзі. Дзеці каля Рыхарда апранутыя цяпер у плаўкі, і Рыхарду дзіўна, чаму сям’я купаецца тут, дзе глыбока, а не на сямейным пляжы. Гэта прыбышы нейкія, бадай што, думае ён, тушыць цыгарэту аб траву і пераварочваецца на жывот.

Ганс мерае крокамі праменаду ў некалькіх метрах ад Рыхарда, ён выглядвае, дзе купальшчыца, дзе яна вынырне з вады. Ён мяркуе, што дзесьці каля месца, дзе ляжыць яе рушнік. Там Ганс сядае, скрыжаваўшы ногі, кладзе рукі на калені, глядзіць услед купальшчыцы. Калі ён заўважае, што яна яго бачыць, і адварочваецца, каб праплыць на пару метраў больш назад, ён перасядае туды. Нейкая пара сядае на лесвіцы, адразу перад тым, як сюды прыйшоў Ганс. Ён кляне іх сабе пад нос і вяртаецца да Рыхарда, кажа: удалося ёй сысці ад мяне. Рыхард застаецца ляжаць на жываце, шкада, мармыча ён у свой рушнік. Абудзіся, кажа Ганс, на востраве нельга спаць.

У панядзелак кветачніца паадрывала ў кветак вялыя лісты, потым прычапурыла квецень. Ганс сказаў, Вы можаце там схаваць усяго многа, што Вам толькі захочацца, што ёсць Вашай таямніцай. Ён падміргнуў кветачніцы, яна працягвала прычапурваць кветкі. Вы ведаеце, што я маю на ўвазе. Кветачніца трымала ў руках вялыя лісты і пялёсткі, павярнулася, каб пайсці. Ганс пабачыў радзімку на яе перадплечча, ён падумаў пра сваю радзімку, ён сказаў: сумежная прастора з дахам, антрэсоль, яны такія вялікія, што Вы можаце хаваць там трупы, яшчэ туды не заглядваў, не хацелася б мне ведаць, што хаваў там папярэдні жыхар. Ганс засмяяўся. Дык мне паказаць Вам кватэру, яна была

б Вам тое што трэба, побач з працай. Кветачніца сказала: прабачце, і зайшла ў краму.

Ты спіш з адкрытымі вачыма, кажа Ганс, але толькі крыху, так што бачныя бялкі. Калісьці твае вочы высахнуць. Засохнуць, як кветкі кветачніцы, калі яна іх не палівае. Кветачніца завівае валасы ў кудзеркі, але не штодня. У кветачніцы карычневыя вочы. У кветачніцы маленькія рукі. Перастань, кажа Рыхард, не магу больш слухаць пра яе, пакінь, Ганс. У чацвер у яе была кароткая сукенка, бо было спякотна, сукенка была кароткая, але прыстойная, закрывала калені. Тады яна не была кароткая, кажа Рыхард у свой рушнік, кароткая заканчваецца шмат вышэй. З жанчынамі гэта як з кватэрамі, кажа Ганс, добрыя хутка разыходзяцца, калі ўсталяваўся, цяжка выехаць, з гадамі набягае недахопаў. Перастань, кажа Рыхард, дай спакою. Ён пераварочваецца, сядае наўпрост. Хачу піць, пайшлі ў піўны садок, паплаваем пазней. Добра, кажа Ганс. Хадзем.

Перш чым выправіцца, Ганс і Рыхард перакінулі свае рушнікі цераз плячо. Ганс уступіўся ў сандалі, Рыхард ідзе босы, але нядоўга, потым пачынае сварыцца на камяніцу і аскепкі на дарозе. Абодвум важныя рушнікі, на іх яны сядаюць, калі дасягаюць піўнога садка. Бо піўныя лаўкі занадта цвёрдыя, бо ад іх адбіткі, заяўляюць абодва, калі нехта пытае, а навошта. Два, кажа Рыхард афіцыянтцы на раздачы, тая ківае. Рыхард глядзіць на Ганса, як той адным дыхам выпівае паўлітра піва. Будзеш так смактаць, дык таваё пуза вырасце табе яшчэ больш, кажа ён. Мы не жанатыя, кажа Ганс, ён крыху ўцягвае жывот. Ён сядзіць на лаўцы збоку, так, што ягоныя ногі дакранаюцца да зямлі злева і справа. Ён не паварочваецца да стала, у той час як Рыхард сядзіць за сталом наўпрост насупраць. Куды глядзіш, пытае Рыхард. Ва ўвесь свет, адказвае Ганс.

На мінулым тыдні Ганс штодня да часу прыходзіў у Ільвіны завулак. Ён прызначыў агледзіны кватэр на такі час, што кветкавая крама была адчыненая. Ён казаў зацікаўленым: тут хутка плесні поўна будзе, суседзі шумныя, проста цяпер няма дома, Вы ж бачылі, у якім стане лесвічная пляцоўка, то ведаеце, як вядзе дом домакіраўніцтва. Кажу Вам гэта, не больш, вырашаць жа Вам самім. Кветачніцы Ганс штодня распавядаў пра востраў. Пра пантоны, пра маладыя парачкі, пра падлеткаў, якія скачуць у ваду, нават калі занадта холадна. А трэба асцярожна, казаў ён, інакш сэрца можа спатыкача даць. У сераду сукенка кветачніцы адкрывала плечы. У Вас прыгожыя плечы, хацеў сказаць Ганс, але пачаў распавядаць пра Рыхарда, сказаў: ён нам не будзе замінаць, ён і сам сябе можа заняць. Тады ён ляжыць на жываце і разважае пра магічныя трукі, ці дапраўды ён можа іх рабіць, я вядома дык не ведаю, чаму. Далей працягваць Гансу не атрымалася: у краму прыйшоў пакупнік. Што мне можна было б Вам прапанаваць, спытала з усмешкай кветачніца, і Ганс падумаў: вось як трэба падыходзіць да справы.

Рыхард кажа, што свет дастаткова вялікі. Для чаго, пытае Ганс. Для нас, адказвае Рыхард, для мяне, для цябе і твайго пуза. Ганс маўчыць, потым кажа: чаму ты ў такім паганым настроі. Магічная крама зачынілася, кажа Рыхард праз хвілю, разам устае, падцягвае плаўкі. Завязка, кажа Ганс і паказвае на Рыхардавы плаўкі. Дзякую, кажа Рыхард. Нечакана гэта настала, цераз дзень, хацеў яшчэ купіць гільяціну для рук, цэлы месяц заашчаджваўся. Ганс адпівае глыток, шкада, кажа ён, пытае: што ты хацеў купіць? Гільяціну для рук, кажа Рыхард, гэта любімы трук. Знаходзіш сабе, каго ты хацеў бы пакараць. Просіш яго падняцца на сцэну і паказваеш, як гільяціна нарэзвае агуркі і моркву. Тады просіш яго, каб прасунуў руку ў верхнюю дзірку, у ніжнюю па-ранейшаму кладзецца морквіна або агурок, можна ўжыць і кабачок, баклажан, сельдэрэй, рэпу, не занадта тоўстую. А што потым, пытае Ганс. Гародніна дзеліцца на дзве паловы, рука не, адказвае Рыхард. А ці трэба гэта трэніраваць, пытае Ганс. Гэта як з каханнем, адказвае Рыхард, або гэта ёсць у крыві, або не. Гэта я казаў, пытае Ганс. Рыхард ківае. Калі Рыхард займаецца магіяй, ён апранае чорную шырокую накідку, якую яму пашыла маці. Сім салабім, кажа ён і нізка кланяецца. Ганс навучыўся не смяяцца на гэтым месцы. Ён пляскае ў ладкі і кажа: ты гатовы выйсці да публікі. Не, кажа Рыхард, замала яшчэ трукаў, няма належнага абсталявання, хутка мне зноў трэба будзе ў чароўную краму. Гільяціну для рук ты можаш набыць і ў іншым месцы, кажа Ганс, калі Рыхард падпірае рукамі галаву на піўны стол. Дзе ж гэта, кажа Рыхард, ты ж адно кветачную краму ведаеш, ніводнай чароўнай. Толькі кветачную, кажа Ганс, яе адзіную.

У пятніцу Ганс увайшоў у кветачную краму, не маючы ніводнай дамовы на агляд кватэры. Ён загадзя спрадкаваў сказы свайго спіча: хачу купіць у Вас кветку. Хацеў бы набыць ружу. Даўно марыў, у прамежку тым паміж дахам і столлю, у той схаванай антрэсолі, у кватэры, Вы ведаеце, там жыве паміж чатырма і пяццю гадзінамі ранку чалавек, і гэты чалавек гэта Вы. Ці не схацелі б Вы правесці мяне да вострава. Перад тым, як увайсці ў краму, Ганс адкашляўся. Але там стаяў мужчына. Калі ласка, чым магу Вам дапамагчы, спытаў ён. Ганс нейкую хвілю аглядваўся, потым прамовіў: я шукаю ўладальніцу. Уладальнік я, сказаў мужчына, Вы знаходзіцеся тут у краме «Кветкі Геральда». Ага, сказаў Ганс, тады я шукаю Вашу супрацоўніцу. Мужчына ўзяў сябе рукамі пад бакі, ён быў меншым за Ганса, і валасы ў яго ззаду былі завязаныя ў коску. Навошта, спытаў ён.

А потым, пытае Рыхард пасля доўгай паўзы. Слухай як след, кажа Ганс, мы сёння прасядзім тут, пакуль піўны садок не закрыецца. А потым, пытае Рыхард. А потым паедзем у тваю кватэру. Ты накінеш свой магічны плашч, апранеш капялюш, не забудзешся ўзяць чароўную палачку. Я хуценька прыму душ, апрану лепшую сваю кашулю, прычашу валасы. Пасля таго, як гэта ўсё зроблена, мы сядзем у трамвай і паедзем у Ільвіны завулак. Будзем чакаць

каля кветачнай крамы, пакуль не надыдзе ранак. Ганс ківае, лыкае піва, кажа: вось як мы зробім. Не ведаю, кажа Рыхард. Чаму, пытае Ганс, гэта ж добры план. Ганс і Рыхард глядзяць услед чалавеку на роліках, які паварочвае не дакаціўшы да паркоўкі і зноў мінае іх. Што там з гільяцінай для рук, пытае Рыхард. Купім пасля, кажа Ганс. Пасля чаго, пытае Рыхард. Ганс доўга глядзіць на яго, потым хітае галавой.

**Пераклаў з нямецкай мовы Яўген Бяласін.**
**Фота Лукаса Бека**



# Ірына Роік

украінская паэтка. Сакратар Крыварожскай сярэдняй літаратурнай школы «СЛіШ». Рэзідэнт праекта «Станіслаўскі феномен 2014». Ініцыятар дабрачыннай акцыі «Мікалай Кнігатворца» (2016) — збору кніг для дзетак-перасяленцаў. Нарадзілася ў 1993 годзе ў Крывым Розе (Днепрапятроўская вобласць). Жыве ў Крывым Розе.

# Я запісваю час…

***

Дзень прадмесцяў прыгас — свежа пырскае снег
на аблiччы сабораў. І з храма
вера цiха выходзiць, ступае без вех,
як ступалi Ева з Адамам.

Сiнь i гонi вакол — бы на мапе якой,
я кранаю палiтры валоссе.
Вера, быццам бы слава, цячэ ў твой спакой
i хвалюе будынкаў калоссе.

Лёд прадсэрдзяў растаў — i вада лье ды лье,
рукi поўняцца стомы металам.
Вера ж крылы iмкнецца прасцерцi свае
i у шчасцi тоне трывалым.

***

Лiхтарык расцвiў i на вулiцы соннай
цiкаўна ўглядаецца ў люстра вакна.
Нiбыта хлапчо, што за шыбай вагоннай,
слухае, дзе там спявае вясна.

У цiхай кватэры, не змерыць i вокам,
дзе скача клубочак туды i сюды,
дзе муркае цiша, пруткi ненарокам
увiшна малююць гады й гарады.

І пасма сiвая па скронi гуляе,
i сетку рыбацкую зморшчкi плятуць.
Тут — калiўцы мяты, i кубачак чаю,
i кававых тайнаў густых каламуць...

На лiвень збiраецца. Свечка ў трымценнi.
Пагас вунь лiхтарык пры першай вадзе.
Заўтра далонька дзiцячая ў жменю
кветку каштанчыка ранку ўкладзе.

***

Час звар'яцеў. Як кружэлку, раскручвае стрэлку.
Целам варушыць, як змей. Выпаўзае з вады.
Нам бы хутчэй дачакаць ізноў панядзелка,
ператрываць сумятню і замесці сляды.

Час разганяе канвеер навінна-няспынны.
Што на ім праўда, што грэх — паспрабуй зразумей!
Гэта гартоўкі у попеле й дыме часіна,
эра тых стратаў бясконцых, што ўзносяць вышэй.

Мы ў пашчу пражэрную часу шпурляем журботы,
вякамі, бы ў печы, згараюць там злосць і спалох.
Не хочацца мне разважаць, што і як будзе потым —
я толькі запісваю ч-а-а-а-а-а-с... для наступных эпох.

## Лаза

Як лаза залатая, буяй і гучы,
паміж райскага квецця без спыну.
Ува мне граюць арфы сотні Тычын
і без слова — турботы стынуць.

Цягне белыя ноты апоўдні раяль —
мне выдатна чуваць у аконца.
Крочу ў лес адраджэння, ў нязнаную даль,
і мяне абдымае сонца.

Вінаграду смарагд просіць дбайлівых рук —
спакваля, бы ручай абмялелы.
Паядналіся фарбы, пачуцці і рух...
Прачынаюся — ў жмені снег белы.

***

Напішы мне яшчэ.
Хай бы словы спялелі на сонцы.
Словалюбка мая, сон бясконцы —
канвертаў ражкі.
Напішы.
Хай радкі прарастуць у далоньцы,
жыта ўзыдзе на полі.

Пішы.
Зерні кавы дашлі мне,
калі ўжо саспелі.
Я, бы снег, натрушу іх з акна.
Да нядзелі.
Не сумуй.

Выдыхаю ў зімовую сцюжу цяпло.
Згадкай цешуся зноў.
І сівым паліто.
Намалюй колькі слоў
і пакінь прамяні
сваіх палкіх абдымкаў.
Лістуй, *mon ami*.

***

Столькі вады працякло — я б ёй споўніла мора пустое.
Столькі наламана дроў — усіх ведзьмаў пажэр бы агонь.
І жыву як жыву — не запасячы літар на тое,
каб суцішыць трымценне сэрца й далонь.

Перапахла вясна, адшумелі ўсе летнія ўлевы.
Вось і птушкі-турысты ўжо ў небе збіраюць ключы.
І густы пераперчаны дым абвалаквае дрэвы.
Закаханыя ў пасткі трапляюць, наўздагад ідучы.

Свет наш зыбкі, аднак нам малітва і зброя аховай.
Падае неба. І мелецца ўсё, як мука.
Ды пшаніца любоўю насыціцца новай.
І знясе берагі рака.

***

Ты грэх мне прабач, як прыемнасць табе прабачаю.
Сярэбраным крыжам у горле стаіш.
І гэтым сумётам эмоцый ні меж, ані краю —
адна толькі бітва за трон і за крыж

твайго цела. Заваюй, разбурай мае флэшы,
асушай мае рэкі і руйнуй берагі,
перабі ліхтары, а тады, адшалеўшы,
адпусці мне прыемнасць, як я адпускаю грахі.

***

Так ідзецца усім улюбёным у неба —
ледзь паўзецца па чорнай замёрзлай зямлі.
Ты мне — новазагаданы рэбус,
я табе — дотык вуснаў да правай шчакі.

Я прашу, не пытайся, ці маю каханне.
Лепш давай памаўчым мы ў падушкі у такт.
Бы навек расстаёмся, цябе прыціскаю
і ўкладаюся ў рукі твае, як пятак.

Крыж у горле, і ў венах — бы зелле лаўровае,
і каляндрыць у сэрцы, і кменіць яшчэ.
Ты світальнай мяне намалюй, вечароваю
і такою, што вуснамі плечы пячэ.

## Львову

У горадзе-сэрцы заселі мы скабкамі:
у цэгле шчарбатай, у збітым фасадзе,
у твараў анёльскіх старой каланадзе,
у высахлай Полтве — атрутнымі капкамі.

Там сніцца краіна забытых паэтаў,
загадкі і тайны жыццёвых каляін.
На кожнага авеля сніцца свой каін.
І зданяў размытых фантомы-карэты.

У горадзе-сэрцы — удары ў паўтакта:
ад бруку вакзала да казачных стрэх.
І жадны пчаляр ані спеву, ні ўцех
не выкурыць з нашых харэяў і дактыляў.

## Ліліт

*Толькі той, у кім даволі хаосу, можа нарадзіць новыя зоркі.*
Фрыдрых Ніцшэ.

Ты была першародным грахом
і адзінай памылкаю Бога.

Нарадзіўшыся з ветру і раскі азёр,
цэлы век ты, пакутная, йшла ад парога
аж да сэрца, якое ўжо камень падпёр.

І ад роспачы, смутку, а можа, і стомы
Ты цяжэла хаосам, каб свет новай зоркай здзівіць.
Я пабачыў яе, і цяпер, як паломнік,
прыпаду сам не свой да каленяў тваіх.

**З украінскай мовы пераклаў Дзмітро Шчарбіна.**



# Ніл Гілевіч

народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, празаік, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг: «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазвоны», «Святлынь», «Родныя дзеці», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Памёр 29 сакавіка 2016 года.

# З клопатам пра Бацькаўшчыну...

***Гэтая гутарка рыхтавалася як юбілейная, прымеркаваная да 85-годдзя Ніла Сымонавіча Гілевіча, а сталася развітальнай... Аб тым, чым жыў вялікі Паэт і Грамадзянін, што яго хвалявала да астатніх хвілін жыцця і аб чым ён клапаціўся больш за ўсё — апошняя гутарака з апошнім Народным паэтам Беларусі...***

**Эдуард Акулін:** — *Шаноўны, Ніл Сымонавіч, па іроніі лёсу, ваш юбілейны год абвешчаны ў Беларусі Годам культуры. Як вы лічыце, аднагадовая акцыя можа ўратаваць нашу культуру, ці хаця б спыніць працэс дэградацыі, які ахапіў сферу нацыянальнай культуры ў апошні час?*

**Ніл Гілевіч:** — Абвясцілі Годам культуры... І што? Ужо вызначылі хоць два-тры дзясяткі ўшчэнт зрусіфікаваных школ, якія на працягу года стануць беларускімі? Я пра такое не чуў. Ці ў два-тры разы болей беларускамоўных кніг выйдзе за гэты год у дзяржаўных выдавецтвах? І пра такое нідзе не паведамлялася. Дык пра якую культуру гаворка? Якой культуры Год? Дадуць трохі больш канцэртаў, правядуць трохі больш паказушных мерапрыемстваў... І гэта зробіць пералом у трагічным лёсе нашай нацыянальнай культуры? Гэта спыніць працэс духоўнай дэградацыі беларускага грамадства? Развіццё культуры — у адрыве ад нацыянальных традыцый, ад нацыянальнага грунту? Хто ў такія казачкі паверыць? Ну, але ж ружовы дым у вочы трэба пускаць. Без гэтага мы не можам. Дарэчы, законнае пытанне: пройдзе, закончыцца Год культуры, а далей што? А далей? Колькі будзе ўвагі праблемам культуры? Застаецца толькі цяжка ўздыхнуць...

**Э.А.:** — *Нядаўна Таварыства беларускай мовы, ля вытокаў стварэння якога вы стаялі, выступіла з ініцыятывай заснавання Нацыянальнага ўніверсітэта. Ці своечасовая такая ініцыятыва? Чаму гэтая ідэя не была рэалізаваная, у, так бы мовіць, найноўшыя часы «беларусізацыі»? Я маю на ўвазе дзевяностыя гады, калі вы асабіста ўзначальвалі пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры й захаванні гістарычнай спадчыны?*

**Н. Г.:** — У першай палове 90-ых(1990-1995), калі я працаваў у Вярхоўным Савеце РБ, пытанне пра заснаванне асобнага Нацыянальнага беларускагаўніверсітэта не ўзнікала і не магло ўзнікнуць, бо кіраўніцтвам краіны ажыццяўляўся курс на беларусізацыю ўсёй сістэмы адукацыі — і школ, і ВНУ( пасля абвяшчэння беларускай мовы адзінай дзяржаўнай у студзені 1990-га). Падкрэсліваю: усіх ВНУ рэспублікі, і найперш БДУ — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта(Беларускага!). На вялікі жаль, з абвяшчэннем у нас і рускай мовы дзяржаўнай(1995), цудоўны перспектыўны курс на беларусізацыю быў скасаваны, адменены, і ўсё жыццё пакацілася па рэйках нахабнай беспардоннай русіфікацыі. Па гэтых рэйках яно коціцца і да сёння. Задача ўсіх патрыётаў Беларусі — вярнуць яго на рэйкі 1991 года, на рэйкі беларусізацыі.



**З Васілём Быкавым і Яўгеніяй Янішчыц.**

**Э.А.:** — *У свой час Авідзій сказаў: «Часы мяняюцца і мы разам з імі»... Ці згодны вы з выказваннем старажытнага філосафа ў адносінах да сябе? На колькі змяніліся вашы жыццёвыя ідэалы і творчыя прэарытэты на шляху даўжынёй у 85 гадоў?*

**Н. Г.:** — Было б элементарна неразумна аспрэчваць выснову Авідзія. Натуральна, і я не мог быць нейкім выняткам, непадлеглым агульнай заканамернасці. Тым больш, калі на лёс майго пакалення выпалі падзеі сусветна-гістарычнага значэння, якія не маглі не прыводзіць да істотных перамен у настроях і самапачуванні кожнага члена грамадства. Больш паловы жыцця я пражыў тыповым савецкім чалавекам — з той агаворкай, што ў адрозненне ад бальшыні іншых тыповых з маладых гадоў быў зацятым «нацыяналістам», то-бок, шчырым патрыётам Беларусі, беларускай мовы і культуры. Чым бліжэй да старасці, тым больш вызваляўся ад догмаў партыйна-савецкай ідэалогіі. Пры гэтым даражыў і даражу да сёння тым лепшым, што давала чалавеку, усяля-

ла ў чалавека ідэя сацыялізму: адухоўленасць, маральная чысціня, агіда да пошласці і цынізму, да вульгарнай пражэрлівасці.

**Э.А.:** — *Назавіце, калі ласка, галоўнае, без чаго, на вашу думку, не можа існаваць сапраўдная паэзія. І ў звязку з гэтым, каго, з беларускіх і не толькі літаратараў, вы лічыце сваімі настаўнікамі?*

**Н. Г.:** — Без праўдзівасці высакароднага пачуцця, якое натхніла на паэтычны твор. Хлусня і пошласць несумяшчальныя з паэзіяй. Найбольш удзячны за навуку Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, Францішку Багушэвічу, Аркадзю Куляшову, Пімену Панчанку... З небеларускіх — Тарасу Шаўчэнку, Аляксандру Пушкіну, Міхаілу Лермантаву, Уладзіміру Маякоўскаму, Сяргею Ясеніну, Аляксандру Твардоўскаму.

**Э.А.:** — *На вялікі жаль, некаторыя прадстаўнікі сучаснага літаратурнага пакалення прынцыпова не прызнаюць ніякіх творчых аўтарытэтаў. Для іх звычайная справа абазваць генія нацыянальнай паэзіі Янку Купалу — «Каянам Лупакам», а Максіма Багдановіча — «Няздарам-сухотнікам»... Як вы ставіцеся да такой звыклай з'явы сярод сённяшняй творчай моладзі як літаратурны нігілізм? Адкуль, на вашу думку, бярэ пачатак гэты ганебны рэцыдыў?*

**Н. Г.:** — Пачатак ганебнага нігілізму, які дазваляе беспардонна абражаць нацыянальных геніяў, гонар і славу нашай літаратуры, — у нелюбові і нянавіс-

**З аднакласніцамі.**



ці да Беларусі. У сапраўднага сына (ці дачкі) Бацькаўшчыны ніколі не павернецца язык на такое багахульства. На маё перакананне — гэта верх цынізму, і наогул — гэта антычалавечна. А значыць — гэта не мае дачынення да сапраўды інтэлегентнага асяроддзя.

**Э.А.:** — *Ці згодны вы са сцвярджэннем Бялінскага, што «Свабода творчасці — ёсць служэнне сучаснасці...»? Чым адрозніваецца ваша «сучаснасць» ад сучаснасці пісьменнікаў, якія згуртаваліся ў «Саюз пісьменнікаў Беларусі»?*

**Н. Г.:** — Мая сучаснасць — гэта мой несціханны боль за лёс Беларусі, нашай мовы і культуры. Гэта — мая пагарда і нянавісць да ворагаў Беларусі...

Што да расколу пісьменніцкай арганізацыі... Я глыбока засмучаны гэтым расколам, які з‘ініцыявалі і ажыццявілі ў подлых палітычных мэтах замаскаваныя ворагі нашай свабоды і незалежнасці. На жаль, многія наіўныя дзеці Бацькаўшчыны гэтага не зразумелі і не разумеюць. У нашай трагічнай сітуацыі нам больш за ўсё патрэбна адзінства, сцэментаванае вернасцю вялікім Традыцыям, вялікім Запаветам вялікіх Бацькоў Нацыі.

**Э.А.:** — *На пачатку 2016 года ў выдавецтве «Про Хрысто» асобнай кнігай выйшла манаграфія Тамары Нуждзіной прысвечаная вашай творчасці. Як вы ацэньваеце гэтае крытычнае даследванне, і, увогуле, стан сучаснай літаратурнай крытыкі?*

**З Эдуардам Акуліным і Анатолем Вярцінскім.**



**Н. Г.:** — Манаграфію Т.С. Нуждзіной ацэньваю вельмі высока, на маё разуменне — гэта змястоўнае, глыбокае, шчырае — ад душы і сэрца — слова таленавітай даследчыцы. Лічу, што мне ў гэтым сэнсе пашанцавала.

Што датычыць стану сучаснай літаратурнай крытыкі — на жаль, не маю падстаў выказаць якое-небудзь пэўнае меркаванне: па стану здароўя чытаю зусім мала наогул і крытыку ў прыватнасці, аб чым вельмі шкадую.

**Э.А.:** — *Не сакрэт, што апошнім часам цікавасць да літаратуры імкліва падае... Што, на вашу думку, стала прычынай духоўнага збяднення нацыі — «інтэрнэтазалежнасць» сённяшніх патэнцыйных чытачоў, палітыка сучаснай улады ў галіне культуры ці адсутнасць вартых чытацкай увагі твораў? У чым вы бачыце ратаванне ад гэтай згубнай з'явы? На якой глебе прараслі парасткі сённяшняй бездухоўнасці? Ці існуе магчымасць спыніць гэты працэс, ці ён ужо незваротны?*

**Н. Г.:** — Што стала прычынай? Як казалі ў нашым баку: і гэта, і гэна, і тое. Выліць віну на пісьменнікаў — маўляў мала пішуць выдатных твораў — будзе несправядліва: ва ўсе часы пісаліся творы рознай якасці, — і выдатныя, і добрыя, і пасрэдныя, і дрэнныя! Гэтаксама і сёння. Усё залежыць ад таленту. Бяда, аднак, у тым, што і на самыя дасканалыя, нават на геніяльныя кнігі чытацкі попыт няўхільна скарачаецца. Што спыніць гэты гібельны працэс? Пытанне вельмі і вельмі цяжкое. Ці апомніцца, ці спахопіцца чалавецтва, ці і далей будзе каціцца ў бездань бездухоўнасці — адзін Бог ведае. Будзем аптымістамі, будзем верыць, што чалавечы род не для таго ўзнік на планеце, каб аднойчы бязглузда, бяздарна згінуць.

**Э.А.:** — *Цяпер, калі паўсюдная эйфарыя ад атрымання «першага беларускага Нобеля» прайшла, як вы ацэньваеце гэту падзею ў кантэксце гісторыі беларускай літаратуры?*

**Н. Г.:** — Хтосьбыў у стане эйфарыі, а хтось і не, і нават зусім наадварот(ведаю па водгуках). Што да мяне — на якія прэміі, на якія ўзнагароды я магу рэагаваць, калі сэрца дзень і ноч краваточыць адным болем: гіне апошняя беларуская школка, а значыць — гіне беларуская мова, беларуская культура, а з мовай і культурай — і сама Беларусь.

**Э.А.:** — *Вас, адзінага на сённяшні дзень Народнага паэта Беларусі, не засмучае факт абсалютнага замоўчвання як з боку афіцыйных улад краіны, так і з боку незалежных СМІ? У чым вы бачыце прычыну такога стаўлення да сябе?*

**Н. Г.:** — Поўнае замоўчванне з боку «афіцыйных улад» мяне засмучаць не можа — наадварот, радуе: значыць, паэт на вернай дарозе, служыць той праўдзе, што ад Бога, той, якой служылі мае вялікія папярэднікі, мае настаўнікі. Што датычыць няўвагі, а значыць і непавагі, з боку некаторых незалежных СМІ, — тут ёсць пытанне. Для мяне — пытанне-пракляцце. Думаю, што і яны «залежаць», толькі іх залежнасць ужо іншага парадку. Я прызнаю незалежнасць толькі ў імя беларускай Беларусі. Падкрэсліваю: беларускай!

**Э.А.:** — *За апошнія дзесяць гадоў вы ўласнымі сіламі падрыхтавалі і выдалі 23-томны збор сваіх твораў. Няўжо за гэты час не знайшлося ніводнага чалавека, грамадскай інстытуцыі, або дэмакратычнай ініцыятывы, хто б прапанаваў вам хоць нейкую дапамогу ў гэтай нялёгкай і патрабуючай немалых сродкаў справе? Той жа «Саюз беларускіх пісьменнікаў», напрыклад, які мае сваю кніжную серыю і выдавецкія магчымасці ўрэшце рэшт?*

**Н. Г.:** — На самым пачатку два сябры для выдання аднаго тома пасільны ўклад зрабілі. І ўсё. Больш не было. Па той прычыне, што мае сараўдныя сябры таксама бедныя людзі. Адзінай фінансавай крыніцай была мая вартая жалю пенсія. Таму і наклад выдання: 100,70,50 паасобнікаў. Ганебна, канечне, і для дзяржавы, і для грамадскасці. Але хто адчувае гэтую ганьбу? Калі мы, беларусы, выжывем, а мы — насуперак усім злым, варожым сілам — выжывем, тады ўбачым і зразумеем усе праявы нашай нацыянальнай ганьбы, у тым ліку — і непараўнана больш значныя, чым гэта. Страшныя праявы! Такія страшныя, што ад сораму можна памерці.

Маю адчуванне, што сённяшнія маладыя беларусы пачынаюць гэта ўсё больш разумець...

**Э.А.:** — *Я ведаю, што ў вашых творчых планах працягнуць выданне Збору твораў. Што не ўвайшло ў выдадзены 23-томнік? І колькі дадатковых тамоў рыхтуецца да выдання?*

**Н. Г.:** — Так, тры гады назад я пачаў рыхтаваць да выдання Дадатак да Збору твораў. Ён будзе ў сямі тамах: паэзія, публіцыстыка, літаратуразнаўства і крытыка, эсэістыка, дзённікі, запісы з рабочых сшыткаў... Гэта тое, што па недагляду ці з нейкіх іншых меркаванняў я не ўключыў у Збор. Але — не горшае, не абы-што, як можна падумаць. Нялёгкая (у маім узросце!) праца па складанні Дадатка працягваецца, ці паспею закончыць — аднаму Богу вядома...

**Э.А.:** — *Ніл Сымонавіч, у свой час вы выступілі з ініцыятывай адмены ўсіх ганаровых званняў, у тым ліку, і звання «Народны паэт Беларусі». Цяпер, калі вы засталіся адзіным уганараваным гэтым званнем творцам, вы не памянялі сваю думку? Адсутнасць прыжыццёвых званняў у Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова не перашкодзіла ім быць аднымі з самых любімых беларускіх пісьменнікаў. Бо, як мне падаецца, вартасць літаратара вызначаецца не ягонымі званнямі, а ягонымі творамі... Ці я ў нечым памыляюся?*

**Н. Г.:** — Па-першае, гаворка ўзнікла таму, што за гады працы ў Вярхоўным Савеце РБ пераканаўся, як некаторыя дзеячы літаратуры і мастацтва літаральна «выбіваюць» для сябе (а нават для жонкі) гэтае ганаровае званне. Бачыць гэта было больш чым непрыемна. Асабліва, калі «выбівальшчыкам» быў пісьменнік. Па-другое, кідаўся ў вочы прыклад іншых краін: ні ў Расіі, ні ва Ўкраіне, ні ў заходне-еўрапейскіх дзяржавах ніякіх падобных званняў няма. Па-трэцяе, прыйшла вестка з Балгарыі: урад НРБ адмяніў званні ў літаратуры.




**З Янкам Брылём**.

І адмяніў па ініцыятыве саміх пісьменнікаў, якія ўбачылі ў гэтай завядзёнцы прыкмету правінцыйнай старамоднасці. Хоць «завядзёнка» павялася яшчэ з 1913 года: першым народным быў вялікі Іван Вазаў.

На жаль, маю ініцыятыву нашы народныя сустрэлі ў штыкі. Помню, патэлефанаваў Аляксей Дудараў, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў: «Ніл Сымонавіч, пашкадуйце мяне: артысты заявілі, што разарвуць мяне на кавалкі, калі ганаровыя званні будуць адменены. Для іх гэта галоўны стымул творчага росту — мара пра званне...»

І аднак жа ў галіне літаратуры «завядзёнка» ўжо даўно не працягваецца. Для недасведчаных скажу, што за ўсе 25 гадоў, як маю званне, ні адну сваю публікацыю я не падпісаў з дадаткам «Народны паэт». Калі дзе-небудзь такое было — гэта рабілі ў рэдакцыі без мяне. Як і ні разу за ўсё жыццё не начапіў на грудзі ордэны і медалі — ні айчынныя, ні замежныя. Ніколі, ні разу.



**З жонкай Нінай Іванаўнай.**

**Э.А.:** — *Ці не шкадуеце аб тым, што вам прыйшлося рассакрэціць самую галоўную інтрыгу беларускай літаратуры, я маю на ўвазе — аўтарства «Сказа пра Лысую гару» ? Што прымусіла вас зрабіць гэты крок?*

**Н. Г.:** — Я меў цвёрды намер не «раскрывацца» да канца жыцця. Але з'явіўся «самазванец», які пачаў нахабна заяўляць, што аўтар «Сказа» — ён. Убачыўшы, што гэта зайшло занадта далёка і ўжо многія паверылі яму, я вырашыў прызнацца і апублікаваў вялікі — на ўсю паласу «Народнай волі» — артыкул пад назвай «Як быў напісаны «Сказ пра Лысую гару?». Пасля гэтага звяганне маіх незычліўцаў спынілася( праўда не адразу і не ўсіх).

**Э.А.:** — *У сваім славутым «Апокрыфе» Максім Багдановіч сказаў: «Калі зварухнецца душа чалавека, толькі песня здалее спатоліць яе...» Як вы ставіцеся да песеннай творчасці? Якое месца песні ў душы народа? Якую са сваіх песень лічыце самай удалай? Якая па-сапраўднаму «зварухнула» народную душу? З кім з беларускіх кампазітараў сёння вы падтрымліваеце творчыя стасункі?*

**Н. Г.:** — На сто адсоткаў згодзен з Максімам Багдановічам. Пра маё стаўленне да беларускай песні я дагэтуль расказаў у трох сваіх манаграфіях («Наша родная песня», «З клопатам пра песні народа. Паэтыка беларускай народнай лірыкі»). Люблю творчасць паэтаў, якія апіраюцца на народную песню, выка-



**З сынам Сяргеем.**

рыстоўваюць яе цудоўныя якасці. Што да маіх вершаў-песень — я далучаюся да ацэнак народа, які прыняў да душы і палюбіў бадай цэлы дзясятак («Вы шуміце, бярозы», «Жаўраначка», «У бацькоўскім кутку», «Клёны-ясені спяць», «Край мой, беларускі край», «Талісман», «Палыновая ростань» і інш.).З іх, «па-сапраўднаму зварухнула народную душу» (добра сказалі!) — гэта, думаю, «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы», якая пайшла па ўсім былым Савецкім Саюзе і нават далёка па свеце.

Сёння мае даўнія сябры-сааўтары на маю паэзію ўвагі не звяртаюць. Ну і такой бяды... Я павек удзячны ім за тое, што яны ў свой час зрабілі.

**Э.А.:** — *Ваша перакладчыцкая дзейнасць — гэта велізарны перыяд у вашым творчым лёсе... Перакладаючы цэлымі кнігамі балгарскіх, славенскіх, украінскіх аўтараў, не шкадуеце, што столькі часу аддалі прапагандзе чужой творчасці?*

**Н. Г.:** — Мае чытачы звычайна помняць і гавораць пра мае паэтычныя пераклады, якія склалі ў Зборы твораў тры аб'ёмныя тамы. Але далёка не ўсе ведаюць, колькі мною «перавернута» на беларускую мову балгарскай прозы, а гэта: тоўсты раман, дзве аповесці, дзясяткі апавяданняў і казак... Божа, колькі на гэта я ахвяраваў творчага часу — на вялікую шкоду сваім пісьменніцкім і навуковым інтарэсам! Пазней зразумеў, што гэта была мая вялікая памылка. Як нейкае ачмурэнне найшло на мяне. Нейкая загана ў характары. Здольнасць празмерна захапляцца, ці што? Між іншым, мая мудрая Ніна Іванаўна цягам усіх тых гадоў у моцным засмучэнні выказвала мне абурэнне: «Што ты робіш? Апомніся! Ты дзярэш лыка на чужыя лапці! Хіба ты для гэтага прыйшоў на свет божы?...»

Невыпадкова ў народзе ходзіць прымаўка: «Разумных жонак трэба слухаць!» На вялікі жаль, я рабіў гэта не заўсёды.

**Нараджэнне песні**





**З Уладзімірам Караткевічам.**

**Э.А.:** — *Вы шчаслівы чалавек? Што ў вашым уяўленні патрэбна для поўнага шчасця? Ці лічыце вы, што шчасце без кахання не існуе? Ці пашчасціла вам у жыцці на сапраўднае каханне?*

**Н. Г.:** —Хіба можна пачувацца шчаслівым паэт, бачачы, які няшчасны, ашуканы, прыгнечаны, пазбаўлены нацыянальнай самасвядомасці — яго народ? Тут і каханне — толькі падтрымка, моцная, можа нават выратавальная падтрымка. Мне пашчасціла — я зведаў яго, тое сапраўднае каханне, якое са студэнцкіх гадоў вяло мяне праз жыццё поплеч з цудоўнай жанчынай.

**Э.А.:** — *Што для вас азначае сяброўства? Ці магчыма сяброўства паміж літаратарамі? Які ўчынак вы лічыце недаравальным у сяброўстве?*

*Ці маеце вы сяброў, якія не здрадзілі вам на працягу ўсяго жыцця?*

**Н. Г.:** — Сяброўства — адзін з самых каштоўных дароў Божых. Блізкае сяброўства паміж літаратарамі? Не толькі магчыма, але і не такая рэдкая з'ява. Вядома, паміж аднадумцамі, аднапалчанамі.



**З сястрой Святланай**

Здрада сяброўству — адзін з самых цяжкіх грахоў чалавечых. Я такое зведаў, перажыў. Але верных сяброў, у тым ліку і даўніх, пажыццёвых, дзякаваць Богу, маю.

**Э.А.:** — *Ці ёсць у вашым творчым лёсе ўчынкі, за якія вам сёння сорамна перад людзьмі і самім сабой? Што б вы памянялі ў сваім жыцці, каб з'явілася магчымасць прайсці яго нанова?*

**Н. Г.:** — Такіх учынкаў у сваім творчым лёсе, за якія мне было б сорамна і перад людзьмі і перад самім сабой, я не помню. Памылковыя крокі рабіў, я не святы, — памылковыя, але не подлыя. Не такія, каб сёння пакутаваць ад згрызотаў сумлення. Літаратуры і навуцы я служыў у вышэйшай меры шчыра, душой не крывячы.

Каб прыйшлося пражыць нанова... У размовах пра жыццё я гэты ўмоўны лад: каб, калі б, а вось каб — не прымаю.

**Э.А.:** — *У 2009 годзе, вы дабраславілі часопіс «Верасень» на доўгае творчае жыццё... Дзякуй Богу, не гледзячы ні на што, часопіс і па сёння жыве, пашыраючы культурную і літаратурную прастору Беларусі. Што б вы пажадалі аўтарам і чытачам выдання напярэдадні свайго слаўнага Юбілею?*

**Н. Г.:** — І тым, і другім зычу аднаго: своечасова, не запознена, пачаць думаць пра тое, як прайсці свой жыццёвы шлях з сыноўскай годнасцю, прыгожа, высакародна, а гэта значыць — у клопатах пра Бацькаўшчыну, пра яе веліч і славу.

*15 студзеня 2016 г.*



# Тамара Аўсяннікава

**паэтка, празаік, педагог. Аўтар кніг вершаў: «Ноты сэрца» (2009 г.), «Лістапад гадоў» (2010 г.), кнігі прозы «Любачка» (2011 г.). Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Сяўкі на Лоеўшчыне. Жыве ў Магілёве.**

# «Любоў, якая рухае свяцілы...»

*Мой дух знямог і перарваў палёт,*
*Ды надала маім жаданням сілы,*
*Як быццам колам раўнамерны ход,*
*любоў, якая рухае свяцілы.*

Боская камедыя. Рай
(Песня 33). Перакл. Ул. Скарынкіна

Ёсць — быў. Якая хісткая мяжа паміж гэтымі словамі! І як цяжка гаварыць пра чалавека, які ўчора быў, а сёння — няма. З якім учора гаварыў, а сёння набіраеш нумар і — разумееш, што ўжо не пачуеш такое звыклае і такое пазнавальна-адметнае слова: «Слу-у-хаю». Як цяжка ў напісаным выпраўляць сказанае ў цяперашнім часе на прошлы час. Зразумела, што Творца памірае толькі фізічна, зробленае ім застаецца. Але...

Ніл Сымонавіч Гілевіч. Прамаўляеш гэтае імя і чуеш музыку. Суадносіны гукаў, метр чатырохстопнага харэя з пірыхіем у трэцяй стапе — ужо ёсць паэзія. Не трэба ніякіх псеўданімаў. Яму ад нараджэння наканавана было стаць паэтам. І не толькі паэтам. Яму належыць пачэснае месца ў беларускай літаратуры, вартае маштабу яго таленту. А зроблена нямала. У скарбонцы Народнага паэта Беларусі больш за сто кніг — зборнікі паэзіі, фальклорныя зборнікі, публіцыстыка, літаратуразнаўства і фалькларыстыка, кнігі для дзяцей, сатыра і гумар.

Аднойчы Ніл Гілевіч параўнаў пісьменнікаў з лесам. Дык вось мне ў тым лесе ён бачыцца дубам. У беларусаў і іншых індаеўрапейскіх народаў дуб — адно з найбольш шанаваных дрэваў, а ў беларускай міфапаэтычнай мадэлі свету — гэта сімвал вечнага жыцця. У фальклоры дуб фігуруе ў якасці Сусветнага дрэва. Культавыя дубы ў Беларусі маюць назвы: Волат, Святы дуб, Добры дуб, Перуноў дуб, Вітаўтаў дуб... І відаць невыпадкова многія называюць Ніла Гілевіча Волатам беларускай літаратуры. У дуба моцныя карані і шырокая крона. Карані Народнага паэта Беларусі — гэта яго зямля, гісторыя народа, мова. А галіны — гэта роды і жанры літаратуры, у якіх ён працаваў. Які накірунак літаратурнай дзейнасці мы ні возьмем, уклад пісьменніка бачны і важкі.

У постаці, у асобе Народнага паэта было нешта таемнае, ён быццам бы выйшаў з міфічнага лесу, ішоў па Беларусі і здзіўляўся: чаму на роднай зямлі так мала сапраўдных беларусаў, у якіх балела б сэрца за яе, чаму так рэдка гучыць беларуская мова. Першай гэтую таемнасць заўважыла Яўгенія Янішчыц. У пісьме ад 5 мая 1974 года да Галіны Каржанеўскай яна пісала: *«Бачыла неяк мімалётна на праспекце зусім сівога Ніла Сямёнавіча. Проста здалёк, дык галава белая, як снег у золь. Думаю часта, што натура ў гэтага чалавека глыбокая і таемная.»*

Ніл Сымонавіч нарадзіўся ў сялянскай сям'і, сям'і «земляробаў-хлебаробаў». Сям'я вялікая (дзесяць дзяцей), дружная, дзе вучылі працаваць, шанаваць роднае, дзе гучала Песня. Асоба Ніла Гілевіча фарміравалася перш за ўсё ў сям'і: пад уплывам маці, Кацярыны Мікалаеўны, бацькі, Сымона Пятровіча, дзядулі, бабулі, сясцёр, братоў. У вершы «Радавод» паэт піша:

*Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена, —*
*Мы не дзікай травы самарослыя парасткі.*
*У глыбінях зямлі, гераічнай і песеннай,*
*Нашых душ карані — з вузлякамі упартасці.*
*Сокам вотчынных гоняў ад роду мы ўспоены.*
*Сонцам родных нябёс мы з маленства аблашчаны,*
*Як асілкі-дубы над дняпроўскімі поймамі —*
*Паяднаныя часам нашчадкі і прашчуры.*

Калі я слухала Ніла Сымонавіча, ці калі чытала яго публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, то міжволі ўзгадвала выдатнага рускага вучонага, акадэміка Д. С. Ліхачова (1906 — 1999). У іх адна і тая ж манера і грунтоўнасць досведу, тая ж інтэлігентнасць і добразычлівасць, разам з тым — пачуццё асабістай годнасці. Дзве знакавыя постаці, народжаныя ў розных асяродках, але ж колькі агульнага! Аднойчы я падзялілася сваёй асацыяцыяцыяй. На што Ніл Сымонавіч сказаў: *«Я не супраць апынуцца ў такой кампаніі. Гэта гонар для маёй сціплай асобы. Дзмітрый Ліхачоў — паважаны мной чалавек. І я меў шчасце сустракацца з ім і гаварыць».*

У аснове творчай і грамадскай дзейнасці Народнага паэта Беларусі ляжыць запавет Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Яшчэ ў 1972 годзе ён замовіў экслібрыс мастаку Яўгену Ціхановічу з выяваю Францішка Багушэвіча і яго словамі да нашчадкаў пра родную мову. У пісьме да Яўгена Мікалаевіча Ніл Гілевіч пісаў: *«Зроблены Вамі экслібрыс — знак ідэі, якой я жыву. Таму я бясконца ўдзячны Вам, што Вы зразумелі мяне, адчулі душой і падтрымалі сваёй таленавітай працай дух мой надломлены, як той каласок на знаку.»* Паэт радуецца кожнаму факту, які сведчыць аб нацыянальнай самасвядомасці. Сумуе, што рэдка гучыць народная і проста добрая беларуская песня. А на пытанне, дзе пачуць сапраўдную беларускую мову, ён адказваў: *«У Касцёле! Божа, як яна тут гучыць! Як соладка для душы! Сэрца млее і плача. Ад шчасця, што гэта мова ёсць і я магу яе слухаць.»* Ніл Гілевіч трывожыўся не толькі за лёс беларускай мовы, беларускага слова. Ён трывожыўся за лёс Беларусі ў цэлым, за лёс літаратуры, культуры.

Шчаслівы той, хто знайшоў сваю жыццёвую сцежку, пакінуў на зямлі свой след. А яшчэ больш шчаслівы той, хто сустрэў сваю палавінку. Для творчага чалавека гэта не так і лёгка. Ніна Іванаўна Гілевіч (1931 — 2003) якраз і стала той палавінкай. Нават больш. Яна была яго Музай, спадарожніцай, дарадчыцай, аднадумцай, — «светач мілы». Ёй у гэтым годзе споўнілася

б таксама 85. З дня, як не стала Ніны Іванаўны, душэўны боль паэта ні на хвіліну не сціхаў.

*Дзе ты, куды ты*
*Гэтак далёка пайшла,*
*Што не прыходзіш?*
*Вочы прагледзеў — няма.*
*Слухаю ціш — не чутно.*

Жыццё Ніны Іванаўны — і подзвіг, і хрысціянкая норма адначасова. «Там і Бог раюе, дзе жонка мужа шануе», — гаворыць народная мудрасць. З першага дня сумеснага жыцця яна распасцёрла ахоўныя крылы над сваёй сям'ёю, прысвяціла сябе мужу, бо разумела значнасць яго асобы, яго прызвання. І боль у іх быў адзін — Беларусь і мова. Менавіта гэтую рысу адзначыў Васіль Быкаў у аўтографе на кнізе «Праўдай адзінай»: «Мілай Ніне Іванаўне Гілевіч, добраму ангелу беларускасці, са шчырасцю і павагай В. Быкаў. 4.V.85». Але ж Ніна Іванаўна была не проста Музай паэта: яна — вучоны, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ, яна — роўная яму, вартая свайго мужа.

У 2004 годзе выйшаў зборнік «Працы кафедры сучаснай беларускай мовы. Выпуск 3», прысвечаны Светлай памяці Ніны Іванаўны Гілевіч. В. П. Красней піша: «У яе асобе студэнты і выкладчыкі бачылі нястомнага рупліўца на ніве роднага слова. <...> І ў сваіх навуковых працах яна імкнулася знайсці такія падыходы ў асвятленні прыроды роднага слова, каб раскрыць яго багаты сэнсавы і экспрэсіўна-эмацыянальны змест («Таямніцы роднага слова»), вобразнавыяўленчыя патэнцыі («Вобразнае слова Купалы»), жыццё ў мастацкім творы («Стылістыка мастацкай мовы», «Дыялектызмы ў прозе беларускіх пісьменнікаў») і інш.» Людміла Рублеўская працягвае: «А калі гэтая светлая, узнёслая жанчына заходзіла ў аўдыторыю — колькі жыццёвай энергіі было ў ёй, як умела яна зацікавіць аўдыторыю, прымусіць студэнтаў услухацца ў жыццядайную мелодыку старадаўніх слоў роднай мовы!» Святлана Кліменценка адзначыла, што Ніне Іванаўне выпаў рэдкі лёс: «...Ужо там, у бальнічнай палаце, дзе 2 чэрвеня яна сустрэла свой апошні дзень нараджэння, атрымала ад мужа дарунак — апошнюю кніжку, на вокладцы якой выведзена: «...І ПЛЯМЫ НА ТАБЕ НЯМА. Лірычны раман». Кніжку, якая пісалася цягам паўстагоддзя, — з 1953 па 2003 гг. і змясціла гісторыю высокага кахання двух незвычайных людзей, што прайшлі рука з рукой праз нягоды, радасці і выпрабаванні і сталіся адным непадзельным цэлым.»

Аліса Міхайлаўна Шыловіч, якая сорак гадоў працавала ў Белдзяржуніверсітэце на кафедры беларускай літаратуры, распавяла мне наступнае: «З Нінай Іванаўнай мы сябравалі з выдавецтва. Яна выключны чалавек: таленавіты, шчыры, мудры ад прыроды, з пачуццём гумару; яна адказны чалавек — душой хварэла за людзей. Ніна Іванаўна мела свой погляд на ўсё. Яе вострага язычка пабойваліся. Яна не цярпела фальшу і пыхліўцаў: не павышаючы го-

ласу, адным словам магла пасадзіць такіх на месца. А якая ў яе была мова! За ёй можна было запісваць. Мой брат сказаў пра яе: «Гэтую жанчыну, адзін раз пабачыўшы, ніколі не забудзеш і з сэрца не выкінеш.»

У дзённіках Ніла Гілевіча за 1954 год ёсць запіс: *«22 верасня. Звязаць свой лёс з Нінай — гэта значыць на ўсё жыццё застрахаваць сябе ад маральнага падзення, забяспечыць сябе штодзённай падтрымкай духу, бо я не знаю сёння другога чалавека з такім здаровым настроем, з такой чыстай і прыгожай душой, як у Ніны. Аднаго хачу — ніколі б не ўсумніцца ў той невыказнай радасці, якую я нашу ў сэрцы ў гэтыя дні.»* Час паказаў, што амаль за паўвека сумеснага жыцця Ніл Сымонавіч ні разу не ўсумніўся. Сыход Ніны Іванаўны для паэта быў вельмі балючым, а страта непамерна вялікай. Яна, па словах самога паэта, была *«апірышчам сям'і, дарадчыкам, першым чытачом твораў свайго мужа, найважнейшым крытыкам, жонкай, маці, сяброўкай, паплечніцай»*. Аб ёй Ніл Сымонавіч расказаў у кнігах: «Разумная дзевачка» (2005), «Добры анёл беларускасці» (2007). І ў вершах.

*Калі, дасць Бог, для памяці тваёй*
*яшчэ зраблю я тое, што хачу —*
*без крыўд сыду на вечны супакой*
*і перад лікам Маці Прасвятой*
*апошні раз удзячна памаўчу.*

Жнівень 2007 г.

Са спадчыны Ніны Іванаўны Ніл Гілевіч падрыхтаваў і выдаў кнігі: «Дыялектны слоўнік: Лексіка. Фразеалагізмы. Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі. Параўнанні» (2005), «Таямніцы роднага слова: з назіранняў над мовай і стылем твораў беларускай мастацкай літаратуры» (2006), «Слова — роднае, жывое, свабоднае: узоры жывой народнай мовы ў вуснах беларускай вёскі 1960-х — 1970-х гг.» (2007), «Гісторыя народа — у яго мове: сацыяльна-эканамічная лексіка ў беларускай мове XV — XVII стст. : фрагменты даследавання» (2007), «Напачатку было слова: фрагменты лекцый па культуры мовы і стылістыцы: з назіранняў над тэкстамі і вуснай гаворкай: развагі філолага» (2008), «Апавядае беларуская вёска» (2008), «З рабочых сшыткаў філолага» (2010), «Едзь ты ў Хрунзю! Вусныя аповеды Ніны Іванаўны Гілевіч у запісе іх першага слухача» (2013). Пералічаныя назвы гавораць, што перад намі сапраўдны філолаг, навуковец.

Самай дарагой сваёй кніжкай паэт лічыў «На флейце самоты» (2004), бо «самая балючая». Другі яе раздзел прысвечаны «Памяці Ніны».

*Да астатку дзён,*
*Па самы апошні ўздых,*
*На гэтай зямлі*
*Ты — светач душы маёй.*
*І там будзеш ім, і там...*

Маё знаёмства з Нілам Сымонавічам адбылося ў 1966 годзе ў час вучобы ў Белдзяржуніверсітэце. Ніна Іванаўна ў нашай группе, на жаль, лекцый не

чытала. Спачатку я праніклася павагай да чалавека, да выкладчыка, а потым пазнаёмілася з яго творчасцю. Я набыла і прачытала першую кнігу паэта «Песня ў дарогу». Адразу запомніўся верш, які вызначыў назву кнігі, бо адпавядаў студэнцкаму настрою, юнацкім марам. Мне былі блізкімі і другія вершы: «З гадоў маленства», «Пасылка». Я гэтак жа радавалася, як і іх лірычны герой, калі ў вёску прывозілі кіно, гэтак жа чакала пасылак з дому. Зусім іншае ўражанне выклікалі вершы «Што ты, ягада-каліна, // Так нядоўга красавала?» і «Калодзеж»:

*Бяры натхненне ў народзе —*
*Там, дзе не выбераш яго!*

Гэта была ўжо паэзія, якая хвалявала сэрца і пакідала след у душы. З таго часу я пачала сачыць за творчасцю паэта. Другім этапам знаёмства стаў семінар па фальклоры, які падрыхтаваў добры грунт для творчых памкненняў. Тут Ніл Гілевіч адкрыўся як вучоны і Настаўнік. Трэці этап знаёмства пачаўся ў 2006 годзе. Размовы, сустрэчы, кнігі... Я ўдзячна Нілу Сымонавічу за магчымасць ведаць яго, гаварыць з ім. За паўвека нашага знаёмства — Гілевіч-чалавек і Гілевіч-творца нязменна для мяне складаюць адно цэлае. Гэта — як рэльсы і лакаматыў. А Ніна Іванаўна — «светач душы» яго — была любоўю, якая рухала гэты лакаматыў.

Імчыць лакаматыў! Упэўнена ідзе па рэйках і — знікае за гарызонтам... І там, за гарызонтам, таксама ёсць жыццё, нябачнае для нас, невядомае нам, але ёсць. Там сустрэне Ніна Іванаўна свайго «дарагога Ніла», як сустрэла Беатрычэ Дантэ. Скончыцца іх разлука.

*05.04.2016*



# Міхась Скобла

паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000 г.). Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», кнігі гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш», кнігі літаратурных пародыяў «Розгі ў розніцу», зборніка вершаў для дзяцей «Камень-перунок» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі 20 ст. «Краса і сіла» (2003 г.) і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакраю» (2008 г. ). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

# Крэнту-мэнту,

## альбо Колькі важыць эпіграма

Кажуць, маладое віно ліць у старыя мяхі няварта. Наўрад ці словы гэтыя ўспрымаюцца ўсур'ёз сучаснымі вінаробамі, якія льюць сваё віно ў што заўгодна — у пластыкавыя пляшкі, у папяровыя пакеты, у карабельныя бочкі, у чыгуначныя цыстэрны. Абы хмельнае пітво да спажыўца даплыло-даехала.

Гэта калі ўспрымаць крылаты выраз пра віно ў мяхах у літаральным сэнсе. А калі ў пераносным, што больш характэрна для афарызмаў, то тут залатое правіла старажытных вінаробаў аспрэчваецца на кожным кроку.

Возьмем, напрыклад, літаратуру. Не злічыць, колькі галонаў маладога паэтычнага віна было разліта ў старыя мяхі — прыдуманыя богведама калі формы. І як тое віно-зеляно маладзіла, здавалася б, спарахнелыя канструкцыі санетаў, трыялетаў, танкаў, рандо, одаў і эпіталамаў!

Эпіграма таксама мех яшчэ той — за стагоддзі добра-такі падношаны, месцамі зацыраваны. Але як трымае давераныя яму градусы!

Хто ж быў першым айчынным эпіграмістам? Разгарнуў я «Паэтычны слоўнік» прафесара Вячаслава Рагойшы і вачам не паверыў: «Першыя беларускія эпіграмы з'явіліся на пачатку XX ст. Майстрам Э. быў Я. Купала...»

Прыбядняцца мы ўмеем, гэта ўвайшло ў наш нацыянальны характар. Але ў дадзеным выпадку — навошта? І навошта шляхецкую кавеньку Купалы ставіць у кожны літаратурны качарэжнік? Ёй там не заўсёды месца. Ды і самому Яну Дамінікавічу грэцца ў промнях чужой славы наўрад ці спадабалася б. Мог бы і не змоўчаць ды палічыць той самай кавенькай гаршкі на плоце. Ці эпіграмай смалянуць, ды такой, што страшна падступіцца: «Макну пёрка ў атрамэнту / ды як чыркну па паперы, — / крэнту-мэнту, крэнту-мэнту, — / як быкі, стаяць літэры!»

Малаўцямнае для вушэй сучасных чытачоў *крэнту-мэнту* гучыць сёння, як шаманскае камланне, але пастраху па-ранейшаму наганяе. Што ж, вялікі паэт і гневацца мае права па-алімпійску.

Дык а ў промнях чыёй славы няма патрэбы грэцца Купалу? О, ён меў цэлую кагорту годных папярэднікаў-эпіграмістаў. Давайце зазірнем адразу ў змрачнаватае для Беларусі XVII стагоддзе. Эпіграмы тады пісалі ігумен Куцеінскага манастыра Іаіль Труцэвіч і друкар першага буквара Спірыдон Собаль, аўтар «Граматыкі славянскай» Лаўрэн Зізаній і кнігавыдавец Лявон Мамоніч. Як і ўся тагачасная літаратура, эпіграмы названых аўтараў плылі ў рэчышчы рэлігійным, але баявы дух ужо мелі. Як вось гэтая, Мамонічава: «Вера, меч креста держачи, цвите тобою, / бо естесь з супостатом готов до бою».

Але зусім не XVII стагоддзем датуюцца першыя беларускія эпіграмы. Пісаліся яны і раней. Славутым эпіграмістам быў беларуска-польскі паэт другой паловы XVI стагоддзя Андрэй Рымша, чые эпіграмы, праўда, нагадваюць хутчэй панегірыкі. А пальмай першынства мы маем поўнае права ўганараваць усё таго ж Францішка Скарыну — аўтара эпіграмы ў кнізе «Іоў», адкуль і паходзіць знакаміты радок «людем посполитым к доброму научению».

Такім чынам, эпіграма — жанр, успадчынены ад Скарыны, які ў сваю чаргу пераняў яго ад старажытнагрэцкіх і рымскіх паэтаў. Жанр, які вымагае ад творцы дасціпнай думкі і лёгкага пяра. У сувязі з гэтым эпіграму прынята залічваць да лёгкіх жанраў. Сапраўды, над чатырма-шасцю радкамі чаго доўга карпець? Карпець доўга, можа, і не варта, але ж адточанасць эпіграмных радкоў, іх рыфмоўка мусяць быць бездакорнымі. А гэта ўжо праца ювелірная. Іначай кажучы, эпіграмы пісаць — не молатам па кавадле гахаць, эпіграміст хутчэй нагадвае фехтавальніка, які элегантнай рапірай робіць нечаканы і дакладны ўкол.

На першы погляд, лёгкасць (*-грам-*) нібыта прысутнічае і ў самім слове эпіграма. Але яна падманлівая. Справа ў тым, што ў часы даўнейшыя выбуховы гук **г** перадаваўся ў старабеларускай мове дзвюма літарамі **кг**, адпаведна і пісалася — эпікграма. І вось гэтыя **кг**, якія невідочна прысутнічаюць у кожнай эпі(к)граме, для мяне і ёсць паказчыкам, колькі яна насамрэч важыць. Важыць шмат. Асабліва калі выходзіць з-пад пяра майстра. Тады яе і баяцца гіцлі рознай масці, бо ведаюць: напісанае пяром не высечаш і тапаром.

Спадзяюся, чытачы даруюць мне экскурс у гісторыю эпіграмы, бо не надта яна ў нас і даследавалася, і выдавалася. Часцей — уперамешку з іншымі гумарыстычнымі ды сатырычнымі вершамі ў адмысловых раздзелах паэтычных зборнікаў. Гадоў з дзясятак таму выйшла ў свет анталогія беларускай эпіграмы — на газетнай паперы, наспех скіданая, як стажок перад дажджом, без хоць якога даведачнага апарату.

І вось нарэшце чытацкім набыткам зрабілася першая айчынная *аўтарская* кніга эпіграмаў. Яе аўтар — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч (1931—2016).

Першую эпіграму ён напісаў больш за паўстагоддзя таму — яшчэ ў 1958 годзе. І з тае пары ніколі не забываўся на гэты жанр, які ў паэтавым творчым арсенале быў адным з самых запатрабаваных. А запатрабаваны таму, што Ніл Гілевіч ніколі не хаваўся ў вежу са слановай косці ад надзённых і балючых праблемаў, заўсёды даваў адпор тым, каго Янка Купала назваў «ворагамі беларушчыны». Супраць іх патрэбныя былі розная зброя і набоі розных калібраў, але першымі ў бой бясстрашна ішлі менавіта эпіграмы.

Іх заўсёды было нямала — тых, хто жадаў скону Беларусі, хто бачыў яе «ўсходнімі крэсамі» ці «северо-западным краем». На жаль, не паменшала іх і ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, што выглядае дзівам з дзіваў. Здавалася

б, тут вам, панове, і гамон, ды дзе там — плодзяцца і распаўзаюцца па краіне, як саранча. Ніл Гілевіч нават быў змушаны падзяліць іх на віды і падвіды, бо не ўмяшчаюцца ўсе ў адну загарадку.

*Хрыстапрадаўцы, адшчапенцы, юды,*
*Пярэваратні, выпаўзні, прыблуды,*
*Фальшыўцы, прайдзісветы, ашуканцы,*
*Рабаўнікі, зладзюгі, махляры,*
*Манкурты, прыхвасні, прыстасаванцы,*
*Урвіцелі, хапугі, махляры»* —

вось яны, героі эпіграмаў Ніла Гілевіча, чыю сатыру даследчыкі называлі кінжальнай. Менавіта гэтай яе якасцю — біць прыцэльна і напавал — захапляўся ў свой час Васіль Быкаў.

Асабліва ваяўнічых ворагаў беларушчыны паэт-узвышэнец Уладзімір Жылка, прыехаўшы ў 1926 годзе ў савецкі Менск з залатой Прагі, назваў беларусаедамі. Далікатны і інтэлігентны Жылка, а — не стрываў. Вось адзін з такіх тыпаў, выяўлены Гілевічам і высвечаны промнем яго эпіграмы, як на экране (а таму — пазнавальны). У апантаным наступе супраць усяго нацыянальнага ён гатовы хаўрусавацца з кім заўгодна:

*Я — ва ўсім дэмакрат прынцыповы,*
*За свабоду жыццё пакладу.*
*А супроць беларускае мовы*
*Нават з Гітлерам разам пайду!*

Вось чыноўнік (паводле класіфікацыі паэта, відаць, належыць да адшчапенцаў), які, пнучыся заняць уладную пасаду, вытруціў у сабе ўсё беларускае, але не змог пазбавіцца аднаго — акцэнту:

*Шаноўненькі мой беларусік з чыноўнага племя!*
*Запомні: калі ты падчас афіцыйнай прамовы*
*Не скажаш чатыры разы «ў настаяшчая ўрэмя»* —
*Ты тэсту не пройдзеш на веданне рускае мовы.*

Хто там наступны? Пярэварацень-манкурт? Пра такіх гаварыць у адзіночным ліку таксама не выпадае, толькі ў множным, бо імя ім — легіён. Думаю, што мы ўсе стаміліся іх згадваць, сузіраючы музей Суворава ў Кобрыне, «домік Пятра І» ў Полацку, мемарыяльны знак «царю-освободителю Александру ІІ» у Заслаўі, памятныя шыльды дзеячам Арміі Краёвай на Лідчыне, «дубы Напалеона» па ўсёй Беларусі, вал Івана Жахлівага ў тым самым Полацку... Кім жа гэта ўсё збудавана, названа, ушанавана і разрэкламавана? А тым самым суайчыннікам-пярэваратнем, які атрымаў ад Гілевіча іранічнае найменне — «звышудзячны беларус-патрыёт», бо:

*Ад настальгіі па раі за Польшчай*
*Ён лічыць задачай сваёй найбольшай* —
*Ля шляху між Менскам і Маладэчнам*
*Паставіць камень з надпісам вечным:*

*«Тут, у дваццатым, спыняўся пры дрэве*
*Юзаф Пілсудзкі па малой патрэбе.»*

Аднак, захапіўся я цытаваннем, больш не буду. Цытаваць будзеце вы, шаноўныя чытачы, калі прычытаеце гэтую кнігу. Прычым — на памяць, я ў гэтым пераканаы, бо напісаныя па-майстэрску афарыстычныя эпіграмы Ніла Гілевіча лёгка запамінаюцца. А запомніўшыся, будуць надзейна слугаваць вам, дапамагаць ставіць на месца нягоднікаў рознай пароды, бараніць свой свет ад малых і вялікіх агрэсій свету чужога.

Часы насталі такія, што вербальныя войны штодня ўрываюцца ў нашы кватэры з тэлеэкранаў, прыносячы небяспеку, руйнуючы не падрыхтаваныя да падобных атакаў душы. Трэба быць падрыхтаваным. І Гілевічава сатыра — адзін з самых дзейсных сродкаў супраць чужацкай набрыдзі і сваіх пустадомкаў, супраць агрэсіўнай у наш час пошасці, фальшу і прыстасавальніцтва.

У артыкуле пра эпіграму ў вышэйзгаданым «Паэтычным слоўніку» названыя ажно трыццаць тры класікі жанру, пачынаючы ад Катула і Вальтэра і заканчваючы айчыннымі майстрамі эпіграмнага досціпу Анатолем Вялюгіным і Рыгорам Барадуліным. На дзіва, чамусьці сярод гэтых трыццаці трох не згадваецца імя Ніла Гілевіча — як на маю думку, беларускага сатырыка №1, аўтара бліскучых сатырычных паэмаў, найперш славутага «Сказу пры Лысую гару». Сатырыка, які, паўтаруся, эпіграмы пісаў больш за паўстагоддзя.

Не хочацца ставіць пад сумненне дасведчанасць аўтара слоўніка, хутчэй за ўсё гэта прыкрая выпадковасць. Ды хіба ўсё своечасова дапільнуеш і ўлічыш?

А кніга — рэч заўважная. Вось напісаў у свой час Янка Сіпакоў кнігу «Веча славянскіх балад», і ніхто пасля гэтага не гаварыў, што ў беларускай літаратуры баладны жанр у занядбанні. Напісаў Юрка Голуб цэлую кнігу трыялетаў, і гэты жанр відавочна папрыкметнеў для нашых літаратуразнаўцаў. Выдаў той самы Ніл Гілевіч кнігу актаваў (яшчэ ў 1976-м) і — нібы ўзаконіў гэтыя васьмірадкоўі ў айчынным пісьменстве. Бо адна справа — прышчапіць адзін-два саджанцы, і зусім іншая — пасадзіць цэлы сад.

З выхадам гэтай кнігі на беларускім Парнасе з'явіўся яшчэ адзін сад. Калючы і страхотлівы, з неспадзяванымі сукамі і патырчакамі — для прайдзісветаў. І з гаркаватымі, але спажыўнымі пладамі — для суайчыннікаў-аднарадзімцаў. Сад эпіграмаў.

Хоць, прызнаюся, у дадзеным выпадку мне хочацца пісаць гэтае слова на старасвецкі лад — эпікграмаў. Хочацца яшчэ раз вылучыць гэтае знакавае для нас спалучэнне літараў — **кг**. Бо эпікграмы Ніла Гілевіча не прызначаныя для пустапарожняга зубаскальства, яны насамрэч усе — вагомыя.

А ўсім тым, хто думацьме інакш, хай штоночы над вухам гучыць купалаўскае — крэнту-мэнту, крэнту-мэнту...



# Тамара Нуждзіна

крытык, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, працуе ва ўстанове адукацыі «Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя І.П. Шамякіна» з 1 верасня 1969 года. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі працавала загадчыкам кафедры літаратуры (1979—1984), а з 2001 па 2009 год загадвала кафедрай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1948 годзе ў вёсцы Дзянісавічы на Крупшчыне. Жыве ў Мазыры.

# Адзін год — і ўсё жыццё вялікага майстра...

Вялікія ў нашай літаратуры былі, ёсць і будуць: геніяльны Я. Купала, мудры Я. Колас, унікальны М. Багдановіч, глабальны К. Чорны, эпапейна-маштабны І. Мележ, бунтоўна-энцыклапедычны У. Караткевіч, а яшчэ ж А. Куляшоў, П. Панчанка, В. Быкаў і... тыя, пра каго будзе сказана сумленнае, прафесійнае слова ў навуковай і культурна-чытацкай прасторы нашай краіны, а можа і свету. Іх час, не намі сказана, — яшчэ наперадзе. Вялікі творца — гэта заўсёды загадка, якую разгадваць і цікава, і складана, і адказна. Цікава таму, што Асоба, што прыродны дар, талент — бязмежны, што прага творчасці неспатольная. І гэта пры максімальнай патрабавальнасці і прынцыповасці.

Такім вось Майстрам і бачыцца народны паэт, сын лагойскай зямлі Ніл Сымонавіч Гілевіч, чый унёсак у мастацка-інтэлектуальную сферу і грамадска-палітычнае жыццё Беларусі настолькі значны, настолькі адчувальны, што не паддаецца звыкламу ўспрыманню, не ўкладваецца ў параметры традыцыйных ацэнак і меркаванняў. З нагоды 80-годдзя пісьменніка Р. Баравікова паэтычна і знакава сказала пра велічны помнік, які «ўзвёў сваёй паэзіяй нашай мове Ніл Гілевіч» (эсэ «Узрост вышыні»). Назва эсэ, відаць, асабліва спадабалася паэту, паколькі ўсе юбілейныя матэрыялы, укладзеныя ў кнігу, выйшлі пад агульнай назвай «Узрост вышыні» (2012). Помнік гэты набудзе яшчэ большую велічнасць, калі прыгадаць смелую, вострую публіцыстыку, што абараняла права беларускай мовы на жыццё ва ўсіх сферах нацыянальнага быцця. Аднак сёння балюча і скрушна, што на ўзроўні дзяржаўных культурных праграм яго імя амаль не згадваецца. Нават у год, абвешчаны годам Культуры, тэлеролік памятных дат і слынных імёнаў не згадвае Ніла Гілевіча. І гэта пры тым, што па восені творца сустракаў бы свой 85-ы верасень. Сустракаў бы... Не сустрэне. Не датрывала душа, не вынесла болей цяжару жыцця збалелае сэрца.

Амаль шэсць дзясяткаў невераемна напружанай працы — літаратурна-мастацкай, педагагічнай, грамадскай, дзяржаўнай... Няпроста было выбраць адзін толькі год, але такі, каб за ім убачылася велічная постаць Майстра на ўсёй жыццёвай і творчай дарозе з яе крутымі віражамі, дарозе, па ўзбоччы якой часцей не ружы цвілі, а «толькі шызы палын». Вызначыцца паспрыяла дзённікава-мемуарная споведзь пісьменніка — «Выбраныя старонкі з дзённікаў» (т. 21) і «Між роспаччу і надзеяй» (т. 23). Праўда, не заўсёды была, скажам, танкаўская — з году ў год, амаль кожны дзень — фіксацыя таго, што ўзрушвала, што выклікала абавязковую рэакцыю на ўсё, з чаго складалася жыццё творцы з упартым характарам, непарушнасцю ідэалаў і маральных прынцыпаў.

Дзённікавыя запісы ахопліваюць вялікі па часе адрэзак жыцця (1954—2002). Асабліва рэгулярна вяліся ў 1978, 1983, у 2-ой палове 90-х гадоў. У 2002 годзе аўтар назаўсёды развітаўся са сваім шчырым суразмоўцам, які ніколі не здраджваў сяброўству, не пісаў даносаў, не ўзводзіў паклёпы. Для таго, каб паказаць, у які час жыў, рэалізоўваў свой талент, паказаць, як лёс, улада, калегі па літаратурных справах уплывалі на стан душы пісьменніка, паспрабуем прайсці-пражыць толькі адзін год жыцця Майстра — 1983-ці.

Наступіла пара падвядзення вынікаў сваёй дзейнасці ў якасці чыноўніка на службе ў Саюзе пісьменнікаў. На пленуме СП 17-га верасня 1980 года Ніл Гілевіч быў выбраны першым сакратаром праўлення. На працягу некалькіх месяцаў пісьменнік рашуча адмаўляўся ад усіх прапаноў. Выклікі ў ЦК, размовы з ідэолагам краіны А.Т. Кузьміным не прыводзілі да згоды. І толькі тады, калі раззлаваны ўпартасцю творцы высокі чыноўнік выклаў апошні свой аргумент — сам Машэраў з шасці кандыдатур толькі Гілевіча хацеў бачыць на адказнай пасадзе кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі, — даў згоду. Машэрава ён ведаў і паважаў, спадзяваўся на яго падтрымку ў ажыццяўленні галоўнай ідэі жыцця і творчасці: зрабіць усё магчымае «для выратавання беларускай мовы і культуры, беларускай школы, беларускай кнігі і наогул для беларушчыны, — зрабіць нашмат больш, чым раблю цяпер» [23, с. 242][4].

У рэальнасці ўсё абярнулася балючай нечаканасцю. Праз два тыдні пасля канчатковай размовы Н. Гілевіча з галоўным ідэолагам краіны трагічна загінуў П.М. Машэраў. Першыя два месяцы на новай пасадзе паказалі, што не толькі ў ЦК, але і ў гурце сакратароў СП ён «аказаўся целам чужародным» [23, с. 257]. Пераканаўся яшчэ больш, што нічога не змянілася ў літаратурным асяроддзі з тых часоў, калі Вядзьмак Лысагорскі абураўся матэрыяльна-мяшчанскімі клопатамі «пісак»:

*О, творчы пошук пад гарою!*
*Калі б у гуле нашых дзён*
*Свайго станоўчага героя*
*Шукалі так — які б быў плён!* [5, с. 14].

У кнізе ўспамінаў «Між роспаччу і надзеяй» кіраўнік-летуценнік з пачуццём гаркотнага шкадавання згадае тыя 64 прыходы творцаў у першыя два месяцы службы ў Саюзе пісьменнікаў, якія сваімі праблемамі яго «здорава асадзілі на зямлю: вось гэта і ёсць рэальнасць, вось гэтым і будзеш займацца — штодзённа і неадкладна» [23, с. 257]. Усе пытанні былі наконт жылля, аўтамашын, камандзіровак і ніводнага адносна літаратурна-творчых праблем. Пацягнуліся шэрыя будні службоўца-чыноўніка, якому вопыт кіраваць-камандаваць вялікім творчым калектывам даваўся нялёгка. Як гэта было далёка ад плённай працы паэта, навукоўца, педагога, які ў 60—70-я гады сцвердзіў сябе як выдатны лірык, сатырык. У актыве творцы дзесьці каля двух дзясяткаў паэтычных збор-

[4] Усе цытаты са збору твораў Ніла Гілевіча ў 23 тамах, у дужках пазначаецца том і старонка.

нікаў, сярод якіх «Неспакой», «Бальшак», «Перазовы», «Лісце трыпутніку», «А дзе ж тая крынічанька?», «Актавы», «Як я вучыўся жыць», «У добрай згодзе» і інш. Даплюсуем «Сказ пра Лысую гару» (1971), які да 1988 года вандраваў як у Беларусі, так і за яе межамі ў машынапісных перадрукоўках ці нават у саматробных кніжачках чытачоў. Трапілі падобныя «самаробы» і ў хатнюю бібліятэку паэта.

Былі на рахунку Ніла Гілевіча ў тую пару і літаратуразнаўчыя даследаванні па беларускай паэзіі. Сапраўдным дасягненнем у галіне фалькларыстыкі сталі кнігі вучонага, якія вызначаюцца высокай культурай вобразна-эстэтычнага спасціжэння шэдэўраў народнай творчасці («Наша родная песня», «З клопатам пра песні народа», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Паэтыка беларускіх загадак»). Часта выступае як крытык і публіцыст («У гэта веру» — 1978). Словам, творца быў на самым узлёце мастакоўскіх пошукаў, задум і здзяйсненняў. Дзённік пісьменніка за 1983 год — гэта дакумент эпохі, летапіс жыцця творчай асобы з абвостранай рэакцыяй на самыя сур'ёзныя праблемы функцыянавання ўсяго арганізма пісьменніцкай арганізацыі, цалкам залежнай ад дырэктыў, загадаў, рэкамендацый, катэгарычных патрабаванняў і жорсткага кантролю з боку ўладных структур. Многае за два гады сакратарства ўбачылася знутры, убачылася аголена, без камуфляжу. Ні ў будні, ні ў святы не было адхлання ад трывожных разваг і сумненняў. Нават у першыя дні 1983 года даймалі роздумы пра сваю працу-службу, што «ў вір цягнула свой».

Ці не той шчаслівы час жыцця любімай справай, — заняткі са студэнтамі, кіраўніцтва фальклорнай практыкай, апрацоўка і навуковая класіфікацыя сабраных у экспедыцыях матэрыялаў, уласная паэтычная творчасць, пераклады балгарскай паэзіі, — убачыўся немаладым чалавекам, героем верша «Перад люстэркам» (1991)? Убачыўся з адлегласці ў дзесяць будзённа-напружаных год існавання пісьменніка на пасадзе дзяржаўнага чыноўніка. У самога сябе герой верша шукае адказу на пытанні, якія вярэдзяць душу: што набыў і што страціў, як і чаму перайначыўся лёс?

*Мо даняла паняверка,*
*Можа хто крылы падсек?*
*Пільна глядзіцца ў люстэрка*
*Немалады чалавек.*
*.................................*
*Лепш бы зусім не глядзеўся!*
*Лепш бы не бачыў сябе!*
*Дзе ж той акрылены дзеўся —*
*Вымыты ў сонца сяйве?* [2, с. 8].

Каб пранікнуць у глыбіню таго, што прыхавана ў падтэксце твора, прачытаем дзённікавы запіс ад 4-га студзеня 1987 года: «Гіну, канаю поціху, як надарваны конь на выгане... Баліць усё — ныркі, печань, ломіць у скронях, начамі сэрца сціскае так, што задыхаюся. І ўсё ад таго, што баліць і ніякай рады не

знаходзіць душа. Як відаць па ўсім — і не знойдзе. <...> Нічога не магу чакаць, ні на што не магу спадзявацца! Назад ходу гаспадары жыцця не дадуць. <...> Калі сёння-заўтра не грукну дзвярыма — можа быць і зусім кепска. Збрыдзела ўсё да крайняй, апошняй кропкі цярпення» [21, с. 232]. Дакладна ведаў, што не дадуць. Праігнаравана ж ЦК яго згода толькі на трохгадовы тэрмін сакратарства ў праўленні СП. На ліст аб адстаўцы на імя І.І. Антановіча, напісаны Н. Гілевічам 06.06.1985 года, адазваўся званком першы сакратар ЦК КПБ М.М. Слюнькоў, з просьбай-прапановай яшчэ папрацаваць, з абяцаннем пуцёўкі ў любы санаторый, каб мог падлячыцца. А пасля ветліва-катэгарычна дадасць: «А папрацаваць — трэба, трэба! Абавязкова!» [23, с. 316]. І яшчэ чатыры гады цягнуў абрыдлы воз свайго сакратарства.

Яго мала турбавала, як будзе рэагаваць высокае начальства на яго заяву аб вызваленні з пасады. Хвалявала іншае: «столькі важных для нашай культуры спраў трэба здзейсніць, і галоўная сярод іх — разварушыць як мага глыбей і мацней пачуццё нашай нацыянальнай годнасці, дух патрыятызму. Сёння я і сам магу нешта зрабіць і падтрымаць іншых сяброў-паэтаў, хоць трохі паўплываць на стан рэчаў. А тады?..» [21, с. 143]. Уся істота Ніла Гілевіча была падначалена аднаму: сумленна і да знямогі працаваць дзеля Радзімы, дзеля беларускай будучыні. Таму і цягнуў той абрыдлы воз службы столькі часу.

Кароткае слова, з якім звярнуўся першы раз да калег-пісьменнікаў Ніл Гілевіч у новым статусе, насцярожыла многіх. Выступленне было прысвечана праблемам літаратурнага і грамадскага жыцця. І ні слова пра матэрыяльна-побытавыя пытанні, якія потым даводзілася рашаць: будаўніцтва дома творчасці «Іслач», кватэры, літфонд, паліклініка, творчыя камандзіроўкі і інш. Абазначаны перш за ўсё магістральны накірунак дзейнасці арганізацыі, акрэслены задачы першаступеннай важнасці. Для тых, хто лічыў сябе творцам, але ніколі не аддаваў сябе цалкам служэнню літаратуры, мастацкаму выяўленню праўды жыцця і часу ў праўдзе слова, сваёй пазіцыяй кіраўніка і творцы незгаворлівы сакратар ствараў сур'ёзны прэцэдэнт.

Напорыстасць характару, здольнасць прымаць самастойныя рашэнні, што катэгарычна не супадала з жаданнем многіх мець кіраўніка-функцыянера, які лёгка прыстасоўваўся б да зручных абставін, выгадных сітуацый, да думкі высокага начальства або тых з літаратурнай брацііі, што самі настырна рваліся да ўладнай кармушкі, не магла забяспечыць сапраўдную падтрымку.

Першыя крокі на пасадзе кіраўніка. Яшчэ па-сур'ёзнаму не пачаў выяўляць сябе, а ў ЦК пайшлі ананімкі, у якіх ахайвалася творчасць пісьменніка, яго нацыянальны патрыятызм, выліваўся бруд на сям'ю, на радню. У ЦК падобныя «перлы» паказвалі пісьменніку з пэўным падтэкстам: старайся, каб заслужыць абарону «вярхоў». Паток ананімак, даносаў, паклёпаў не спыняўся. Напрыклад, 17-га сакавіка 1983 года прачытаем інфармацыю пра тое, што ў пісьменніцкім асяродку пайшла «гуляць» плётка: Ніл Сымонавіч, на якога напісана

столькі брудных ананімак, рашыў адмовіцца ад пасады сам. Называлася нават імя магчымага наступніка — Сачанка. У Ніла Гілевіча іншае бачанне праблемы: «Брудных ананімак, вядома, шмат, але не яны робяць пагоду і не яны прымусяць мяне атрэсці рукі. Прымусяць іншыя рэчы, куды больш сур'ёзныя і прынцыповыя» [21, с. 165].

Падобная гнуснасць выказвала сябе як напрыканцы XX стагоддзя, так і ў XXI. І бараніў сябе, сваю годнасць і гонар вострым сатырычным словам. Так, рэакцыяй на «тхарыную злосць» і смярдзючыя інсінуацыі рознага кшталту незычліўцаў і халуёў былі хлёсткія эпіграмы. У 1983 напісана каля дзесяці. Усе яны мелі сваіх рэальных адрасатаў. Разам з тым пісьменнік ствараў характэрныя тыпы, не пераходзячы на канкрэтныя імёны. Гэта паклёпнік-віж, зайздроснік-сапун, ярлычнік-біркач. У лепшых традыцыях нацыянальнай смехавой культуры ствараецца тып прыстасаванца, які гатовы служыць і нашым, і вашым, і дзядзькавым у эпіграме «Аднаму нібыта дабраку»:

*Дзіўлюся я з дыяпазону*
*Тваёй натуры дабрака:*
*І Тыгру служыш — і Бізону,*
*І Зайца хваліш — і Ваўка,*
*І Салаўю дружбак — і Кобры,*
*І Лось твой прыяцель — і Рысь.*

*Ты і з Блыхою нават добры:*
*Мяне ўгрызе — табе карысць* [4, с. 310].

Па ўсім відаць рука Ведзьмака Лысагорскага, чуваць поўны сарказму голас аўтара бліскучага «Сказа пра Лысую гару». Дасведчанаму чытачу вядома, што прызнацца ў аўтарстве паэта прымусілі абставіны. Настойліва стала мусіравацца версія, што паэму стварыў пісьменнік, які па прыродзе таленту ўвогуле не сатырык. Не бралася ў разлік і разумнае сцверджанне крытыка В.А. Каваленкі: аўтар паэмы не быў лысагорцам. Ды і ў самім «Сказе...», не гаворачы пра іншыя сатырычна-гумарыстычныя творы — вершы-пародыі, эпіграмы, паэмы-містыфікацыі і нават раман «Родныя дзеці», — было нямала падказак, якія абсалютна дакладна ўказвалі, што такі шэдэўр мог стварыць толькі Ніл Сымонавіч Гілевіч.

Цяжка ўявіць, як жа выносіла сэрца паэта той вэрхал, які ўсчыніўся вакол яго абсалютна аргументаванага права лічыцца адзіным аўтарам геніяльнага твора. А яму балела невыносна. Усе гады. У зборніку «Пацеркі Божай Маці» (2011) ёсць верш «Даўно адменены дуэлі» (2010, ліпень), у якім згадваецца час, калі нягодніка выклікалі на дуэль.

*Даўно адменены дуэлі,*
*Што колісь звыклымі былі.*
*Якія жонкі паўдавелі!*
*Якіх мужоў не ўбераглі!*

*Паклёп законам на адменіш,*
*І подласць страхам не заб'еш.*
*Тым больш, што ты й страляць не ўмееш,*
*Ты ўмееш толькі скласці верш* [2, с. 465].

Сумленнае, па-мастацку дасканалае слова паэта было яго адзінай зброяй і верна служыла да самых апошніх дзён. Усё, што адбывалася з паэтам, што ўзнікала вакол яго імя, яго мастакоўскіх пошукаў, не садзейнічала творчаму настрою, не дадавала здароўя, фізічных сіл. Аднолькава прынцыповы і патрабавальны да ўсяго, за што браўся, ён дарэшты выдаткоўваў сябе. Вольнага часу катастрафічна не хапала. Свой боскі дар тварыць рэалізоўваў не дзякуючы спрыяльным момантам жыцця, а насуперак умовам, абставінам і розным нечаканым акалічнасцям.

Усё ж наступіць той момант, калі пісьменнік, «не пытаючы папярэдняй згоды ні ў ЦК, ні ў старшыні М. Танка, пакінуў пасаду першага сакратара СП БССР» [23, с. 393]. Прычынілася да гэтага, — па словах пісьменніка, — «дыялектыка рэчаіснасці». Спроба ўдзелу ў выбарах народных дэпутатаў СССР, што мусілі адбыцца 26 сакавіка 1989 года, прынесла нямала расчараванняў. Скіраванасць выбарчай праграмы кандыдата ў дэпутаты на рэалізацыю праблем развіцця нацыянальнай культуры, на клопат пра статус беларускай мовы не магла гарантаваць поспех. Палітычная зашоранасць і правых, і левых, і сяброў, і апалагетаў рэжыму прыводзілі да абсурднага непаразумення і нават абраз, выказаных імі ў час выбарчага марафону ў адрас кандыдата, што так верна, так аддана ўсё жыццё служыў адной ідэі — бачыць сваю краіну нацыянальна ідэнтыфікаванай, гожай і годнай. Вялася агітацыя не галасаваць за камуніста Гілевіча.

Асабліва балюча было чытаць артыкулы В. Быкава, апублікаваныя ў лістападзе 1989 года ў нацыянальным і саюзным друку — на старонках газет «Літаратура і Мастацтва», «Правда», у якіх Н. Гілевіч абвінавачваўся ў «сацыяльным канфармізме, прыслужніцтве перад уладай». Інфармацыя пра жыццё пісьменніка ў 1989 годзе ўзята з яго абрыса пройдзенага шляху «Між роспаччу і надзеяй», над якім аўтар працаваў у 1998, 2001—2002 гадах. Дзённікавыя запісы за 1989 год не друкаваліся. Не вяліся зусім? Не даў волю эмоцыям? Зразумела адно: у імя агульнай справы і былога шчырага сяброўства аказаўся вышэй асабістага болю і крыўды. І хоць былых даверліва-шчырых быць не магло, але ніколі ў дачыненні да сябра не выказваў злосці або варожасці.

Затое вершы, напісаныя паэтам з мая па лістапад 1989 года («Наконт дэмакратыі і дэмакратаў», «Калі не апомнімся», «Ён і яны», «На судзілішчы тым...», «Вам, што траціце розум...», «Эскізы канца 80-х» і інш.), выяўляюць такую шкалу эмоцый, такі барыкадны настрой лірычнага героя, што, здаецца, кожны радок — гэта агалены нерв, яму нясцерпна балюча. Несумненна адно — творы пісаліся душой, распятай на крыжы сумлення. Талент, запраграмаваны на

пазнанне высокай ісціны — быць верным і вартым запаветам тых, хто паклаў жыццё ў змаганні за праўду пра гістарычны лёс і будучыню крывіцкага краю, — на мяжы магчымага і немагчымага даказваў, пераконваў, сцвярджаў, папярэджваў, перасцерагаў усіх і кожнага паасобку ад страшных гістарычных памылак. Вучыў адрозніваць сапраўдны боль і клопат ад сытай пыхі «майстроў былой шуміхі», ад сучасных дэмагогаў, што агрэсіўна і настырна лезлі і лезуць у праракі. Лірычны герой вершаў Н. Гілевіча гэтай пары ўспрымае рэальнасць праз рэзкае размежаванне грамадства на дзве процілегласці — ён і яны, яны і мы.

*Хто вы — левыя-бравыя?*
*Што гуртуе вас? Боль?*
*Хто вы — гнеўныя правыя?*
*Дзе ваш чэсны мазоль?*
*.................................*
*Слоў адкінеце магію —*
*Для чаго яна там,*
*Дзе з'яднаюцца ў мафію*
*Злодзей, цынік і хам?*

(«Эскізы канца 80-х»).

Часта ў прыватных размовах з пісьменнікам можа было пачуць яго нараканні на тое, што шмат часу, здароўя і творчых сіл «улялёшчыў» на пераклады. Ушчувала, напрыклад, за моцнае захапленне балгаршчынай і яго Ніна Іванаўна, першы чытач і крытык. Як крытык яна была бескампраміснай, строгай і нават рэзкай. Ёсць сумненні наконт дзейнасці ў перакладчыцкай сферы і ў самога пісьменніка: «І зноў думкі: а ці варта было так шчыраваць, так выкладацца на гэтай перакладчыцкай ніве? Іншыя, скажам — Куляшоў, рабілі гэта тады, калі не пісалася сваё, або зусім ставіліся да перакладаў плёва, хаця зрэдку і прыкладвалі руку <...>. А я — амаль заўсёды адсоўваў убок тое, што не меў права адсоўваць — свае ўласныя задумы, адсоўваў, можа быць, свой лёс». Запіс зроблены 7-га студзеня 1983 года, калі паэт амаль да раніцы сядзеў над карэктурай зборніка «Роднасць», у якім асабліва цікавай і змястоўнай была балгарская частка. Больш за 100 паэтаў Балгарыі загучалі на беларускай мове. Прадстаўлены розныя творчыя пакаленні. Петка Славейкаў (1827—1895) і яго верш «Народны» адкрываюць перастварэнні Ніла Гілевіча з балгарскай паэзіі, а вянчае балгарскі раздзел Мірана Башава (1947) вершам «Кропка». Нельга не адчуць, як вельмі рэльефна акрэсліваецца тое, што блізка, сугучна беларускай душы перакладчыка. Між іншым зазначым: і ў арыгінальных творах пісьменніка на балгарскую тэматыку абавязкова прысутнічае беларускі субстрат.

Як жа стасуюцца з нашай нацыянальнай гісторыяй быцця-жыцця геніяльна таленавітай творчай асобы паэтычныя радкі балгарына Славейкава са зборніка Ніла Гілевіча «Роднасць»:

*Біўся ў кроў за ідэалы —*
*іншы клопат меў за грэх.*
*Пра сябе не дбаў ні мала*
*і ў жыцці не знаў уцех.*

*Аб народзе думаў вечна:*
*так патрэбна, — гаварыў.*
*На свой лёс глядзеў бяспечна —*
*для людзей дабро тварыў.*

*І цяпер ніхто-ніводны*
*не ўсумніцца навакол,*

*што папраўдзе я народны:*
*босы, голы — як сакол.*

(«Народны»)

Сёння з поўным правам усё, што сказана ў вершы балгарскім паэтам XIX стагоддзя, можна адрасаваць Нілу Сымонавічу Гілевічу, народнаму паэту Беларусі, сапраўдным багаццем якога быў духоўна-інтэлектуальны капітал, кнігі, прыродны дар і спаконвечная рыса беларускай душы тварыць дабро.

Пры такім неверагодна напружаным раскладзе жыцця ў 80-я гады кожная хвіліна паэтычнага самавыяўлення ўспрымалася з пранізлівым пачуццём сакральнасці творчага працэсу: «Амаль цэлы дзень перажываў радасць таямнічага шаптання з чыстым аркушам» (запіс ад 15-га студзеня). Адчуванне творчай радасці ўзнікла яшчэ 3-га студзеня, калі закончыў верш «Аўтографы сяброў»: «Так даўно не пісаў вершаў, што адчуў неймаверную асалоду». І далей зафіксуе з'яўленне такіх паэтычных набыткаў, як «Лёс і песня», працу над якім распачаў дзесьці на пачатку 1982 года, а 16-га студзеня паведаміць дзённіку і аб тым, што «радасць працягвалася — і ў выніку верш «Выпадковы госць»».

Па службоваму абавязку пісьменніку даводзілася бываць-выступаць на самых розных мерапрыемствах — афіцыйных, урачыстых, творчых, юбілейных і інш. У аснову нагаданага верша пакладзены, думаецца, уражанні, калі творца пачуваўся досыць непамысна ў тым асяроддзі, якое было яму чужым па духу, па спавяданні ідэй, па жыццёвых прынцыпах і перакананнях. Лірычны герой верша — вядомы паэт — апынуўся ў мадэрновым салоне. Запрошаны, як і купалаўскі гусляр, каб даць уцеху гасцям. Неабачлівай аказалася гаспадыня салона. Прамахнулася, запрасіўшы паэта, чый верш «не салонны, а салёны», а сам творца «прагорк дашчэнту». Яго вершу «ад цяжкіх дум журботна, // Яму ад горкіх страт баліць» [1, с. 312]. Выпадковы госць-паэт праз іранічна-здзеклівы тон (знешне карэктна, ветліва — вы, мадам) дыстанцуецца ад аблуднасці

сытых-пустых па самых высокіх і прынцыповых пазіцыях: «чужы мой верш для вас, чужы!» І абавязкова патлумачыць чаму:

*Прыроднай соллю-гаркатою*
*Ён абавязаны зямлі,*
*Што ёсць і будзе мне святою —*
*Куды б шляхі ні праляглі* [1, с. 312].

Сказана ў дзённіку і пра тое, што напісанае «пакуль — як першы варыянт; напэўна, яшчэ да яго я вярнуся. Тэма — вельмі не простая» [21, с. 147]. Магчыма, даследчыкі, якія будуць працаваць з архіўнымі матэрыяламі пісьменніка, будуць мець магчымасць супаставіць рэдакцыі верша, каб выявіць эвалюцыю думкі і пачуцця аўтара твора і яго лірычнага героя.

Мінаўся студзень 1983-га. Паэт усё больш уцягваўся ў вершы. Прызнаецца, што ніколі не чакаў, што першы месяц года будзе ў пісьменніцкай біяграфіі такім творчым. Быў тут і яшчэ адзін клопат: як задаволіць свой «апетыт да чытання» — «часу ўсё менш і менш» [21, с. 148]. Чытаў заўсёды прагна яшчэ з падлеткавых часоў, пасля ў час вучобы ў педвучылішчы і БДУ. Цікава, напрыклад, было знаёміцца з чытацкім дзённікам Ніла Гілевіча, якім заканчваецца яго аповесць у абразках памяці «Перажыўшы вайну» (1988). Запісы пазначаны 1948—1951 гадамі. Ёсць усе падставы гаварыць, што пісьменнік належаў да такіх творчых постацей, якія чыталі не толькі класіку (нацыянальную, сусветную), але і тое, што выходзіла з-пад пяра творцаў, чыя літаратурная дзейнасць істотна ўплывала на літаратурны працэс або характарызавала творчы патэнцыял маладога пакалення.

Адгукаўся і душой, і словам, і падтрымкай, калі заўважаў таленавітае, новае ў літаратурна-мастацкай або навукова-філалагічнай сферы. Перажываў, непакоіўся, калі па нейкай прычыне знікаў з поля зроку хто з маладых, у каго прарэзаўся самабытны талент. Радасцю напоўнілася сэрца паэта, калі «азваўся ў «Маладосці» А. Жыгуноў — і нядрэннай падборкай. Дзякаваць богу, а то ўжо трохі трывожна было — што замаўчаў, дзе дзяваўся хлопец? Верш «Крывічы» проста выдатны! Ды на такую няпростую тэму. Аднак жа думаюць, чэрці маладыя, думаюць!» [21, с. 208—209]. Цешыла тое, што з'яўляліся і ў нас, і ў суседніх літаратурах творцы, здольныя мысліць, глыбока пранікаць у праблемы сучаснага жыцця і гістарычнае мінулае. Шчодрая душа Ніла Сымонавіча адгукнецца на прыход у літаратуру паэтэсы Л. Рублеўскай вершам-вітаннем замест традыцыйнай рэцэнзіі. І так будзе заўсёды. У 2012 годзе вершам «Во калі б гахнуць!..» (таксама паэтычная рэцэнзія) прывітае выхад «Вялікага слоўніка беларускай мовы» Фёдара Антонавіча Піскунова.

Зноў і зноўку на другі план адыходзілі асабістыя творчыя інтарэсы. Як і тады, у 1983 годзе. Тады, у выніку пакутлівых роздумаў прыйшоў да адной непарушнай ісціны: нельга адкладваць на няпэўнае потым, пасля тое, што павінна стацца лёсам, асобым знакам яго пісьменніцкай сутнасці. Як толькі ў студзені «ўцягнуўся» ў вершы, адразу «выцягнуў папку з «Роднымі дзяцьмі»».

Да рамана не дакранаўся з лета 1981-га. Пачуем і скрушны дакор, і бязлітасны прысуд самому сабе: нічым і ніколі не апраўдаць такія адносіны да работы над лёсаносным творам, а праз 3—4 дні прачытаем запіс аб тым, што з 15 лютага ўзяў за свой кошт адпачынак і паедзе на месяц у Каралішчавічы «дабіваць» «Родных дзяцей»» [21, с. 157]. Далей з дня ў дзень фіксуецца пісьменнікам творчы стан, настрой, рытм работы над раманам. На аснове дзённікавых запісаў паэта за 1983 год можна напісаць не толькі біяграфію «Родных дзяцей», але і творчы партрэт самога пісьменніка.

У 1984 годзе беларускі перыядычны друк («Маладосць», «Полымя», «Работніца і сялянка», «ЛіМ») пастаянна знаёміць чытача з лірычнымі адступленнямі або ўрыўкамі з раздзелаў рамана «Родныя дзеці», а на самым пачатку 1985 года карэктура твора «вярнулася з Галоўліта з благаславеннем». Пакуль дачакаўся гэтай шчаслівай хвіліны, страшэнна перахваляваўся за дзве сюжэтныя лініі — «экалагічную і нацыянальна-патрыятычную» [21, с. 229]. Змест рамана, характары персанажаў, ахоп рэчаіснасці — усё гаворыць пра тое, што беларуская літаратура мае твор эпахальнай значнасці, у якім геніяльна ўзноўлена панарама народнага быцця на розных этапах нацыянальнай гісторыі.

Адпускаючы раман у вершах у самастойнае жыццё, аўтар выдатна разумеў, што яго наватарскі твор наўрад ці будзе глыбока і па справядлівасці ацэнены тагачасным літаратурна-творчым асяроддзем, крытыкай, грамадствам. Аднак верыў, як і вялікі Купала, у будучы лёс і краіны, і чытача, і даследчыкаў, і проста таленавітых аматараў яго паэзіі:

*Адну надзею ў сэрцы маю,*
*Што ў нейкі з дальніх вечароў,*
*З нагоды нейкай, аб'ядналю*
*Сваіх няведамых сяброў.*

*І ў некім знойдзецца адвага,*
*І нехта скажа без граха:*
*«Тут лёс, браткі, ляжыць на вагах,*
*А з ім — і слова, і страфа!...»* [3, с. 225].

Застаецца спадзеў на тое, што сапраўды «ў некім знойдзецца адвага» падняць, асэнсаваць і тую скібіну творчай дзейнасці Ніла Сымонавіча Гілевіча, якой пазначаны яго лёс у XXI стагоддзі. Гэта паэтычныя зборнікі, што выдаваліся з 2002 па 2014. Прынамсі, зборнікам «З Божай ласкі — дасеўкі» ён развітаўся са сваёй паэтычнай музай, што «баставаць пачала» [22, с. 356]. Затое паспеў яшчэ ўбачыць і прытуліць да грудзей новую кнігу эсэістыкі «У віры быцця» (2015), унікальна багатую на думкі, падзеі, факты з жыцця пісьменніка. Планавалася некалькі такіх кніг у якасці дадатку да збору твораў у 23 тамах. Засталіся не апрацаваныя ім запісныя кніжкі. Будуць чакаць свайго даследчыка ці біёграфа аўтографы пісьменніка, шчодрыя і непаўторныя.

Чыясьці дапытлівая і ўражлівая душа, узгадаваная іншым часам, дападзе, як да жывой, запаведнай крыніцы, да высокіх дум і бязлітаснай праўды Ніла Гілевіча. І загучаць ужо на новы лад перастварaныя ім радкі верша «Кропка» Міраны Башавай:

*Я не магу сысці ні ў рай, ні ў пекла,*
*а гэты свет пусціць на самацёк:*
*мне эвалюцыя — як чалавеку —*
*дала бяссмерце — вечнае жыццё.*

Валадар беларускага слова, руплівец на ніве народнага мудраслоўя Ніл Сымонавіч Гілевіч назаўсёды пакінуў нам сваю жывую, святлістую душу, якая многім пакаленням беларусаў будзе дарыць сваю «Любоў прасветлую» і прамяніцца вечнай энергіяй «Святлыні».




# Янусь МАЛЕЦ

паэт, парадыст. Аўтар кніг: «Бедны конь», «Трава ў вушах», «Родны мацярык» і інш. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Хрыстова на Пастаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Ахрышчаны Божым дажджом...

***(Роздум пра майго куміра .)***

У адным з Божых запаветаў гаворыцца: «Не май іншых багоў, апроч мяне.» Гэта несумненна мудрае вызначэнне, якім мы павінны кіравацца ў зямным жыцці, бо празмерная ідэалізацыя і ўзвелічэнне звычайных людзей, няхай сабе і з незвычайнымі здольнасцямі і іх рэалізацыяй у паўсядзённасці, напэўна ж, не надта правільна.

І ўсё ж гэтага чалавека, з якім мне было падаравана лёсам блізкае знаёмства, я не магу ў пэўнай меры не абагаўляць. Добра ведаю, што стаўленне да яго з боку некаторых іншых неадназначнае, бо ў гэтых іншых праяўляюцца часам не лепшыя якасці іхніх характараў: творчая рэўнасць, зайздрасць, заганы ў выхаванні, адмоўныя моманты ў інтэлектуальнай напоўненасці душы і розуму. Альбо палітычны кар'ерызм і абывацельская слепата з адсутнасцю культуры. У рэшце рэшт, пераконваць іх бессэнсоўна, іхняе права. Я ж маю права на сваё разуменне.

Размова пойдзе пра Ніла Гілевіча, Народнага паэта Беларусі, які мужна змагаўся за Беларусь і беларускую мову сваім таленавітым словам, то разважліва-спакойным, то гнеўным і палымяным, то іранічным і здзеклівым, то адчайна-балючым, але не песімістычным, а напоўненым верай у сваю правату і перамогу ідэй, за якія змагаўся ён і за якія змагаліся папярэднікі.

У апошнія гады хваробы атакавалі адна за адной без супынку, прыходзілася ўсё часцей ляжаць у бальнічных палатах, цяжэй і цяжэй дабірацца да дзвярэй у роднай кватэры, каб адчыніць іх для шматлікіх сяброў і прыхільнікаў яго таленавітай творчасці, з якімі ён не адмаўляўся сустрэцца. Аднак пры першай вольнай хвілінцы зноў браўся за звыклую працу, якой прывык аддаваць усяго сябе з юначых гадоў. Выданні, якія не баяцца сказаць вольнае і праўдзівае слова, з задавальненнем публікавалі ягоныя новыя творы і кнігі. Верыцца, што ўсё-такі наступіць некалі час, у які ён верыў і пра які марыў, за які змагаўся, не шкадуючы здароўя.

Наўмысна не стану пералічваць для чытачоў ягоныя рэгаліі і выдадзеныя кнігі, бо пра гэта гаварылася шмат дзе і шмат кім, і будзе гаварыцца. Зойме гэта, прабачце за таўталогію, шмат старонак. Для мяне самае галоўнае — ён Чалавек, Асоба! А ў асабістых стасунках надзейны старэйшы сябар. А вось сябе сябрам назваць не асмельваюся, хоць ён даваў падставу ў шматлікіх аўтографах да сваіх кніг, якіх у мяне больш за палову сотні. Асабліва ганаруся поўным зборам дваццацітрохтомнага выдання з аўтографамі на кожным томе. Гэта неацэнны для мяне падарунак, які павінен будзе захавацца нашчадкам для пазнання шырыні яго пачуццяў і глыбіні душы. Пры ўзнікненні балючых і незразумелых пытанняў падчас асэнсавання рэчаічнасці, амаль заўсёды знаходжу абгрунтаваныя адказы ў яго творах. Ніл Гілевіч станоўча ўплывае на

мой душэўны стан. Па-добраму зайздросціў ягонаму таленту і працавітасці, ягонай памяці і энцыклапедычнаму складу розуму. Дзякуй Богу, што ён дазволіў адбыцца нашаму знаёмству і неаднаразовым сустрэчам.

Упершыню ўбачыў яго на завочным аддзяленні філфака, калі слухаў на першым курсе ягоныя лекцыі па народнай творчасці, якія часта дапаўняліся філасофскімі развагамі, як пра жыццё ўвогуле, так і пра літаратуру, асабліва пра паэзію. Помню, паказаў яму свае вершы на беларускай і рускай мовах. Рэакцыя з ягонага боку была стрыманай. Напэўна ж, у маіх опусах хапала недахопаў і недасканаласці, дый ці лепшыя прапанаваў тады яго ўвазе. Да таго ж і ўзрост пераваліў за дваццаць пяць. Адным словам не прымусіў мэтра схапіцца радасна за галаву пад уздзеяннем твораў Івана Мальца ( Янусем стаў значна пазней з лёгкай рукі Рыгора Барадуліна, які, дарэчы, таксама не абамлеў, калі прапанаваў яму для чытання рукапіс першай кнігі). Аднак Ніл Сымонавіч зрабіў кароткі аналіз з шэрагам заўваг і парад. Галоўнае, што ўрэзалася ў памяць гэта парада пісаць на матчынай мове, бо толькі на ёй можна напоўніцу рэалізаваць паэтычны дар. Склад думак, характар, моўная артыкуляцыя ў беларуса значна адрозныя ад рускага чалавека.

З універсітэцкага часу запомніўся выпадак, пра які хочацца расказаць, бо ён з'яўляецца яскравым сведчаннем сумленнасці і прыстойнасці гэтага чалавека, а таксама незабыўнай Ніны Іванаўны, жонкі і паплечніцы — двух сапраўдных інтэлігентаў-беларусаў.

Перш чым прыступіць непасрэдна да расказа, зраблю рэмарку. Пачынаючы пісаць гэты артыкул, быў у доўгім роздуме, як жа сцісла расказаць пра чалавека, які ўвабраў у сябе неверагодную веліч. Да мяне ўжо параўноўвалі яго з Нілам, самай вялікай ракой. І ў гэтым нешта ёсць. Сапраўды, чым больш знаёмлюся з ягоным жыццём і творчасцю, тым павялічваецца боязь немагчымасці знайсці патрэбныя словы. Колькі ўжо пра яго напісана і сказана ў прэсе і ў розных выданнях! Назбіраецца на шматтомнае выданне. І мной нешта сціпла сказана. А хочацца сказаць у дзясяткі ці нават сотні разоў болей. Толькі як? Якія словы знайсці, каб апісаць велічнасць ракі ці іншай прыроднай загадкавай з'явы, спасцігнуць сутнасць дадзенага звыш? А тут — чалавек, самае складанае стварэнне на зямлі, чалавек які ўвабраў максімальна лепшае ад чалавецтва ўвогуле і ад беларусаў, тутэйшых людзей нашай краіны, дзяржавы з незвычайным лёсам яе насельнікаў, з балючай моўнай праблемай. Мова для Ніла Гілевіча была неаддзельнай ад душы. Гэта — аксіёма. Тамара Аўсяннікава ў адным з артыкулаў адзначыла: «Ён — асоба настолькі маштабная, што пісаць аб ім — усё роўна што імкнуцца абняць неабдымнае». («Узрост вышыні», Мн. «Канфіда», 2012, стар 130 )

Дык коратка абяцаны вышэй выпадак. Дакладна ўжо не ўспомню, па якіх прычынах дзве студэнткі з нашай групы не змаглі здаць экзамен па фальклору Нілу Сымонавічу непасрэдна ў дзень здачы. Яны папрасіліся зрабіць гэта ў вольны для яго час. Ён міласціва дазволіў і прызначыў сустрэчу ў сваёй кватэры. Дзяўчаты скінуліся на шыкоўны букет кветак і на каробку нятанных

цукерак, каб аддзячыць экзаменатару і, відаць, пэўным чынам яго залагодзіць і аблегчыць працэс ацэнкі ведаў вуснай народнай творчасці. Не аднойчы ж такое бывала з іншымі выкладчыкамі падчас ліквідацыі «хвастоў».

О, як жа эмацыянальна яны потым расказвалі пра экзамен і ўрок, які атрымалі на ўсё жыццё! Цяжка ўявіць, якога ж колеру былі шчокі ў іх ад сораму, калі слухалі доўгую экспромтную лекцыю Ніла Сымонавіча і Ніны Іванаўны, якая якраз была дома і падключылася да выхаваўчага працэсу. Педагогі даходліва дуплетам тлумачылі, чаму такое недапушчальна. « Што ж вы робіце? Якім прыкладам будзеце для вучняў? Што і яны будуць аддаваць бацькоўскія і, можа, апошнія грошы? Для чаго, з якой мэтай?» Падобнага характару пытанні сыпаліся на прыціхлых дзяўчат. Прыгожы подпіс выкладчыка аднак з'явіўся нарэшце ў залікоўках. Добрая ў яго была душа, хаця выгляд часам здаваўся суровым.

Цікава, ці бралі потым букеты кветак і прэзенты мае аднакурсніцы пасля такога ўрока, калі апынуліся на працоўных месцах у вучэбна-выхаваўчых установах? І ці давялося ім прачытаць камедыю Н. Гілевіча «Формула іржавіны»? Шкада, што сёння становіцца нормай адмоўная з'ява, калі навучальныя ўстановы становяцца часценька расаднікам няшчырасці і крывадушша, а пачынаецца ўсё яшчэ з дзіцячых ясляў і садкоў. Праблема з савецкага часу набыла яшчэ большы выскал у нашы дні. П'еса пісалася ў 1971-1973 гадах, калі паралельна ствараліся і задумваліся шэраг твораў, у тым ліку такіх значных, як «Родныя дзеці» і «Сказ пра Лысую гару». Менавіта з імі ў нечым асацыятыўна перагукаліся радкі з камедыі, напаўнялі роздум паэта:

*Што — так і будзем, з д'яблам у садружнасці,*
*Адно — казаць, а іншае — рабіць?*
*Час заклікае да вышэйшай мужнасці —*
*Перад сабой сумленным быць!*
*Перад самім сабой!..*
*Каб людзі заўтрага —*
*Нашчадкі, дзеці нашы на зямлі —*
*Не мелі ў душах ні куточка затхлага*
*І ўдзячнымі за гэта нам былі!..*

На жаль, становіцца нормай садружнасць з д'яблам. І боязна, за нашы душы, за душы нашчадкаў, за заўтрашніх людзей. Няўжо «хвароба» набывае хранічны характар?

А можа, ёсць нейкія лекі, якія могуць вылечыць? Адно спадзяванне на смех! Ён, на мой погляд і вsyратоўваў паэта ў цяжкія хвіліны. Ён з'яўляўся цудоўным лякарствам і для Ніны Іванаўны, якая цаніла мужа за нярэдкае праяўленне гумара-сатырычнага складу ягонага розуму.

Дарэчы тут будзе яшчэ адзін выпадак зноў жа з універсітэцкага часу. Мне пашчасціла слухаць цудоўныя лекцыі Ніны Іванаўны па «Асновах культуры беларускай мовы». Яна заварожвала як зразумеласцю і прыцягальнасцю выкладання прадмета, так і магнетычнай светласцю і прыгажосцю знешнасці і ўнутранай напоўненасцю душы. З такімі людзьмі робіцца лёгка і добра на сэрцы.

Дык вось аднойчы на экзамене яна нейкім чынам сумела разгаварыць мяне на літаратурную тэматыку і вывудзіць прызнанне, што і я нешта пішу. А калі даведалася, што ў мяне ёсць пародыя паводле радкоў яе мужа, то сумела ўгаварыць прачытаць. З хваляваннем і рызыкай выканаў просьбу. Калі чытаў, то заўважыў як шчыра і прыветна яна смяецца. Напэўна ж не так, як некалі смяялася над «Лысай гарой», пра што ўспамінае Ніл Гілевіч у дзённіках, але і мой сціплы гумар паспрыяў з'яўленню выдатнай адзнакі ў залікоўцы.

Паколькі закрануў смех, скажу некалькі слоў пра знакаміты «Сказ...». Мінулы год быў юбілейны. Упершыню ананімная паэма была выдадзена асобнай кніжачкай ў 1985 годзе за мяжой выдавецтвам газеты «Беларус» (Нью-Ёрк). Здаецца, нідзе пра гэты міні-юбілей ніхто не сказаў ні слоўца. У тым ліку і я, хаця планаваў зрабіць артыкул. Вось такі малодшы «сябар»... А першая публікацыя паэмы друкавалася ў гэтай жа газеце ў 1984 годзе ў нумарах 287-292. Гэта ўсё было за 3-4 гады да з'яўлення першай публікацыі ў нашай краіне. Нават сам Ніл Гілевіч, прызнаючыся ў аўтарстве ў 2003-ім годзе ў «Звяздзе», машынальна напісаў: «... у 1988-м, па выхадзе паэмы асобным выданнем (а гэта была і наогул першая публікацыя твора), паявіліся і водгукі на «Сказ...» у друку». Не дзіўна, бо эміграцыйнае жыццё было схавана пад глухім купалам, які і да сёння не разбураны. І ў сваёй матухне-Беларусі пакуль творчасць народнага песняра нядобразычліўцы імкнуцца схаваць за занавесам. Таму і не ведае шмат што шырокая аўдыторыя. Адных, з уладнага боку, можна зразумець, бо яны надта ж баяцца сатырычных уколаў. Таму маўчаць. А як жа другія, якія за свабоду і слова, і думкі? Амаль маўчаць. Альбо плятуць усялякую несуразіцу, з якой бачна іх недасведчанасць. А магчыма некаторых пакрыўдзілі нярэдка бескампрамісныя радкі, як вось такія:

*Чаму не буду «ляўрэату» рад:*
*Я ў ім не гонар чую, а абразу.*
*Я гонар чую ў слове «лаўрэат».*
*Бо «лаўрэат» выводзіцца ад «лаўра».*
*А «ляўрэат» — няйначай як ад «лярва».*

(«Народная Воля»)

Напэўна ж, нешта не спадабалася і ў іншых некалі ананімных творах аўтара, такіх як «Ачмурэнне» і «Гэй, наперад! Гэй, назад!». Там паэт добра сыпануў солі многім псеўдадэмакратам і ўра-патрыётам!

Яшчэ на самым пачатку нечаканай свабоды для шматлікіх выданняў падчас перабудовы, я аднойчы спыніўся каля аднаго з шапікаў і стаў гартаць кніжку Ніла Гілевіча, дакладна ўжо не помню якую. Да мяне падышоў маладзён і павучальна сказаў, што гэты паэт не сапраўдны беларус, бо піша без мяккага знаку. Вось такі забойчы аргумент! Напэўна, хацеў, каб я звярнуў увагу на шматлікія «шэдэўральныя» опусы ягоных сяброў, «жукоў» і «жаб», якія вельмі аператыўна сталі друкаваць «сапраўдныя» опусы і на лацінцы, і на нейкай ляшскай, ці то падляшскай вельмі правільнай мове і на вычурна-зламанай «тарашкевіцы». Столькі грамацеяў з'явілася — жах! На жаль, працэс ламання

мовы яшчэ працягваецца. І да лямпы моваломцам, што празмерны радыкалізм патрэбны толькі пры лоўлі блох ці камароў, што з мовай трэба быць вельмі далікатнымі і асцярожнымі, каб не нашкодзіць.

Ці ведаў і ці ведае гэты ўжо не маладзён, што Ніл Гілевіч друкаваў свае творы і з мяккім знакам, і не артадокс у гэтым плане? Ці ведае, колькі ён здароўя аддаў змаганню за нашу родную, крынічна-народную, матчыну, а не прышлую мову?

Мова — самы пякучы боль паэта. Пераканаўся ў гэтым на асабістым прыкладзе. Мы выйшлі прагуляцца ў скверык каля купалаўскага тэатра, калі хвораму паэту захацелася падыхаць свежым паветрам і паглядзець на дрэўца-парастак на адным з дрэў каля шматлікіх прагулачных дарожак. Пра гэта дрэўца яму нехта расказаў. Дрэўца — на дрэве! Недалёка ад дома, у якім ён жыве! Сапраўдны паэт такое прапусціць не мог. Пасля нядоўгага нашага пошуку, ён замілавана дзівіўся нечаканай прыроднай з'яве з розных ракурсаў, усміхаючыся як дзіця.

Пры вяртанні дамоў пасля прагулкі, сустрэліся з выкладчыкам з БДУ, які праводзіў экскурсію па вуліцы К. Маркса з групай студэнтаў. Размінуцца было немагчыма і атрымалася размова-лекцыя на добрых хвілін 20-30, падчас якой знакаміты паэт душэўна задаваў пытанні будучым філолагам, слухаў іх развагі і на развітанне пажадаў шчасця ў асабістым жыцці і вольнага лёсу Беларусі. Напэўна, хтосьці з гэтых шчасліўчыкаў будзе пры нагодзе радасна расказваць пра вулічную лекцыю ад самога Ніла Гілевіча.

А ўжо калі мы падымаліся па лесвіцы да ягонай кватэры, ён са скрухай і хваляваннем нечакана ўспомніў штосьці недарэчна-недаравальнае збоку чыноўнікаў наконт беларускай мовы. Я, жадаючы супакоіць яго, сказаў : «Ды не перажывайце Вы так, Ніл Сымонавіч!» Паназіраў бы хто ў той момант, як ён успыхнуў! Такім яго толькі раз і бачыў. «Што гэта Вы такое кажаце?! — выпаліў узнервавана Ніл Сымонавіч. — Як я магу не перажываць, калі размова ідзе пра беларускую мову?!» Мне нават здалося, што атрымаю аплявуху. Колькі б яшчэ сыпалася гнеўных слоў, не ведаю, аднак апынуліся ля дзвярэй і трэба было адшукаць ключы, каб адамкнуць дзверы. Пасля гэтага яшчэ глыбей зразумеў, колькі яму прыйшлося нацярпецца ў змаганні за мову, колькі разоў прыходзілася сціскаць зубы і кулакі, каб не сарвацца, калі нейкая поскудзь здзекліва кпіла над тым, над чым пакутавала ўсё жыццё збалелая душа.

Ягонае жыццё... Ахрышчаны ён быў, як жартаўліва часам успамінаў, у экстрэмальных умовах самім Богам, калі нарадзіўся каля вёскі Лагаза пад дажджом. Пра цікавае з'яўленне на белы свет пры жаданні можна знайсці ў інтэрнэце і ягоных творах, у прыватнасці ў 23-охтомніку на старонках 1О-12. Усявышні падарыў яму насычаны творчы і жыццёвы шлях. Падарыў розум і талент. Гэты шлях для абывацеля можа паказацца радасным і бяспечна-лёгкім . Магчыма так і было б. Аднак удадатак унікальны чалавек атрымаў сумленную душу. А сумленная душа амаль заўсёды да знямогі працуе і пакутуе за праўду, за справядлівасць і шчаслівы лёс іншых. І яна, такое здараецца вельмі часта, апынаецца пад перакрыжаваным агнём і сваіх, і чужых у віры быцця.

Ды надыдзе яшчэ Яго час, недарэмным было хрышчэнне Божым дажджом!



# Радзім Гарэцкі

празаік. Акадэмік НАН Беларусі, замежны член Расійскай АН. Доктар геолага-мінералагічных навук. Прафесар. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР, шэрагу прэмій за навуковыя дасягненні. Лаўрэат прэміі часопіса «Нёман». Аўтар кніг: «Шляхам адраджэння», «Ахвярую сваім «Я»...», «Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы», «Вечна жыве Беларусь!», «Браты Гарэцкія», Гавриил Иванович Горецкий», «Лісты жыцця і кахання», «Жыццёвы меланж» і інш. Нарадзіўся ў 1928 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Вялікі сын Беларусі

Маё блізкае знаёмства з Нілам Гілевічам, якое пазней перарасло ў сапраўднае сяброўства, пачалося ў дні, калі ў 1993 г. адзначаўся 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Выдатны паэт і дзяржаўны дзеяч Ніл Гілевіч высока цаніў асобу Максіма Гарэцкага як «вялікага дзеяча беларускай культуры», сам прымаў актыўны ўдзел у святкаванні. У Горках у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі адбыліся другія Гарэцкія чытанні, дзе мы зрабілі даклады; у Палацы культуры прайшоў рэспубліканскі ўрачысты вечар, які адкрыў Ніл Гілевіч; бралі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнай дошкі; мы разам абрэзалі чырвоную стужку на адкрыцці музея Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. Ва ўсіх гэтых падзеях актыўны ўдзел прымаў Янка Брыль, з якім спачатку Ніл Гілевіч, а троху пазней і я, шчыра пасябравалі, прычым па прапанове старэйшага за нас Івана Антонавіча мы нават перайшлі на «ты» — як ён казаў: «сяброўства люблю на роўных».

Мы з вялікай радасцю часта сустракаліся на розных літаратурных вечарах, нарадах, прэзентацыях, іншых імпрэзах, прымалі ўдзел у штогадовых «Гарэцкіх чытаннях», тэлефанавалі адзін аднаму. З прыемнасцю ўспамінаю нашу вандроўку ў Крынічнае на Нёмане на 80-годдзе Янкі Брыля, калі я з жонкай Галінай, з Нілам Гілевічам і яго Нінай Іванаўнай — усе чацвёра нечакана прыехалі на маіх «Жыгулях». Колькі было радасці, жартаў, добрых сардэчных слоў у гонар юбіляра!

Як заўсёды ў жыцці, станоўчыя старонкі павінны чаргавацца з адмоўнымі. У 1988 годзе пакінуў нас мой любы Тата, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Сардэчная ўдзячнасць мая за падтрымку ў маім горы Ніла Гілевіча і Янкі Брыля бязмерная, а ўсхваляваныя і шчырыя словы апошняга выклікалі ў мяне слёзы некаторага супакаення.

24 ліпеня 2003 года Ніла Гілевіча напаткала вялікае гора — пасля цяжкай пакутнай хваробы памерла Ніна Іванаўна.

5 верасня 2003 года гэты свет пакінула і жонка Янкі Брыля Ніна Міхайлаўна — цудоўная, вельмі разумная жанчына з вялікім гумарам, светлай душой і любячым сэрцам. Гора Івана Антонавіча было невыносным, але ён трымаўся мужна. Пахаванне адбылося на досыць далёкіх могілках «Калодзішчы», бо вялікаму майстру прозы і выдатнаму грамадзяніну Беларусі не дазволілі пахаваць жонку на Кальварыі ці іншых больш блізкіх могілках. Ніл Гілевіч і я шчыра спачувалі свайму старэйшаму сябру, выказалі наш сардэчны сум і боль у сваіх развітальных словах.

Не прайшло і тры гады, як 25 ліпеня 2006 года зноў мы мелі вялікую згубу — пайшоў у іншы свет наш дарагі Янка Брыль, не дажыўшы 10 дзён да 89 гадоў. Класіка беларускай літаратуры па яго просьбе хавалі з хаты, каля якой прайшоў і жалобны мітынг. Сабралося чалавек 500. Старшыня Саюза бела-

рускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч першае слова даў Нілу Гілевічу, другім выступаў я... Тут і на Каладзішчанскіх могілках гучала шмат шчырых цёплых развітальных слоў. Цела Янкі Брыля паклалі побач з Нінай Міхайлаўнай. Зноў у нас шчаміла сэрца...

...

Найпрыгажэйшая Лагойшчына («Беларуская Швейцарыя») не толькі натхняла самага выдатнага паэта Бацькаўшчыны Янку Купалу на лепшыя шэдэўры сваёй творчасці, але стала месцам нараджэння і другога аднаго з найлепшых паэтаў сучаснасці — Ніла Гілевіча. Унікальная асоба ў беларускай культуры і літаратуры, ён зрабіў значны ўклад у самыя разнастайныя напрамкі: паэзія і проза, публіцыстыка і пераклад, літаратуразнаўства і крытыка, гісторыя беларускай літаратуры і фальклярыстыка, журналістыка і рэдактарства, педагогіка і навука, дзяржаўная і грамадская дзейнасць.

*Ніл Гілевіч* — літаратар, які мае ў сваёй універсальнай творчасці самую шырокую палітру літаратурных родаў і жанраў: у мастацкай паэзіі — лірыка кахання, філасоўская, грамадзянская, дзіцячая, казкі, загадкі, вершы, паэмы, раман, сатыра і гумар, песні, экспромты; у прозе — аповесці, апавяданні, абразкі, эсэ, эцюды, замалёўкі, мініяцюры, штрыхі да партрэтаў, успаміны, дзённікавыя запісы, ліставанне; у драматургіі — камедыі, драмы, трагедыі.; у публіцыстыцы — артыкулы, прамовы, нататкі, нарысы, інтэрв'ю; у перакладзе (больш дасканала — перастварэнні) — з балгарскай, рускай, украінскай, польскай, славенскай, сербскай, харвацкай, лужыцкай, македонскай, славацкай, чэшскай (каля 400 паэтаў і пісьменнікаў славянскага свету); у літаратуразнаўстве і крытыцы — гісторыя беларускай паэзіі, літаратурны працэс, моўнае майстэрства, мастацкі пераклад, народнасць літаратуры, рэцэнзіі, водгукі, прадмовы і прадмоўкі; у фальклярыстыцы — песенная творчасць беларускага народа, апавядальныя і мудраслоўныя жанры беларускай народнай творчасці (у тым ліку пяць тамоў беларускага фальклору ў сучасных запісах); у рэдактарстве — літаратурны кансультант у газеце «Звязда», рэдактар альманаха «Далягляды», газеты «Наша слова», член рэдкалегіі «Библиотеки поэта» (СССР), розных энцыклапедый, часопісаў «Маладосць», «Полымя», савецка-балгарскага «Дружба», «Арфей» (Балгарыя) і інш. Гэта шматгранная літаратурная дзейнасць Ніла Гілевіча справядліва ацэнена: Народны паэт Беларусі (1991) — апошні, хто працаваў да 2016 года, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я.Купалы (1980), лаўрэат міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1988), прэмія Івана Франка (2007), ордэн Кірыла і Мефодзія 1-й ступені, ордэн Югаслаўскай зоркі са стужкай, ордэн князя Яраслава Мудрага.

*Ніл Гілевіч* — вядомы навуковец і педагог — кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1978), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980), лектар на філалагічным факультэце БДУ на працягу 25 гадоў.

*Ніл Гілевіч* — адзін з самых працавітых і пладавітых пісьменнікаў Беларусі. Толькі ён з беларускіх майстроў прыгожага пісьменства сам на працягу 10

гадоў склаў Збор твораў у 23 тамах, прычым і выдаў амаль усе тамы за свой кошт. Шэраг літаратараў (нават сяброў) не разумелі яго намер. Таму на Т.1 ён зрабіў мне такі аўтограф: *«Вельмішаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму — са спадзяваннем , што вялікі працаўнік з працавітага роду Гарэцкіх мой рызыкоўны (у нашай правінцыі) крок зразумее. З усёй шчырасцю — Ніл Гілевіч. 24.IV.04».* Я падтрымаў, бо выбраць на ўласны погляд самае лепшае з велізарнай сваёй спадчыны надрукаванага і рукапіснага лепш за аўтара ніхто не зможа. Тым больш, што поўны збор твораў Ніла Гілевіча, які калі-небудзь, безумоўна, будзе выдадзены, будзе складаць больш за 50 тамоў. Толькі чалавек вялікай волі і мужнасці, працавітасці і мэтанакіраванасці, нягледзячы на розныя хваробы, асабліва моцнае пагаршэнне зроку, змог здзейсніць такую, здавалася б, зусім непасільную задуму. Гэта — унікальны подзвіг творцы. Я думаю, што Ніла Гілевіча прымусіла не проста жаданне пры жыцці ўбачыць збор твораў сваіх, а адказнасць перад роднай Беларуссю і яе народам, каб перадаць сваю любоў да зямлі, да Бацькаўшчыны, да людзей краіны, усяліць у іх сваю непахісную веру ў неўміручасць цудоўнай беларускай мовы, у вечнасць беларушчыны, натхніць усіх грамадзян на змаганне стварыць сапраўдную Беларусь.

*Ніл Гілевіч* — вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР (1980—1989). З 1990 па 1996 год Ніл Гілевіч быў старшынёй пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і стаў членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Ніл Гірлевіч актыўна ўдзельнічаў у складанні і абмеркаванні Канстытуцыі незалежнай Беларусі, асабліва, калі справа ішла аб запісу як адзінай дзяржаўнай беларускай мовы, і калі ён «на апошняй ноце стрыманасці» пракрычаў словы за родную мову. Ніл Гілевіч быў супраць прэзідэнцкай формы кіравання дзяржавай, бо лічыў, што для Беларусі — гэта шлях пагібельны. Ён узгадаў Аляксея Талстога, які ў сваёй «Истории государства Российского...», маючы на ўвазе Пятра I, пісаў, што пры нашым узроўні культуры і грамадскай маралі можна атрымаць такога «бацьку з палкай»... Праз два гады менская газета «Свабода» дала нататку пад загалоўкам «Ніл Гілевіч як у ваду глядзеў».

Па лініі грамадскай дзейнасці Ніл Гілевіч быў сябрам аргкамітэта БНФ «Адраджэнне» (праўда выступіў з прапановай замяніць у назве слова «фронт» на слова «рух»), а пазней заняўся стварэннем Таварыства беларускай мовы (ТБМ) і 27 чэрвеня 1989 года на Ўстаноўчым з'ездзе выбралі Раду ТБМ (58 чалавек). Старшынёй стаў Ніл Гілевіч. ТБМ пачало не толькі актыўную працу на ніве беларушчыны, якая працягваецца і цяпер, але тады ўсе дэпутаты, якія склалі апазіцыю БНФ, былі вылучаны ў Вярхоўны Савет суполкамі ТБМ.

*Ніл Гілевіч* — адзіны прадстаўнік творчай інтэлігенцыі Беларусі, чый 70-гадовы юбілей так выдатна адзначыла грамадства. Свята адбылося ў Чырвоным касцёле. Сабралася такая вялікая колькасць людзей (не менш 1500), што многія не змаглі ўціснуцца ў памяшканне. Імпрэзу вельмі натхнёна вёў пробаш



**Лявон Валасюк. Аўтапартрэт**

Белы колер — гэта эквівалент дзённага святла, гэта сімвал малака і зерня, што таксама сімвалізуе жыццё. Не дзіўна, што белы колер у паэтычных творах наогул і ў творах Лявона Валасюка ў прыватнасці заўсёды нясе станоўчыя эмоцыі. Яго паэт вельмі часта выкарыстоўвае для апісання з'яў прыроды, найперш зімовага пейзажу («Зіма.Мароз ссівелы, моцны...», «Снежань», «Месяц» і інш.). Шырока ўжываюцца мастацкія тропы — эпітэты, метафары, параўнанні, у якіх састаўной часткай уваходзіць гэта слова: «павуцінне белае», «белага пуху намяло», «белы агрэст», «хмаркай белай адхілена фіранка льняная». Зрэдку сустракаецца ўжыванне аксюмарана — «бялее чорная варона».

Шэры колер неабходны аўтару як для апісання прыродных з'яў, так і для паказу душэўнага стану лірычнага героя:

*Радасці маленькія —*
*На асфальце шэрым*
*Снегу камякі...[4, с.42]*

Ствараючы пейзажны вобраз, аўтар шырока выкарыстоўвае прыметнікі «сівы» («сівое сонца», «сівыя туманы»), ці дзеепрыметнікі («ссівелы дзед», «ссівелая трава»).

Рызыкну сказаць, што паэт Лявон Валасюк, калі браць пад увагу тое, што ў яго пераважае «халодная» палітра колераў, — у большай ступені скіраваны на асэнсаванне ўнутранага свету думак і перажыванняў чалавека, на разуменне духоўных і творчых пачаткаў асобы.

На заканчэнне хочацца прывесці змястоўнае выказванне аднаго са старэйшых літаратараў Берасцейшчыны Леаніда Філатава, які, даючы агульную высокую ацэнку паэтычным мініяцюрам Лявона Валасюка, звярнуў асаблівую ўвагу на ролю ў іх «колерных» слоў. Леанід Георгіевіч адзначыў, што творы паэта і мастака абагулены лірычнаю тэмаю, прасякнуты светлым пачуццём і шматфарбнасцю зямнога жыцця... Яны — «вясёлкавы калейдаскоп мігальных агеньчыкаў, яркіх успышак і пераліваў, і разам з тым дзіўная лёгкасць і развážлівасць, пульсацыя душы, вобраза — жывога і імклівага, пераканальнага».





# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Знайсці гармонію душы і інтэлекта

***Ваданосава К. Міфатворчасць: вершы. — Мінск: Выдавец А.Янушкевіч, 2015 (Электронная бібліятэчка часопіса «Верасень». Выпуск 1);***

***Массэ К. Аўтакамунікацы...Я: вершы. — Мінск: Выдавец А.Янушкевіч, 2015 (Электронная бібліятэчка часопіса «Верасень». Выпуск 2).***

У сённяшнім прасякнутым прагматызмам і меркантылізмам свеце сапраўдная паэзія жыве і развіваецца ў надзвычай складаных умовах, паколькі паўсюль на першы план выйшлі матэрыяльныя інтарэсы, а праявы і вынікі духоўнага жыцця, на жаль, мала каго цікавяць. Таму зараз выданне паэтычных кніг і іх далейшае распаўсюджанне залежаць не столькі ад адоранасці аўтара і якасці ягоных твораў, колькі ад розных уплывовых асоб, якія прадстаўляюць выдавецкую справу, сродкі масавай інфармацыі, розныя пісьменніцкія саюзы, літаратурныя суполкі. У сучасны перыяд адным са шляхоў змянення такой неспрыяльнай сітуацыі з'яўляецца падрыхтоўка і папулярызацыя мастацкіх кніг у новых, адпаведных веку паўсюднай камп'ютэрызацыі, фарматах — напрыклад, у электронным. Паколькі на выданне такіх электронных зборнікаў паэзіі і прозы патрабуецца менш (у параўнанні з традыцыйнымі папяровымі кнігамі) часу і фінансавых сродкаў, то сёння практычна ва ўсім свеце відавочна ажывілася адпаведная праца ў гэтым напрамку. Такія электронныя выданні, якія за адносна невялікую плату можна скачаць з пэўных Інтэрнэт-парталаў і чытаць на сваім рыдэры, даюць аўтарам дадатковыя магчымасці для творчага самасцвярджэння і (сам)піяру ў неабсяжнай віртуальнай прасторы.

Вось і нядаўна, у канцы мінулага года, выйшлі ў свет адразу дзве такія кнігі, якія ўяўляюць сабой першыя беларускамоўныя зборнікі вершаў дзвюх маладых паэтак-цёзак — Кацярыны Ваданосавай і Кацярыны Массэ. Прычым калі для 19-гадовай студэнткі Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта гэты зборнік стаўся ўжо трэцяй аўтарскай кніжкай (раней былі надрукаваны два яе рускамоўныя паэтычныя зборнікі), то для старэйшай за яе прыблізна на дзесяцігоддзе навуковай супрацоўніцы музея Янкі Купалы Кацярыны Ваданосавай дадзенае электроннае выданне сапраўды з'яўляецца яе дэбютнай кнігай. На першы погляд здаецца, што гэтыя зборнікі не маюць практычна ніякага падабенства, бо настолькі ў іх адрозныя стыль, тэматыка вершаў, іх лексіка і сінтаксіс. Але пры больш уважлівым там усё-ткі можна знайсці некаторыя ледзь заўважныя кропкі судакранання, перасячэння. Таму каб паспрабаваць высветліць галоўныя адрозненні і падабенствы дзвюх названых паэтычных кніг, прыйдзецца правесці іх невялікі параўнальны аналіз.

У цэлым, у абедзьвюх кнігах змешчана прыблізна па паўсотні аўтарскіх вершаў, хаця па агульнаму аб'ёму зборнік старэйшай Кацярыны — Ваданоса-

вай — больш чым у паўтара разы пераўзыходзіць выданне яе маладзейшай цёзкі. У кнізе Кацярыны Ваданосавай вершы прадстаўлены ў трох раздзелах, назвы якіх пачынаюцца з аднаго слова: «Песні зямлі», «Песні зімовай ночы» і «Песні вясновага дня». У той час як назвы чатырох раздзелаў зборніка Массэ «Аўтакамунікацы...Я» ўяўляюць сабой кароткія выказванні-афарызмы з яе вершаў: -1) «Форма ёсць сваім жа найглыбейшым зьместам»; -2) «Ёсць рэчы, якія можна абмяркоўваць выключна з самім сабою»; -3) «Мы нанялі найлепшых хакераў, каб Госпада ўзламаць акаўнт»; -4) «Дык нашто існуеш ты, Мова?» — «Каб аднойчы любілі вы ўсе безумоўна». Ужо адны такія незвычайныя фармулёўкі даволі красамоўна сведчыць пра тое, што аўтарка аддае відавочную перавагу напружанаму ўнутранаму дыялогу з сабой, з Богам, з Мовай, і што яе хвалююць метафізічныя пытанні аб сутнасці і мэце жыцця-быцця, аб суадносінах формы і зместу розных з'яў і феноменаў. Гэтая выснова яскрава пацвярджаецца, напрыклад, у адным з лепшых вершаў зборніка, да якіх мной аднесены наступны твор пад арыгінальнай назвай «кон sensus»:

*калі ты ідзеш — ты ставіш сябе на кон.*
*ніякіх гарантый, што ты не ідзеш пад адхон.*
*задужа цяжкі?, каб плыць па рацэ,*
*ты йдзеш па лініі на сваёй руцэ.*
*ты йдзеш — магчыма, угору.*
*цябе трымаюць пад рукі час і прастора.*
*ты йдзеш — як раб ці кароль.*
*ты маеш права на рух — ня на кантроль.*
*ты йдзеш бяз мэты і сэнсу.*
*сыстэма тваіх каардынат — твой кон і твае пяць sensus.*
*ты будзеш ісьці. доўга.*
*і ты ня вернесься.*
*ты будзеш ісьці з Богам —*
*покуль ня прыйдзеш зь ім да кансэнсусу.*

На маю думку, вышэйпрыведзены верш хораша падыходзіць для своеасаблівай прэзентацыі творчага метаду і паэтычнага стылю маладой таленавітай паэткі. У гэтым вершы, як у чыстым люстэрку, адлюстраваліся амаль усе станоўчыя рысы вершаскладання Кацярыны Массэ, сярод якіх найперш трэба назваць напружаны інтэлектуалізм, (ір)рацыянальнае асэнсаванне мікра- і макракосмасу, навакольнай рэчаіснасці, смелую вобразнасць, нечаканыя, часам парадаксальныя павароты ды выгібы думкі, наватарскія пошукі ў галіне формы й зместу. Дарэчы, аўтарка піша ў такім медыдатыўна-(сама)рэфлексіўным стылі, які зараз, наколькі мне вядома, у сённяшняй паэзіі амаль не сустракаецца, бо ў айчынным прыгожым пісьменстве працягваюць дамінаваць рыфмаваныя вершы, традыцыйныя па форме і змесце (хаця ёсць, канечне, і нязначная колькасць паэтаў-постмадэрністаў з іх схільнасцю да непрыхаванай іроніі, ёрнічання і нават блюзнерства), а заходняя паэзія ўжо даволі даўно перайшла да найчасцей малазмястоўных і бляклых вершаў без рыфмы і рытму — верлібраў.

Па кантрасце з вышэйназванай кнігай, вершы Кацярыны Ваданосавай, наадварот, вызначаюцца традыцыйнай для айчыннага прыгожага пісьменства паэтыкай, адсутнасцю пакутлівых роздумаў над вечнымі праблемамі, а таксама вызначаюцца заўважнай меладычнасцю, напеўнасцю, песеннасцю, што, дарэчы, не дзіўна, паколькі паэтка з'яўляецца фолк-рок спявачкай і выступае з канцэртамі са сваім музычным гуртом. У адрозненне ад зборніка Массэ, творам Ваданосавай уласцівы прыярытэт эмацыянальна-пачуццёвага пачатку, што знаходзіць адлюстраванне ў адмысловым (неа)рамантычным успрыманні свету і чалавека. Старэйшая Кацярына ў сваёй творчай практыцы арыентуецца ў першую чаргу на гістарычныя і міфалагічныя тэмы, сюжэты і вобразы, чаму, бясспрэчна, паспрыяла набытая ёю адукацыя гісторыка-рэлігіязнаўцы. Таму ў яе творах нярэдка жывуць і дзейнічаюць (ці прынамсі проста згадваюцца) каралі, князёўны, рыцары, волаты, лірнікі, русалкі, вадзянікі, ваўкалакі, палявікі, здані і г.д. Прычым часам у «Міфатворчасці» сустракаюцца вельмі рэдкія ў сучаснай паэзіі апавядальныя вершы, дзе больш-менш падрабязна расказваецца якая-небудзь цікавая гісторыя ці выпадак (напр., вершы «Сляпы лірнік», «Касінерскі баль», «Дзікае паляванне»). Акрамя таго, у кнізе неаднаразова згадваюцца разнастайныя артэфакты, феномены, з'явы традыцыйнай народнай культуры беларусаў — напр., курганы, кросны, габелен, ліра, капліца, трызна і інш. У якасці характэрнага прыкладу творчага стылю паэткі працытуем яе верш «Капыльскія курганы»:

*Ляжыць туман на верасовых травах,*
*На возеры ў абдымках берагоў,*
*На старадаўніх подзвігах ды славе,*
*Ды на маўклівых ценях курганоў.*

*Яны стаяць, ахутаны журбою,*
*Адвечным смуткам, ціхім забыццём —*
*Нямыя сведкі песняў, трызнаў, войнаў,*
*Прытулкі зданяў, ўсіх часоў зліццё.*

*І ноч пяшчотным ветрам калыхае*
*Зямлю сівых напаўзабытых сноў,*
*А зоры чорным срэбрам ападаюць*
*На дол па схілах цёмных курганоў*

Увогуле, вершы Кацярыны Ваданосавай вытрыманы ў рэчышчы найбольш распаўсюджанай у айчыннай паэзіі сілаба-тонікай з выразнай перавагай: — а) такога памеру, як ямб (у меншай ступені — харэй); — б) перакрыжаванай сістэмы рыфмоўкі; — в) страфічнай арганізацыі ў выглядзе катрэнаў (чатырохрадкоўяў). А паколькі вершы другой паэткі падкрэслена анты-традыцыйныя, наватарска-эксперыментальныя, то яны адносяцца пераважна да танічнай сістэмы вершаскладання (найчасцей у выглядзе акцэнтнага верша) і верлібра, вызначаюцца астрафічнай формай будовы твора, а таксама маюць до-

сыць складаны, часам, так бы мовіць, разбэрсаны рытма-інтанацыйны малюнак і непастаянну рыфмоўку.

Многія вершы Кацярыны Массэ сведчаць пра яе актыўныя і нястомныя пошукі свайго месца ў (Су)свеце, а таксама наглядна дэманструюць прыхільнасць аўтаркі да стылістыкі т.зв. «навуковай паэзіі», адным з заснавальнікаў і прапагандыстаў якой быў выдатны расійскі вучоны і паэт Міхайла Ламаносаў. Калі паспрабаваць літаральна ў некалькіх словах акрэсліць творчы метад юнай паэткі, то тут, на мой погляд, можа падыйсці вядомая беларуская прымаўка «Думка думку паганяе». І сапраўды, у кнізе выказваецца нямала даволі арыгінальных думак, якім, праўда, у межах аднаго верша часам бывае цеснавата, і тады яны пачынаюць нібы напаўзаюць адну на адну ці ўвогуле пачынаюць кружыцца ў нейкім незвычайным задуменна-рэфлексіўным танцы. Складваецца ўражанне, што аўтарка імкнецца не столькі адлюстроўваць навакольную рэчаіснасць, колькі яе ствараць, дакладней, канструяваць з дапамогай уласнага розуму. Такую паэзію з пэўнай доляй умоўнасці можна назваць, так бы мовіць, пераважна ментальна-сканструяванай, у якой даволі нязначную ролю адыгрываюць уласныя эмоцыі й пачуцці творцы. Дарэчы, Кацярыне Массэ ў значнай ступені дапамагае ствараць-канструяваць свае вершы яе відавочнае ўменне ставіць перад сабой шматлікія пытанні і спрабаваць на іх адказваць, што, паводле Імануіла Канта, «ёсць ужо важная і неабходная прыкмета розуму і праніклівасці».

Кацярына Массэ, пачынаючы са свайго другога зборніка, шмат эксперыментуе з формай падачы паэтычнага матэрыяла, у яе вершах нярэдка прысутнічае адмысловая гульня слоў (на гэтую рысу, мяркую, паўплывала і яе вучоба ў лінгвістычным універсітэце), а таксама маюцца відавочныя творчыя знаходкі — напрыклад, як у гэтым фрагменце верша пад назвай «МЭТА», дзе ключавое слова нібы вандруе па ўсім творы і прымае часам зусім нечаканыя аблічы:

*я — МЭТА.*
*я — па-над, я — па-за!*
*не камень — а каМЭТА!*
*ня фраза — МЭТАфара!*
*МЭТАмова без артаграфіі!*
*ня поза — МЭТАмарфоза!*

У кнізе Ваданосавай някепска прадстаўлены патрыятычныя вершы, у якіх аўтарка прызнаецца ў шчырай любові да роднай зямлі, да працавітага і мужнага беларускага народа. Паказальным у гэтым сэнсе падаецца верш «Мой край легенд, журбы ды песняў», які заканчваецца наступнымі радкамі: «Той край мне вечна будзе сніцца. // Я буду з ім да скону дзён». Нягледзячы на ўсе гістарычныя катаклізмы і жыццёвыя выпрабаванні аўтарка працягвае ў глыбіні сваёй душы свята верыць у тое, што «...колькі б ні прайшло вякоў, // Дабро мацнейшае за боль, вайну ды цемру» (верш «Сірвента»). Паэтка, неаднаразова гаворачы пра надзвычай трагічны шлях нашых продкаў, усё ж такі не губляе пачуцця стрыманага аптымізму і веры ў свой народ , пра што пераканаўча сведчыць апошняга страфа верша «Песняру»:

*«Край наш, закуты сном,*
*Прачнецца наноў вясной,*
*Паўстане ён з новым днём —*
*На песню, на шлях, на бой...»*

Увогуле, значную частку зборніка (амаль палову) паэтэсы і фолк-рок спявачкі складаюць узоры любоўнай лірыкі ці, прынамсі, вершы, у большай ці меншай ступені звязаныя з каханнем, любоўю да блізкіх людзей. Паколькі вершы пра каханне прадстаўлены ў кожным з названых раздзелаў, гэта ўскосна можа сведчыць пра надзвычай важную (нават можна сказаць — ключавую!) ролю гэтага пачуцця ў жыцці маладой аўтаркі. Улічваючы такую моцную душэўную патрэбу паэткі ў каханні, невыпадковым стаўся той факт, што, на маю думку, лепшым творам зборніка з'яўляецца менавіта верш на гэтую вечную тэму. Ён адразу прыцягвае і нават захоплівае чытацкую ўвагу сваімі сугестыўна-гіпнатычнымі ўласцівасцямі і ў цэлым мае відавочную мастацка-эстэтычную каштоўнасць таму, што ў ім частае выкарыстанне дзеясловаў, кароткіх сказаў і двух аднолькавых слоў у пачатку кожнай страфы, анжамбеманаў (пераносаў слоў з аднаго радка ў другі) сведчаць пра шчырую душэўную ўсхваляванасць, ствараюць імкліва-напружаны рытм, які ўрэшце рэшт спыняецца нечаканай канцоўкай. У якасці прыкладу прывядзем зараз толькі тры страфы (з пяці) гэтага файнага верша:

*Забыцца. Пазбыцца. Змыць*
*Каханне, нібы атруту.*
*Ачысціцца. Зноўку жыць.*
*Глушыць у душы пакуты.*

*Забыцца. Пазбыцца. Зняць*
*Любові былой адзенне.*
*Быць вольнаю. Акрыяць.*
*Паверыць у летуценні.*

*.............................*

*Забыцца. Пазбыцца. Жыць.*
*Расправіць шырока крылы.*
*Любіць. На ўсю моц любіць*
*І быць без цябе шчаслівай.*

У той жа час у кнізе Кацярыны Массэ любоўная лірыка практычна цалкам адсутнічае, калі, канечне, не лічыць усяго некалькі разоў узгаданыя словы каханне, любоў (тады як Ваданосава згадвае гэтыя словы не менш трох дзясяткаў разоў). Відавочна, што для паэткі-студэнткі ў яе юначым узросце каханне пакуль яшчэ не з'яўляецца галоўнай жыццёвай каштоўнасцю. З вершаў вынікае, што зараз больш істотнымі задачамі для яе з'яўляюцца актыўнае (сама)пазнанне, вечная «аўтакамунікацыЯ», а таксама самасцвярджэнне ў розных галінах — найперш,

натуральна, у паэзіі. А яшчэ варта адзначыць, што калі вершы малодшай Кацярыны вызначаюцца своеасаблівай юначай яршыстасцю, дзёрзкасцю, часам празмернай самаўпэўненасцю і нават эгацэнтрызмам, то ў старэйшай Кацярыны знешне ўсё выглядае больш лагодна, без яўнага выпячвання свайго Ego. Цалкам верагодна, што ў адносна невялікай па аб'ёме кнізе Кацярыны Массэ ўважлівага чытача на пэўным этапе можа пачаць стамляць і нават раздражняць надзвычай частае (нашмат часцей чым у зборніку яе цёзкі) выкарыстанне слова «Я» і вытворных ад яго, хаця гэта, магчыма, можна патлумачыць не толькі яе выключным эгаізмам, але і проста часовымі выдаткамі росту асобы і праявамі элементарнага недахопу жыццёвага вопыту.

А яшчэ хацеў бы адзначыць, што, бадай, найбольш удалымі вершамі ў зборніках абедзьвюх паэтак з'яўляюцца творы невялікія па аб'ёме, лаканічныя, у якіх больш канцэнтравана, ёміста і празрыста выяўлены аўтарскія думкі, эмоцыі ды пачуцці. Паэтычныя мініяцюры (або карацелькі), якія з пункту гледжання сучасных літаратуразнаўцаў звычайна не перавышаюць сямі—васьмі радкоў, а таксама вершы большыя за іх у паўтара-два разы (як, напрыклад, класічны санет) аб'ектыўна вымушаюць творцу быць нешматслоўным, удумлівым, вельмі ашчадным у выбары сродкаў мастацкай выразнасці і ў цэлым не расцякацца, як гаворыцца, «думкай па дрэве». Лічу, што кожнаму сённяшняму паэту (асабліва пачаткоўцу) пажадана заўжды помніць адпаведныя думкі на гэтую тэму геніяльных паэтаў мінулага — ну хаця б, напрыклад, найбуйнейшага іспанскага паэта 20 ст. Антаніё Мачада, які шматслоўе лічыў недаравальным грахом для майстра паэтычнага слова. Таму й асабіста мне, шчыра кажучы, найбольш спадабаліся ў рэцэнзуемых кнігах менавіта вершы дастаткова кампактныя, ясныя ў плане іх задумы і агульнага пасылу, збольшага збалансаваныя ў сэнсе выяўлення думак і пачуццяў. І таму ў якасці прыкладаў якасных вершаў працытуем дзве паэтычныя мініяцюры:

*калі б'юць,*
*не магу аказаць супраціву.*
*я ня воін, не змагар,*
*я — дзяўчына.*
*не граніт, што трымае ўдар,*
*я вада,*
*што зламаць немагчыма.*

(Кацярына Массэ);

*Быццам у чыстых падлеткавых снах,*
*Я размаўляю з табой цішынёю,*
*І адбіваюцца зоркі ў вачах,*
*Як у калодзежы з чорнай вадою.*

(Кацярына Ваданосава)

Уважлівы разгляд найменш удалых вершаў абедзьвюх паэтэс і аналіз асноўных недахопаў іх творчасці дазваляе зрабіць наступныя высновы. Адразу адзначу, што ніжэйназваныя мною хібы і слабасці вершаў у значнай ступені

з'яўляюцца адваротным бокам асобных вартасцей апошніх. Так, з-за вялікай схільнасці Кацярыны Массэ да філасофскіх роздумаў ды інтэлектуальных пошукаў, некаторыя яе вершы аказаліся празмерна перагружанымі спецыяльнай тэрміналогіяй з розных гуманітарных навук (пераважна філасофіі і лінгвістыкі, мовазнаўства) і тэхнічных навук, міфалогіі і рэлігіязнаўства, што заўважна абцяжарвае многія творы, робіць іх занадта складанымі, навуковападобнымі, «цяжкавагавымі» і ў выніку гэтага прыкметна перашкаджае цэласнаму пазітыўнаму ўспрыманню апублікаваных тэкстаў. Акрамя таго, у многіх вершах амаль цалкам адсутнічаюць уласна паэтычныя пластычныя вобразы, які чытач-слухач мог бы адразу ўявіць, «намаляваць» з дапамогай уласнай фантазіі і тым самым адгукнуцца на іх душой і сэрцам. Таму атрымліваецца, што даволі часта ў кнізе дамінуе, так бы мовіць, «голая» рацыянальная думка, не падмацаваная і не расквечаваная арыгінальнымі вобразамі, метафарамі. А вось у многіх вершах Кацярыны Ваданосавай, наадварот, заўважна дамінуе эмацыянальна-пачуццёвы пачатак, які, з аднаго боку, абумоўлівае павышаную экспрэсіўнасць паэтычнага радка і адлюстроўвае даволі моцную лірычную ўсхваляванасць аўтаркі (ці яе лірычнага героя), а з другога, ён жа не стварае спрыяльнай глебы для спакойнай разважлівасці, ціхага роздуму і самакрытычнага адбору паэтычнага матэрыялу, што ў выніку часам спрычыняецца да празмернага шматслоўя і пэўнай вобразна-сэнсавай хаатычнасці, сумбурнасці верша.

Тады як з гісторыі сусветнай і айчыннай паэзіі вядома, што найлепшыя вершы атрымліваюцца тады, калі ў іх існуе гармонія, баланс між думкай і вобразам, паміж душой ды інтэлектам — г.зн. калі ў наяўнасці ёсць менавіта своеасаблівыя «вобразная думка» ці «роздумны вобраз», якія выкліканы да жыцця жывой творчай фантазіяй і шчырымі пачуццямі паэта. Таму ў дадзеным кантэксце хочацца прыгадаць меркаванне знакамітага мексіканскага паэта і філосафа, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Актавіё Паса, які разглядаючы паэзію як «выяўленне Абсалюта, дакладней, пакутлівых спроб яго дасягнуць», слушна папярэджваў маладых творцаў, што празмерная ўвага да неўсвядомленага можа прыводзіць да своеасаблівага «вывяржэння пачуцця» і ператварэння верша ў псіхалагічны дакумент, а празмернае напружанне думкі можа зрабіць паэтычны твор падобным на акадэмічны навуковы даклад» [3, с.125, 129].

На маю думку, адным з недахопаў паэтычнай творчасці дзвюх Кацярын з'яўляецца тое, што ў некаторых вершах заўважаецца відавочная неадпаведнасць паміж іх назвай і зместам. Безумоўна, калі верш не мае ніякай назвы, то ён можа мець любы змест, у ім могуць прысутнічаць любыя інтэлектуальныя і эмацыянальна-пачуццёвыя зрухі, павароты, эскапады. Але калі аўтар дае вершу пэўную назву, то ў яго змесце абавязкова ў той ці іншай форме (пажадана найбольш выразна, дакладна і поўна) павінна весціся гаворка пра заяўленыя ў загалоўку з'явы, феномены, артэфакты і г.д. Такой адмысловай хібы часам не пазбягаюць нават сталыя таленавітыя паэты, таму й не дзіўна, што яе не пазбеглі і маладыя аўтаркі.

Возьмем, напрыклад, верш Кацярыны Ваданосавай пад назвай «Развітальнае танга». У гэтым, як здаецца, адным з найгоршых вершаў зборніка, па-першае, ні пра якае танга ўвогуле няма гаворкі (ды і незразумела, ці хто-небудзь яго танчыў, а можа, толькі збіраецца танчыць), а сам рытм дадзенага верша нагадвае не страсны лацінаамерыканскі танец, а хутчэй павольны вальс. А калі ж у гэтым вершы зроблена спроба намякнуць, што свой рашучы намер развітацца з каханым аўтарка выказала непасрэдна ў час танца, то магчымасць зрабіць гэта ў выглядзе ніжэйпрыведзенага маналога (усяго ён займае 16 радкоў) выглядае амаль неверагоднай. Акрамя таго, у дадзеным творы фактычна няма ніводнай арыгінальнай метафары, а большасць рыфмаў з'яўляюцца дзеяслоўнымі і да таго ж папросту банальнымі:

*Ты, канешне, мне можаш не верыць,*
*Але, мілы, я мушу сказаць:*
*Жарсці страчанай мора не змерыць,*
*Час загублены нам не дагнаць.*

*....................................*

*Разбіваюцца гучна бакалы,*
*І аскепкаў ужо не сабраць.*
*Не турбуйся, бывай, мой ласкавы,*
*І не трэба нічога казаць.*

Акрамя таго, у кнізе Ваданосавай неаднаразова сустракаюцца відавочныя рытмічныя збоі, як гэта адбылося, напрыклад, у вершы «Дзікае паляванне». Да таго ж, тут мы бачым і памылковае выкарыстанне «у нескладовага» пасля мяккага знака, і парушэнне т.зв. эўфаніі (мілагучнасці) верша ў выніку збегу ў адным месцы празмернай колькасці зычных гукаў, што ўскладняе магчымасць прагаворвання вось такой фразы: «Кароль ў залатой кароне».

А зараз коратка спынімся на адным з найменш удалых, на мой густ, вершаў Кацярыны Массэ пад даволі экзатычнай назвай «Сансара». Гаворка і тут па сутнасці зусім не ідзе пра ўласна саму сансару, якая ў індуісцкай рэлігійна-філасофскай традыцыі, як вядома, азначае адвечнае кола быцця, у якім адбываюцца бясконцыя перараджэнні й перасяленні душ боскіх істот, людзей, жывёл, раслін. Паколькі ў гэтым вершы адсутнічаюць па-сапраўднаму паэтычныя пластычныя вобразы, якія б патэнцыйна маглі чымсьці здзівіць, уразіць, то ў выніку ўвесь твор больш нагадвае адвольна падзеленае на радкі празаічнае выказванне (псеўда)навуковага кшталту:

шар, упісаны ў куб,
*куб, зьняволены ў шары, —*
*чыніць свой геамэтрычны суд*
*Сансара.*
*як жа вырвацца з бясконцых краявідаў?*

*мабыць, стаць*
*няправільнаю пірамідай?*

У многіх паэтаў пры ўважлівым разглядзе іх твораў можна знайсці разнастайныя запазычанні, перайманні ў сэнсе выкарыстання аднолькавых ці блізкіх па змесце сюжэтаў, вобразаў і думак. Прычынамі гэтай у цэлым непажаданай з'явы, якой сапраўдным мастакам слова варта ўсяляк пазбягаць, могуць быць або пэўныя творчыя задумы аўтара, або празмерны піетэт перад вядомымі і вялікімі, або, урэшце, простае няведанне першакрыніц. У самым горшым выпадку, які нам ва ўсёй «красе» часам дэманструюць сучасныя паэты-постмадэрністы (у тым ліку і беларускія) такое свядомае і частае цытаванне класікаў відавочна знаходзіцца на мяжы з плагіятам і сведчыць пра пэўныя безгустоўнасць і блюзнерства такіх аўтараў, іх няздатнасць да арыгінальнага паэтычнага мыслення.

Дык вось калі казаць пра разглядаемыя зборнікі, то ў іх часам таксама можна сустрэць запазычанні вядомых з даўніх часоў вобразаў, параўнанняў, якія за шмат стагоддзяў выкарыстання ў творчасці безлічы паэтаў страцілі сваю былую навізну, свежасць і ўжо даўно сталі па сутнасці шаблоннымі, банальнымі, трафарэтнымі. Да ліку менавіта такіх метафар, якія неаднаразова сустракаюцца ў абедзьвюх кнігах (хаця ў Массэ іх значна менш), адносяцца, напрыклад, вобразы палёту на крылах чалавека ці ягонай душы, а таксама уяўленні пра час, які, з аднаго боку, лечыць, а з другога, наадварот, усё знішчае, разбурае. Справа ў тым, што гэтыя думка-вобразы існуюць у сусветнай культуры на працягу прынамсі трох тысячагоддзяў — пачынаючы з антычнай паэзіі і філасофіі, а таксама мастацкай літаратуры і рэлігіі старажытных народаў Усходу. У больш позні час гэтыя ж вобразы шматкроць сустракаліся ў сярэдневяковых еўрапейскіх паэтычных творах, у класічнай персідскай паэзіі, а ў паэзіі розных народаў свету (у т.л. і беларусаў) у перыяд Навейшага часу яны сталі надзвычай распаўсюджанымі і таму папросту банальнымі, трафарэтнымі. Так што хоць і з пэўнай доляй умоўнасці, але ж тут можна, відаць, пагадзіцца з крылатым лацінскім выслоўем («Nil nova sub luna» — «Нічога новага пад месяцам») і адпаведным біблейскім «Няма нічога новага пад сонцам».

А зараз коратка спынімся толькі на разглядзе ўяўленняў нашых маладых паэтак і іх далёкіх папярэднікаў пра ролю і значэнне Часу ў жыцці чалавека. Калі, скажам, Ваданосава піша «раны залечыць час», то мы тут жа прыгадваем, што яшчэ ў 4 ст. да н.э. старажытнагрэцкі драматург Менандр у адной са сваіх п'ес сфармуляваў тое ж самае — «Час залечвае ўсе раны». А Кацярына Массэ ў адным сваім вершы сцвярджае, што «час... усё знішчыць», тады як у старажытнаіндыйскіх тэкстах і ў Платона выказана ідэнтычная думка пра тое, што «час выносіць (*у сэнсе — «уносит»*. — **Э.Д.**) усё». Праз некалькі стагоддзяў пасля грэцкага філосафа выдатны старажытнарымскі паэт Авідый у сваёй паэме «Метамарфозы» таксама зрабіў прыблізна такую ж выснову: «Час — пажыральнік рэчаў — // І ты, о зайздросніца старасць, // Усё разбура-

еце вы». А ў сучасны перыяд падобная сентэнцыя сустракаецца не толькі ў літаратуры, але і ў творах кінамастацтва, пра што яскрава сведчыць паўтарэнне фразы «Час знішчае ўсё» ў пачатку і ў канцы скандальна вядомай французскай драмы «Незваротнасць» (2002). Дарэчы, калі разважаць пра час, то хацелася б параіць шаноўным паэткам уважліва прачытаць выдатны верш Міхася Стральцова «Размова з часам», змешчаны ў ягоным першым паэтычным зборніку «Ядлоўцавы куст» (1973). Гэты твор, на маю думку, можа служыць узорным для любога паэта (традыцыяналіста і мадэрніста), паколькі вызначаецца яснасцю задумы, арыгінальнасцю вобразаў і нетрывіяльнасцю думак, эмацыйнай усхваляванасцю і зграбнасцю мастацкай формы.

У абедзьвюх паэтак сустракаюцца таксама тэкстуальныя ці рытмічныя «пераклічкі» (зрэдку нават вельмі блізкія!) з вершамі вядомых айчынных і замежных творцаў 20 стагоддзя. Вельмі нечакана і дзіўна было знайсці паралель паміж асобнымі радкамі дзвюх такіх, здавалася б, амаль супрацьлеглых па творчых падыходах асоб, як Кацярына Массэ і...Яўгенія Янішчыц. Калі з-пад пяра нашай славутай «палескай ластаўкі» калісьці выйшла арыгінальная фраза-заклік «Памаўчы са мной па-беларуску» (1984), то прыблізна праз тры дзесяцігоддзі юная паэтка канстатуе амаль тое ж самае: «а я маўчу. // па-беларуску». А ніжэйпрыведзеная канцоўка верша Кацярыны Ваданосавай вельмі нагадвае (па зместу і рытміцы) знакаміты блокаўскі верш «Ночь. Улица. Фонарь. Аптека»:

*Было і будзе так заўжды:*  
*Рака, дзяўчына, небакрай,*  
*І ў хуткім светлым шкле вады*  
*Прамень, як залаты кароль.*

На маю думку, пэўнай слабасцю разглядаемых паэтычных кніг з'яўляецца яшчэ і тое, што ў іх практычна цалкам адсутнічаюць творы на сацыяльную тэматыку, дзе б быў у яркіх вобразах адлюстраваны дух і рытм сучаснай эпохі. Калі Кацярына Массэ найбольш заклапочана ўнутраным метафізічным дыялогам з сабой і з Богам, то Кацярына Ваданосава ў сваіх вершах, скажам так, кантактуе са сваімі каханымі, роднымі, а таксама з сівой даўнінай у асобе каралёў, князёў, касінераў, музЫкаў і інш. У той жа час па-за межамі кніг застаецца складанае, вірлівае, нярэдка супярэчлівае і трагічнае сённяшняе жыццё людзей з іх дробнымі ці буйнымі радасцямі, пякельнымі пакутамі, (ня) спраўджанымі надзеямі, моцнымі расчараваннямі, загубленымі жыццямі і г.д. Хаця тут усё ж варта дадаць, што звычайна выразныя грамадзянскія матывы заўважна «ўваходзяць» у творчасць таленавітых паэтаў (за выключэннем, канечне, геніяў) не ў маладосці, а ў сталым узросце, калі яны ўжо маюць нашмат больш пазітыўнага і негатыўнага жыццёвага вопыту. У дадзеным кантэксце будзе дарэчным успомніць меркаванне выдатнага айчыннага пісьменніка й літаратуразнаўца пра геніяльнага Максіма Багдановіча, які ўжо ў зусім маладыя гады мог на аднолькава высокім узроўні пісаць вершы гісторыка-міфала-

гічныя, філасофскія, пейзажныя, любоўныя, грамадзянскія: «Ягоны заўсёдны лаканізм, ягоная здольнасць бачыць з'яву цалкам, у мастацкай і сацыяльнай перспектыве — вялікая заваёва нашай літаратуры і Багдановічаў запавет ёй» [4, с.432]. Цікава, што самы малады беларускі класік у свой час прыблізна за тую ж вузасць творчага дыяпазону крытакаваў самабытнага ўкраінскага паэта Рыгора Чупрынкі, які з-за абмежаванасці і нешматлікасці паэтычных прыёмаў стварыў вакол сябе своеасаблівае кола, за межамі якога «застаецца шырокі свет тэм, матываў, пачуццяў, думак, настрояў» [1, с.321].

Увогуле, на заканчэнне хацелася б пажадаць, каб традыцыяналістка Кацярына Ваданосава часам рабіла смелыя спробы разнастаіць рытміка-інтанацыйны і страфічны малюнак свайго верша, ускладніць змест свах твораў і аздобіць яго флёрам пэўнай загадкавасці, таямнічасці, а мадэрністка-наватарка Кацярына Массэ не баялася хаця б зрэдку спрашчаць свае вершы, рабіць іх больш жывымі й разняволенымі і адпаведна менш штучнымі і зададзенымі, а таксама ўводзіць у некаторыя свае творы элементы традыцыйнай паэтыкі. Было б вельмі добра, каб гэтыя паэткі бесперапынна шукалі і часцей знаходзілі сапраўдную гармонію думкі й пачуцця, душы ды інтэлекта, што дазволіла б ім дадаць у багатую скарбніцу айчыннай паэзіі нямала бліскучых ва ўсіх сэнсах каменьчыкаў-вершаў. І яшчэ заўжды важна помніць адмысловы запавет айчыннага філосафа і паэта Ігната Канчэўскага, які лічыў, што дзейнасць сапраўдных мастакоў павінна вызначацца «безустаннай творчасьцю, адсутнасьцю самазадаваленьня, вечным шуканьнем, вечным імкненьнем далей, у глыбіню жыцьця» [2, с.88]. Упэўнены, што пры ўмове настойлівай працы па ўдасканаленні свайго паэтычнага майстэрства нашых маладых адораных паэтэс будуць чакаць светлыя творчыя перспектывы...

## Літаратура:

1. Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т.2. Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. — 2-е выд. — Мн.: Белорусская наука, 2001. — 600 с.

2. Канчэўскі І. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду // Беларуская думка XX стагоддзя. Філасофія, рэлігія, культура (Анталогія). Укладанне, прадмова і апрацаванне Юры Гарбінскі. — Варшава: Польская акадэмія навук, Інстытут славістыкі, 1998 — 740 с. — С.73—101.

3. Пас О. В поисках настоящего времени: Нобелевская лекция 1990 г.; Поэзия; Эссе; Проза / Пер. с исп. — М.: ТЕРРА-Книжный клуб, 2001. — 352 с.

4. Стральцоў М. Выбраныя творы: уклад. і камент. Міхася Скоблы; прадм. Анатоля Сідарэвіча. — Мінск: Беларуская навука, 2015. — 652 с.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Non-fiction non-stop

***Сіўчыкаў У. Уладзевы гісторыі. Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. 224 с.***

***Несцярэнка Ю. Звычайны шоу-бізнес: Апавяданні. / Прадмова Людмілы Рублеўскай. Мінск: Кнігазбор, 2015. 156 с.***

Найбольш удалая мастацкая літаратура ў прынцыпе заўсёды была аўтабіяграфічнай і / або заснаванай на рэальных падзеях. Такім чынам, у самым шырокім сэнсе яе можна было б аднесці да кірунку, названым пазычаным тэрмінам «нон-фікшн». Можна было б... Але ступень абагульненасці не дазваляе. Таму, напрыклад, візітоўка беларускага прыгожага пісьменства — Коласава «Новая зямля», спісаная з жыцця, успрымаецца як эпічнае палатно з гісторыі цэлага народа, а не прыватнай сям'і. Прычым — NB! — як «энцыклапедыя беларускага сялянства» (Алесь Адамовіч[1]), хоць напісаная на матэрыяле жыцця-быцця лесніка. У святле апошняй акалічнасці думаецца, што шэдэўральнасць і «энцыклапедычнасць» паэмы стала абумоўленай у многім за кошт сублімацыі мараў і інтэнцый патэнцыйнага земляроба Міхала. Як радзівілаўскі стражнік ён карыстаўся зямельным надзелам, карміўся з яго, але асабіста не меў нават лапіка на гэтым бяскрайнім глобусе. Таму калі звычайны селянін з традыцыйнай на той час для Беларусі паўвалокай (блізу 10 гектараў) дбаў пра лепшы ўраджай, г. зн. хлеб надзённы, пачуваючыся збольшага ўпэўненым у заўтрашнім дні, Міхал, акрамя клопатаў актуальных і штосезонных, хоцькі-няхоцькі мроіў, гарэў набыццём зямлі, сядзібы («купіць зямлю, прыдбаць свой кут...»), што дало б магчымасць смела глядзець у перспектыву і... асабліва не ўзірацца ў яе, не пераймацца ёю. Быў бы ляснік землеўласнікам, ці адчуў бы ва ўсёй глыбіні яго цягу да зямлі адзін з сыноў — будучы паэт, класік і абуджальнік нацыі? Пытанне з прынцыповай доляй рытарычнасці.

У той жа час адсутнасць мастацкай абагульненасці пры свядомым імкненні *ўпісацца* ў фармат літаратурна-мастацкіх твораў, па-першае, таксама аднясе

[1] Дзеля справядлівасці варта заўважыць, што дадзеную дэфініцыю прынята прыпісваць указанаму слыннаму навукоўцу, тым не менш падобныя вызначэнні ўзніклі раней: так, Я. Мазалькоў, паэт, перакладчык, літаратуразнавец, у кнізе пра Якуба Коласа яшчэ ў 1953 г. (А. Адамовіч нарадзіўся ў 1927 г. і на пачатку 1950-х гг. яшчэ не меў публікацый па творчасці Якуба Коласа, а славутая работа беларускага даследчыка пра «паэму-раман» «Новая зямля» «Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы» датуецца 1957 г.) пісаў, што «паэму «Новая зямля» крытыкі не раз *называлі* (курсіў, пакліка1ны звярнуць увагу на прошлы час дзеяслова, наш. — А. Т.) энцыклапедыяй беларускага сялянскага жыцця дарэвалюцыйных гадоў» (Мазалькоў Я. Якуб Колас: крытыка-біяграфічны нарыс. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1953. С. 60). Практычна тую ж фармулёўку паралельна знаходзім у сумна славутага А. Кучара: «Гэта паэма можа быць па праву названа энцыклапедыяй жыцця беларускага сялянства канца XIX стагоддзя» (Кучар А. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1953. С. 150. Удакладненне, аднак, не адмяняе азначэння.

той ці іншы опус да прыгожага пісьменства, па-другое, стане экзаменам для самога творцы, якога падсцерагае небяспека збіцца з абранага *тропу*. Уяўная лёгкасць апошнім часам ужо спакусіла многіх, стала, як модна цяпер казаць, трэндам. Згадаем некаторыя свежыя выданні, на якія ўжо адгукнуліся ў нашай медыяпрасторы:

— «Ахроменка У.І. Музы і свінні. Мінск: Ковчег, 2014. 218 с.»[2]

— «Аркуш А. Мясцовы час. Полацк: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2014. 146 с.»[3]

— «Белы А.І. Ад Грыўды да Гандвіка: эсэ-ўспаміны. Мінск: Ковчег, 2015. 152 с.»[4]

— «Абламейка С. Дом літаратара: пісьменьніцкія гісторыі. Мінск: Галіяфы, 2015. 200 с.»[5]

Наўскідак можна яшчэ ўспомніць такія гучныя прозвішчы, як: В. Мудроў, В. Шалкевіч, А. Федарэнка, якія ў гэтым рэчышчы «праплылі» трохі раней. У іх творчасці лёгка ўгадваецца жыццёвая першааснова. Нельга абмінуць яшчэ больш даўняга С. Кваткоўскага з яго «Фрашкамі да пляшкі» (2007). Як (суб'ектыўна) падаецца, менавіта яны сталі імпульсам для вітка «нонфікшнізацыі», які доўжыцца пасюлека. У 2015 г. нават паўстала Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў — за кнігу ў галіне непрыдуманай мастацкай літаратуры.

Разам з тым выяўляецца, што разуменне азначанага фармату дужа разнастайнае. Хто-ніхто тут падыходзіць даволі шырока. Таму і атрымлівае ў свой адрас пэўную порцыю крытыкі (у яе адмоўнай канатацыі). Неадназначна вядомы стваральнік партала «ЛитКритика.by» А. Новікаў, падтрымліваючы бачанне адной расійскай літаратаркі, змяшчае на сваім рэсурсе яе лаканічны, але змястоўны артыкул, дзе між іншым гаворыцца: «Нон-фикшн — жанр литературы, в котором, в отличие от беллетристики, автор описывает полностью реальную историю. Вымысел не допускается. <...> Однако все реальные события воспроизводятся через призму образного мировосприятия автора», — пры гэтым адносіць сюды «мемуары, воспоминания, дневники, письма, а также биографии и дорожные заметки» А. Новікаў хіба не лічыць магчымым[6].

---

[2] Гл. падрабязней пра кнігу: Трафімчык А. З прэтэнзіяй на бестселер // Народная воля, 2015, 17 лют. С. 7.

3 Гл. падрабязней пра кнігу: Астраўцоў С. Сокалаў-Воюш і Гумянюк у адной кнізе // Радыё Свабода [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/article/26832205.html. Дата доступу: 13.03.2016.

4 Гл. падрабязней пра кнігу: Трафімчык А. Светлыя ўспаміны Белага // Народная воля, 2015, 24 сак. С.6.

5 Гл. падрабязней пра кнігу: Весялуха М. 10 загадаў Беларускай Літаратуры // Свабода [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/article/27573062.html. Дата доступу: 13.03.2016.

[6] Железная Н. Что такое «нон-фикшн»? // ЛитКритика.by [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://litkritika.by/categories/literatura/raznoe/2161.html. Дата доступу: 13.03.2016.

Азначаны ракурс здорава звузіў бы кола літаратуры названага жанру. Аднак, несумненна, акрамя названых вышэй, сюды былі б залічаныя шостая кніга У. Сіўчыкава «Уладзевы гісторыі» і першая Ю. Несцярэнкі «Звычайны шоў-бізнэс». Абедзьве выйшлі летась і не засталіся непрыкмечанымі. Першы аўтар працягваў публікаваць свае гісторыі ў перыёдыках (намі яны былі заўважаны ў «Дзеяслове», «Народнай волі» і «Нашай веры»). Абедзьве кнігі цяпер намінаваны на Прэмію Гедройца. Дарэчы, з 29 пазіцый вылучаны многія блізкія па фармаце да «нявыдуманых» кнігі. Памянем іх:

— «А. Глобус. Гісторыі пра Мінск і ваколіцы»,

— «В. Патапенка. Загадкі пушчанскай патапечы»,

— «В. Шніп. Заўтра была адліга»,

— «М. Шчур. Завяршыць гештальт»,

— згаданы ўжо «С. Абламейка. Дом літаратара».

У гэту ж катэгорыю з пазнакай «адносна» таксама ўпішам наступныя выданні:

— «С. Адамовіч. Цана Еўропы, альбо Гісторыі Вільмана»,

— «Ф. Сіўко. Плебейскія гульні»,

— «А. Івашчанка. Анаталогія»

— і нават «Д. Пятровіч. Анёлы».

Можа, па недаглядзе не згадана яшчэ якая кніга — дык гэта, як палічаць чытачы. Але і 1/3 — гэта, пагодзімся, нямала.

Адразу можна спрагназаваць, што большасць пералічаных мае рэальныя шансы прайсці ў шорт-ліст (у дванаццатку дакладна). Аднак і лаўрэацтва ім — праз розныя прычыны — свеціць слаба (хоць адно выключэнне зрабіць павінны, абраўшы ў прызёры).

З аднаго боку, у параўнанні з іншымі якраз яны могуць прыцягнуць найбольшую ўвагу чытача паспалітага. Ці ж не цікава чытаць пра акаляючую рэчаіснасць і тваіх знаёмцаў? Гэта ж вам не нудзіцца з нясмелымі Лабановічам і Ганнай! У сучасных аповедах некаторыя гераіні самі бяруць, мякка кажучы, але груба фармулюючы, быка за рогі (прозвішчаў адмыслова не называю: 1) каб не пакрыўдзіць аўтараў, 2) каб чытачы пашукалі самі).

Тым не менш пры ўсёй цікавасці, якую і да ажыятажнасці можна раскруціць, сур'ёзная прэмія не прысудзіцца. Нешта з шэрагу (таксама не будзем указваць) занадта ўлітаратурана тэматычна, нешта — аддалена геаграфічна, нешта — суб'ектывізавана і здробнена. Адкінем жа, апроч відавочна нефарматных, яшчэ тыя, што паспелі атрымаць іншую прэмію, а таксама — якія не выйшлі... аўтарамі. Прагноз рэзка звузіцца.

Нашы прыкідкі.

«Гедройца» нарэшце возьме заўсёды «модны» (перадусім дзякуючы (сама) раскрутцы) і стылёвы (дзякуючы яго пісьменніцкай прыродзе і актуальным чытацкім густам) А. Бахарэвіч — ці не адзіны сёння ў беларускай літаратуры, хто есць хлеб з мастацтва. Тым больш што асабліва і канкурэнтаў цяпер не бачна.

Адно з прызавых месцаў будзе адведзена Ю. Станкевічу (ад чаго той можа адмовіцца — проста палянуецца паехаць на стыпендыю, хоць узнагародамі яго надта не абдорваюць). Тут хіба абгрунтавання ацэнкі высокага месца не трэба (хоць і не для гэтага выпадку). Усё ж — дзеля піяру падзеі гэтакі варыянт цалкам уяўны. Дый лішні скандал вакол прэміі не зашкодзіць — ні прэміі, ні сучбелліту (тэрмін Г. Кісліцынай).

Побач прысуседзіцца В. Шніп. Яго «Адліга» чалавечная, кранае. Дый не павінны ўпусціць выпадку, каб рэакцыю паглядзець: прыме — не прыме, паедзе — не паедзе? Паедзе! І правільна зробіць. І пусцяць. Сёння тым больш. Калі «акно ў Парыж» прыадчынілі. Да таго ж сумнеўна, што надоўга.

Пры такой раскладцы сёлетняе ўручэнне прэміі стала б самым скандальным, шлейф ад чаго яшчэ пару-тройку гадоў, безумоўна, цягнуўся б, а магчыма, і спараджаў бы новыя інтрыгі, развіваў бы моманты міфізацыі і нават дэманізацыі, значэнне самой прэміі пераўзышло б яе сферу, выплюхналася б і стала б фактам — не — феноменам шырокага грамадскага жыцця Беларусі.

І вось у такім, па-вясноваму запалаводжаным сучбеллітным Дняпры, да сярэдзіны якога даляціць (дачытае) рэдкі член журы, напорыстым мэйнстрымам урываецца непрыдуманая літаратура ў мастацкіх жанрах — са сваімі хуткасцямі, вірамі і паваротамі. Сімптаматычна, што сярод аўтараў дамінуюць не тыя, чыя іпастась празаіка першасная. У асноўным перакваліфікаваліся паэты. Знаходзіцца нават адзін міліцыянер! Гэта В. Патапенка, якому, што праўда, не чужое журналісцкае пяро. А яшчэ — мастак і музыка — адпаведна У. Сіўчыкаў і Ю. Несцярэнка. Іх кнігі і заяўлены для разгляду, да якога мы ніяк не падступімся.

У святле сказанага папярэдне асмелімся яшчэ і на меркаванне, што вынесеная тут на разгляд проза з'яўляецца рэпрэзентатыўнай. Кожная з кніг прадстаўляе розныя падыходы да нонфікшнізацыі. Як ні дзіўна, да большага абмастацквання цягнецца менш дасведчаны літаратар — Ю. Несцярэнка. У той жа час У. Сіўчыкаў ледзь не дакументальна падае свае гісторыі, што не заўсёды дазваляе яму ўжываць прозвішчы персанажаў, якія і без гэтага праглядаюцца.

Аповеды Ю. Несцярэнкі прэтэндуюць на сацыяльнае значэнне. У. Сіўчыкаў, як падаецца знешне, не мае такіх замашак, ведучы расказ прыватным чынам. Так, у першага знаходзім такое маштабнае найменне, як «сага» — «Сага пра школу музыкі». Другі абмяжоўваецца «Візітоўкай», «Кампліментам», «Дарчымі надпісамі» і — куды ўжо мякчэй — «Ь». Пацвердзім тэзу на матэрыяле Ю. Несцярэнкі (у гісторыях У. Сіўчыкава для гэтага магчымасці няма).

Тэмай апавядання, якое дало назву ўсёй кнізе, стала спекуляцыя кампактдыскамі: яны купляліся па ўсходні ад Польшчы бок мяжы і потым з выгадай прадаваліся па заходні. Аўтар паралельна з нарацыяй увесь час займаецца тыпізацыяй з'яў. Вось што ён піша пра ўзнікненне ідэі заробку: «Уласна маё мысленне ў сярэдзіне 90-х, напэўна, няшмат чым адрознівалася ад мыслення

іншых грамадзянаў былой краіны Саветаў. Таму ўявіць падарожжа на ўзбярэжжа Атлантычнага акіяна — гэта значыць «на другі край свету» — было вельмі цяжка, і нават не з-за фінансавых магчымасцяў, а з-за пэўных клішэ савецкага мыслення. А вось вандраванне з суседняй Масквы ў братнюю Варшаву ўяўлялася неяк больш рэальным» (с. 70). Канечне, быў бы Ю. Несцярэнка дарэшты справядлівым, дык эпітэты сталіц памяняў бы месцамі — усё-такі тут маем справу са спробай абагульнення, а не абмежавана аўтарскім успрыманнем свету. Тым самым становіцца відавочна, што Аўтар да нейкай аб'ектыўнасці і не імкнецца, не перажываючы пры гэтым наступстваў кагнітыўнага дысанансу.

Адсюль, зыходзячы з мастацкай манеры асэнсавання жыцця — адпаведная тэхнічная падача. Музыка стварае ў творах і кантэкст, і хоць збольшага характарнасць сваіх персанажаў — так бы мовіць, аранжыроўку і партытуры. Мастак, можна сказаць, калекцыянуе графічныя эскізы: гісторыйкі не сказаць каб зусім без фарбаў, але дужа лаканічныя, хоць многія з іх маглі стаць падставай як мінімум для апавядання. Уражанне, што іх у Аўтара столькі, што не паспявае ўсе апрацаваць у жанры апавядання. Мінімалізм апошняга практычна не дазваляе працытаваць творы ўрыўкамі — толькі цалкам:

«Аднаго вераснёўскага дня ў сярэдзіне васьмідзясятых гадоў Сцяпан Хусейнавіч Александровіч замест адной са сваіх лекцый адвёў тагачасных першакурснікаў, студэнтаў-беларусістаў на вуліцу Даўгабродскую і з гадзіну расказваў пра літаратараў, пахаваных на сталічных Вайсковых могілках.

Тым самым часам на кінаэкранах з аншлагам ішоў фільм Тэнгіза Абуладзе «Пакаянне», які шакіраваў гледачоў адной з сюжэтных ліній. Паводле яе, дачка рэпрэсіраванага ў канцы 1930-х гадоў грузінскага мастака выкопвала нябожчыка Катэ Аравідзэ, былога мэра горада і фактычнага ката не толькі яе бацькі, а і соцень гараджан, бо той, на яе думку, не меў права ляжаць у роднай зямлі.

А перад юбілейнай паэтычнай вечарынаю Генадзя Бураўкіна ў Палацы мастацтва дазналіся калегі ад Уладзіміра Содаля, што і ў нас, нібыта рахманых, ціхмяных і талерантных беларусаў, папраўдзе быў аналагічны выпадак.

Дачка літаратара Эдуарда С. прызнавалася, што ў лютым 1939 года, раніцай пасля пахавання бацькава магіла на Вайсковых могілках (у цэнтры Мінска) аказалася раскапанаю, труна раструшчанаю, а сам нябожчык — павешаным на дрэве па-над магілаю!!!

Каму ж так не дагадзіў пры жыцці аўтар зборніка прозы «Дачка эскадрона» і рамана «Будучыня», у якім паказана жыццё грузінскага народа, хто не даў яму спакойна спачываць у роднае зямлі, за што так жахліва папомсціўся?!» («Пакаранне», с. 28—29)

Розніць абодвух аўтараў між собку яшчэ і тло, на якім узгадаваны апісаныя падзеі. У Ю. Несцярэнкі гэта музыка. Калі не яна непасрэдна, дык — як зачэпка, каб распавесці пра тую ці іншую турботу. Напрыклад, у апавядан-

ні «Шоў павінна працягвацца» аўтар «адштурхнуўся» ад жыцця і творчасці... Фрэдэрыка Булсара (больш вядомага як Фрэдзі Меркуры), каб расказаць, як за савецкім часам у сімферапальскім аэрапорце затрымлівалі самалёты дзеля стварэння масоўкі для навіннай відэакамеры з нагоды сустрэчы амерыканскага прэзідэнта Рычарда Ніксана.

Адпаведна У. Сіўчыкаў матае на вус галоўным чынам калялітаратурны матэрыял — з гісторыі і сучаснасці. Назіранні розныя па глыбіні. Здараюцца і зусім павярхоўныя:

«На ўрачыстым прыёме ў гатэлі «Crowne Plaza», які чэшскае пасольства давала з нагоды Дня чэшскай дзяржаўнасці, амбасадар Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ганарліва хадзіў пад ручку з пераможцай Міжнароднага конкурсу прыгажосці «Міс Інтэркантыненталь-2009», сваёй суайчынніцай Анэлі Кінтэра і з задавальненнем прадстаўляў яе гасцям.

Дваццацітрохгадовая прыгажуня, мадэлька і тэлевядучая, ахвотна дарыла ўсмешкі прысутным — прымалі яе ў Мінску шыкоўна. Напярэдадні пабывала яна ў Дудутках, пасмакавала страў беларускай кухні, а на футбольным манежы ў яе гонар было наладжана вечаровае шоў з феерверкам.

Калі пакінулі яе ў кампаніі жонак дыпламатаў, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас заявіў свайму суразмоўцу:

— Як украініст паводле адукацыі, скажу вам, калега, што асабіста мне дык вунь тая ўкраінка-брунетка, якая стаіць поруч з венесуэлкай, куды больш падабаецца!

— Я ведаю, што ў нашага венгерскага і ў нашага палесцінскага калег жонкі ўкраінкі. Але чаму вы так упэўнена сцвярджаеце, што і тая смуглянка — украінка? — спытаўся заінтрыгаваны амбасадар Украіны Дзмітры Ліхавы. — І чаму яна падабаецца вам больш, чым сённяшняя «Міс Інтэркантыненталь»?

— Ды хаця б таму, што яна — мая жонка!!! Хадземце, я вас зараз пазнаёмлю!» («De gustibus non disputandum est», с. 51—52)

Аднак ніводзін з аўтараў не стараецца вучыць патэнцыйнага чытача. Хутчэй самі яны вучацца і дзеляцца жыццёвым досведам.

Паколькі пісьменніцкія фокусы вельмі розныя, дык, натуральна, і стыль у кожнага свой. Хоць і не без уплываў (сёння без іх аніяк). Тым не менш, як бачыцца чыста суб'ектыўна, справа не ў пераймванні пісьма таго ці іншага творцы. Хутчэй можна казаць пра эпоху, якая стаіць на двары і дыктуе адносіны да жыцця. І толькі пасля можна высочваць уплывы канкрэтных пісьменнікаў, часцей за ўсё сучаснікаў, якія займаюць (хто больш, хто менш) сціплае месца ў такой эпосе. Прынамсі творчае дыханне некаторых адзначаных на пачатку адчувалася пры чытанні разглядаемых кніг (не называем, каб нікога не пакрыўдзіць). У якасці прыкладу дарэчна прывесці першыя абзацы апавяданняў Ю. Несцярэнкі:

«Лёха быў маім лепшым сябрам на першым курсе. З першых дзён нашага знаёмства мы фанатычна рвалі струны на гітарах, пісалі паэмы і ўвогуле не

дужа разумелі — навошта нам здаўся гэты дыплом інжынера. Напрыканцы гэтага самага курса трэба было вызначацца — ці варта працягваць далей навучанне? Вырашана было паехаць на праслухоўванне ў музычную вучэльню — Лёха выпадкова знайшоў абвестку ў газеце і прынёс мне». («Кветкі да апошняга шанцу», с. 30).

«Так час ад часу здараецца — ты едзеш у Ленінград на провады сябра ў войска. Бывае яшчэ — былая твая сяброўка стала яго нявестай. Нічога дзіўнага, што праз яе вы і пазнаёміліся, і цяпер называеце адзін аднаго сябрамі». («Апошні шанец выйсці ў людзі», с. 35).

Аўтар па-майстэрску ненавязліва правакуе магчымага чытача дачакацца завяршэння аповеду, да таго ж невялікага па аб'ёме. Разам з тым відавочна, што Ю. Несцярэнкам (як і У. Сіўчыкавым) расказваецца сюжэтнае кола, якое цікава перадусім самому апавядальніку. Таму ў цэнтры першага — музыка (і нават музыка — калі мець на ўвазе намёкі на свой першы гурт «Апошні шанец»). За рэдкім выключэннем — яна побач: як у «экалагічнай рок-навеле» (аўтарскае азначэнне жанра) «Падарунак здалёк» пра сюрпрыз у выглядзе слана бацьку ад пакрыўджанай у дзяцінстве дачкі.

Традыцыйна для азначанага ў разглядаемых кнігах тэматычнага кола, як сведчаць і вышэйпрыведзеныя цытаты, займае месца падсветка ironіяй. Гэта надае чытанню дынамічнасць. Таму і гісторыйкі У. Сіўчыкава, і тым больш гісторыі Ю. Несцярэнкі не выглядаюць такім ужо голым фабульным шкілетам. Аднак часам не зразумела, ці той або іншы пасаж з'яўляецца ironіяй, а не падаецца з усёй дарослай сур'ёзнасцю. Зрэшты, як для мастацкага чытва такая амбівалентнасць — гэта добра. Бо цікава.

Між тым ацаніць падобную літаратуру ў аспектах мастацкай крытыкі складана. Перадусім з той прычыны, што «падкапацца» цяжка. Кожны з аўтараў можа сказаць, што хацеў укласці роўна столькі мастацкасці, колькі ўклаў. Яскравым доказам — вынесеныя на разгляд кнігі. А калі ўспомніць А. Пушкіна, «мастацкі твор трэба ацэньваць па тых крытэрыях, па якіх ён быў створаны». Да таго ж айчынны літаратуразнаўчы дыскурс адносна дзялянкі non-fiction таксама асабліва не дапаможа, бо распрацаванасць навуковай думкі трэба лічыць нездавальняючай. У той жа час глеба для ліквідацыі азначанага прабелу пашыраецца: пішуцца новыя творы, выходзяць кнігі, засноўваюцца прэміі. Іншым разам даюцца «Нобелі».



# Анатоль Мяльгуй

**журналіст, музычны аналітык. У суаўтарстве з Вітаўтам Мартыненкам выдаў кнігі: «Праз рок-прызму» і «222 альбомы беларускага року і ня толькі...». Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Выдавецкія даляглядыы «Спадчыны»

***Ад пачатку сваёй дзейнасці сябры сталічнага культурна-асветніцкага клуба «Спадчына» імкнуліся да таго, каб іх праекты, ідэі і дасягненні на карысць беларускай справы былі зафіксаваныя ў аналах нацыянальнай гісторыі. Няхай сабе і неафіцыйна. Бо, калі б да нашых дзён не дайшлі схаваныя ў шуфляду дзённікі, разбэрсаныя па кутах дакументы, мемуары, магнітафонныя стужкі, а таксама «самвыдат» апошніх дзесяцігоддзяў, то цяпершнім навукоўцам для аналізу і даследванняў мінулай эпохі засталася б бясконцая чарада пастаноў і рэзалюцый партыйных з'ездаў і пленумаў. Тым больш, што і да нашага часу ўсе альтэрнатыўныя звесткі і непадцэнзурныя дакументы, асабліва з грыфам «нацыяналістычныя», фактычна застаюцца засакрэчанымі.***

Сябры клуба «Спадчына», кіруючыся прынцыпам: «гісторыю ствараe сам народ», на сваіх паседжаннях пастанавілі фіксаваць усе справы, дакументы пра дзейнасць клуба і перажытыя імі падзеі сучаснага этапа станаўлення Беларускай дзяржаўнасці канца XX — пачатку XXI стагоддзяў асобнымі выданнямі.

І першым вопытам у практыцы выдавецкай дзейнасці клуб «Спадчына» стаў выпуск рэгулярнага клубнага альманаха «Скрыжалі «Спадчыны», на старонках якога друкаваліся «Хроніка падзей» клуба, літаратурныя і паэтычныя творы, гістарычныя даследванні (напрыклад, урыўкі з кнігі І.Курыцына «Незнаёмыя славяне»), успаміны (А.Лісоўская «У сведкі выбралі мяне»— пра смяротнае пакаранне фашыстамі мінскай падпольшчыцы М.Брускінай) і іншыя матэрыялы сяброў клуба.

Некаторыя нумары «Скрыжаляў «Спадчыны» былі прысвечаны асобным гістарычным падзеям. Напрыклад, трэці нумар гэтага альманаха распавядаў пра жыццё і палітычную дзейнасць першага Прэзідэнта Чэхаславакіі Томаша Масарыка. Гэтым выданнем і адмысловай сумеснай з амбасадай Чэхіі вечарынай, сябры клуба аддалі даніну 155-годдзю Дня нараджэння Т.Масарыка — вялікага сябра беларусаў, якіх у міжваенныя часы гасцінна прымала на вучобу і жыхарства яго краіна.

Цяпер «Скрыжалі «Спадчыны» (іх у каталозе клуба 7 тамоў) выдаюцца сябрамі і прыхільнікамі клуба, а само выданне атрымала міжнародны статус пасля яго афіцыйнай рэгістрацыі ў ЮНЭСКА.

Трэба падкрэсліць, што галоўнай мэтай дзейнасці не так даўно адыйшоўшага ад нас у Вечнасць кіраўніка культурна-асветнага клуба «Спадчына» Анатоля Белага было адраджэнне гістарычнай памяці беларускага народа праз ушанаванне тытанаў і герояў Беларусі мастацкімі сродкамі жывапісу, графікі і скульптуры. Дзеля таго, каб гэтыя творы ўздзейнічалі на гледачоў найбольш эфектыўна, Анатолем Яўхімавічам была задумана і ўвасоблена нечувальная

для нашай краіны ў канцы 90-х гадоў XX стагоддзя канцэпцыя прыватнага беларускага музея. Сапраўды беларускага, як па духу, так і па змесце.

Прыватны Музей выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах (Фонд А.Белага) ужо валодаў на той час багатымі калекцыямі твораў жывапісу, скульптуры, асаблівы гонар музея складала калекцыя медальернага мастацтва. У Музеі былі створаны экспазіцыі, прысвечаныя выдатным асобам беларускай гісторыі, навукі, культуры і літаратуры: Ф.Скарыне, К.Каліноўскаму, Я.Купалу, В.Быкаву, Б.Кіту...

Нагадаю, што пасля заўчаснай смерці свайго лідара, сябры клуба паставілі мэту, разам з сям'ёй Анатоля Яўхімавіча, зрабіць максімальныя захады, каб захаваць, пашырыць інфармацыю пра ўсё тое ўнікальнае, што было створана талентам і рукамі Анатоля Белага. Гэта тычыцца яго збіральніцкай дзейнасці і стварэння першага ў Беларусі прыватнага Музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах, устаноўкі помнікаў выдатным асобам нашай Айчыны — асветнікам, літаратарам і паэтам, вяртання забытых імёнаў нашай гісторыі і мастацтва. І наступным важкім крокам сяброў клуба на гэтым шляху стала выданне каталога Музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах (Фонд А.Белага), які мае назву «Раскрылі крылы музы» (выдавецтва «Рыфтур», г. Мінск, 2011 г.).

Сапраўды, са старонак каталога прадстаўлены алейныя і графічныя палотны беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва, якія пакінулі свой творчы скарб Музею выяўленчага мастацтва А.Белага. Тут ёсць рэпрадукцыі палотнаў Леаніда Шчамялёва, дынастыі мастакоў Ціхановічаў, знакамітых мастакоў Барыса Заборава, Аляксандра Кішчанкі, Уладзіміра Сулкоўскага, Сямёна Геруса, Васіля Шаранговіча, Георгія Паплаўскага, Арлена Кашкурэвіча, Уладзіміра Басалыгі, Анатоля Крывенкі...

Праца над каталогам «Раскрылі крылы музы» трагічна супала з кульмінацыяй цяжкой хваробы Анатоля Яўхімавіча, якую ён пераносіў мужна, безупынна працаваў над ажыццяўленнем праекта, чым натхняў усіх спецыялістаў выдавецтва і памочнікаў працаваць з падвоенай энергіяй. Музейным зборам твораў жывапісу і медальернага мастацтва вельмі ганарыўся Анатоль Яўхімавіч і таму з такой любоўю, натхненнем яго прыхільнасць да беларускай тэматыкі ў нацыянальным выяўленчым мастацтве адлюстравана ў гэтым каталогу. Першы яго экземпляр быў уручны Анатолю Беламу ўжо напярэдадні яго канчыны...

Памяці кіраўніка клуб «Спадчына» быў прысвечаны і першы том мемарыяльнага выдання — зборніка аўтабіяграфічных звестак, а таксама дакументаў клуба «І паўстала «Спадчына». Пра большасць фактаў дзейнасці сяброў клуба ў кантэксце тагачаснай барацьбы за Незалежнасць краіны, яе гістарычныя сімвалы — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг, пра змаганне за дзяржаўны статус беларускай мовы можна даведацца ў першым раздзеле кнігі — «Хроніка асноўных падзей». Ад самых першых акцый і сустрэч , калі ў сакавіку

1984 года клубу было прадастаўлена памяшканне на вуліцы Мендзялеева, куды спадчынцы запрашалі беларускіх пісменнікаў, гісторыкаў, грамадскіх дзеячоў, праводзілі першыя навуковыя канферэнцыі. Аж да самай сумнай падзеі ў жыцці клуба, калі 17 лістапада 2011 года сябры «Спадчыны» правялі свайго нязменнага лідара і кіраўніка ў апошні шлях.




Сярод дакументаў клуба можна пазнаёміцца з сістэмай узнагарод клуба і з пастановамі Камітэта па Ўшанаваньні (старшыня А. Белы) па ўручэнні разнастайных узнагародаў (зацверджаных і прынятых сходам клуба), якімі адзначаліся і самыя выдатныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху, і простыя беларусы, якія сваёй працай дапамагалі клубу ў рэалізацыі іх праектаў.

Бадай самая вялікая частка клубнага дыярыюша — раздел «А хто яны — спадчынцы?..» У ім распавядаецца пра жыццёвы і творчы лёс сяброў клуба, іх унёсак у адраджэнне культуры і мовы беларускага народа. А галоўнае — у шматгранную працу клуба «Спадчына», удзельнікі якога ў той час займелі неафіцыйнае званне «народнага міністэрства культуры Беларусі».

Кніга ўяўляла сабой шматгадовы летапіс дзейнасці клуба і яго сяброў: том уключае, таксама, біяграфіі сяброў клуба, узнагароды, якімі ганараваліся найбольш актыўныя з іх. Таксама ў кнізе змяшчаліся дакументы клуба, якія распавядаюць чытачам пра тыя справы, якія былі здзейснены сябрамі «Спадчыны» ў справе нацыянальнага Адраджэння на мяжы стагоддзяў. Гэта сапраўдная скарбінца фактаў і звестак для даследчыка!

У канцы гэтага года грамадскасці была прадстаўлена новая кніга ўспамінаў пра нязменнага кіраўніка культурна-асветнага клуба «Спадчыны» Анатоля Белага «Жыццё ў імя Бацькаўшчыны», якое завершыла двухтомнае мемарыяльнае выданне, якое прысвечана лёсу гэтага незвычайнага чалавека, так шмат ахвяраваўшага для таго, каб наша родная Беларусь стала незалежнай і дэмакратычнай.

Новы том успамінаў «Жыццё ў імя Бацькаўшчыны» закранае адрозныя ад ранейшых успамінаў, бакі характару і дзейнасці Анатоля Белага. Маю на ўва-



зе яго чалавечыя якасці, яго адносіны да спадчынаўцаў, і не толькі да аднадумцаў, але і тых, хто ў той час быў, так бы мовіць, «на іншым баку барыкад». Для Анатоля Яўхімавіча галоўным было дасягненне вынікаў на карысць нацыянальнага Адраджэння, прыхільнікаў якога ён бачыў у кожным з беларусаў. Толькі трэба было знайсці адпаведныя падыходы, каб выявіць у чалавеку ўсё лепшае. У гэтым быў талент Белага, пра які так шмат гаворыцца ў новай кнізе, і які пастаянна ўзгадваўся падчас прэзентацыі кнігі «Жыццё ў імя Бацькаўшчыны».

Аўтарамі ўспамінаў стала, па-першае, сям'я Анатоля Яўхімавіча, а таксама сябры «Спадчыны», якім было прадстаўлена слова для асэнсавання яго асобы. Цёплыя словы пра бацьку прагучалі з вуснаў дачкі Анатоля Яўхімавіча Святланы: «Мяне вельмі кранула тая шчырасць і любоў у адносінах да таты, якая гучыць ва ўспамніах, што змешчаны ў новай кнізе. Калі я чытала гэтыя радкі, перада мной узнікаў родны мне чалавек. І ўва мне былі вельмі змешанныя пачуцці, я плакала, бо тата паўстаў перада мной як жывы. Яго характар у гэтых успамінах аддюстраваны вельмі даклада. Я шчыра ўдзячная сябрам «Спадчыны», усім тым, хто спрычніўся да выдання гэтай кнігі».

Сваімі ўражаннямі ад здзейсненай працы дзеліцца адзін з укладальнікаў і рэдактар выдання, паэт Яўген Гучок: «Падчас працы над кнігай я яшчэ раз упэўніўся ў тым, што Анатоль Белы — незвычайная постаць у нашым нацыянальным руху і што нам яго на сённяшні дзень вельмі і вельмі не хапае, як кажуць, ва ўсе чатыры бакі! Я лічу, што ён — вялікі чалавек і Беларус. У часы гістарычных пераломаў такія, як Белы, станавіліся правадырамі народных вызваленчых рухаў. І добра, што выхад гэтай кнігі — яшчэ адна нагода нагадаць пра гэта».

Думкамі пра змест новай кнігі падзяліўся сябра клуба «Спадчына», доктар гістарычных навук, прафесар Л.М.Лыч: «Я вельмі ўсцешаны і вітаю выхад такога тома, таму што пра тую асобу, якой яна прысвечана — А.Белага, афіцыйныя ідэалагічныя структуры і праз трыццаць год ні словам не ўзгадаюць. Таму самае важкае слова пра Анатоля Яўхімавіча павінны сказаць тыя, хто яго ведаў, хто быў поруч з ім у барацьбе за беларускую нацыянальную ідэю. Мне здаецца, што трэба ўвесці ў практыку публікацыю такога рода кніжак. Я рады, што выдаюцца раманы і даследванні пра беларускіх нацыянальных дзеячоў мінулых стагоддзяў. Але трэба, каб людзі ведалі і сваіх сучаснікаў. Тым больш, што з імі ў наш час можна запраста сустрэцца і даведацца пра сённяшнія іх справы, задумкі і пра іх погляд у будучыню...»

Сваімі пачуццямі адносна выхаду кнігі ўспамінаў пра кіраўніка «Спадчыны» з прысутнымі падзяліліся мастакі А.Зіменка і У.Мелехаў, вэтэраны культурнаасветнага клуба «Спадчына» Надзея Сармант, Ян Антанюк, Анатоль Валахановіч, Мікола Несцярэўскі, Мікола Лавіцкі, пісьменнік Васіль Якавенка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка і іншыя спадчынаўцы. Дарэчы, Ганна Вячаславаўна паведаміла, што ў музеі, якім кіруе яна, ужо створаны асобны фонд Анатоля Белага. І хутка з ім змогуць знаёміцца даследчыкі і ўсе сябры клуба.

Узвышаную ноту ў праграму прэзентацыі кнігі і святочнага паседжання «Спадчыны» ўнесла добра вядомая сябрам клуба спявачка Таццяна Грыневіч-Матафонава, якая не так даўно вярнулася з канцэртнай паездкі па Злучаных Штатах Амерыкі. Таццяна з неверагодым пачуццём і артыстызмам выканала шэраг знакамітых беларускіх патрыятычных песень, пачынаючы ад песняроўскай «Спадчыны» (на верш Я.Купалы) і «Пагоні» (верш М.Багдановіча) да «Развітання з Радзімай» (на верш С.Сокалава-Воюша). У многіх спадчынаўцаў узвышаны голас і тонкае выкананне Таццяны Грыневіч-Матафонавай выклікалі слёзы і шчырыя воклічы «брава, біс!». Завяршылася паседжанне клуба «Спадчына» яшчэ адной прэзентацыяй. Гэтым разам відэафільма, прысвечанага Анатолю Яўхімавічу Беламу «Ваяр Белы», які таксама быў сустрэты з удзячнсцю за памяць і як відэа-ілюстрацыя падзей, пра якія ідзе размова ў зборніку «Жыццё ў імя Бацькаўшчыны».



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Памёр 17 красавіка 2016 года.

# Дыскаграфія

## «N.R.M.» — надта запозненая рэцэнзія

***«N.R.M.» — «Нуль шэсць», Мн., 2007, «Pro?-Studio».***

Рэгулярна наведваючы ад незапамятных часоў рок-канцэрты, я мімаволі з журналіста ператварыўся і ў нейкага кансультанта перасоўных беларускіх distro, расказваючы цікаўным пра тыя або іншыя асаблівасці пэўных музычных выданняў. Нехта падыходзіць і паўторна, каб ці падзякаваць за ўдалыя знаходкі, ці проста падзяліцца адпаведнасцю маіх высноваў іхнім густам. І неяк у клубе «Re:Public» два хлапцы рызыкнулі паскардзіцца на расчараванне, што купілі надоечы апошні на той час «N.R.M.» («Д.П.Б.Ч.», мы пісалі пра яго ў «Верасені» №1/12, 2015, стар. 228). Я не хаваў ад іх, што культавага фронтмэна Вольскага ўжо няма ў складзе, што моцна змяніўся саўнд, які захапляе неафітаў, але расчароўвае гартаваных фанаў (хоць астатнія музыкі тыя самыя), але мне даспадобы акурат захаванне самога культавага брэнду — «N.R.M.». Тым больш, нечаканыя змены бываюць не толькі ў нас, а і ў сусветных зорак.

У юнацтве я падсеў на ірландскіх эксперыментатараў у плыні пост-панка, альтэрнатыўнага й софт-року «U2». Асабліва, калі ў 1981-м яны выдалі дзіўны альбом «October», а каркаломны «The Joshua Tree» ў 1987 ды потым яшчэ «Achtung Baby» ў 1991 толькі ўмацавалі зорны статус. Праз два гады ўпэўнена браў на клубе філафаністаў фірменны CD «Zoorора», але дома чакала такое расчараванне! Нават падумалася, што рынкавыя шулеры ўпіхнулі ў скрыню не той дыск — нейкая папсень поўная, якая й завісла ў клубных абменах на доўгі час (такога ад куміраў ніхто не чакаў).

Натуральна, наступны рэліз «Pop» (1997) я й слухаць не захацеў (юначы максімалізм), хоць да таго часу знайшоў і для «Zoorора» адданую фанатку новага «U2». Гэткі шлях змены фанацкіх густаў выпаў і нашаму «N.R.M.». Я ўжо навучыўся не дакараць куміраў за смеласць, бо дачушцы Альдоне спадабаўся акурат новы «N.R.M.» (была на іхнім канцэрце ў Магілёве), але лёс падараваў мне і шанц занурыцца ў мінулае. На пытанне аб маіх уласных прыярытэтах у дыскаграфіі зоркі згаданым хлапцам у клубе я адназначна назваў залатую парачку «Тры чарапахі» і «Дом культуры».

— А як жа «Нуль шэсць»? — паказваюць яны на блакітную вокладку з чарапушкамі ды касцямі.

— Неяк атрымалася, — адказваю, — што гэтага альбома проста няма ў калекцыі, хоць мой сябра Анатоль Мяльгуй яго рэцэнзаваў (http://nrsm.org/article/271/ ).

— Няма? Дык хай будзе, — кажа адзін і купляе зграбную кружэлку ды дорыць мне.

Я доўга аднекваўся, але ягоная настойлівасць апынулася больш перака-




наўчай. Яшчэ спадзяваўся, што той перадумае, не распакоўваў кружэлку пару месяцаў, аж вось нарэшце і паслухаў.

Культавы гурт «N.R.M.» нельга абмінаць увагай, таму, маючы ў сваім даробку вербальнае асэнсаванне ўсіх сямі альбомаў калектыву («Ла-Ла-Ла-Ла», 1995; «Одзірыдзідзіна», 1996; «Пашпарт грамадзяніна N.R.M.», 1999; «Тры чарапахі», 2001; «Дом культуры», 2002; «Д.П.Б.Ч.», 2013) і нават неканцэптуальных рэлізаў (сінгл «Самотнік», 2000; складанка «Справаздача 1994-2004», live-recording «Акустычныя канцэрты канца XX стагоддзя», 1999) — спраўджайце на старонках нашай з А. Мяльгуем кнігі «222 альбомы беларускага року», стар. 304-319 — я воляй лёсу не абышоў і гэты «Нуль шэсць», хоць прыпазніўся.

Зрэшты, хто ж не ведае песень «Менск і Мінск», «Ніколі-ніколі», «Нас да халеры», «Гімн беларускага рок-н-рольшчыка» (апошні напісаў нейкі Зміцер)? А «Гадзючнік» трапіў нават цытатамі й загалоўкамі ў раздзелы маёй апошняй кнігі «Rock on-line» (2010). Проста песні даволі розныя, а альбомнага асэнсавання не ставала, каб падзяліцца досведам з людзьмі. Дый часам сябры наракалі на цмянасць агульнай канцэпцыі й выразнага настрою. Ціпа, ледзь не складанка атрымалася, хоць згаданы Мяльгуй ці не слушна заўважыў, што «тэма сацыяльнага аптымізму стала дамінуючай у альбоме». А цяпер і я выплёскваю процьму ўражанняў: не так усё проста.

Баюся паўтарыць ісціны, да якіх прыходзілі ўжо многія аналітыкі рок-творчасці: вось тая музыка («06»), якой больш не будзе ніколі, якая магла клікаць за сабой, натхняць, пераконваць, будаваць. Мы дзясяткі гадоў верылі, што рок пераможа шоўбіз, але шоўбіз здолеў вам навязаць папсовыя стандарты нават у «ціпарок-н-роле». Дык няўжо насамрэч, «рок-н-рол мёртв, а мы ещё нет», як казаў Лестэр Бэнгз, а потым спяваў «Аквариум»? Але «Нуль шэсць» з першай песні абвяргае каноны шоўбіза мастацкімі трапнасцямі:

*Без кампрамісу, адразу і раптам,*
*Мы ў чорным спісе, і мы ўжо даўно там.*
*Перапісаць нас не хопіць паперы:*
*Нас міліёны, нас да халеры...*

Калі чую, што нам не трэба такіх песень, трэба больш аптымізму, дык прашу аптымістаў прадаць мне квіток на лепшыя гурты нашай кнігі «222 альбомы» ці проста напрацягу гадзіны адшукаць іхнія песні на TV-радыё. Гэта ж не

экзотыка нейкая, а нашы родныя таленты, якіх у Беларусі няма нідзе. Атож такая для іх крыніца аптымізму? Мо таму яны й сыплюць у сваіх песнях іншы аптымізм новых моладзевых прыказак і прымавак: «Ідуць па краіне, нібыта краіна чужая,/ Пачварныя гімны паўсюдна спяваць прымушаюць» (хутка й сеціва запоўняць пачварнымі гімнамі пластыкавага аптымізму), «мы ў сталіцы жывем нібы на дзве сям'і», «пішуць газэты, што нельга пражыць без газэт,/ пішуць паэты, што з вершаў складаецца свет» — хіба не жывем мы ў эпоху шэрых самахвалаў?

Калі славутыя «Бітлы» мелі сваю «Жоўтую падводную лодку», дык здагадайцеся, якая «Падводная лодка» ў гурта «N.R.M.»? Ясна, колеру сцяга нашай свабоды.

«Сталінград», «Тое, што ёсць паміж намі», «Пальмы і бярозы», «Свабоды глыток», «Не пытай» (самы арыгінальны трэк амаль бяз слоў, але з голасам рэчаіснасці), «Толькі для цябе». Усё гэта не проста песенная публіцыстыка, а віртуозна пакладзеная на разнастайную музыку сучасных плыняў грандж, панк, бугі-вугі й раманс наша рэальнасць. А вы хацелі манатоннасці? Не, дыямент ззяе шматлікімі гранямі, чым і вабны. Цэласць — у змесце.

Вольскі ўсё ж магутны рок-паэт, не кажучы пра вакал, гітару, клавішныя, але хоць нідзе не напісана пра аўтараў песень, дакладна памятаю з колішніх канцэртаў, што прынамсі «Кітай» напісаў і заспяваў бубнар Алег Дземідовіч:

Сэнс найноўшых канстытуцый
Зразумець мы не змаглі,
А ў Кітаі ёсць Канфуцый,
Ён прыдумаў сутнасць «Лі».

Дзіўная рэч: у Кітаі не эканомілі на роднай мове, як у нас, а здольныя й нам кінуць нешта ў «аптымістычны» капялюш. Вясёлы сюжэт закруціў Дземідовіч, дый дэталёвую канцэптуальную аздобу альбома прыдумаў і зрабіў таксама ён. А на басусе, як звычайна, Юрась Ляўкоў. Ды Піт Паўлаў на гітары. Вось ён, залаты склад «N.R.M.»! Чвэрць стагоддзя разам.

Нямала знакамітых гасцей удзельнічала ў студыйнай сесіі, але асобным радком варта згадаць дзетак удзельнікаў гурта, якія стварылі выдатны дзіцячы хор у самым кранальным творы альбома — «Мама, тата, гэта я»: Адэля Вольская, Паўлінка Дземідовіч, Яна Ляўкова ды Ян-Вінцэнт Луцэвіч. Асабіста мне гэта будзіць сямейныя згадкі пра першае слова маёй дачкі Альдоны: «Тата?» Так, гэта я.

## Гурт «Крама» працягвае здзіўляць

***«Крама» — «Белая вада», Мн., 2014, «БМAgroup»/»Vigma».***

Калі які-небудзь Пол Макартні або Роберт Плант выдае новы альбом, слухач, пэўна, ужо не чакае зыркага подзіву або нечаканых гукавых спалучэнняў, а проста прагне падмацунку ўстойлівых вобразаў былога вялічча (хто ж пе-




рашыбе «Band on the Run» або «Physical Graffiti»?). Сем альбомаў беларускага блюз-рокавага гурта «Крама», пэўна, таксама паспелі стварыць пазнавальны вобраз нацыянальнага шоўбізу, але выходзіць іхні восьмы альбом «Белая вада». Чаго чакаць ад яго меламану — подзіваў або стабільнасці? Калі меркаваць, што кліп ствараюць паводле найбольш прывабнай песні, дык ад раскручанай на розных тэлеканалах «Дзяўчынкі са шклянымі вачыма» можна было б чакаць расчараванняў, але цэльнае знаёмства з новым рэлізам прынесла столькі адкрыццяў, што й маладым не спанатрыць. Такім чынам, слухаем «Белую ваду» ўважліва.

На прэс-канферэнцыі стваральнікі рэлізу (кампазітары й аўтары тэкстаў) распавядалі пра нейкую татальную схільнасць да простасці, а слухач адчувае выразную мега-канцэпцыю, бо усё грамадства жыве чаканнем белай вады, не адчуваючы шляхоў да яе. Тыя шляхі й апрабоўвае новы альбом «Крамы», які выдалі лэйблы «БМАgroup» і «Vigma». А матэрыял які! Не хуткаплынныя павевы моды, а назапашаны на жыццёвых дарогах скарб:

*Доўгі маршрут, мы не пакінем тут*
*Ні успамінаў, ні слядоў,*
*Ты не адзін, ёсць тысяча прычын*
*Паехаць да старых сяброў.*
*Гэй, не сумуй, давай ужо стартуй.*
*У нас, на радасць, поўны бак.*
*Цісні на газ і не глядзі назад...*
*Там ўсё было і ўсё не так.*

Пачынаецца другая песня («Колькі дарог») — і вось ты ўжо едзеш, «крок за крокам усё бліжэй наш дом», а таму й малітвы адпаведныя («Сцеражы!.. Моцы дай дайсці...»). Але «Белая вада выйшла з берагоў», а мы яшчэ ідзем, «мы нясем нашы песні і наш лёс». І заўважце: нам ужо ёсць што несці! Альбом пакідае цэльныя ўражанні, таму сам ужо блытаюся — дзе пераказ зместу, а дзе наўпроставыя цытаты. Зноў атрымаўся гэткі прадуманы раман у песнях.

Рушым далей, нас чакае й «Шлях праз багну». Кшталту, праблемная песня, але магла б стаць цудоўным хітом для якогасьці «Аўтарадыё». Прынамсі дальнабойшчыку пад ейныя акорды будзе больш утульна ў кабіне. А потым

«Вышэй за дахі», гэткая асабістая песня, але з агульначалавечымі высновамі:

*Ты блукала каля зоркі*
*Ты была на глыбіні,*
*А мне застаецца толькі...*
*Толькі ў неба камяні...*
*кідаць,.. а потым збіраць.*
*Я так хачу таксама скочыць ў неба —*
*Крылы на дваіх адны.*
*Я так хачу паплыць, нібыта рыба,*
*Ды трымаюць берагі...*

Ну і застаецца, натуральна, кідаць камяні. А ў выніку — успаміны пра «Дзяўчынку са шклянымі вачыма», шырока разрэкламаваны відэа-хіт новага альбома, які нават трапіў у топы тэлевізійнага хіт-параду «Выше крыши» на канале «Беларусь'2». Але ў той час многія пагаворвалі пра банальнасць сюжэту названага кліпа, а ў альбоме логіка альбомнай драматургіі надае яму філасофскі сэнс. І вельмі глыбокі, які й дае мне права параўноўваць твор з узорамі сусветнай рок-гісторыі (прыгадайце «Дзяўчына з дыяментавымі валасамі» венгерскага гурта «Omega», 1969).

На прэс-канферэнцыі Ігар Варашкевіч нават адзначыў, што толькі Мартыненка асмеліўся публічна заўважыць відавочнае. Так, тэма ўзята адтуль, але гэта нават не кавэр, бо выразна беларускі кантэкст мітуслівых пошукаў, калі варта спыніцца й азірнуцца:

*Дзяўчынка са шклянымі вачыма,*
*Куды спяшаешся ў жыцці?*
*Канец ва ўсіх у нас адзіны.*
*Прысядзь на ўскраечак зямлі.*

Задорныя рытмы бугі-вугі ў святочнай песні «З Новым годам» апынуліся мінамі запаволенага дзеяння, бо песня ці не найбольш мудрая ў альбоме, дзе й глабальнае пацяпленне, і несупынныя дажынкі, і гэтак жа несупынныя «Песняры», у якіх даўно няма ніводнага песняра. Тут не трэба пераказваць сюжэт, а лепш проста слухаць. Слухаць і разумець. Апошняга мы ўжо часам і не ўмеем, гадаваныя песнямі ні пра што, ні для каго, ні для чаго. І адразу, натуральна, «Твой накірунак» — дарога, свабода і... твой паратунак. Зноў захапляе жорсткая логіка альбома. І гэта не логіка расчараванага самотніка, а логіка мудрага чалавека, які думае й пра паплечнікаў. Акурат песня «Сумны брат» дае вельмі шырокі спектр алюзіяў у гэтым сэнсе. Чарговая цытата з песні Джорджа Харысана «Here Comes the Sun» з бітлоўскага альбома «Abbey Road», 1969 нагадвае песню «Прамень» Піта Паўлава з апошняга альбома «N.R.M.» (2014). А я прыгадваю пачатак нацыянальнай рок-плыні 80-х, калі рок на роднай мове дадумаліся спяваць толькі «Мроя» і «Бонда». Варашкевіч валадарыў у «Бондзе». А што цяпер з «Мрояй»? Бо пра гэта задумваецца

нават металёвы «Znich» у альбоме «Мроя» (2011). Чаму б не задумацца й нашчадку бондаўскіх радаводаў:

*За адбіткамі у шкле,*
*За фіранкай на вакне*
*Мяне чакае цішыня*
*Сярод тлумнага жыцця,*
*Сярод блытаных падзей,*
*Незнаёмых мне людзей,*
*Звыклых ўжо штодзённых страт,*
*П'ю за цябе, мой сумны брат.*

Але не дамо парадавацца песімістам ад сумнага фіналу, бо напрыканцы альбома — ужо знакамітая паводле канцэртаў песня «Дзякуй Богу, але ж мы ідзем дамоў». Вось галоўнае! Нас не спыняюць ні перашкоды, ні страты, ні чужынскія зманы ці звабы. «Мы ідзем дамоў», факт. І дзякуй Богу! Як сказаў вялікі Юрка Віцьбіч, «Мы дойдзем».

Як бачыце, каб слухаць і разумець «Краму», трэба быць начытаным і наслуханым. Трэба проста быць беларусам на сваёй зямлі. А для пачатку трэба навучыцца хаця б слухаць, каб потым прыйшло й разуменне.

Заўважаю, нічога не напісаў у рэцэнзіі пра адметнасці інструментальнага складу песень, якасць грання інструменталістаў... Але хіба хто сумняваецца ў гітарных здольнасцях выкладчыка ўніверсітэта культуры Сяржука Трухановіча, у вакальным досведзе Ігара Варашкевіча, які памятае дуэты з сапраўднымі зоркамі шоўбазу ў нашай нерытмічнай стране? А на бубнах акрамя Андрэя Цераховіча знаходзім і знакамітага Алеся Сапегу («Apple Tea»). За клавішнымі традыцыйна Андрэй Лявончык, а на басусе не першы год пульсуе Аляксандр Ванькевіч. Нязменнымі ў «Краме» застаюцца й аўтары тэкстаў — Зміцер Лукашук і Наста Гулак, да якіх часам далучаецца й сам Ігар Варашкевіч. У «Крамы» ўжо шмат цудоўных альбомаў (нехта захапіўся «Хворым на рок-н-рол», 1993, кагосьці зачапіў «Хавайся ў бульбу», 2001, а сёй-той мо падвіс і на «Гэй там, налівай!», 1994), а вось для мяне лістапад 2014-га, калі адбылася першая канцэртовая прэзентацыя ў сталічным Палацы чыгуначнікаў, унёс новы радок, зрабіўшы «Белую ваду» ўлюбёным альбомам «Крамы». Ён дзівіць шматслойнасцю асэнсаванняў, чаго даўно няма ў крызісным шоўбізе. А «Крама» працягвае здзіўляць.

## «Тінь Сонця» мяняе выдаўца, а не сутнасць

***«Тінь Сонця» — «Грім в ковальні Бога», Київ, 2014, «Саме Так!».***

Украінскі гурт «Тінь Сонця» не ўпершыню гасцюе на старонках нашага часопісу — літаральна ў снежні 2013 мы знаёмілі нашых чытачоў з беларускімі кантэкстамі іхняга альбома «Танець серця» (Київ, «Наш Формат», 2011), а тут і надышоў час мінскай прэзентацыі новага рэлізу — «Грім у ковальні Бога», які




выдала ўжо фірма «Саме Так!», а набыць можна было наўпрост на канцэрце кіеўлян у буйнейшым мінскім клубе «Re:Public» (музычныя ж крамы такім таварам не гандлююць, таму ім зручней наракаць на крызіс, чым думаць аб прыхільнасцях меламанаў).

Часам прыходзяць і мне ў галаў развагі пра парадоксы гэтага фанаграфічнага крызісу: чаму крамы ныюць пра заняпад музычнай вытворчасці, а на канцэртах шчырыя меламаны таўкуцца ў шапіках музычнага мэрча? Ці не таму, што лянота не дае «работнікам гандлю» прагі рухацца (кшталту «А ў вас ёсць...» — «Пасматрыце самі...»), а музычны бізнэс грунтуецца на сталых зменах. Вось і кіеўскі фольк-метал гурт «Тінь Сонця» яшчэ пяток гадоў таму быў у рангу нейкага таямнічага адкрыцця выключна фанатычных прыхільнікаў украінскага фольк-року, а сёння мае імя ў якасьці хэдлайнера на афішах, гарантуючы імпрэзе прэстыжны статус і масавую прывабнасць. Бадай, прэса йдзе больш жвава ў асэнсаванні з'яваў музычнага свету, таму пра «Тінь Сонця» хто толькі ні пісаў тут акрамя нас («Переходный возраст», «Краязнаўчая газета», «Товарищ», «Маладосць», «Бярозка»).

Як адзначыў музычны аналітык тыднёвіка «Новы час» Анатоль Мяльгуй, «нягледзячы на цяперашнія драматычныя адценні ў музыцы й тэкстах гурта, якія сталі вынікам трагічных падзеяў на радзіме, кампазіцыі захавалі меладычнасць і шчырасць, а таксама вытанчанасць у аранжыроўках».

Вось і я ў кулуарных гутарках перапоўненага клуба «Re:Public» спярша зайздросціў аператыўным пампоўшчыкам з інтэрнэту, якія ўжо тады жвава абмяркоўвалі праграму новага рэлізу: «Найбольш уразіла на альбоме песня «Збої» — такая злая, агрэсіўная! Раз за разам яе слухаю, так адпавядае настрою ў грамадстве і ў душы».

Аднак, першая мая праслушка на саліднай апаратуры з трохпалоснай акустыкай выявіла, што акурат гэты твор кінуўся на ўвагу не адразу. Я проста прамінуў яго, уражаны, як бы парадаксальна гэта ні гучала, дынамізмам павальняка «Меч Арея» на старце й фінале. Гэта пра нейкую славянскую чароўную рэліквію, якую «трымалі Тур і Святаслаў, трымалі віцязі, князі, трымалі рыцары-гетманы, абараняючы святую Русь, а зараз ён у тваёй руцэ». Накшталт кельцкіх легендаў пра меч у камяні або Эскалібур. У тэкставай версіі магутна працінае душу энергія рэфрэну, а напрыканцы кружэлкі інструментал ураж-

вае агульным шармам музычных аб'ёмаў (праўда, гэта ў тым выпадку, калі вы слухаеце не ў камп'ютарных навушніках, а на апаратуры hi-end або hi-fi на худы канец).

Ну а па творы «Коли на серці сумно» я дык і ўвогуле пра меламанскія спрэчкі забыў:

*Коли на серці сумно і жити вже не в кайф є,*
*Виходжу подивитись, як вітер з морем грає,*
*Немов зійшлось козацтво у смертельному бою*
*За волю побратимів, за святу страждену матінку свою.*

Не чакайце тут зануднай мелодыі суму, бо твор акурат аж падкідае слухацкія эмоцыіневерагоднай фантазіяй рытмічнага малюнка. Дый увогуле альбом «Грім у ковальні Бога» вызначаецца разнастайным багаццем рытмічных малюнкаў канцэптуальна ўпрасаваных у яго твораў: сімфа-рокавыя гармоніі ў «Сонцечоловік» (як не прыгадаць купалаўскае «Паўстань з народу нашага, прарок» у блэк-металёвых акордах гурта «Wartha»), фолькава-баладныя «Косарі», сімбіёз фолькавай баладнасці з маршавымі настроямі ў «Народна війна», суровы метал-раманс «Вітряк» («калі маеш крылы, дык лятаці мусіш ты»), загукальны экстрым араторыі «Дикі гуси» (найдаўжэйшы трэк альбома — 06'14, бо «вырушайма насустрач вясне»), стылёвая джаз-меланхолія «Додому»...

Свежыя палітычныя рэаліі, калі «суайчыньнікі» раптам уздымаюць чужынскі сцяг і лозунгі, чуюцца ў песні «Ніколи не плач» («Раз'ятраны стэп, акроплены снег/ Юнацкай крывёй тых, хто спаці не мог/ — Па наша ідуць шалёныя псы,/ І ім не шкада чароўнай красы»).

З другога-трэцяга разу заўважыў, што металкоравыя рыфы памянёнай кампазіцыі «Збої», прызнацца, і мне выявілі нейкую творчую азлобленасць на «сабачую дарогу», на збой у «шпілевай карце» (казырнай), але ж хіба аптымістычныя словы «і прарэжацца песня скрозь блевацінне» наталяюць слухача злосцю, а не пазітывам? Хутчэй тут папярэджанне тым, у каго «замерзлі ў горле малітва і клятва», бо калі даеш клятву, мусіш выканаць. А не — дык застрэлься (бо настаў «час рахаваць словы і кулі»). Мо насамрэч суровая песенька... Але яна й пра лёс музыкі ў час грамадскіх катаклізмаў, ягонае пакліканне, самаахвярнасць («Пальцы ў мяса крывавяцца ў скрыпаля,/ Пакуль стогне і курчыцца наша зямля»). Быў жа выпадак, калі лідар «Тінь Сонця» атрымаў удар ад тых, каму шчыра верыў. Дык хутчэй боль гэта, а не злоба.

Склад гурта «Тінь Сонця», які працаваў у студыі «Soncesvit» над альбомам «Грім у ковальні Бога», амаль не змяніўся: Сэргій Васылюк, вакал, акустычная гітара, ён і асноўны аўтар музыкі й тэкстаў; Іван Лузан, бандура, клавішныя, сапілка, гітара; Руслан Мікаэлян, гітара; Мікола Лузан, гітара; Іван Грыгоряк, бас-гітара; Володымыр Хаврук, бубны. Зноў далучалася скрыпалька Соня Рагальская ў «Касарах» і «Ніколі не плач».

Крыху ваяўнічы настрой вонкавага дызайну (меч нараджаецца ў кавальні Бога), бадай, падказаны не толькі пэўнай палітычнай сітуацыяй ва Украіне, але й стылістычнымі патрабаваннямі рамантычна-геройскіх тэм песень, падказаных фальклорнымі легендамі. Варта дадаць, што тыя розныя легенды фармуюцца не ў банальную складанку, а ў цэльны сюжэт, што змацоўвае й агульная назва для ўсіх твораў (загалоўкам альбома сталі словы з песні культавага барда Васіля Лютага «Меч Арея»). Гэта сюіта, дзе галоўную тэму шукаць не варта, бо моц у цэласці. Удалося скласці й настраёвую дынаміку гэтай сюіты.

